**Сяргей Панізьнік: Хамутоў не зналі коні продкаў**

*Аўтар дзеліцца сваімі ўспамінамі аб сустрэчах з геніяльным беларускім пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам, якому сёлета споўнілася б 90 гадоў. Эпізоды сустрэч з вядомым пісьменнікам адлюстраваны на фотаздымках, зробленых аўтарам. С.Панізнік прыклаў да артыкулу таксама чатыры вершы, прысвечаныя У.Караткевічу.*

Іскрынкі-бурштынінкі ад незабыўных сустрэч з паэтам, празаікам, драматургам, публіцыстам, перакладчыкам, сцэнарыстам, мастаком і спеваком, а ўвогулле – з класікам, народным пісьменнікам разлеглай па ўсіх мерыдыянах і паралелях Караткевічаўскай Беларусі.




У 1967 годзе я, выпускнік факультэта журналістыкі Львоўскага ваенна-палітычнага вучылішча дзякуючы падтрымцы Максіма Танка, Янкі Брыля быў накіраваны на службу ў 120-ю гвардзейскую Рагачоўскую (а для мяне і Караткевічаўскую!) дывізію, размешчаную ва Уруччы пад Мінскам. Першы клопат лейтэнанта – салдацкая газета. Але ўжо быў выдадзены зборнік “Кастры Купалля”. Мой літаратурны настаўнік Рыгор Барадулін паспрыяў, каб мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Ён мяне натхняў на стварэнне новых паэтычных радкоў. Яшчэ напачатку 1967 года пераслаў мне ў Львоў для бадзёрасці такі жарт: “Вершы твае з “ЛіМа” Валодзя Караткевіч чытае напамяць”.

У тым жа 1967 годзе ва Уруччы быў напісаны верш, які пачынаўся радкамі: "Зацугляю здзіклага каня, каб узвіўся на лясной дарозе…", а заканчваўся так:

Курганамі, па слядах падкоў
праляту, і шлях мой – некароткі
выглядзець праз млужніцу вякоў:
хамутоў не зналі коні продкаў,
не цярпелі коннікі акоў.

Калыхнуліся мае ногі, калі аднаго разу пры сустрэчы з Уладзімірам Караткевічам пачуў ад яго не звычайнае прывітанне, а з узмахам рукі вясёлы вокліч: "Хамутоў не зналі коні продкаў!" І так паўтаралася некалькі разоў. Вось і падумалася, а як жа мне ўлагодзіць прыязнага чалавека? У тым жа 1967 годзе напісаўся верш "Кругі застыглага рэха". Пазначыў прысвячэнне: "Уладзіміру Караткевічу". А сагравала стрэмкі душы сустрэча з ім яшчэ ў 1963 годзе: гэта ён запрасіў мяне з кіеўлянінам Рыгорам Піўтараком наведаць купалаўскую Вязынку. Але чароўнае Купалле ўслаўлялася ў вершы не толькі полымем агнёў, але і рэхам, ачунелым на сонцы, ад прачытаных тэкстаў напатканага мною незвычайнага Творцы:

На прыберагу вогнішчы палілі.
Узнёсла людзі размаўлялі з рэхам
затокаў выгінастае ракі
і парасніка па-над жоўтай стромай.
Але ад воклічаў, неасцярожных рухаў
з абрыву заструменіў жаўтапесак
цяжкім надавам на ўсплескі вогнішч.
І доўга шчэ курчавілі дымы,
з-пад жвіру завільжалага цурчэў
глыбінны жар на рыхлыя бугры.
І людзі, адыходзячы ў маўчанне,
адзначылі застыглым рэхам круг,
дзе толькі што спявалі свае песні.
Каб некалі шукальнікі ў раскопках
убачылі пад знятымі пластамі
адмецiны ад полымя агнёў,
узнялі несатлелае вуголле…
І выпусцілі з прысыпу жарствы
засмужаныя выгукі узлескаў,
вясноввы пах чаромхавай кары
і рэха, ачунелае на сонцы.

Верш "Кругі застыглага рэха" быў надрукаваны ў маім зборніку "Палявая пошта", 1972 год. Я гэтую кніжачку падараваў Уладзіміру: карэспандэнт дывізійнай газеты адной з вайсковых частак Цэнтральнай групы войскаў, размешчанай пад Прагаю, ад'язджаў на адрас: палявая пошта №…

А як мне забыць тое развітанне, калі восенню 1969 года я адпраўляўся на службу ў ЦГВ з такім наказам Уладзіміра Караткевіча: "Ты ж толькі там не страляй: чэхі – нашы браты!" Ніколі не думаў, што зямлю, дзе знайшоў свой апошні прытулак першадрукар Францыск Скарына, дзе яшчэ чуецца чароўны голас Міхала Забэйды-Суміцкага, я прыбуду не ў цывільнай апратцы. Было такое: папрасіў прабачэння ў чэхаў за сваю прысутнасць у вайсковай форме… Аказалася, што гэта прагучала на некалькі дзесяткаў гадоў раней за Гарбачова…

І вось адбылася мая першая сустрэча ў Празе са слаўнавядомым другам Беларусі - перакладчыкам, прапагандыстам беларускай літаратуры ў свеце прафесарам Карлава універсітэта Вацлавам Жыдліцкім. Але на хвіліну загарнуся ў 1972 год. Перад вяртаннем з адпачынку ў Мілавіцу над Лабай, што за 30 вёрст ад Прагі, Уладзімір Караткевіч падарыў мне дзве свае кнігі і папрасіў выслаць яму кнігу "Kralovska pomsta" ("Дзікае паляванне караля Стаха" пераклаў на чэшскую мову яго сябар Вашак: так ён называў Вацлава Жыдліцкага). Праз некаторы час я атрымаў ад прафесара Карлава універсітэта гэтае выданне з дарчым надпісам, які заканчваўся такімі словамі:"…каб людзі ведалі, што аўтара цанілі за мяжой даўно да той заслужанай ацэнкі на яго Радзіме".

Дарэчы, Уладзімір з жонкай Валянцінай Браніславаўнай пасля наведання Славакіі пабывалі і ў Празе. 1 ліпеня 1973 года іх сустракалі на надражі (вакзале) Вацлаў Жыдліцкі і я. Пасля частавання на кватэры Вашака, мы трапілі на вуліцу Польска, 12 – у сціплы закутон Міхася Іванавіча Забэйды-Суміцкага. Прагуляліся і па чароўным Рэгравым садзе. Займеў тады наш спявак падарункі ад аўтара і перакладчыка.

Прыстаняў на планеце Караткевіча не пералічыць. 17 ліпеня 1966 года ён з Рыгорам Барадуліным гасцяваў у Юрмале ў доме маіх бацькоў і сястры. Даведаўся курсант ЛВВПВ, будучы на стажыроўцы ў мінскай рэдакцыі акружной газеты, што нашы "перакрадчыкі" (так жартаўліва назваў перакладчыкаў Рыгор) знаходзяцца на лецішчы сабрыса Еранімa Стулпана. А потым былі сустрэчы мае з Уладзімірам зноў жа ў Юрмале ажно праз 10 гадоў. Караткевіч падружыўся з латышом Еранімам Стулпанам падчас іх вучобы ў Маскве. Не разлучаліся, і Уладзімір стаў хросным бацькам для дачкі Ераніма. Быў на іх бурлівай сустрэчы ў Доме творчасці ў Дубултах. Зноў Караткевіч - пад ветразямі гумару. Давялося і мне прапанаваць жартоўны тэкст нібыта для стварэння мемарыяльнай дошкі вечнай дружбы:

«Как жили! Всё – глотком одним.
Как море бороздили!
Seit: Караткевіч Jeronim
un Stulpans Уладзімір”. (*Шэйт: тут*)

“Адпомсціў” мне за гэта Уладзімір шаржам з надпісам: “С.Панізнік п’е і п’е кактэйлі ў “Акадэміі”. У Караткевіч 7 снежня 76 г.” (“Акадэмія” – кавярня пры Доме творчасці ).

Латвійская тэматыка ў творчасці Караткевіча вялізная. Аўтар “Казак Янтарнай краіны” быў неверагодна ўшанаваны латышамі. Да прыкладу, у 1976 годзе накладам у 15 000 асобнікаў была выдадзена “Чазенія” Караткевіча ў перакладзе Мірдзы Абалы. Захаваўся і такі здымак: Уладзімір Караткевіч – сведка наведвання 26 ліпеня 1981 г. Этнаграфічнага музея пад Рыгай. Побач яго Алег Лойка з жонкай Лідзіяй, Вячка Целеш з Мірдзай Абалай. Пра наведанне Уладзімірам творчай майстэрні Вячкі можна напісаць цэлы раздзел. Нагадаю толькі некалькі радкоў з яго “эх-спромта”:

З Майстэрні мілай пана Вячкі
Паўзлі мы ледзь не на карачках.
І дух наш ледзь трымаўся ў целе,
Калі дамоў пусціў нас Целеш.

А вось В”етнам “перакуліў” выдавецкія баржы Латвіі. Вясной 1988 года перад наведнікамі з Беларусі пахваліліся творцы горада Гюэ, паказаўшы, што ў 1985 г. у іх выдадзены на рысавай паперы зборнік “Былі ў мяне мядзведзі” накладам у 30 100 асобнікаў. Аўтар: V-KO-ROT-KE-VIC. У 1989 годзе в’етнамскія літаратары былі запрошаны ў Мінск. Паэт Ле Чонг Шам усклаў на магілу Караткевіча гэтае незвычайнае выданне. І ён у натхненні стварыў верш “Каля магілы” з прысвячэннем: “Караткевічу – беларускаму народнаму паэту”. Сам Ле чонг Шам мне дапамог укласці падрадкоўнік, і яго верш па- беларуску загучаў так:

Караткевіч!
На гэтай нязрушнай зямлі
Надгробак для вас узвялі:
Тут рысавыя каласочкі,
Абняць вас і кветкі змаглі.
А мне вы паспелі зрабіць
Такое, што змог палюбіць
Крутыя аблокі над Мінскам,
Журботную выраю ніць.
З В”етнама паклікалі вы

І нас да сваёй муравы.
Ускоціцца з ветрам журботным
Ваш дух да святой сінявы.
З народнай, прыроднай красы --
Два рысавыя каласы,
Усходы ад вашых зярнятаў
Відаць з-пад в”етнамскай расы.

Пшанічныя каласы Караткевіча аказаліся не толькі беларускім нацыянальным, але і міжнародным хлебаносным сімвалам. Рыгор Барадулін назваў Уладзіміра Караткевіча князем прыўкраснага умельства. Велічалі яго і дойлідам, рыцарам, глыбіннадумным… А я назваў яго будзіцелем, званаром, а яшчэ і кампазітарам. Вось і доказ. 26 лістапада 1968 года на Дзень Нараджэння ў яго кватэры я запісаў голас гаспадара на магнітафонную стужку. Былі агучаны вершы з цыклу “Таўрыда”, усмешлівая “Гулянка ў дэкарацыях”, народная песня “Ой, косю, мой косю…”, пачутатая ім ад цыганоў. Запісаў і створаны Уладзімірам раманс “До завтра” паводле верша, прысвечанага каханай масквічцы. Аказаліся вось так зафіксаванымі і прачытаныя вершы Ларысай Геніюш, Рыгорам Барадуліным. І ў 2009 годзе Глеб Лабадзенка паспрыяў выдаць кампакт-дыск “Галасы”. Атрымаўся неверагодны помнік Рыгору Барадуліну, Ларысе Геніюш, Уладзіміру Караткевічу.

“…О, якое цёплае, цёплае, цёплае мора”, дзе плешчуцца пад ветразямі Караткевіча побач яго Ладдзі Роспачы – брыганціны, каравелы, віціны, лайбы, стругі і каўчэгі, напоўненыя непамерклым натхненнем. А там у трумах і кніга “У краіне паэтаў = Au pays des poetes”, дзе змешчаны і пераклады вершаў У. Караткевіча на французскую мову Нінай Дзябольскай. Яе ж пераклады на французскую мову чатырох вершаў Уладзіміра захоўваюцца ў зборніку “Poetes russes belarusses et polonais”, выдадзеным В. Хурсікам у 2013 годзе. Верш Уладзіміра Караткевіча “Дзяўчына пад дажджом” заканчваецца ў арыгінале такімі радкамі:

Дзяўчына ад шчасця спявала.
………………………………………………
Стронцый быў у дажджы…

Але –і новую непагоду – пражывем. Памятлівасць, любоў дапаможа пераадолець не толькі непагадзь дажджоў.

P. S. Дзесьці ў 1970-х гадах трапіўся мне на вочы часопіс “Беларуская думка”, №11, дзе пазнаёміўся з артыкулам Юркі Віцьбіча “Хамутоў ня знаюць коні продкаў”. У ім народжаны ў Веліжы пісьменнік пісаў: ”Мы не сумняваемся ў тым, што ўсе беларускія патрыёты ў БССР з радасьцю сустрэлі адраджэньне на гербах нашых гарадоў нашае нацыянальнае эмблемы – Пагоні. Тое славутае Пагоні, аб

якой у сваім патрыятычным вершы сучасны паэта Сяргей Панізьнік сьпярша прыгадваючы:

“Пэўна, так імчалі з далячынь
Коннікі ўздужалае дзяржавы.
Ля Прыдзвіньня табуны іржалі.
Узрыхлялі сухадол іржавы / крывічы”

- канчае яго зусім у гістарычным асьпекце слушным сьверджаньнем -

“Хамутоў ня знаюць коні продкаў
На гербах прыдзьвінскае зямлі”.

О, даражэнькі Уладзімір Сямёнавіч! Юбілей – для вітанняў. Хамутоў не знаілі коні продкаў! Будзьма! Шчыра Ваш—Сяргей Панізьнік.

**Ілюстрацыі** да тэкста «Хамутоў не знаілі коні продкаў» - пра юбіляра Уладзіміра Караткевіча (26.11.1930–25.07.1984)



*Уладзімір Караткевіч прапанаваў адзначыць дзень майго нараджэння 10.05.1968 г. у яго кватэры на вуліцы В. Харужай, 48/26 і запрасіў гасцей: Вацлава Жыдліцкага, Алеся Барскага, Міколу Маляўку, Міхася Стральцова, Алу Сакалоўскую. Я запрасіў Міколу Прашковіча, Яўгенію Янішчыц і былых львоўскіх студэнтаў Валянціну Коўтун і Уладзіміра Янкоўскага,*
*На здымку Ілонка — дачка Рыгора Барадуліна. Фота У. Янкоўскага*



*Еўрапейскія сябры Уладзіміра - Вацлаў Жыдліцкі з Прагі і Алесь Барскі -Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы*



*Уладзімір Караткевіч на беразе Рыжскага заліва. Юрмала, 17.07.1966*



*Уладзімір разам з Рыгорам Барадуліным даследуюць «выхад да мора» пры дапамозе маёй сястры Ніны*



*У Латвійскім Этнаграфічным музеі пад адкрытым небам разам з Алегам Лойкам, яго жонкай Лідзіяй, Мірдзай Абалай і Вячкам Целешам. 26.07.1981*



*Рыгор Барадулін на адкрыцці барэльефа і памятнай шыльды э надпісам: «Гэта вуліца носіць імя нашага земляка Уладзіміра Караткевіча, народнага пісьменніка Беларусі». Орша, 26.07.2004*



*Шарж Уладзіміра Караткевіча атрыманы ў юрмальскім Доме творчасці. Дубулты, 7.12.1976*




*Кніга апавяданняў У. Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі»*
*ў перакладзе на в»етнамскую мову. 1985.*





*Так выглядаў Уладзімір праз мой фотааб»ектыў 10.05.1968.*
*Побач фотапартрэт — таніраваны.*



*Злата Прага. Міхал Забэйда-Суміцкі з Валянцінай Браніславаўнай Караткевіч, Уладзімірам і Вацлавам Жыдліцкім. 1.07.1973 г. Здымкі Сяргея Панізьніка.*

**Вершы, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу: «Парнас Караткевіча», «Караткевічаў Лыцар»,«Плыве Ладдзя»**

**Аўтар Сяргей Панізьнік**

## ПАРНАС КАРАТКЕВІЧА

*У гонар здзяйснення*
*музея Уладзіміра Караткевіча*
*у Воршы*

Дачакаўся і Валодша:
Свята Слова на Дняпры!
За душою ні паўгроша…
Пэўна ж выручаць сябры.
Можа, Кіеў дапаможа:
ім узброены ён быў…
Веды – вось яго заможжа:
ні стагоддзя не забыў!

Паглядзіць князь Уладзімір
на чарговы зарапад:
як мы свет шырокі дзівім
і якочам неўпапад.
Свята Слова… А святое?
Служым рыцарна яму?
…Слухай, сэрца маладое
Караткевіча сурму!

Неспатоленая прага
ходзіць Воршай, носіць рог.
Госці з Грэкаў і Варагаў
да Валодшы на парог:

- Слова зьлюбнае абудзім,
узнадзеім рэха-час.
Ён тут быў.
Ён ёсьць.
Ён будзе!

Не затоіцца ў аблудзе
Караткевіча Парнас!

Караткевічаў Лыцар

“У старога жарабка скура і на плоце гагоча!”
(З лявонпальскіх вымудрыкаў)

**Лыцар**

- Чую я: у жарабка
грыва не сакоча.
Мала сілы ў седака,
ці лашак не хоча?
У Дуброўне гагатаў,
на Суле, Крапіўне…
Маляр:
- Годзе!Конь адлапатаў.
Едзь ты на грабільні.
Лыцар:

- Як жа Лыцару натхніць
мысляроў паходаў?
Хто ў літаўры будзе біць
між усіх народаў?
Маляр:
- Не на Герб – казе пад хвост
раяць прыглядзецца.
Хто патопае на мост, -
плаваць давядзецца…
Лыцар:
- А я цокаты люблю
і вякоў харугвы.
З імі страх перакулю
стаць на бруствер трухлы, -
каб асмеліцца забраць
жарабка з аброці.
І за мною пойдзе раць.
Будзь і ты ў ахвоце!
Маляр:
- Могуць зноў вас пакараць.
Лепей бульбу выбіраць
мне на агародзе…
Лыцар:
- Караткевіч! Восень блізка.
Ля Дняпра зноў будзе віскат.
Рогат выдай так умела, -
каб Няміга закіпела!
І каб кожны маляваў
не абмоткі ад халяў…
Сэрцам Сьцяг наш уздымаў
Бел-Чырвона-Белы!
Маляр:
- О! Я ў думках – каралевіч!
Калі так,то й я – МАСТАК, -
як і Караткевіч!

19.07.2011, 12.08.2019
Сяргей Панізьнік

**Плыве Ладдзя!**

*На прадстаўленні ў “Кніжным салоне” 4.XII.2010 г.*
*непадцэнзурнай навелы Уладзіміра Караткевіча*
*“Ладдзя Роспачы”, выдадзенай Глебам Лабадзенкам,*
*“С. Панізьнік зачытаў свой сумесны з Барадуліным*
*экспромт”.**

Ладдзя плыве з прычалаў “Медзісонта”,**
а Глеб - непадцэнзурны стырнавы -
ад цэрбераў звальняе астравы
і маркерам здымае праўкі з гонта.
Гаворыць з Караткевічам на Вы
пра новыя для слова гарызонты.

З узнёслай сагай паўстае вяльможны
Крывіцкі князь.
Без роспачы Ладдзя.
Глеб Лабадзенка – смелы падарожны.

x x x

Пакуль у Рагачове не мурожна, -
узвысім Караткевіча, як можна,
бо ён усім нам
Сведка і Суддзя!

-----------------------------------------------------------

* Пазнака з “Краязнаўчай газеты”, № 2, студзень 2011 г.
** “Медзісонт” – выдавецтва.

*Резюме*

**Сергей Панизник: Хомутов не знали кони предков**

***(веб-журнал «Культура. Нация», выпуск 26, декабрь 2020, с.24-37, www.sakavik.net)***

Автор делится своими воспоминаниями о встречах с гениальным белорусским писателем Владимиром Короткевичем, которому в этом году исполнилось бы 90 лет. Эпизоды встреч с известным писателем отображены на фотографиях, сделанных автором. С.Панизник приложил к статье также четыре стихотворения, посвящённые В.Короткевичу.

*Abstract*

**Siarhej Paniznik: Our Ancestors' Horses Didn't Deal with Horse-collars**

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.24-37, www.sakavik.net)***

The author shares his memories of personal meetings with the brilliant Belarusian writer Vladimir Korotkievich who, had he lived to this year, would have been 90 years old. Those times of meeting with this renowned writer are shown in the photographs taken by the author of this article. S. Paniznik includes in his article four poems which he wrote and dedicated to V. Korotkievich.

**Міхась Кенька: Мой удзел у выданні збору твораў Уладзіміра Караткевіча**

*Выдавецтва "Мастацкая літаратура" распачала ў 2010 годзе выпуск збора твораў У. Караткевіча ў 25 тамах. Аўтар артыкула распавядае яго досьвед у падрыхтоўцы да друку двух тамоў - 10-га, у якім змешчаны раман "Чорны замак Альшанскі", і 18-га, у якім змешчаны каля 400 малюнкаў Уладзіміра Караткевіча. Аўтар праз аналіз малюнкаў спрабуе зазірнуць у характар знакамітага пісьменніка.*

Чытачы ў Беларусі, і тыя, хто выехаў за яе межы тады, калі было дазволена эміграваць, памятаюць збор твораў у Караткевіча ў дзевяці тамах, выданне, ажыццёўленае "Мастацкай літаратурай" у 1987-91-х гадах. Калі паўстала пытанне выдаць новы збор твораў, то ад недасведчаных людзей даводзілася чуць: а навошта зноў выдаваць збор твораў Уладзіміра Караткевіча, калі ён ужо ёсць? Але ж ён не мог даць больш-менш поўнага ўяўлення пра творчасць пісьменніка. Гэта асабліва яскрава бачна, калі пазнаёміцца з праспектам выдання новага, у 25-і тамах, збору твораў. Ужо само павелічэнне аб'ёму ў два з паловай разы гаворыць само за сябе. Першае выданне мела сваю мэту – трэба было задаволіць попыт чытача на самыя вядомыя творы Уладзіміра Караткевіча. Выдаўцы хацелі выпусціць яго як мага хутчэй, ахвяраваўшы грунтоўнай тэксталагічнай падрыхтоўкай, якая патрабавала значнага часу. Таму ў дзевяцітомніку ўтрымліваліся толькі самыя неабходныя каментарыі, тлумачэнні, адсутнічалі варыянты.

На той час яшчэ толькі распачыналася пошукавая работа па збору спадчыны пісьменніка. Якраз тады чытачы напачатку толькі ў часопісах пазнаёміліся з не вядомымі раней творамі У. Караткевіча, у тым ліку з аповесцю "У снягах драмае вясна". З выдрукаваннем назвы гэтага твора ўжо тады паўстала тэксталагічная праблема – ці напісаць "дрэмле" паводле нормаў правапісу, ці пакінуць так, як напісаў аўтар? А надалей праблемы сталі множыцца. Найперш аказалася, што падрыхтаваць новы, гранічна поўны Збор твораў у звыклай форме акадэмічнага выдання паводле пэўных прычын не выпадае. І тады вядомы даследчык творчасці У. Караткевіча, дацэнт БДУ, кандыдат філалагічных навук Анатоль Леанідавіч Верабей здолеў пераадолець нямала перашкод, але домогся таго, каб Збор твораў У. Караткевіча ў 25 тамах быў уключаны ў план выданняў "Мастацкай літаратуры". Анатоль Леанідавіч узяў на сябе ўсю справу па падрыхтоўцы выдання да друку, стаў яго каардынатарам і ўкладальнікам шэрагу тамоў.

І з 2012 года пачалі адзін за адным выходзіць тамы, на сёння іх выдадзена ўжо дзевятнаццаць. Укладальнікамі новага збору твора сталі даследчыкі, навукоўцы, якія займаюцца вывучэннем творчасці У. Караткевіча. Ім у пэўнай ступені лягчэй каменціраваць тэксты, бо яны ўжо ведаюць многа пра напісанае У. Караткевічам, заглыблены ў аналіз яго твораў. Большасць укладальнікаў маюць і пэўны вопыт тэксталагічнай працы. Але які б ні быў ужо набыты раней вопыт, перад тэкстолагамі кожнае новае выданне ставіць адмысловыя праблемы, кожны раз іншыя паўстаюць іншыя цяжкасці. Збор твораў У. Караткевіча даводзіцца рабіць ва ўмовах, калі не склаўся канчаткова фонд спадчыны пісьменніка, калі яшчэ вядуцца пошукі не вядомых пакуль што матэрыялаў. Вось чаму ва ўступе ад рэдкалегіі паведамляецца, што ў апошніх тамах будуць змешчаны новыя знаходкі, дапаўненні да папярэдніх тамоў.

Асобныя праблемы паўсталі ў працэсе каментавання.

Аўтар гэтых радкоў рыхтаваў да друку дзесяты том, у якім змешчаны раман “Чорны замак Альшанскі”. Ён друкаваўся паводле першага і адзінага прыжыццёвага выдання. Зверка з рукапісам, які захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, паказала, што менавіта ён паслужыў асновай для кніжнай публікацыі пры жыцці пісьменніка. Розначытанняў, якія б адрозніваліся ад яго, не аказалася. Гэта пэўным чынам аблегчыла работу. Але каментарыі паставілі шэраг пытанняў.

Ужо ў самым пачатку каментарыяў трэба было многае патлумачыць Чытача трэба было як бы “ўвесці” ў твор, даць пра яго пэўныя звесткі Нагадаць, што ў рамане “Чорны замак Альшанскі асноўныя падзеі адбываюцца ў другой палове 1960-х гадоў, многія эпізоды звязаныя з кватэрай № 26 у Мінску па вуліцы Веры Харужай, дом 48, дзе ў 1967-1973 гады жыў пісьменнік. Кладна – гэта Гродна, горад, які У. Караткевіч вельмі любіў. Альшанскі замак – назва, прыдуманая У. Караткевічам, але яна пэўным чынам звязаная з замкам у вёсцы Гальшаны Ашмянскага раёна Гродненскай вобласці, дзе пісьменнік у жніўні 1966 года быў на здымках дакументальнага фільма “Памяць каменя”. У сваім уяўленні ён стварыў такі замак, які быў патрэбны яму для вырашэння задач, звязаных з сюжэтам і кампазіцыяй, а для пэўнасці намаляваў схему (яна была надрукавана ў томе сярод ілюстрацый). Многа памятных мясцін Беларусі згадваюцца ў творы без змен: Мінск, Орша, Будслаў, Мала-Мажэйкава, Шчорсы, Ружаны, Свіцязь… Рэтраспектыўна У. Караткевіч звяртаецца да падзей, што адбыліся ў Беларусі ў 1930-1940-я гады і ў пачатку XVII стагоддзя. У рамане пісьменнік не толькі

раскрывае ў дэтэктыўным сюжэце супярэчнасці паміж людзьмі, але і разважае пра лёс беларускага народа, пра сутнасць быцця.

Перш, чым тлумачыць пэўныя словы, фразы ў каментарыях да рамана, трэба было вызначыць, наколькі падрабязна трэба паясняць тэкст твора. Агульнавядома, што пісьменнікі не любяць даваць дадатковыя звесткі ў зносках, паслятэкставых тлумачэннях, яны імкнуцца вытлумачыць чытачу ўсё неабходнае ў самім тэксце. У. Караткевіч разлічваў на эрудзіраванага чытача, ставіў яго не ніжэй за самога сябе. У рамане, заснаваным на гістарычных падзеях, многа звестак пра мінулае, згадваюцца многія імёны, літаратурныя творы, утрымліваюцца звесткі пра даўнейшыя падзеі. Аўтар зашыфроўвае некаторыя геаграфічныя назвы, ёсць у ім шэраг алюзій і рэмінісцэнцый, звязаных як з падзеямі, літаратурнымі творамі, так і з эпізодамі з уласнай біяграфіі творцы. Несумненна, што ў Зборы твораў іх трэба было патлумачыць.

Асобна паўставала своеасаблівая праблема, звязаная з тым, што ў пачатку 90-х гадоў адбыліся значныя змены ў сацыяльным ладзе, гістарычных умовах, што новыя пакаленні чытачоў ужо не ведаюць многіх дэталяў быту савецкіх часоў, ды яшчэ і тэхнічны прагрэс прынёс у жыццё новае, нават адбіўся на іх свядомасці. Тыя чытачы, для якіх пісаў У. Караткевіч, добра ведалі тагачасную рэчаіснасць, выдатна арыентаваліся ў ёй. А цяпер ці трэба, скажам, тлумачыць, што гэта за пятнаццаць “шэсцьдзесят пятак” і тры каляровых “ДС”, дзесяць шырокіх “орвакалёраў” бярэ з сабой у паездку Косміч? Пара плёначных фотаапаратаў скончылася, моладзь ужо не ведае ўсяго таго, што з імі было звязана. А што за “Харків” адрамантаваў Косміч, на якім такім “козліку” падарожнічаюць персанажы? А шматлікія згадкі пра літаратурныя творы, кінафільмы, прозвішчы, якія некалі былі на слыху, а цяпер забыліся! А тэрміны з розных галін ведаў – археалагічныя, батанічныя, медыцынскія! А шматлікія гістарызмы! І нават аўтарскія неалагізмы – “нефертушачкі”, “гарганцюаўства”.

Часам пэўная згадка ў тэксце дае даследчыку пэўны матэрыял для разваг пра творчасць пісьменніка, абставіны напісання рамана, аказваецца звязанай з псіхалогіяй творчасці. Так, у тэксце ёсць такое: “як шведы спяваюць – “Паліцыя, паліцыя – бульбяное пюрэ”. Да вытлумачэння гэтага месца немагчыма было б лёгка падступіцца, калі б не было інтэрнэта. Калі ўзятае ў лапкі было набрана ў пошукавай сістэме, то аказалася, што гэта ніякая не песня, а дэтэктыў шведскіх пісьменнікаў П. Валё і М. Шэвал. У 1977 годзе, якраз тады, калі У. Караткевіч працаваў над сваім дэтэктыўным творам, ён быў выдадзены ў перакладзе на рускую мову невялікім накладам, прайшоў незаўважанным. Цяпер яго наўрад ці

хто ўспомніць, а ў свой час У. Караткевіч, відаць сачыў за дэтэктыўнай літаратурай, каб набыць пэўны вопыт, і прачытаў гэты твор.

Дарэчы, трэба сказаць, што інтэрнэт значна аблягчаў пошукі паняццяў, згадак пра гістарычныя падзеі, прозвішчаў, цытат. Але да яго звестак таксама даводзілася адносіцца з асцярожнасцю, перапраўляраць. Да прыкладу, там быў недакладна працытаваны радок з летапісу, і каб не пільнасць рэдактара тома Інэсы Мікалаеўны Паланейчык, магла б надарыцца прыкрая памылка. Яна папрасіла зверыць тэкст з самім летапісам, і аказалася, што інтэрнэт памыляецца.

Тым не менш, інтэрнэт вызваляў у многім ад пошукаў па спецыяльных выданнях, галіновых слоўніках, падказваў, дапамагаў, арыентаваў. Але бывала і так, што нават і ён не мог дапамагчы. Вось калі давялося здзіўляцца шырачэйшай эрудыцыі У.Караткевіча, яго глыбокай дасведчанасці ў гісторыі, сусветнай культуры і літаратуры ў прыватнасці, у самых розных галінах ведаў. Сваімі творамі ён абуджаў і ў чытачоў цікавасць да невядомага, ён умеў заінтрыгаваць, навесці на роздум, на пошукі. Так, напрыклад, ён не даў тлумачэння назваў экзатычных рэчаў, якія віселі на сценах пакоя Лыганоўскага: маскі для “цама”, калебасы для вапны, індыйскія анкі, яванскія крысы і іншыя прадметы. Між тым, ніводная назва не прыдумана. Давялося многа папашукаць, перш чым знайшліся вытлумачэнні гэтым паняццям.

Хтосьці можа спытаць: а навошта тлумачыць, калі сам аўтар гэтага не зрабіў? Яму было важна паказаць, што гаспадар многа падарожнічаў, праяўляў цікавасць да этнаграфічных рэчаў з розных краін свету. І чытачу гэтага можа быць дастаткова. Але ўсё ж традыцыі выдання збору твораў вымагаюць тлумачэння незразумелага. У дадзеным выпадку тлумачэнні яшчэ і многа скажуць аб дасведчанасці У. Караткевіча ў рэчах, здавалася б дужа рэдкіх, экзатычных.

Такім чынам, мой вопыт працы па ўкладанню 10 тома збору твораў У. Караткевіча даў мне разуменне таго, што тэксталагічная праца над каментарыем павінна быць праведзена ўважліва, бо нават творы параўнальна нядаўна напісаныя, у наш імклівы час ужо вымагаюць пэўных вытлумачэнняў. Без іх уяўленне пра тое, што хацеў сказаць аўтар, будзе не поўнае. Пагэтаму любому чытачу, не толькі дужа дапытліваму, але і таму, для каго важнае складае толькі сюжэт, варта пазнаёміцца з паслятэкставымі каментарыямі.

Наступным томам, над якім мне выпала працаваць, стаў 18-ы, адмысловы том, у якім былі змешчаны выключна малюнкі Уладзіміра Караткевіча. Так – малюнкі пісьменніка. Упершыню сабраныя малюнкі пісьменніка. У спадчыне пісьменніка

аказалася больш за 400 малюнкаў. Яны пры жыцці У. Караткевіча не друкаваліся. У гісторыі беларускай тэксталогіі гэта першы вопыт выдання жывапісу пісьменніка.

Чытачы, якія перагарнуць вокладку гэтага тома, пераўвасобяцца ў гледачоў. Яны змогуць увачавідкі назіраць за праявай яшчэ аднаго таленту Караткевіча. Менавіта таленту. Талент мастака праявіўся ў яго яшчэ з дзяцінства. Але цяга да мастацкага слова пераважыла, мастаком-прафесіяналам Караткевіч так і не стаў. Аднак дадзенае ад прыроды ўменне маляваць, нават не падмацаванае адмысловым навучаннем, не сышло на нішто. Талент жывапісца выявіўся ў Караткевіча ў шматлікіх малюнках, якія ён сам ніколі не спрабаваў надрукаваць. Але яны нязменна спадарожнічалі яму яшчэ з той пары, калі ён толькі-толькі распачынаў свае першыя спробы ў мастацкай літаратуры. Тыя персанажы, якія з'явяцца ў яго вершах і прозе, мроіліся яму, занатоўваліся на старонках запісных кніжак-штодзённікаў, лістах канспектаў універсітэцкіх лекцый, у лістах да сяброў. Па гэтых малюнках можна прасачыць, як творчая фантазія, перш чым выявіцца ў слове, увасаблялася ў малюнках, у ў выявах постацяў старадаўніх рыцараў, у дэталёва выпісаных абрысах сярэднявечных замкаў, у сцэнах бітваў. Сярод малюнкаў многа жартаўлівых – сяброўскія шаржы, аўташаржы, жартоўныя тэксты з ілюстрацыямі. Амаль няма малюнкаў з натуры. Большасць з іх зроблены па памяці.

Уладзімір Караткевіч і ў слоўных апісаннях быў надзвычай уважлівы да дэталяў касцюма, інтэр'еру, абрысу твару. І малюнак дапамагаў яму зрокава аформіць тое, што ўслед за тым будзе апісана ў літаратурным творы. У шэрагу малюнкаў ён раз за разам звяртаецца да вобразаў, у якіх можна пазнаць некаторых персанажаў яго раманаў і аповесцяў, хаця малюнкі тыя не былі яшчэ ілюстрацыямі да твораў. Ёсць сярод малюнкаў Караткевіча і тыя, што звязаны з тым ці іншым яго творам, па-свойму дапаўняюць вобразы, выяўленыя ў мастацкім слове.

Малюнкі выяўляюць і рысы характары Караткевіча, як чалавека шырока эрудыраванага, таварыскага, схільнага да гумару. У многіх малюнках ён праяўляў свае пачуцці. Ен мог падараваць жартоўны малюнак француженцы, якая сядзела за суседнім столікам у рэстаране, фотажурналісту Уладзіміру Круку, які завіхаўся з фотаапаратам на з'ездзе пісьменнікаў, сябру Вячаславу Рагойшу ў час абароны ім дысертацыі, маляваў у спецыяльна заснаваных ім альбомах сяброў, рабіў падарункі тым, з кім працаваў, сябраваў, з кім яго зводзіў лёс. Шкада, што не ўдалося пакуль вызначыць, што адлюстравана на некаторых малюнках, з чым звязана іх з'яўленне. Не ўдалося сабраць усе малюнкі. Некаторыя з іх выявіліся літаральна перад здачай твора ў друк, дадаваліся, калі ўжо ішла праца над томам у

выдавецтве. Аказалася, што тыя малюнкі, якія былі выяўлены ў архіве Караткевіча, яшчэ не вычарпальная крыніца для падрыхтоўкі тома. Яны захоўваюцца ў прыватных архівах сяброў Караткевіча, шэраг маюнкаў знайшліся ў пісьмах пісьменніка.

Ёсць спадзяванні, што знойдуцца новыя, дагэтуль не вядомыя малюнкі, што ўдасца змясціць іх у апошнім томе збору твораў. Адно несумненна: малюнкі Караткевіча паслужаць нагодай для далейшага вывучэння і асэнсавання спадчыны Караткевіча-творцы. Яны з'яўляюцца багатай крыніцай для вывучэння біяграфіі і творчасці У. Караткевіча, тым больш, што крыніца гэта не вычарпана, не ўсе малюнкі расшуканы, а даследаванне іх яшчэ толькі распачынаецца. Прызнаюся, мне шкада было развітвацца з працай над укладаннем спадчыны Уладзіміра Караткевіча. Яна была хоць і не простай, ставіла шэраг праблем, але прыносіла радасць і асалоду.

*Резюме*

**Михась Кенька: Мое участие в издании сборника произведений Владимира Короткевича**
***(веб-журнал «Культура. Нация», выпуск 26, декабрь 2020, с.38-44, www.sakavik.net )***

Издательство «Художественная литература» в 2010 году начало выпуск сборника произведений В. Короткевича в 25 томах. Автор статьи рассказывает о своем опыте подготовки к изданию двух томов - 10-го, в котором публикуется роман «Черный замок Ольшанский», и 18-го, в котором собрано около 400 рисунков В.Короткевича. Автор, анализируя рисунки, пытается заглянуть в характер известного писателя.

*Abstract*

**M. Kenka: “My Part in the Publication of UladzimirKaratkevich’s Works”**
***(web-magazine “Culture. Nation”, issue 26, December 2020, p.38-44, www.sakavik.net)***

M. Kenka comments on the works of the well-known Belarusian writer, Uladzimir Karatkevich (Russian variant spelling – Vladimir Korotkevich) which are coming out in a new series of 25 tomes in Belarus under the guidance of professor Anatoly Vierabej.

Kenka was assigned and already completed work on volumes 10 and 18. The first tome in this series came out in 2012 and to date 19 have been published. This is the second series of Karatkevich's published works. The first was a 8-volume set which was produced from 1987 to 1991. The second series goes beyond acquainting readers with Karatkevich's major works and writings. It includes subsequent findings by researchers who introduce new previously publicly unknown material written by Karatkevich, his comments and even drawings. Kenka states that volume 10 includes Karatkevich's detective novel *Black Olshanski Castle* which depicts life of people in Belarus both at the beginning of the 17$^{th}$ century and this is juxtaposed with events that took place in Belarus from 1930-1940's. The name of the castle is fictional but largely based on one that existed in the village of Halshany (located within today's Grodno Oblast). Kenka insists that this story now requires contemporary explanation, particularly to younger readers who did not experience the realities of life in the USSR. They would find many words and phrases from that period puzzling. Persons, literary works, geographical names and historical events need further explanation for today's readers to fully understand the novel. One other aspect is the matter of Karatkevich's drawings. As a child he already displayed an innate talent for drawing for which he did not pursue formal training. Yet researchers have discovered around 400 drawings by Karatkevich in his notes and manuscripts. Many of them were obviously connected with persons mentioned in his works. Their sketched expressions give greater understanding of Karatkevich's understanding concerning his heroes and himself. They display his own feelings and personality, states Kenka. Since the publication of the latest volumes, pictures drawn by Karatkevich have been discovered too late to be included in their appropriate spots. In spite of this, Karatkevich's drawings, newly discovered writings and commentaries will grant greater understanding of the author as a notable Belarusian writer and artist.

**Патэрсан Франко Коста: Наш Караткевіч бразільскімі вачыма**

*Аўтар - даследчык у галіне міжсеміятычнага пераклада, Федэральны Універсітэт Штата Баія (UFBA), Бразілія*

Калі Воля, мая жонка, мне прапанавала выступіць з прэзэнтацыяй пра “Нашага Караткевіча” на Вечарыне, прысвечанай 90-годдзю з Дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча, па ініцыятыве БІНіМ Канады, я падумаў: “Што мне пра яго сказаць, калі я яго не чытаў у школе, як вы чыталі?” Вы ж яго ведаеце нашмат лепей, чым я, тады што магу даць суполцы? І тут я ўзгадаў словы Анатоля Бутэвіча: “Прозвішча Уладзіміра Караткевіча з’яўляецца не толькі сведчаннем сапраўднай, якаснай літаратуры, але і апазнавальнай прыкметай нашай Беларусі”.

Таму я і думаю, што “Наш Караткевіч” – гэта вельмі цесна звязана з канструкцыяй нацыянальнага дыскурсу Беларусі, то бок, Беларусь Караткевіча – гэта наша Беларусь, якая размаўляе на беларускай ды шануе сваё мінулае, што была, ёсць і будзе.

Першы раз, што я чытаў Караткевіча, дакладней, слухаў, гэта была аўдыёкніга “Старога Ольсы” “Ладдзя Роспаччы” некалькі гадоў таму. І калі б тады мяне спыталі з якой ён эпохі, я б адказаў, хучэй з часоў ВКЛ, калі не з самога Полацкага княства, і не толькі праз стыль гурта, але таму што гісторыя мяне так уразіла, як нешта старажытнае, сапраўдная эпічная класіка.

А потым, калі я бачыў запіс выступа Караткевіча з канца 70-х, у колерах, у мяне быў нейкі дысананс: як жа “класік” жывы, альбо гістарычна нядаўна жыў?

Для нас у Бразіліі, нацыянальныя класікі – гэта з 17-га да 19-га стагоддзяў, у крайнім выпадку, як знакаміты наш Машаду ды Асіс ці Ліма Барэту, якія памёрлі ў пачатку 20-га стагоддзя. То бок, дзеячы 20-га стагоддзя як Карлус Друммонд, Сэсілія Мэйрэліз альбо Жоржы Амаду – а пра Паўлу Коэлью я ўвогуле маўчу – занадта сучасныя, каб лічыліся “класікамі”.

Але вось я тады і падумаў – ну, лагічна, Беларусь стала незалежнай толькі ў 1990-х, а Бразілія – недзе на 170 гадоў раней.

Але што казаць пра Купалу, Коласа, Цётку?.. Некаторыя “белоруссы” любяць казаць, што беларуская мова памёрла разам з інтэлігенцыяй ў 30-х гадах, быццам яны проста ўзялі і памёрлі, а потым ніхто ўжо не стаў размаўляць ды пісаць на гэтай мове...

А тут Генiюш, Караткевіч, Барадулін, Быкаў, Брыль – без якога дарэчы наша прэзентацыя наўрад ці назвалася б “Наш Караткевіч” – ды шматлікія геніяльныя пiсьменнікі ды пiсьменніцы, якія паказваюць, што Жыве Беларуская мова, літаратура і нацыя.

А калі шукаць яшчэ далей – Вінцет Дунін-Марцінкевіч, Уршуля Радзівіл, Адам Міцкевіч, Сімяон Полацкі, Рагнеда, Францыск Скарына... Уся гэтая лінія, якую дагэтуль намагаюцца разбіць, спыніць, стрымаць, гэта наша спадчына, што трэба захаваць ды працягваць, і гэта Караткевіч вельмі добра разумеў, як ён сам казаў: “А для нас жа, беларусаў, гісторыя – у многім нязведанае. Мы пакуль што мала ведаем аб жыцці, звычаях, побыце нашых продкаў. І кожны, хто ведае, хто можа ведаць, павінен збіраць гэтыя падрабязнасці і перадаваць іх іншым”.

Нядаўна мы з Воляй глядзелі фільм з белсатаўскай серыі “Лабірынты” пра Караткевіча і мяне вельмі ўразіла тое, што праз аўтара людзі пераходзяць на беларускую мову і, адпаведна, беларускі светапогляд. Без першай, няма другога, і аўтар вельмі добра гэта ведаў, калі трагічна паказвае вынік расейскамоўнай экранізацыі ягонай аповесці“Дзікае паляванне Караля Стаха”.

У маім даследаванні пра фільм “Жыве Беларусь!” і пераклад яго з розных моў, у тым ліку і летувійскай, я бачу, што між вамі і суседнімі народамі ёсць шмат агульнага, але шмат з гэтага прысвоілі тыя ж народы:

Русь – Кіеўская, Руская мова – Расейская, Вялікае Княства – Летувійскае... Нават Крыўя, прынамсі для латышоў, гэта вы ведаеце дзе? Расея. Так што адзінае, што вас сапраўды адрознівае ад іншых народаў свету – гэта беларуская мова.

Таму і Караткевічу было так істотна, каб на ёй размаўлялі ў фільме, у жыцці, у побыце. Гэта не значыць ні з кім не размаўляць, бо як Караткевіч пісаў у “Зямлі пад белымі крыламі”: “...беларусам прыродна ўласцівая павага да іншых народаў і памяркоўнасць да таго, хто думае іначай"... Часам трохі занадта, я бы дадаў, але гэта паказвае, як вы можаце, як зараз і паказваеце ў мірных пратэстах не толькі ў Беларусі, а па ўсім свеце, – што вы ўмееце супрацоўнічаць на ўсіх мовах дзеля вашай справы.

Такім чынам, Наш Караткевіч, для мяне гэта Наша Беларусь, пра якую марым і будуем у нашых сэрцах, у нашых жыццях, калі мы размаўляем і чытаем па-беларуску і дбаем пра беларускую спадчыну ды працягваем яе.

*Саўвадор - Бразілія, 28 лістапада, 2020*

**Патэрсан Франко Коста: Наш Караткевіч бразільскімі вачыма**

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.45-47, www.sakavik.net)***
Аўтар адзначыў, што праз творы Караткевіча людзі пераходзяць на беларускую мову і, адпаведна, на беларускі светапогляд. Без першай, няма другога. **А**дзінае, што сапраўды адрознівае беларусаў ад іншых народаў свету – гэта беларуская мова. Аўтар прыходзіць да высновы, што "Наш Караткевіч", для яго гэта Наша Беларусь, пра якую марым і будуем у нашых сэрцах, у нашых жыццях, калі мы размаўляем і чытаем па-беларуску і дбаем пра беларускую спадчыну ды працягваем яе.

*Резюме*

**Патерсон Франко Коста: Наш Короткевич бразильскими глазами**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып.26, декабрь 2020, с.45-47, www.sakavik.net)***

Автор отметил, что благодаря произведениям Короткевича люди переходят на беларусский язык и, соответственно, на беларусское мировоззрение. Без первого нет второго. Единственное, что действительно отличает белорусов от других народов мира - это беларусский язык. Автор заключает, что «Наш Короткевич», для него это «Наша Беларусь», о которой мы мечтаем и строим в наших сердцах, в нашей жизни, когда мы говорим и читаем по-белорусски, заботимся о белорусском наследии и продолжаем его.

*Abstract*

**Paterson Franco Costa: Our Karatkevich via Brazilian eyes**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.45-47, www.sakavik.net)***

The author noted that through Karatkevich's works people switch to the Belarusian language and, accordingly, to the Belarusian worldview. Without the first, there is no the second. The only thing that really distinguishes Belarusians from other nations of the world is Belarusian language. The author concludes that "Our Karatkevich", for him it is "Our Belarus", which we dream and build in our hearts, in our lives, when we speak and read in Belarusian and care about the Belarusian heritage and continue it.

**Пётра Мурзёнак: Чалавек, які спрычыніўся да будаўніцтва нацыі**

*(да 90-годдзя з дня нараджэньня Уладзіміра Караткевіча; прамова на online вечарыне, арганізаванай БІНІМ, Канада і ЗБК 28 лістапада 2020 года, Атава)*

**Добры вечар паважаныя сябры!**

Для мяне вялікі гонар выступіць на вечарыне, прысвечанай юбілею нашага геніяльнага пісьменьніка - Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. Мы сёння праслухаем шмат цікавых прамоў і успамінаў пра У.Караткевіча, і нават дакранемся непасрэдна да твораў пісьменніка. Безумоўна, творчасць У. Караткевіча даследавана ў шэрагу кніг, манаграфій і дысэртацый літаратурных крытыкаў. У сваім кароткім выступе я, як чытач, грамадзянін і навукоўца, хачу закрануць тую частку творчасці У.Караткевіча, якая тычыцца яго каштоўнага уклада ў фундамент беларускай нацыі.

На працягу апошніх прыблізна 150 гадоў, шмат дзеячаў беларускай культуры і навукі, палітычных дзеячаў па цаглінцы будавалі сучасную беларускую нацыю. На мой погляд, у галерэі беларускіх герояў другой паловы 20-га стагоддзя, У.Караткевіч стаіць у адным радзе з такімі выбітнымі нацыянальнымі дзеячамі як А.Адамовіч, В.Быкаў, Л.Геніюш, М.Ермаловіч, У.Мулявін, Г.Цітовіч, якія і сваімі паводзінамі ў жыцьці, і сваёй творчасцю цэментавалі беларускую нацыю.

Вялізарную значнасць творчай спадчыны У.Караткевіча для беларускай літаратуры і культуры немагчыма аспрэчваць. Я дазволю сабе выдзеліць некалькі найбольш **важных** на маю думку момантаў, якія сведчаць аб тым, як пісьменнік праз сваю творчасць стварыў не толькі славу сабе яшчэ пры жыцці, але і славу для нашай радзімы, зрабіў выключны унёсак, у тое, каб беларускі народ паўстаў сапраўднай нацыяй.

**Важна!** Нягледзячы на сваё кароткае жыцьцё ён напісаў вельмі шмат рознажанравых твораў, уключна з паэзіяй. У 1989 выдавецтва “Мастацкая літататура” выдала 8 тамоў, а ў 2011 годзе пачало выданьне 25 тамоў твораў Караткевіча. Безумоўна, што немагчыма было стварыць столькі без цярплівай працы, без пошукаў і даследаваньняў, асабліва для твораў, звязаных з гісторыяй беларускага гарода, і асабліва з падзеямі, якія адбываліся ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Але ж не толькі аб’ёмам напісанага вызначаецца вялікасць пісьменніка. Мова і гісторыя - гэта асноўныя кампаненты , якія вызначаюць любую нацыю. У.Караткевіч злучыў ў сваіх творах і беларускую мову, і беларускую гісторыю, што дало каласальны вынік - ён навечна пакінуў для сваёй нацыі тую каштоўную глебу, на якой яна квітнее і будзе квітнець у будучым.

У мяне на стале цяпер ляжыць унікальны падарунак ад майго сябра з Беларусі - гэта даволі цяжкая па вазе кніга “Дзікае паляванне караля Стаха”, выдадзенае Беларускім фондам культуры ў 2010 годзе на чатырох мовах - беларускай, украінскай, рускай і англійскай. Кніга мае дзве прадмовы - Паўлы Латушкі (на той час Міністра культуры РБ) і Анатоля Бутэвіча. Паводле іх, У. Караткевіч у Беларусі выканаў тую гістарычную місію, што Вальтэр Скот у Англіі, Генрык Сянкевіч у Польшчы, Майн Рыд у ЗША. Цалкам пагаджаючыся з іх выказваннямі, тут **зноў трэба сказаць: Важна** - творы беларускага пісьменніка У.Караткевіча з гонарам прадстаўляюць нашу нацыю і беларускую літаратуру у суквецці літаратур сусвету.

**Вельмі важна!** Караткевіч абсалютную большасць сваіх твораў пісаў на роднай мове. Я да гэтага часу здзіўляюся як Караткевіч, ведаючы некалькі моў і большай часткай жывучы у рускамоўным і украінскамоўным асяроддзі, змог так глыбака пранікнуць і пазнаць багацьце роднай мовы, скарыстаць яе і перадаць у сваіх творах нашчадкам старажытнага беларускага народа. Безумоўна ён быў вялікім талентам. Першы варыянт аповесці “Дзікае паляваньне караля Стаха” было напісана пісьменнікам, калі яму было толькі 20 год. Але ж якая яна цудоўная - мова Караткевіча - лёгкая, шчырая і захапляльная, я бы нават сказаў фантастычная. Любы чалавек, які ўмее ці калі б нават хацеў паспрабаваць чытаць па-беларуску, узяўшы любую яго кнігу ў рукі не зможа адарвацца ад пачатку да канца. З мною прачытанага, я прыгадаю, толькі для прыкладу, яго аўтабіяграфічную кнігу пра юнацкі час “Лісце каштанаў” (1972), рамантычную паэму ў прозе “Чазэнія”, неверагоднаю, філасафічна-фантастычную аповесць “Ладдзя роспачы”, заглыбляючы ў гісторыю знакавы для беларусаў раман “Каласы пад сярпом тваім”, і фантастычна-дэтэктыўную, захапляльную аповесць “Дзікае паляваньне караля Стаха”. Са свайго чытацкага досьведу творы Караткевіча па сваёй лёгкасці і захапляльнасці магу параўнаць з творамі Аляксандра Дзюма, якія чытаў у юнацтве, ці, да прыкладу, з доўгі час забароненым раманам Міхаіла Булгакава “Майстра і Маргарыта”, які я прачытаў за адну ноч, ці “Da Vinci Code” Dan*a* Brown*a*.

**Што яшчэ важна!** Прыгадайце, У.Караткевіч пісаў у 60-я-80-я гады мінулага стагоддзя - каб ствараць у той час маральна-гістрычную аснову беларускай нацыі трэба было мець мужнасць, каб не патрапіць пад кола кан’юнктуры. Чаму так? Бо тады быў час будаўніцтва камунізма, аб’яўленага Н.С.Хрушчовым, з пачаткам будаўніцтва ў 1961 годзе і з заканчэннем прыблізна ў 1980 годзе. А на пачатку 80-х гадоў Л.Брэжневым было заяўлена, што ў СССР створаны - адзіная савецкая нацыя і новы тып чалавека - савецкі. Што стаяла за гэтымі працэсамі, калі паглядзець на Беларусь у той час?

Тады калі тварыў У.Караткевіч, у БССР панавала руская мова, што вяло да далейшай і непазбежнай русіфікацыі беларускага народа. У 1959 годзе падчас

святкавання 40-годдзя БССР, М. Хрушчоў на прамову К. Мазурава на беларускай мове адрэагаваў такім чынам: «*Ни черта не понятно!*»«*Чем быстрее все мы будем разговаривать по-русски, тем быстрее построим коммунизм*».

Неверагодна звужалася беларускамоўная адукацыя. Закрываліся школы. Я пасля навучання ў беларускамоўнай вясковай школе сярэднюю адукацыю атрымаў у беларускамоўнай школе, толькі адзінай з чатырох школ, якія былі на той час у раёным цэнтры Паставы.

Доля беларускамоўных кніг у 70-я гады складала 40% (9млн), тады, як кнігі на рускай мове займалі 60% (16 млн). За перыяд з 1950 года па 1985 год доля беларускамоўных публікацый знізілася з 85% да 9%. Нядаўна, выпадкова на ю-тьюб натрапіў на фінал конкурса савецкай песні-1978 года ў Маскве - вядучыя С.Жыльцова і А.Маслякоў хвілін дзесяць называлі артыстаў на сцэне - усе яны былі прадстаўнікамі многіх і многіх культур і нацый. Відавочнай была штучнасць і дэкартыўнасць прадстаўленага на канцэрце такім чынам развіцця гэтых нацый. Палітыку русіфікацыі ў Беларусі праводзілі ў жыцьцё такія лаяльныя слугі КПСС як К.Мазураў, П.Машэраў і іншыя.

Я дакладна не ведаю, гэта пытанне для крытыкаў і біёграфаў - ці стаяў У.Караткевіч у той час перад выбарам пісаць ці не пісаць пра будоўлі камунізма? **Таму неверагодна важна сказаць яшчэ раз!!** Тэматыка твораў У.Караткевіча была галоўным чынам звязана з жыцьцём беларускага народа, з яго гісторыяй, культурай і традыцыямі. А каб тварыць у гэтым русле ў той час сапраўды патрэбна было мець не толькі талент, а і мужнасць.

І яшчэ **адзін момант** - чым творчасць Караткевіча **важная для нас сёньня**? Лукашэнка на ўсім працягу свайго кіравання будуе рускамоўную цывільную дзяржаву. Ідэалогія такога будаўніцтва абапіраецца на кароткую гістарычную памяць - на падзеі Вялікай айчыннай вайны і на савецкую спадчыну. У.Караткевіч, скарыстаўшы гістарычны падыход для напісання сваіх твораў, істотна пашырыў доўгатэрміновую беларускую памяць, і круг беларусаў, якія з аптымізмам глядзяць наперад і змагаюцца за дэмакратычную, за сапраўдна-нацыянальную беларускую дзяржаву.

Дазвольце скончыць на гэтым. Дзякую за ўвагу.

*Атава, 21-28 лістапада 2020 года*

**Пётра Мурзёнак: Чалавек, які спрычыніўся да будаўніцтва нацыі**
***(вэб-часопіс “Культура. Нацыя”, № 26, сьнежань 2020, с.48-52, www.sakavik.net )***

Аўтар зрабіў акцэнт на той частцы творчасці У.Караткевіча, якая тычыцца каштоўнага уклада пісьменніка ў фундамент беларускай нацыі. У галерэі беларускіх герояў другой паловы 20-га стагоддзя, У.Караткевіч стаіць у адным радзе з такімі выбітнымі нацыянальнымі дзеячамі як А.Адамовіч, В.Быкаў, Л.Геніюш, М.Ермаловіч, У.Мулявін, Г.Цітовіч, якія і сваімі паводзінамі ў жыцьці, і сваёй творчасцю цэментавалі беларускую нацыю. У.Караткевіч пісаў у 60-я-80-я гады мінулага стагоддзя, у час далейшай русіфікацыі, будаўніцтва камунізма і стварэння новага тыпа чалавека - савецкага. Каб ствараць у той час маральна-гістрычную аснову беларускай нацыі трэба было мецць мужнасць, каб не патрапіць пад кола кан’юнктуры. У.Караткевіч таленавіта злучыў ў сваіх творах і беларускую мову, і беларускую гісторыю, што дало каласальны вынік - ён навечна пакінуў для сваёй нацыі тую каштоўную глебу, на якой яна квітнее і будзе квітнець у будучым. Па сваёй лёгкасці і захапляльнасці аўтар параўноўвае творы Караткевіча з творамі Аляксандра Дзюма, раманам Міхаіла Булгакава “Майстра і Маргарыта”, ці “Da Vinci Code” Dan*a* Brown*a*. Творы беларускага пісьменніка У.Караткевіча з гонарам прадстаўляюць нашу нацыю і беларускую літаратуру у сuквецці літаратур сусвету.

*Резюме*

**Пётра Мурзёнак: Человек, внёсший исключительный вклад в строительство нации**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.48-52, www.sakavik.net )***

Автор остановился на той части творчества В.Короткевича, которая касается ценного вклада писателя в становление белорусской нации. В галерее белорусских героев второй половины XX века В.Короткевич стоит в одном ряду с такими выдающимися деятелями, как А.Адамович, В.Быков, Л.Генюш, М. Ермалович, В.Мулявин, Г.Цитович, которые своим жизненным поведением и творчеством создавали фундамент беларуской нации. В. Короткевич писал в 60-80-е годы прошлого века, в период дальнейшей русификации беларусов, построения коммунизма и создания нового типа человека - советского. Чтобы создавать морально-историческую основу белорусской нации в то время, нужно было иметь смелость и мужество дабы не попасть в круг конъюнктуры. В.Короткевич талантливо соединил в своих произведениях беларуский язык и историю Беларуси, что дало колоссальный результат - он навсегда оставил своему народу бесценную почву, на которой тот процветает и будет процветать в будущем. По своей легкости

и увлекательности творчество Короткевича можно сравнить с произведениями А.Дюма, романом М.Булгакова «Мастер и Маргарита» или «Кодом да Винчи» Д. Брауна. Произведения белорусского писателя В.Короткевича с гордостью представляют наш народ и белорусскую литературу в соцветии мировых литератур.


*Abstract*

**Piotra Murzionak: The Man Who Contributed to Nation-building**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.48-52, www.sakavik.net)***

The author focuses on the part of U. Karatkevich's work that concerns the writer's valuable contribution to the foundation of the Belarusian nation. In the gallery of Belarusian heroes,–belonging to the second half of the 20th century, U. Karatkevich standsin the same line with outstanding national figures such as A. Adamovich, V. Bykau, L. Heniyush, M. Ermalovich, U. Mulyavin, G. Tsitovich, who cemented the concept of a distinct Belarusian nation through their behavior in life and their creativity. U. Karatkevich wrote in the 60s and 80s of the last century, during the period of further russification, construction of communism and the creation of a new type of person - the Soviet man. Keeping in mind the need to create the moral and historical basis of the Belarusian nation at that time, it was necessary to have the courage not to fall into the circle of conjuncture. Using his great talent of literary expression, U. Karatkevich combined the Belarusian language and Belarusian history in his works, which gave a colossal result – he left forever for his nation the valuable soil on which it flourishes today and will prosper in the future. In their lightness and fascination, the works of Karatkevich might be compared with the works of Alexandre Dumas, Mikhail Bulgakov's novel *The Master and Margarita*, or "*Da Vinci Code*" by Dan Brown. The works of the Belarusian writer, U. Karatkevich, proudly represent the Belarusian nation and Belarusian literature in the vast mixture of world literatures.

**Рагачоўскі дзённік У. Караткевіча: ля вытокаў**

Кандыдат гістарычных навук ГалінаТуміловіч

Як некалі *Мікалай Карамзін "адкрыў для рускіх Расію" (Пушкін),* так Караткевіч адкрыў для беларусаў іх гістарычнае мінулае, дзе жылі не толькі сяляне, але і шляхта са сваімі магнатамі і замкамі, палацамі, іх спрадвечнымі звычаямі і заняткамі, *а таксама барацьбой*.

Так, ён адкрыў іншую Беларусь.

Яшчэ пры жыцці Караткевіч стаў *"самым чытабельным бел. аўтарам, якога нават у Туніс з сабой бяруць"* (*Я. Брыль*). Другі блізкі да яго чалавек, сябр больш позняй пары (з такіх " младагегельянцаў") Вячаслаў Рагойша наогул сцвярджае, што сябры называлі яго класікам яшчэ пры жыцці. Адам Мальдзіс гэта пацвярджае.

І ў той самы час У.Караткевіч доўга быў адным з самых недаацэненых пісьменнікаў з боку афіцыйнага прызнання. Ва ўсялякім разе ў другой палове 60-х гадоў, на якія прыходзіцца росквіт яго творчасці. Тут і вяршыня творчасці "Каласы пад сярпом тваім" – 1965, "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" – 1965-1966 (А.Мальдзіс), і такія перліны/жамчужыны як "Ладдзя роспачы" - 1964, " Чазенія" – 1967, а таксама гісторыка-прыгодніцкае "Дзікае паляванне караля Стаха" - 1964.

З 1962г., пасля закліка Хрушчова да барацьбы з"фармалізмам", адыходзіць палітычная адліга, што пачалася ў другой палове 50-х (*пасля наведвання выстаўкі мастакоў – МОРХ – Г.Т.*). І Караткевіч – з яго звяртаннем да гісторыі (што тады лічылася крамольным), - калі гэта толькі не гісторыя ад 1917 г., з яго "не тымі героямі" – стаў адной з першых ахвяр " гэтай чарговай барацьбы".

І калі нам, сучасным беларусам, сапраўды ў нечым пашанцавала, дык гэта ў тым, што Караткевіч заняў ўсё ж свае пачэснае месца ў беларускай літаратуры, а таксама ў гісторыі беларускай культуры. Спраўдзіліся словы таго ж самага Янкі Брыля: "Пішы сумленна, а некалі цябе прызнаюць, хоць пасля смерці, што ўжо сумней" *(Мальдзіс, 32, Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча).* На шчасце, яго прызналі яшчэ пры жыцці.

Кожны з нас па-свайму прыходзіў да Караткевіча, ці ён прыходзіў да нас. У маім дзяцінстве, - колькі сябе памятаю, - дома было шмат часопісаў (іх выпісвалі мама з

татам), у тым ліку *Полымя* на беларускай мове і рускамоўны *Нёман*. Дазволю толькі пару лічбаў для параўнання (на сярэдзіну 80-х гадоў) суадносіны паміж руска-і беларускамоўнымі выданнямі: са 107 часопісаў толькі 32 былі беларускамоўнымі, а тыраж беларускіх кніжак быў у 10 разоў меньшы за рускамоўныя выданні.

Зразумела, я не ведала і не задумвалася пра падобныя лічбы, калі на пачатку 70-х трапіла ў *Нёмане* на “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”... Паспрабавала чытаць, - не расчытала і кінула...Запомніла толькі малюнкі і фотадымак У.Караткевіча. Было мне гадоў 8-9. Такім чынам, не магу пахваліцца, што пазнала У.Караткевіча рана, не, значна пазней за Мележа, Шамякіна і Маўра, якіх я чытала і вельмі любіла з самага дзяцінства.

І толькі ў 17 гадоў (1980) я прачытала “Дзікае паляванне караля Стаха” (адкрыўшы такім чынам для сябе Караткевіча). Мой прыклад - зусім не арігінальны, бадай што класічны, які ўзгадвае А.Мальдзіс, калі гаворыць пра хлопчыка, які за (адну) ноч з ліхтарыкам пад коўдрай прачытаў Паляванне... Я – без ліхтарыка, але ўслых, па чарзе са стрыечнай сястрой. Чыталі цэлы вечар і паўночы. А адчуванні тыя назаўседы застануцца са мной і, думаю, з ёю.

Ішоў час, хутка мінулі 80-ыя, у якія Уладзімір Сяменавіч пакінуў гэты свет. І мы, наш беларускі сусвет асірацеў на аднаго з найлепшых прадстаўнікоў нашай нацыі.

З цягам часу У.Караткевіч усе больш усведамляўся, уваходзіў ў калектыўную памяць як найвыдатнейшы майстар слова і вынаходнік нашай гісторыі. Ён вярнуў нам нашу гістарычную спадчыну. І гэты хутка зразумелі ўсе мы. Мы яго прачыталі, паглядзелі фільмы. У маім выпадку апошнім, што я прачытала з Караткевіча, быў яго “Дзённік”, які я адразу акрэсліла/вызначыла для сябе як Рагачоўскі (*аўтар сам толькі напрыканцы называе яго “рагачоўскім”, Г.Т.).*

Ён зусім невялікі па колькасці старонак, ні па часу, што адлюстроўваецца ў ім: не ахоплівае і года з жыцця У.Караткевіча: з канца чэрвеня 1965 - да маю 1966; да таго ж і вёўся ён не зусім рэгулярна. Але - падчас першага чытання ён мяне так ўразіў і захапіў, што я вярталася да яго зноў і зноў, мне хацелася застацца ў ім. Чаму? Чым ён мяне так скарыў, што для нашай сённяшняй сустрэчы я выбрала менавіта яго?

Па-першае (пачну з больш фармальнага боку, хоць і вельмі важнага): дзённікі, як асабістыя запісы і перапіска, а таксама мемуары з’яўляюцца для гісторыка адной з найважнейшых крыніц для вывучэння мінулага. Разам з іншымі пісьмовымі крыніцамі: урадавымі дакументамі, указамі, перапісамі, і г.д. – яны служаць неабходным падмуркам для прафесійнага гістарычнага даследавання. І роля дзённікаў і мемуараў мае вялікі кошт, бо дазваляе адрадзіць карціну эпохі ва ўсіх яе

жыццёвых праявах, а не толькі ў фактычна-лічбовым яе вымярэнні. Калі яны яшчэ і таленавіта напісаны, то наогул не маюць цаны.

У гэтым сэнсе дзённік У.Караткевіча служыць двайную службу: 60-я гады ХХ ст. - важныя для тых, хто вывучае гэты перыяд прафесійна. Для мяне ж, напрыклад, 60-я гады адлюстроўваюць эпоху майго дзяцінства, калі я толькі пачала ўсведамляць хто я. З другога боку, дзеннік Караткевіча сягае таксама ў глыбыню стагоддзяў. Што я маю тут на ўвазе? Па-першае, карані самога Караткевіча. Адкуль ён паходзіць і кім ёсць? Што ўяўляе яго сусвет ад нараджэння?

І тут, дзённік вельмі выразна, яскрава, праўдзіва і дакладна прадстаўляе нам асобу, постаць самога У.Караткевіча. Іншымі словамі, тут (у дзённіку) ён – увесь перад намі: “з каранёў і крылаў”. Рагачоў – гэта яго месца (як Ясная Паляна ў Л. Талстога, Руан у Флабэра ці Жыверні ў Клода Монэ). Тут ён – дома літаральна і духоўна, у яго тут свой пакой у доме, пабудаваным дзедам – Васілем Юльянавічам Грынкевічам, яму там пішацца, дыхаецца і жывецца як можа быць толькі ў сябе, дома. І тыя, найвыдатнейшыя яго творы, што я згадвала раней, нарадзіліся ў гэты перыяд, яны былі напісаныя ў гэтым, рагачоўскім доме і, галоўнае, яны былі натхнёнымі родным падняпроўем.

На старонках рагачоўскага дзенніка любоў і веданне свайго краю, прыроды яго, апісанне звычаяў і штодзённага жыцця, і веданне сваіх каранеў, што падсілкоўваюць яго талент і моц, а таксама даюць сюжэты і галоўных герояў. Узгадаем толькі яго “Ладдзю роспачы”, - твор гэты прасякнуты наскрозь Рагачовам, гісторыяй яго і асобамі: замак каралевы Боны, сама яна (скончаны твор на Іллю, 2 жніўня 1964 г.).

Зазірнем на хвілінку разам з аўтарам у дом. Галоўнае месца ў пакоі яго займае круглы стол, што служыць пісьмовым. А на ім – Біблія! – рэдкая рэч на той час, рукапіс “Хрыста”, якога ён павінен скараціць, а на самой справе - няшчадна парэзаць – заўсёды чыстыя лісты паперы, за якімі Караткевіч перыядычна “ходзіць у горад”. “У горадзе” ён купляе: фотапаперу, каву, кнігі, сыгарэты... На стале стаіць ваза... на гэты раз, на пачатку дзённіка, з белымі півонямі, што падобныя на чашы са снегам... Трошкі далей – маленькі стол (думаю таксама круглы – так было заведзена ў некаторых дамах), за вакном – вінаград... Час тут нібы застыў. Гэта бачна і праз убранства пакоя, і праз розныя мілыя дробязі – як лампа і ласіны рог каля яе, летам і ўвосені яшчэ водар кветак, і яблык, што ляжаць на акне... (с.19). З іншых пакояў ён згадвае “гасціную” (с. 35).

Тут пануюць тыя заняткі, што і раней: ён вудзіць рыбу, ходзіць на паляванне з дзядзькам Ігарам. Прыходзіць да яго і новае захапленне - фотаздымкі. Тут, у Рагачове, засталіся таксама нашчадкі той, былой шматлікай шляхты, што жыла тут

спрадвеку. Гансоўскія, Клятэцкія, Машчанкі - сябры яго родных і яго асабістыя сябры, з якімі ён часта бачыцца. Ёсць тут месца і "царскаму піру" час ад часу, дзе пануе разнастайная і вытанчаная шляхецкая кухня: заліўная сеўруга, піражкі з грыбамі, "трус/кролік з буракамі па-беларуску", смажаная гусь (па-рагачоўску), ікра, вэнджаны лешч, марынаваныя ігрушы. Што яны п'юць? Здаецца, перш за ўсе – гарэлку; адзін раз у дзённіку Караткевіч прыгадвае беларускі каньяк ("адзінае неперашакласнае на Беларусі - беларускі каньяк" – с.4).

Заняткі яго, звычаі, што пануюць тут, сустрэчы з мясцовымі сябрамі - усе гэта нагадвае былы шляхецкі засценак, які традыцыйна праз стагоддзі змог - наколькі было магчыма - захаваць свой лад жыцця, але, зразумела, толькі ў сваім асяроддзі. І гэта - яго карані. Мяняліся палітычныя мапы, яго Падняпроўе ў рэшце рэшт апынулася ў Расійскай імперыі, а потым - у складзе Савецкага Саюзу. Але нейкім чынам старая беларуская шляхта - з тых, хто ўцалеў, працягвала свае звычаі, і дзённік яго – вельмі паказальны ў гэтым сэнсе.

Рагачоў – невялікі на той час (паміж 10 і 15 тыс. жыхароў) горад ці больш мясцечка, але вядомы ўжо з 12 стагоддзя, калі ён ўпершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісу, застаўся такім анклавам былой шляхты, якія яшчэ сустракаліся на Беларусі. Так, У.Караткевіч не вызначае тут шляхту асабіста, але гэта відавочна.

Людзей свайго часу ён не падзяляе на шляхту і не шляхту. Такога падзелу няма, і не магло быць у той час (аб гэтым не прынята было гаварыць – каму трэба - той ведаў, астатніх гэта не тычылася). І прама аб гэтым ён нідзе ў дзённіку не піша. Іншая справа – яго творы, дзе ўсе скрозь - прадстаўнікі шляхецтва.

Бясспрэчна, як вялікі талент – ён быў далека наперадзе сваёй эпохі і ў той жа самы час ведаў і вытокі свае, аднак і ён быў падуладны часу, у якім жыў рэальна, і з якім нельга было не лічыцца. Больш за тое, нагадванне з боку іншых, нават сяброў, пра яго паходжанне магло яго нават абурыць, пакрыўдзіць. На гэты конт ёсць у дзённіку адзін паказальны момант, калі ён згадвае сваю спрэчку з Рыгорам Барадуліным - найбліжэйшым сябрам. Мы не ведаем як гэта дакладна прагучала, але ў дзённіку Караткевіч занатоўвае літаральна наступнае: *„...я таксама спачатку крычаў, што мае паходжанне, паходжанне маёй маці не чапай, бо я ягонае таксама не чапляю"... (с.7).*

У якасці заключэння згадаю апошняе: калі я аб нечым балюча сумую, дык гэта аб тым, што У.С.Караткевіч не дажыў 11 гадоў да таго часу, калі ў беларускай гістарычнай навуцы з'явілася ПЕРШАЕ НАВУКОВАЕ СПЕЦЫЯЛЬНАЕ даследванне, прысвечанае шляхце, менавіта ёй як такой. Упэўнена, ён быў бы задаволены. Але лёс і пан Бог распарадзіліся інакш. І таму аб гэтым цяжка нават

марыць, бо мары, адрасаваныя ў мінулае, як вядома, самы марны занятак на гэтым свеце.

**Крыніцы:**


1.Уладзімір Караткевіч. Збор твораў у 25 тамах. Том 5. Легенды. Навела. Паэма. Аповесць, 1960-1972. Минск: Мастацкая літаратура, 2013.

2.Караткевіч У. Ладдзя Роспачы: Аповесці / Уклад, прадм. А. Вераб'я. — Мн.: Маст. літ. 1997. — 239 с.

3.А.В.Мальдзіс Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. https://royallib.com/read/maldis_adam/gitstse__znyasenne_uladzmra_karatkevcha.html#0

4.А.В.Мальдзіс Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: партрэт пісьменніка і чалавека. Мн., 1990. 230 с.

5.“Здабыткі і негатыўныя з’явы ў развіцці адукацыі, навукі і культуры”. *Нарысы гісторыі Беларусі*. Мінск, 1995, Том 2, с.407.

6.https://www.youtube.com/watch?v=SWRk1_Y6m5w

7.https://www.youtube.com/watch?v=7SmrYouHfRw&list=PLCZLJLaNHoJICvl_66dHlzjy7oynqoY-_

8.https://svabod1.azureedge.net/a/30969914.html?fbclid=IwAR0lXy_WG2b186nN6yGPIzIgH5Ethb2hpaATn0XSsZpDheHpN8OQUDop2Xw


**Рагачоўскі дзённік У. Караткевіча: ля вытокаў.**

Кандыдат гістарычных навук ГалінаТуміловіч

***(вэб-часопіс “Культура. Нацыя”, № 26, сьнежань 2020, с.53-59, www.sakavik.net )***

Уладзімір Караткевіч пакінуў вялікую спадчыну для беларусаў. Ён адкрыў новую, іншую Беларусь праз яе гістарычнае мінулае. Ён узбагаціў беларускую літаратуру новымі жанрамі і тэматыкай. Таму невыпадкова, што ён стаў «класікам» яшчэ пры жыцці. Але найбольшае прызнанне У. Караткевіч пазнаў ужо пасля: у калектыўнай памяці беларусаў з цягам часу ён усе больш і больш усведамляўся як вынаходнік

беларускай гісторыі, выдатны майстар слова і, наогул, адзін з найвыбітнейшых прадстаўнікоў нашай нацыі, у існаванні якой на сёння ўжо няма ніякага сумнення. Сярод яго багатай і жанрава разнастайнай спадчыны асобнае месца належыць яго дзённіку. Невялікі па аб'ему і апісанаму перыяду (ахоплівае меньш за год), дзённік прадстаўляе надзвычай важную гістарычную крыніцу для вывучэння як XX ст., так і даследаванняў па гісторыі Беларусі часоў ВКЛ і Расійскай імперыі. У гэтым сэнсе дадзены артыкул адыгрывае самастойную ролю, а таксама можа разглядацца як уступ для далейшых гістарычных даследаванняў.

*Резюме*

**Рогачёвский дневник В. Караткевича: у истоков**

Кандидат исторических наук ГалинаТумилович

***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.53-59, www.sakavik.net )***

Владимир Короткевич оставил большое наследие. Он открыл для нас новую, иную Беларусь. Он обогатил белорусскую литературу новыми жанрами и темами. Поэтому неслучайно его называли «классиком» еще при жизни. Однако наибольшее признание В. Короткевич получил уже после своего ухода. С течением времени он все больше входил в коллективное сознание и память белорусов как тот, кто вернул нам нашу историю, как тонкий мастер слова и , в целом, как один из лучших представителей белорусской нации, существование которой на сегодня не вызывает ни у кого малейших сомнений. Среди его богатого и жанрово разнообразного письменного наследия особое место занимает дневник. Небольшой по объему и описываемому периоду дневник представляет собой очень важный исторический источник для изучения как XX в.,так и более ранних периодов белорусской истории, - от ВКЛ до Российской империи. В этом смысле предлагаемая статья играет как самостоятельную роль, так и может рассматриваться как вводная часть для дальнейших исторических исследований.

*Abstract*

**Ragachou Diary by U.Karatkievich: Beside Origins**

Candidate of Historic Sciences, Galina Tumilovich

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.53-59, www.sakavik.net)***

Uladzimir Karatkievich left a great legacy for Belarusians. He opened up a new and completely different Belarus, looking into the country's historic past. He enriched Belarusian literature with new genres and themes. Thus, it is not without reason that he became a person of classic note while still alive. U.Karatkievich gained even greater recognition once he passed on, i.e., with the passage of time within our collective Belarusian mind he amassed greater recognition as a discoverer of Belarusian history and exquisite master of our language, in general as one of the most outstanding representatives that our nation has known. Today there is no doubt in our minds concerning our total appreciation of him in this capacity. His diary occupies a special place among his legacy of rich and variated genres. Although not extensive in length, covering a period slightly less than a year, it has proven to be an unusually important source of study related to the 20$^{th}$ century centering research on the history of Belarus during the years of the Grand Duchy of Litva and Russian Empire. In some sense this article plays out its unique role but also can be seen as an introduction to further historic research.

**Юрась Шамецька: Паэтычны цыкл "Таўрыда" Уладзіміра Караткевіча і "Крымскія санеты" Адама Міцкевіча**

*Даецца параўнальны аналіз творчага ўзаемадзеяння літаратурных твораў на прыкладзе паэтычных цыклаў "Таўрыда" Уладзіміра Караткевіча і "Крымскіх санетаў" Адама Міцкевіча. Артыкул падрыхтаваны да выступлення на юбілейнай вечарыне, прысвечанай 90-годдзю з Дня Нараджэння Уладзіміра Караткевіча, якая адбылася 28 лістапада 2020 года онлайн [1].*

***

Знайсці сувязь падзей, а тым больш спалучэнне чалавечых лёсаў у бясконцай і няспыннай паслядоўнасці часу, патрабуе пільнай увагі і жадання. Іншы раз, супадзенне ў лічбах і датах прымушае задумацца і параўнаць відавочныя факты. Да аднаго з такіх супадзенняў ”у часе”можна залічыць дзень 26 лістапада, які, здаецца, "выпадкова" ці "невыпадкова" злучыў лёсы двух выдатных беларускіх паэтаў Уладзіміра Караткевіча і Адама Міцкевіча.

Уладзімір Караткевіч нарадзіўся 26 лістапада 1930 года ў горадзе Ворша. У гэты дзень 26 лістапада 1855 года ў Канстанцінопалі памёр Адам Міцкевіч. Розніца 75 год.

У свае 25-ць гадоў Караткевіч, ведаючы пра асабістасць даты 26 лістапада і адчуваючы вызначаную лёсам сувязь, піша верш "Слова Міцкевічу" і пачынае яго з такіх слоў:

*Кажуць, што ў ноч на дваццаць шостае лістапада ты з’яўляешся на зямлю, якая цябе нарадзіла, і ходзіш па ёй, заглядаючы ў кожную хату, ў кожную адрыну на дно кожнага глыбокага возера.*
*Нячутныя крокі твае, а вочы з пяшчотнасцю нябачанай глядзяць на гэтую простую і мілую зямлю.*
*Рукі твае дакранаюцца да кары дрэваў-манументаў, галубяць кожны ліст на прырэчнай каліне, а вушы чуйна прыслухоўваюцца да новых спеваў, што гучаць на берагах чыстых, як сэрца тваё, беларускіх рэк.*
*Ноч вялікая-вялікая, і таму паспяваеш ты пабываць скрозь: на рудых берагах Дняпра і на беразе Світазі, дзе ў хвалях водарасці заблыталіся як русалчыны косы, ў сініх лясах Гродзеншчыны і на гары Маяк.*

*Неабсяжная зямля наша, але паўсюль, дзе пачуеш ты «кугаканне» савы над акном хаты, ты, непрыкметны, заходзіш у хату і глядзіш у вочы новаму чалавеку, які нарадзіўся ў той дзень, калі ты памёр.[2]*

Абодва паэта маюць шляхетнае паходжанне. Бацька Адама Міцкевіча паходзіў з шляхетнага роду Рымвідаў-Міцкевічаў, заснавальнікам, якога быў літоўскі баярын Рымвід. Герб роду Міцкевічаў - Порай, ці Ружа. Уладзімір Караткевіч па матчынай лініі нашчадак шляхетнага роду Грыневічаў. Герб роду - Прыяцель. Прадзед Караткевіча Тамаш Грыневіч - удзельнік паўстання Каліноўскага, чым Уладзімір Караткевіч вельмі ганарыўся. Томаш Грыневіч быў расстраляны ў Рагачове ў 1865 годзе.

Калі параўнаць творчасць двух выдатных і апантаных паэтаў магчыма знайсці шмат агульнага: рамантызм, цяга да гістарычнага мінулага, містыка, вострае ўспрыманне стану роднай беларускай мовы, адвечны боль за будучыню Бацькаўшчыны. Але сёння хацелася б спыніцца і параўнаць паэтычныя цыклы "Таўрыда" Уладзіміра Караткевіча і “Крымскія санеты” Адама Міцкевіча, як адметнай часткі творчасці абодвух паэтаў.

З чэрвеня па ліпень 1825 года Адам Міцкевіч падарожнічаў па Крыме. Уражаны сваім падарожжам, паэт напісаў цыкл з 18 санетаў, якія былі надрукаваныя 1826 годзе ў Маскве. Эпіграфам да кнігі Адам Міцкевіч абраў словы нямецкага паэта Гётэ: "Хто хоча зразумець паэта, той павінен адправіцца ў яго краіну". У вершах паэт захапляецца прыгажосцю Крымскіх гор, веліччу Чорнага мора, але ў той самы час адчуваецца туга па радзіме, па родным людзям, з якімі паэт разлучаны, бо ў 1824 годзе высланы ў Расею з Літвы за ўдзел у тайным антыўрадавым палітычным аб'яднанні "Таварыства філаматаў і філарэтаў".

Вось некалькі радкоў з санета "Акерманскія стэпы" у перакладзе Уладзіміра Жылкі.

*... Спыніліся. Плыве крык жораваў у цішы,*
*А іх і сокала не згледзіць быстры зрок.*
*Чутно, калі матыль сцяблінкі траў калыша,*
*Як слізкі вуж паўзе і крыецца у змрок.*
*Таю спакой, што, каб паклікаў хто ў Літве,*
*пачуў бы я… Дарма! — Ніхто не пазаве.[3]*

Падчас працы над мастацкім фільмам "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" у 1967 годзе Уладзімір Караткевіч некалькі разоў прылятаў у Крым. Як і Адам Міцкевіч,

ён быў уражаны мясцовай прыгажосцю мора і гор, дзіўнымі краявідамі прыроды, асалодай і цеплынёй поўдня. Пад уплывам пережытага і пабачанага паэт напісаў цыкл вершаў "Таўрыда", які ўвайшоў у кнігу "Мая Іліяда", якая была надрукавана ў Менску ў 1969 годзе.

Адам Міцкевіч і Уладзімір Караткевіч, звязаныя воляй лёсу, сустракаюцца ў часе, ствараюць дзіўны і шматгранны вершаваны дыялог. "Акерманскія стэпы", "Бахчысарай ноччу", "Пілігрымы", "Дарога над прорвай у Чуфут-Кале", "Аю-Даг". Гэта вершы Адама Міцкевіча. "Гурзуф уначы", "Над Аю-дагам — над Мядзведзь-гарою...","Таўры", "Маўзалей Джаніке-ханум". Вершы Уладзіміра Караткевіча.

Адам Мальдзіс у кнізе "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча" апісвае такі выпадак:

*... На здымках* [фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"] *Караткевіч згубіў частку вершаў з крымскага цыкла.*
*— Суцэльная трагедыя! — бурчэў, гуляючы з кацянём, якое невядома адкуль ("ці не з космасу?") прыбілася... — Уявіце сабе, што Міцкевіч згубіў "Крымскія санеты"! Тая ж непапраўная страта!*
*Потым аказалася, што не ўсё згублена. Некалькі вершаў знайшлося ў адной з кішэняў рукзака. І Валодзя, супакоіўшыся, прачытаў нам адзін — пра Чуфут-Кале.[4]*

Вядома, Караткевіч захапляўся "Крымскімі санетамі" Адама Міцкевіча і, назіраючы за краявідамі, цешыўся яго паэтычнымі вобразамі: "ветразі на голых мачтах задрамалі накшталт харугваў, што закончылі змаганне". Уладзімір Караткевіч адчувае сваю сувязь з Адамам Міцкевічам, назірае крымскія абшары гор Чатырдаг і піша верш "Чатырдаг".

*Пан вечнасці, ты пашкадуй малю,*
*Імгненне цёплае, маю зямлю,*
*Слязу любові на тваёй шчацэ*
*Крывінку лепшую ў тваёй руцэ...[5]*

Верш з такой самай назвай "Чатырдаг" ёсць і ў Міцкевіча. Для тых, хто апынуўся за межамі Бацькаўшчыны, будзе зразумелым паэтычнае адлюстраванне прыгожых вобразаў Беларусі ў пабачаных вобразах Крыма. Караткевіч піша верш "Дрэва на Чатырдагу" і прысвячае яго Васілю Быкаву.

*Абпаленае перунамі.*
*Стаіць - і ў цвіценне верыць —*
*Адно супраць сцюж і абвалаў,—*
*Смерць хаваючы ў сэрцы,*
*Жыццё — ў каранях між скалаў.[6]*

Міцкевіча хвалюе лёс яго бацькаўшчыны, Літвы. Караткевіча хвалюе лёс яго радзімы, Беларусі, бо ведае гісторыю таўраў - народа, які жыў у гэтых мясцінах напачатку нашай эры і потым знік. Караткевіч піша:

*Я стаю і ўяўляю, што я не ізгой,*
*Не паэт з беларускіх узгоркаў сініх,*
*А апошні таўр народа свайго.*
*О, якая ганебнасць у гэтых згадках!*
*О, які атрутны бяспамяцтва дым!..*
*Крый нас божа, калі і на нас нашчадкі*
*Паглядзяць, як мы на таўраў глядзім. [7]*

Магчыма сказаць, што паэтычны свет пабудаваны на здагадках і дапушчэннях. Таму сёння, чытаючы Адама Міцкевіча, лягчэй зразумець творчасць Уладзіміра Караткевіча і наадварот, паэзія Караткевіча вяртае нас да твораў Міцкевіча. А нам, чытачам, як не дзіўна, больш зразумелай і шматграннай бачыцца краіна Беларусь, нібы хвалюючая васільковае мора, аб якім так па-рознаму, але рупліва і натхнёна пісалі абодва паэты.

Вось так піша Адам Міцкевіч:

*...Спіць зямля. Мне няма ані сна ні спакою,*
*Я кідаюся ў мора насупраць прыбою*
*Надыходзячы вал сустракаю плячыма.*
*Хаос мяне акружае, калыша бяздонне;*
*Міг і думка, як човен, вірамі круцімы,*
*Раптам траціць прытомнасць*
*у непамяцці гіне.[8]*

Уладзімір Караткевіч старанна падхоплівае паэтычныя ўздым і душэўныя парывы Адама Міцкевіча і выказвае сваё бачанне на выразную і вялікую стыхію:

*...Няма цяплей, радней марскога лона,*
*Які б там гнеў не строіла яно.*

*І ведай, як бы ты не прагнула адрынуць*
*І як бы ні была ты халадней ільда,*
*Сальёмся мы з табой у вечным і адзіным,*
*Крыштальная вада і сіняя вада. [9]*

Чым болей чытаеш абодвух паэтаў, тым больш праяўляецца думка пра тое, што дзень 26 лістапада невыпадкова і назаўсёды злучыў жыццёвыя і літаратурныя лёсы двух беларускіх паэтаў, даў магчымасць жыццю стварыць цяпер ужо бачную і непарыўную нітку творчага, якая пачалася Адамам Міцкевічам і працягнулася Уладзімірам Караткевічам і тымі, хто прыйдзе з будучыні і стане на гэты шлях, прыкладна так, як казаў у радках свайго верша "Слова Міцкевічу" Уладзімір Караткевіч:

*Звоняць і звоняць вярбовыя струны, і цвёрдыя крокі твае заўсёды гучаць разам з нашымі, і наперадзе, і лёгка нам ісці, адчуваючы цябе поруч.*
*Туды, туды, дзе сонца ўсходзіць.[2]*

*Лістапад, 2020*
*Атава*

**Спіс выкарыстанай літаратуры:**

1. Канадскія беларусы адзначылі 90-годдзе Караткевіча навуковай анлайн-вечарынай
https://zbsb.org/news/abroad/kanadskiya-belarusy-adznachyli-90-goddze-karatkevicha-navukovay-anlayn-vecharynay/

2. Уладзімір Караткевіч “Слова Міцкевічу (Верш у прозе)“
https://knihi.com/Uladzimir_Karatkievic/Slova_Mickievicu_Viers_u_prozie.html

3. Санеты Уладзімера Жылкі
https://be.wikisource.org/wiki/Акерманскія_стэпы_(Міцкевіч/Жылка)

4. Адам Мальдзіс “Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча”.
http://flibusta.is/b/315254/read

5. Уладзімір Караткевіч “Чартырдаг”, Уладзімір Караткевіч “Збор твораў”, том 1 – Мінск, 1987 – стр. 193.

6. Уладзімір Караткевіч “Дрэва на Чартырдагу”, Уладзімір Караткевіч “Збор твораў”, том 1 – Мінск, 1987 – стр.193.

7. Уладзімір Караткевіч “Таўры”, Уладзімір Караткевіч “Збор твораў”, том 1 – Мінск, 1987 – стр.205.

8. Адам Міцкевіч “Байдары”, пер. І. Багдановіч – Адам Міцкевіч “Санеты” – Мінск, 2000 – стр.158

9. Уладзімір Караткевіч “Дзве вады”, Уладзімір Караткевіч “Збор твораў”, том 1 – Мінск, 1987 – стр.200.

*Резюме*

**Юрась Шамецька: Поэтический цикл «Таврида» Владимира Короткевича и «Крымские сонеты» Адама Мицкевича**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.60-65, www.sakavik.net )***

Дан сравнительный анализ творческого взаимодействия литературных произведений на примере поэтических циклов «Таврида» Владимира Короткевича и «Крымские сонеты» Адама Мицкевича. Статья подготовлена для выступления на юбилейном вечере, посвященном 90-летию Владимира Короткевича, которое состоялось 28 ноября 2020 года *онлайн*.

*Abstract*

**Yuras Shametska: Poetic cycle "Tauryda" by UladzimirKaratkevich and "Crimean Sonnets" by Adam Mitskevich**
***(web-magazine “Culture. Nation”, issue 26, December 2020, p.60-65, www.sakavik.net)***

A comparative analysis of the creative interaction of literary works using the example of poetic cycles "Tauryda" by Uladzimir Karatkevich and "Crimean Sonnets" by Adam Mitskevich is given. The article was prepared for a presentation at the anniversary party dedicated to the 90th anniversary of Uladzimir Karatkevich, which took place on November 28, 2020 *online*.

<u>*Артыкулы*</u>

**Віталь Зайка: Кантроль публічнага дыскурсу ў Беларусі й Злучаных Штатах - Парадоксы і падабенства**

*У артыкуле робіцца спроба асэнсаваць сучасныя працэсы, што адбываюцца ў Беларусі й ЗША, праз разгляд тэндэнцыяў у сфэры кантролю грамадскага дыскурсу. Аўтар аналізуе ідэялёгіі, што стаяць за сіламі, якія кантралююць грамадскі дыскурс у абедзьвух краінах, і прыходзіць да высновы, што абедзьве ідэалёгіі маюць шмат агульных рысаў і выводзяцца з аднаго кораню. Не гледзячы на тое, што інтэнсыўнасьць кантролю і ступень пакараньня нязгодных з тым кантролем у дадзены момант у Беларусі й ЗША значна адрозьніваюцца, тым ня менш пры працягу існуючых тэндэнцыяў цалкам мажлівае ўзмацненьне падабенства, а і сыходжаньне, гэтых чыньнікаў несвабоды ў сфэры публічнага дыскурсу, нягледзячы на умоўнасьць параўнаньняў непадобных грамадстваў Беларусі й ЗША.*

Напярэдадні трэцяй дэкады 20-га стагоддзя Рэспубліка Беларусь і Злучаныя Штаты Амэрыкі сталі шмат у чым падобныя для назіральніка - аўтара гэтых радкоў. Парадаксальным чынам "апошняя дыктатура Эўропы" і "флагман Вольнага Сьвету" пачынаюць у пэўных рысах сыходзіцца. І адбываецца гэта, нажаль, не дзеля лібэралізацыі й вэстэрнізацыі Рэспублікі Беларусь, але дзякуючы руху ўбок ад дэмакратычных прынцыпаў і свабодаў, які ажыцьцяўляюць у Злучаных Штатах амаль усе дзяржаўныя і палітычныя структуры краіны, а таксама масавыя сродкі, сыстэма адукацыі й грамадска-навуковых досьледаў, і забаўляльная індустрыя.

Найбольш відавочнай і непакоячай зьявай, што адлюстроўвае вышэйпазначаную тэндэнцыю, зьяўляюцца працэсы ў абедзьвух краінах, што датычаць публічнага дыскурсу і ягонага кантролю.

Ад свайго прыходу да ўлады Аляксандар Лукашэнка і кола ягоных дарадцаў крок за крокам, сыстэматычна і мэтанакіравана, пачалі звужаць абшар для незалежных выказваньняў і свабоды слова. Была зьліквідаваная большасьць недзяржаўных арганізацыяў, зачыненая частка незалежных медыяў, а над рэштай іх цэлы час вісіць пагроза штрафаў і закрыцьця. Абмежаваньні свабоднага выяўленьня былі ўведзеныя у заканадаўства пад маркай "абароны гонару прэзідэнта", "недапушчэньня незарэгістраванай сымболікі", і падобна. Рабілася гэта пад

дэмагагічныя заявы-тлумачаньні пра тое, што прымаемыя меры скіраваныя на ўзмацненьне стабільнасцы краіны і абарону інтарэсаў яе грамадзянаў.

Падобным чынам прыблізна ў той самы час, ад пачатку 1990-х гадоў, у Злучаных Штатах адбывалася звужэньне сфэры стасаваньня свабоды слова. Частка гэтага працэсу афармлялася юрыдычна, праз увядзеньне нормаў, што караюць за "злачынствы нянавісьці", "практыку дыскрымінацыі" і "сэксуальныя дамаганьні". Праз распаўсюджаньне адпаведных нутраных рэгуляцыяў для дзяржаўных і прыватных установаў гэта замацоўвалася як неаспрэчвальная норма. Рабілася гэта пад заявы аб дбаньні пра інтарэсы "мяншыняў і найбольш крохкіх слаёў грамадства".

У выніку прастора свабоды выказваньняў за апошнія 26 год істотна звузілася як у РБ, гэтак і ў ЗША. Асаблівае паскарэньне і абвастрэньне гэтай зьявы адбылося ў 2020 годзе, калі ў РБ прайшлі выбары прэзідэнта і пратэсты супраць фальшаваньня выбараў, а ў ЗША выбухлі пратэсты супраць надуманай паліцыйнай брутальнасьці й неіснуючага "сістэмнага расізму" ў праваахоўных органах.

Наступствам усяго гэтага сталі ўзмацненьне перашкодаў для распаўсюду інфармацыі й свабоды самавыяўленьня ў абедзьвух краінах, і апошнім часам да гэтага дадалося брутальнае зьбіцьцё і абсурдныя пакараньні пратэстоўцаў у Беларусі, і амаль поўная беспакаральнасьць асобаў, што удзельнічалі ў падпалах і пагромах падчас пратэстаў у ЗША.

Абодва фэномэны зьвязаныя з камуністычнай і марксыстоўскай ідэалёгіяй, якая ў форме пост-савецкай спадчыны перахоўваецца ў РБ, і як імкненьне да утапічнага "сацыялістычнага" ідэалу пашыраецца ў Злучаных Штатах. У пэўным сэнсе крыніцай абедзьвух зьяваў ёсьць тая самая ідэалёгія, што выкарыстоўвае марксыстоўскую тэорыю эксплюатацыі й барацьбы клясаў. Зь яе вынікае дзяржаўнае рэгуляваньне грамадскага жыцьця як мэтаду стрыманьня адмоўных зьяваў, і мэтаду падвышаньня дабрабыту грамадзянаў. Для рэжыму Лукашэнкі тая ідэалёгія засталася натуральным наступствам не зьліквідаванай у Беларусі сістэмы дзяржаўнай уласнасьці й таталітарных савецкіх прынцыпаў адмаўленьня правоў і свабодаў асобы. У Злучаных Штатах гэтая ідэалёгія кшталтуецца і фармуецца пераважна ў радыкальных акадэмічных і журналісцкіх колах. Яна затым выходзіць у шырэйшае грамадства, і пастуляты той ідэалёгіі культывуюцца праз сістэму адукацыі, забаўляльную індустрыю і сродкі масавай інфармацыі. Як вынік амаль уся генэрацыя такзваных "міленіялаў" у ЗША, асобаў у найбольш прадуктыўным узросьце 24-38 год, зрабілася калектыўным пасьлядоўнікам гэнай распаўсюджваемай ідэалёгіі. Наступствы гэтага яшчэ не да канца ўсьведамленыя, а цяперашні й будучы ўплыў мала аналізаваны.

Парадаксальным чынам пашырэньне несвабоды ў Амэрыцы, а таксама ва ўсіх краінах Вольнага (пакуль) Сьвету, уплывае і на Беларусь. Беларуская моладзь, студэнты, у сілу пэўных узроставых, генэрацыйных асаблівасьцяў юнацкага і моладзевага ўзросту, актыўна пераймаюць моды, густы, лад жыцьця, а таксама - ідэалы й ідэалёгію сваіх аднагодкаў у Вольным Сьвеце, на Захадзе. Такім чынам марксыстоўскія "сацыялістычныя" ідэі Лукашэнкаўскага рэжыму атрымліваюць нечаканую падтрымку праз запазычаныя беларускай моладдзю, у трансфармаваным выглядзе, тыя-ж самыя марксыстоўскія ідэі. Гэта рэчы, якія у рэшце рэштаў зьяўляюцца стрыжнем ідэалёгіі Лукашэнкі, а праз гэта - інструмантам паняволеньня той самай беларускай моладзі. "Сацыялістычная" ідэялёгія ў моднай ("cool") форме вяртаецца ў краіну, дзе яна спрычынілася ў сваёй савецкай форме да пагібелі соцень тысяч людзей, і надзвычайных пакутаў і выпрабаваньняў для мільёнаў беларусаў. Акрамя гэтага, рэвалюцыйная рамантыка і ўплыў сяброў-аднагодкаў паспрыялі пашырэньню дэцэнтралізаваных анархісцкіх структураў у ЗША, улучна з рухам "Антыфа". Анархісцкія структуры распаўсюдзіліся таксама і ў Беларусі, і гэтаму спрыяла аўра імпарту з Захаду, атаесамленьне з сучаснасьцю й моднасьцю ("coolness"). Сёнешні беларускія анархісты, што з імпэтам змагаюцца супраць рэжыму Лукашэнкі, згодна з іхнай ідэялёгіяй мусяць гэтак жа зацята змагаца і супраць нацыяннальнай беларускай дэмакратычнай дзяржавы, калі такая ўзьнікне.

Лякаматывам прасоўваньня лукашэнскіх ідэяў зьяўляецца запазычаны Лукашэнкам расейскі нацыяналізм савецкага гатунку, і прынесеная расейскімі камуністычнымі ўладамі ксэнафобія. Боязь і недавер да Захаду актыўна падпітваюцца бясконцымі заявамі Лукашэнкі пра пагрозу збоку Захаду, імкненьне яго дэстабілізаваць і захапіць "маладую рэспубліку". Яны закладзеныя ў школьную праграму, выкладаюцца ў выэшэйшых навучальных установах, без перапынку ліюцца з старонак афіцыйнага рэжымнага друку, з экранаў тэлевізараў і сеціўных сайтаў. Гэтая боязь і недавер мэтадычна накіроўваюцца супраць апазыцыйных і нацыянальных сілаў у Беларусі, забясьпечваючы жывучасьць і трываласьць рэжыму. Прадстаўнікі апазыцыі, нацыянальная інтэлігенцыя а нават кожны чалавек, што сьведама выбірае мовай камунікацыі - беларускую, дэфамуюцца як замежныя агенты й хцівыя найміты Захаду. У той жа час расейскія шавіністы маюць свабоду рук у Беларусі, мясцовыя прарасейскія сілы а нават расейскія грамадзяне без перашкодаў маюць мажлівасьць беспакаральна ганіць усё беларускае, ставіць пад пытаньне патрэбу незалежнай Беларусі, права на існаваньне беларусаў як асобнага народу.

Паспрабуем шчыльней разгледзець зьмест абедзьвух ідэалёгіяў, што маюць агульныя карані й гэтулькі агульных рысаў. Такзваная "дзяржаўная ідэалёгія" рэжыму Лукашэнкі, а таксама этас - штодзённыя практыкі й перакананьні

прыхільнікаў рэжыму, будуюцца перш за ўсё на расейскім шавінізме, хоць і не ў адкрытай форме. Усё расейскае для Лукашэнкі й ягоных прыхільнікаў, за выключэньнем хіба марак аўтамабіляў ды прадметаў раскошы, ёсьць прыклад і ўзор. Лукашэнка ня раз выказваўся пра "моц і веліч" Расеі, ганіў беларускую мову і ўзносіў расейскую, называў беларусаў "якаснымі расейцамі".

Войска зьяўляецца адным з найпераканаўчых атрыбутаў незалежнай дзяржавы, і ёсьць інтэграванае ў гістарычны і сацыяльна-палітычны дыскурс кожнай краіны. Узброеныя сілы Беларусі, наадварот, дэ-факта зьяўляюцца падгрупай замежнага, расейскага, войска. Гэтая падгрупа пакуль што знаходзіцца пад непасрэднай камандай намінальнага прэзідэнта РБ, а насамрэч узурпатара ўлады ў Беларусі - але здольная правесьці ў Беларусі "крымскі" варыянт. І ня дзіва. Пачынаюы з мовы камандаў і з герояў, прапагандуемых у гэтым квазі-беларускім войску, і канчаючы вызначэньнем верагоднага праціўніка - некаторыя адрозьненьні ад расейскага войска можна адшукаць толькі ў кукардах і шэўронах. Не выключана, што ў "гадзіну Ч" гэтае квазі-беларускае вайсковае ўтварэньне будзе слухаць і выконваць каманды ня зь Менску, але з Масквы. Таму войска, што ў большасьці краінаў зьяўляецца аб'ектам нацыянальнага гонару і апірышчам патрыятызму, у Беларусі ёсьць працягам чужой варожай сілы - той сілы, што стагоддзямі пагражала існаваньню краіны і вынішчала яе жыхароў.

Немалую ролю ў ідэалёгіі Лукашэнкі займае роля дзяржаўнай рэгуляцыі жыцьця яе жыхароў, пагарда і падазронасьць да недзяржаўных структураў, і да прыватнай ініцыятывы. Выразы кшталту "вашывыя блохі" ў адрас прадпрыймальнікаў гэта яшчэ не найгоршае, што рэжым ужывае ў адносінах да беларусаў, што зарабляюць на жыцьцё ў межах заканадаўства праз сваю ўласную кемлівасьць ды ініцыятыву. Між тым бізнэсы, што належаць кляну Лукашэнак або знаходзяцца ў цеснай лучнасьці зь ім, ёсьць цалкам паважаныя й прыймальныя. Гэткую крывадушнасьць імкнуцца схаваць праз адсутнасьць і вычышчэньне інфармацыі аб фінансавых ды эканамічных авуарах асяроддзя Лукашэнкі.

Наступным важным складнікам ідэалёгіі Лукашэнкі ёсьць апэляцыя да хрысьціянства праваслаўнага абраду ў вэрсіі Маскоўскага патрыярхату. Кананічна гэтая царква абагаўляе ўладу, і паколькі сядзібай яе кіраўніцтва зьяўляецца Расея, а не Беларусь, царква гэтая адпаведна ёсьць правадніком русыфікацыі й насаджаньня расейскіх традыцыяў і расейскага кшталту рэлігійнасьці ў Беларусі, а пераважна фармальнага выкананьня абрадаў і строгага захаваньня канонаў. Праз гэта беларусам цэлы час даводзіцца да ведама, што яны ёсьць "частка вялікага цэлага" ад Берасьця да Ўладзівастоку, насаджаецца чужы беларусам архітэктурны стыль залочаных цыбулінаў на храмах, і дазваляецца адкрыты шавінізм і пагарда да ўсяго беларускага сярод сьвятароў.

Надзвычай моцным і эфэктоўным сродкам кансалідацыі, якім няспынна маніпулюе Лукашэнка, зьяўляецца ксэнафобія ў адносінах да ўсіх эўрапэйцаў і Вольнага Сьвету наагул, і ў прыватнасьці недавер і падазронасьць да ўсіх суседзяў Беларусі - акрамя Расеі. Закваскай тут ёсьць міт пра Другую сусьветную вайну (“Вялікую Айчынную”), і пра Савецкі Саюз і расейцаў як адзіную сілу, што супрацьстаяла нацыстоўскай навале. Цяперашні абарончы альянс НАТО не саромеючыся прыраўноўваюць да нацыстоўскай Нямеччыны і ўжываюць сапраць НАТО і Захаду гэткую самую рэторыку, якую ўжывалі ў 1940-я гады сталінскія прапангандысты. Кожны замежнік (а расейцы замежнікамі ня лічацца) разглядаецца як патэнцыйны шпіён або як мінімум ідэялягічны дывэрсант. Усе краіны Эўропы разглядаюцца як варожая зграя, што імкнецца паняволіць і зьнішчыць Рэспубліку Беларусь. Складнікам гэтай ксэнафобіі ёсьць культ Вялікай Перамогі, якая ўратавала беларускі народ ад вынішчэньня, а таксама ідэялягізаванае скарыстаньне інфармацыі пра імглісты і таямнічы Плян “Ост”, па якім нібыта рыхтаваўся Галакаўст усходніх славянаў. Цікава адзначыць, што пры ўсёй славе “Беларусі партызанскай”, якую культывавалі ў савецкія часы, Лукашэнка ніколі адмыслова і непасрэдна не спыняўся на беларускіх партызанах у сваіх прамовах ды ўхвалах. Напэўна, факт існаваньня такой беларускай адметнасьці не адпавядае Лукашэнкаву бачаньню гісторыі. І сапраўды, партызанскі рух у Беларусі зьяўляўся беларускім толькі ў сэнсе адміністратыўна-тэрытар’яльным, і падкрэсьленьне ягонай “правінцыйнай” прыроды не працуе на Лукашэнкаву карысьць падчас кантрактаваньняў з Крамлём.

Яшчэ адзін важны чыньнік - максымальнае дыстансаваньне і нават непрыязь да беларускай культуры, беларускай мовы і традыцыяў, нягледзячы на скарыстаньне некаторых элемэнтаў (арнамант, строі, сьвята “Дажынкі” й г.д.). Сярод першых істотных крокаў рэжыму Лукашэнкі было скасаваньне беларускіх нацыянальных сымболяў як Дзяржаўнага сьцягу і Дзяржаўнага гэрбу Беларусі. З таго часу нацыянальныя сымболі ўсяляк ганіліся, ім прыпісвалася нейкая “фашыстоўкая” сутнасьць, выдумляліся байкі кшталту “пад гэтым флагам немцы і паліцаі расстрэльвалі савецкіх людзей”. У сьвятле цудоўнага вяртаньня Нацыянальнага беларускага сьцягу падчас масавых пратэстаў лета-восені 2020 году рэжым Лукашэнкі ўзмоцніў прапаганду супраць Нацыянальнага сьцягу, спрабуючы напоўніцу скарыстаць інсінуацыі, створаныя на падставе таго, што нямецкая акупацыйная адміністрацыя дазволіла выкарыстоўваць беларускі нацыянальны сьцяг гэтаксама. Такім жа чынам нямецкія акупанты дазвалялі выкарыстаньне нацыянальных сьцягоў расейскага, галяндскага, латыскага, украінскага, нарвэскага, літоўскага ды амаль усіх іншых сьцягоў акупаваных краінаў. Але гэта ўсяляк абыходзіцца ўвагай, як і тое, што дзеіўшыя ў Беларусі падчас вайны расейскія вайсковыя і грамадзянскія калябаранцкія структуры карысталіся расейскім трыкалёрам і георгіеўскай стужкай.

Такім чынам, складнікамі Лукашэнкавай ідэалёгіі ёсьць мадыфікаваны расейскі шавінізм, і ксэнафобія ў сфэры нацыянальна-дзяржаўніцкай, і марксыстоўскае бачаньне эканамічных працэсаў.

У які-ж спосаб усё вышэй пазначанае стасуецца да амэрыканскай сытуацыі? Як падзеі ды ідэі ў непаўнавартаснай дзяржаве РБ, што цяпер, дзякуючы 26-гадовай дыктатуры, вырадзілася ў квазі-манархію і ў пратэктарат Расеі, суадносяцца са станам справаў у звыш-дзяржаве і наймагутнай краіне сьвету, Амэрыцы?

Паспрабуем прааналізаваць. Пачатак раскепінаў на бліскучым шчыце амэрыканскай дэмакратыі сягае ў часы прыняцьця законаў пра грамадзянскія правы ў 1964 годзе. Тады прэзыдэнтам ЗША Джонсанам рухалі высакародныя прынцыпы дасягненьня роўнасьці ўсіх амэрыканцаў і пераадоленьне спадчыны прыгнёту і эксплюатацыі чарнаскурых амэрырыканцаў ды іхнага статусу грамадзянаў другога гатунку. Здавалася-б, усё слушна. Аднак заканадаўства, пакладаючыся на “маральную вяршыню” і настроі бальшыні грамадства ў кірунку дасягненьня роўных правоў, абрала мэтады, што не заўсёды стасаваліся з існуючым заканадаўствам і часткова ігнаравалі яго. У той час гэта падавалася слушнай і вартай справай. Адтуль паходзяць заявы пра тое, што “справядлівасьць зьяўляецца вышэйшай мэтай, чым закон і парадак”. Затым прыйшлі часы пратэстаў супраць вайны ў Віетнаме, часы студэнцкага радыкалізму, чорнага сэпаратызму (Black Power) і ўплыву марксыстоўскіх ідэяў у Маоісцкай і Чэ-геварскай гіпастасях.

Галоўным інструмантам прасоўваньня радыкальных ідэяў стала тэза пра расавую справядлівасьць. Ад наданьня роўных правоў перайшлі да ўвядзеньня пазытыўнай дыскрымінацыі, запазычаньня тэзісаў францускіх крытычных тэарэтыкаў, Фуко і Дэрыды, аб адноснасьці ўсіх каштоўнасьцяў і паняцьцяў. Затым падасьпела ідэя пра мультыкультуралізм і фактычную перавагу неэўрапэйскіх культураў і цывілізацыяў над “прагніўшай белай супрэматысцкай” Заходняй цывілізацыяй. У дапамогу ёй была створаная палітыка ідэнтычнасьці, калі групы з пэўнымі фізычнымі (расавымі, полавымі прыкметамі) абвяшчаліся павязанымі аднымі й тымі-ж ідэямі пераадоленьня ўціску, рэальнага і ўяўнага, каб дасгнуць самавызнаньня длы кожнай групы. У выніку замест інтэграцыі грамадства і праклямаванай роўнасьці адбываецца фрагмэнтацыя, трайбалізацыя грамадства, распад на мноства варагуюых плямёнаў. Узьнікаюць новыя прывеліяваныя групы, ствараюцца досыць жорсткія гіерархіі “ахвяраў”. Прадстаўнікі белай расы робяцца вінаватыя ў факце свайго народжаньня і зьвязанымі з гэтым “белымі прывілеямі”. Узьнімаюцца патрабаваньні пра “рэпарацыі” і “барацьбу з белымі прывілеямі”. Па краіне ўлетку 2020 году пракацілася хваля вандалізму супраць помнікаў, што ў той ці іншы спосаб зьвязаныя з ушанаваньнем дасягненьняў Амэрыкі й Заходняй цывілізацыі.

Краіна Амэрыка абвяшчаецца ад пачатку расістоўскай і захопніцкай, а расізм і генацыд абвяшчаюцца яе асноўнымі вызначальнымі рысамі. У школах пачынае выкладацца дэфармаваная гісторыя, што знаходзіць свой апагей у такзваным "Праекце 1619" - прымусовым уводзе ў школьныя праграмы тэзы пра тое, што ад часу зьяўленьня першых цемнаскурых рабоў у Паўночнай Амэрыцы уся далейшая гісторыя паўстаўшых там Злучаных Штатаў Амэрыкі гэта чарада захопаў, паняволеньня і актаў генацыду.

Левардыкальныя ўплывы перш праявіліся ў сфэры вышэйшай адукацыі, адкуль потым зьява распаўсюдзілася на ўсе сэгмэнты грамадскага і палітычнага жыцьця. Носьбітамі гэтай "трасцы" сталі прадстаўнікі марксыстоўскай Франкфурцкай школы, што ўратаваліся ў ЗША ад небясьпекаў ваеннага часу і засталіся жыць там і надалей. Працуючы ў сістэме унівэрсітэцкай адукацыі ЗША і пашыраючы сваю "крытычную тэорыю" - анты-капіталістычныя ідэі й крытыку Заходняй цывілізацыі, Адорно, Маркузэ, Горкгаймэр і шэраг іншых дзеячаў заклалі падваліны для трансфармацыі унівэрсітэтаў у цытадэль леварадыкальнай ідэалёгіі.

З часам радыкалы-студэнты, што сфармавалі ў сабе неакадэмічным шляхам непрыняцьце "капіталістычнага істэблішманту" і "статусу кўо", а потым атрымалі мэтадалягічнае падмацаваньне ў крытычнай ды іншых тэорыях - сталі радыкаламі-выкладчыкамі. Крок за крокам іхныя погляды захоплівалі адну катэдру за другой, адзін унівэрсітэт за другім. З падвучанымі праз іх студэнтамі радыкальныя ідэі паступова ўваходзілі ў мэйнстрым і выціскалі ідэі й пагляды, што ім супярчылі. Пачалося з руху за дэ-сэгрэгацыю, і выглядала слушна. Затым пачаўся рух супраць вайны ў Віетнаме, супраць, як уяўлялася моладзі, мілітарызацыі Амэрыкі. Пазьней узьніклі рух за аднаполыя шлюбы і рух за легалізацыю наркотыкаў. З часам гэтыя апошнія сталі мець усё больш прыхільнікаў, атрымлівалі адну перамогу за другой. Апагеем стала абраньне на пасаду прэзідэнта ЗША грамадскага арганізатара Абамы, ці дакладней - прафэсыйнага левага бузацёра, які зручна аказаўся таксама цемнаскурым сынам амэрыканкі й кенійца. Эўфорыя і захапленьне з факту абраньня "першага чорнага прэзідэнта" прэвентыўна скасавалі любую спробу крытычнага аналізу ідэяў і дзейнасьці Абамы, які згодна з сваім левалібэральным бачаньнем пачаў нацыяналізаваць мэдычнае абслугоўваньне і ліквідаваць аўтаномію прыгарадаў вялікіх гарадоў. Затым пачаўся перасьлед апанэнтаў ягоных "пераменаў" і замірэньне, ці дакладней - капітуляцыя перад нерыяцелямі Амэрыкі, фактычнае саступаньне амэрыканскіх інтарэсаў на карысьць кожнай замежнай сіле.

Прайшло больш за паўстагоддзя, калі пачаў рухацца гэды канвеер прадукаваньня радыкалізму. Не сустракаючы сур'ёзнага супраціву, радыкальныя ідэі сталі сумнай явай сёнешняга дня. Непавага да амэрыканскага сьцягу, пагарда да патрыятызму, адмаўленьне суверэнітэту краіны ў форме абароны яе межаў і яе стратэгічных

інтарэсаў - усё гэта стала характэрнымі рысамі сёнешняга пакаленьня выпускнікоў вышэйшых установаў адукацыі, што сталі ўваходзіць у працоўнае жыцьцё, займаць пасады ў дзяржаўных структурах, журналістыцы, школах і коледжах, дабрачынных фондах, забаўляльнай індустрыі - літаральна ва ўсіх сфэрах жыцьця.

Няведаньне ўласнай гісторыі й адыход ад традыцыяў, адмаўленьне ад падтрымкі каштоўнасьці сваёй адмысловай краіны і абыкавасьць да яе суверэнітэту, адукацыйная сістэма, што стала фабрыкай прамываньня мазгоў, усё гэта гучыць знаёма для нацыянальна настаўленага беларуса ў сёнешняй РБ. І калі беларус можа спазнаць рэпрэсіі, размаўляючы па-беларуску і дэманструючы свае нацыянальныя сымболі, дык амэрыканец можа стаць ахвярай гвалту, выказваючыся ў падтрымку прэзідэнта Трампа або надзеўшы шапку з надпісам "Зробім Амэрыку ізноў вялікай". У першым выпадку, праўда, чалавек зробіцца ахвярай дзейнасьці паліцыі (г.зн. міліцыі ці амону), а ў другім - ахвярай бяздзейнасьці яе, калі паліцыя ўхіляецца ад ангажаваньня ў канфлікты з левамрадыкаламі дзеля боязі пратэстных акцыяў ды кіруючыся загадамі леваліберальных мэраў і губэрнатараў.

Разьвілася "культура скасаваньня" (cancelculture) ў сацыяльных сетках, калі неасьцярожнае або памылковае слова ці выраз выклікаюць "абурэньне" сотняў незнаёмых, але "сацыяльна-абуджаных" (woke) людзей, і каштуюць аўтару, праз ціск на працадаўцаў ці рэклямадаўцаў, працы й кар'еры.

Такім чынам, мажлівасьці грамадзянаў як РБ, так і ЗША ў справе карыстаньня сваімі грамадзянскімі й чалавечымі правамі сталі больш і больш абмежаваныя - хоць, безумойна, узровень несвабоды ў Беларусі непараўнальна большы, а ахоплівае значна болей сфэраў жыцьця. І гэты працэс і там і там не спыняеца, а толькі набірае хуткасьці й маштабу. У выніку масавых акцыяў пратэсту ў РБ улады радыкалізаваліся ў стасаваньні гвалту да пратэстоўцаў. Зьбіцьцё і часам забойствы, вялікія тэрміны зьняволеньня за найменшыя "правіны" кшталту надпісу на асфальце сталі трагічнай рэальнасьцю ў Беларусі. У ЗША, наадварот, пратэстоўцы, бачачы слабасьць і разгубленасьць мэраў і губэрнатараў, радыкалізаваліся ва ўжытку гвалту супраць прадстаўнікоў уладаў - патрабуючы, досыць пасьпяхова, выкананьня сваіх умоваў (Сіэтл, Портланд), і паралізуючы дзейнасьць праваахоўных структураў.

Які вынік можна зрабіць з сёнешняй сытуацыі? Абедзьве разглядаемыя краіны, Беларусь і Амэрыка, не зьяўляюцца свабоднымі ў пляне скарыстаньня права на свабоду выказваньняў. Публічны дыскурс у іх досыць дакладна кантралюецца. У выпадку Беларусі гэта робіцца праз адмысловы цэнтралізаваны дзяржаўны апарат прапаганды і рэпрэсыўныя сілавыя структуры. Стымулам да дзеяньня служыць Лукашэнкава "дзяржаўная ідэалёгія" - антынацыянальная, антыбеларуская сумесь

савецка-расейскага нацыяналізму і марксыстоўскай тэорыі барацьбы клясаў і дзяржаўнай рэгуляцыі эканомікі.

У выпадку ЗША кантроль дыскурсу адбываецца дэцэнтралізавана, але не менш эфэктоўна. Унівэрсітэты звальняюць ці не бяруць на працу прафесараў-кансэрватараў. Медыі не агучваюць ідэі й факты, што супярэчаць левалібэральнай догме. Тое-ж робяць тэле і кінапрадусары, мэдыйныя магнаты, выдаўцы, “прагрэсыўныя” сеціўныя сайты. Да кантролю ў наўпроставай форме цэнзураваньня далучаюцца і ўласьнікі IT-кампаніяў, Твітара, Гугла, Фэйсбуку. Стымулам да дзеяньня ў мэханізме кантраляваньня дыскурсу зьўляецца стасаваньне шэрагу пастулятаў, заснаваных на крытычнай тэорыі й культурніцкім марксізме. Згодна зь імі, праз інструмэнтар у выглядзе расавай ды антыкапіталістычнай дэмагогіі, антыамэрыканскага пазёрства левалібэральныя сілы насаджаюць і навязваюць сваю ідэалёгію і пункт гледжаньня. Усе нязгодныя з гэтым рэпрэсуюцца праз пазбаўленьне пляцформы для выказваньня ды “культуру скасаваньня” - зьнішчэньне кар’еры й будучыні.

Безумоўна, пакуль што ступень жорсткасьці рэпрэсіяў у Беларусі й у Амэрыцы непараўнальна адрозныя. Але калі існуючыя рэпрэсыўныя працэсы як у Беларусі, так і ў Амерыцы не будуць паўстрыманыя, ня выключана што ў нейкі момант часу тая непараўнальная адрознасьць зьнікне, і на яе месца можна будзе паставіць знак роўнасьці.


*Резюме*

**Виталь Зайка Контроль над общественным дискурсом в Беларуси и США: парадоксы и сходства**

***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.66-75, www.sakavik.net )***

В данной статье делается попытка разобраться в сегодняшних процессах, происходящих в Беларуси и США в области контроля над социальным дискурсом. Автор анализирует идеологии, стоящие за властями, контролирующими социальный дискурс в обеих странах. Он приходит к выводу, что обе идеологии имеют много общего и имеют один общий корень. Несмотря на то, что существует огромная разница в интенсивности контроля и наказании для тех, кто не согласен с тактикой контроля, применяемой в настоящее время в Беларуси и США, сегодняшние тенденции указывают на возможность увидеть развитие большего сходства и сближение методов, которые могут привести к потере свободы в сфере публичного дискурса, и это несмотря на различия обществ в современной Беларуси и США.

*Abstract*

**Vital Zajka: Control Over Public Discourse in Belarus and United States: Paradoxes and Similarities**

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.66-75, www.sakavik.net)***

This article tries to understand today's processes taking place in Belarus and USA in the area of control over social discourse. The author analyses ideologies which are behind the powers that control social discourse in both countries. He comes to the conclusion that both ideologies possess much in common and stem from one common root. In spite of the fact that there is a vast difference in the intensity of control and extent of punishment to those who disagree with control tactics being implemented at the present time in Belarus and USA, today's tendencies point to the possibility of seeing the development of greater similarity and coming together of methods which can lead to loss of freedom in the sphere of public discourse, and this in spite of the differences of societies in contemporary Belarus and USA.

**Лявон Карповіч**: **Подзьвіг Юдзіф і… Скарына**

*Аўтар дзеліцца сваім досьведам вывучэньня Бібліі і знаёмства з мастацтвам і філатэліяй метадам паралельнага дасьледаваньня.*

*«Юдзіф, любячы край, дзе калісьці на сьвет нарадзілася, не шкадавала самое сябе, каб адвесьці ад краю айчыннага небясьпеку.”*
*(Францыск Скарына. З прадмовы да “Кнігі Юдзіф”).*

Подзьвіг Юдзіф выклікаў небывалае натхненьне ў жывапісцаў і скульптараў, пісьменьнікаў і паэтаў, кампазытараў і рэжысэраў … Толькі карцін намалёвана вялікімі мастакамі больш за паўсотні. Што казаць, калі захавалася больш за дзясятак карцін Юдзіф, створаных толькі Лукасам Кранахам Старэйшым (1472-1553) нямецкім жывапісцам і графікам эпохі Адраджэньня.




*Юдзіф з галавою Алаферна. 1530 г. Лукас Кранах Старэйшы (1472-1553).*
*Музэй Вены, Аўстрыя. Карт максімум пошты Парагваю, выдадзены ў 1972 годзе*

Можна падумаць, што Юдзіф прынесла галаву Алаферна прама ў майстэрню Кранаха! Так дэталёва яна вымаляваная… І на гэтым фоне непарушны твар

прыгожай маладой жанчыны ў раскошным адзеньні, выпісаным вельмі падрабязна. На карцінах Кранаха намаляваная Юдзіф Пераможца. Яе твар адлюстроўвае прыгажосьць і рашучасьць, якія дапамаглі ёй зьдзейсьніць місію па выратаваньні народа Вецілуі ад заваёвы неперាможнай арміяй Алаферна.

Чаму Юдзіф выклікала такую ўвагу творцаў? Подзьвіг Юдзіф апісаны ў старазапаветнай Біблейскай Кнізе Юдзіф. Галоўны царскі военачальнік Алаферн, атрымаўшы загад свайго гаспадара, рушыў з вялікай арміяй да Юдэі. Першым горадам на шляху заваёўнікаў была Вецілуя. Варожае войска абклала горад з усіх бакоў і захапіла крыніцу, з якой бралі ваду жыхары горада. Прайшло крыху больш за месяц, і запасы вады ў горадзе скончыліся. Змардаваныя гараджане сталі патрабаваць здаць горад Алаферну.З цяжкасьцю начальнік горада Озія ўпрасіў іх пацярпець яшчэ пяць дзён і пакляўся, што калі не прыйдзе дапамога, ён выканае іх патрабаваньне.

У Вецілуі жыла маладая і багатая ўдава Юдзіф. Юдзіф славілася сваёй мудрасьцю, шанаваньнем Бога і яе вельмі паважалі. Даведаўшыся аб маючай адбыцца здачы горада ворагам, яна зьвярнулася дагарадзкіх старэйшын, дакарала іх у маладушнасьці і ўзяла зь іх абяцаньнене перашкаджаць ёй у выкананьні задуманай справы. Тыя адказалі: ідзі зь мірам, і Гасподзь Бог перад табою на помсту ворагам нашым. Юдзіф моліцца Богу, просіць яго дапамагчы ажыцьцявіць сваю задуму, мыецца, умашчаецца пахошчамі, апранае сьвяточную сукенку - упрыгожвае сябе, “каб увесьці ў зман вочы мужчын, якія ўбачаць яе" (Юдзіф.10:4).




*Юдзіф з галавою Алаферна. 1901 г. Густаў Клімт (1862-1918).*
*Галерэя Бельведэр, Вена. Картмаксімум пошты Аўстрыі, выдадзены ў 2003 годзе*

Такой убачыў прыгажосьцьЮдзіф Аўстрыйскі мастак Густаў Клімт. Не гледзячы на старажытнасьць сюжэту, яго Юдзіф – жанчына пачатку XX стагодзьдзя. Доўгая тонкая шыя ўпрыгожана высокім залатым кальe-каўняром, візуальна адлучаюць

галаву Юдзіфі ад яе раскошнага белага цела. Дзякуючы залатому ўпрыгожваньню і фону вобраз Юдзіф выглядае азораным незямным зьзяньнем.
Юдзіф ў суправаджэньні служанкі, якая несла ежу і віно, адправілася да варожых пастоў. Паставым сказала, што яна габрэйка, бяжыць з асуджанага на гібель горада і папрасіла адвесьці яе да галоўнага военачальніка, якому яна скажа, як хутка і лёгка перамагчыгабрэяў. Воіны павялі Юдзіф па лягеры і ўсіх дзівіла яе прыгажосьць. Юдзіф паведаміла Алаферну, што абложаныя, зьнемагаючы ад голаду і смагі, вырашылі харчавацца ежай, якую габрэям Бог забараніў, і чакаюць толькі дазволу зь Ерусаліма. Як толькі дазвол будзе атрыманы і яны накінуцца на забароненую ежу, Бог аддасьць горад на вынішчэньне асырыйцам, якія пры гэтым не страцяць ніводнага ваяра. Юдзіф папрасіла ў Алаферна дазволу застацца ў Асырыйскім лягеры і па начах выходзіць у даліну маліцца пакуль Бог не адкрые ёй, што час надышоў. Гаворка яе спадабалася Алаферну і ўсяму яго атачэньню.

Так прайшло тры дні. Юдзіф сілкавалася прынесенай з сабой ежай, а кожную ноч у суправаджэньні служанкі на час пакідала лягер. На чацьвёрты дзень Алаферн зладзіў баль і паслаў свайго кіраўніка запрасіць на яго Юдзіф, так як з першага імгненьня быў асьлеплены яе прыгажосьцю. Юдзіф надзела самую прыгожую вопратку і “усё жаночае ўпрыгожваньне” (Юдзіф 12:15) і зьявілася перад Алафернам ва ўсім бляску. Алаферн, любуючыся ёю, непрыкметна для сябе паглынаў адзін келіх віна за другім. Нарэшце ўсе запрошаныя і слугі разышліся і засталіся толькі Юдзіф з Алафернам. Той быў да таго п’яны, што адразу паваліўся на ложак і заснуў.

Юдзіф зьвяртаецца да Бога з малітвай: “Госпадзе, Божа ўсякай сілы! паглядзі ў гэту гадзіну на справы рук маіх да ўзвышэньня Ерусаліма, бо цяпер час абараніць спадчыну Тваю і выканаць мой намер, уразіць ворагаў, якія паўсталі на нас” (Юдзіф 13:4-5).

Джорджа Вазары фіксуе на карціне наступны верш Кнігі Юдзіф: “Потым, падышоўшы да слупка ложка, што стаяў у галовах у Алаферн, яна зьняла зь яго меч яго і, наблізіўшыся да ложка, схапіла валасы галавы яго і сказала: Госпадзе Божа Ізраіля! умацуй мяне ў гэты дзень, і з усёй сілы двойчы ўдарыла па шыі Алаферна і зьнялазь яго галаву” (Юдзіф 13:6-8).

Меч занесены для ўдару. Лёс Алаферна вырашаны.




*Джорджа Вазары (1511 — 1574). Юдзіф адсякае галаву Алаферну (верхняя левая марка). Мастацкі музэйСэнт-Луіса, ЗША. Малы марачны ліст пошты Саламонавых Выспаў, выдадзены ў 2017 годзе*

Калі ў Кранаха, як і ў іншых яго сучасьнікаў, моманту забіцьця на карцінах не было, то праз 100 гадоў пасьля яго Караваджа апісаў саму расправу. Зусім нясьмелая і нерашучая Юдзіф адхіляецца ад неўласьцівага для яе дзейства. Нахмураныя бровы, далікатны, але рашучы твар… Кропля гідлівасьці. Алаферн сьцякае крывёй, паміраючы, дарэмна спрабуе супраціўляцца. Юдзіф у Караваджа - сымбаль пераможцы над злом, яна нават не прыкладвае асаблівага намаганьні для забойства, ёй дапамагае Бог.




*Караваджа Мікеланджэла (1573-1610). Юдзіф, забівае Алаферна. 1598. Палацо Барберыні, Рым. Блёк пошты Сэнт-Вінсэнт і Грэнадыны (2015)*

Валянцен дэ Булонь намаляваў сваю карціну прыкладна праз 30 гадоў пасьля Караваджа. Яна больш спакойная, менш крыві і больш дзелавітасьці…




*Валянцен дэ Булонь (1591 - 1632). Юдзіф і Алаферн. 1628. Нацыянальны музэй выяўленчых мастацтваў, Ла Валета, Мальта. Марка пошты Мальты (1962)*

“Жывы Гасподзь, які захаваў мяне ў шляху, якім я ішла! бо аблічча Маё прывабіла Алаферна на пагібель яго, але ён не зрабіў са мною кепскага і ганебнага граху” (Юдзіф 13:16) – кажа Юдзіф. Але Тон Крал напэўна ёй ня верыць…




*Юдзіф і Алаферн. 1934. Тон Крал (Tone Kralj) (1900 -1975).*
*Галерэя Божыдара Якача - каштанаў на Крке. Марка пошты Славеніі (2000)*

Тыцыян прысьвяціў Юдзіф дзьве працы. Паміж гэтымі шэдэўрамі 55 гадоў. На першай карціне Юдзіф юная і трапяткая, падобная на Юдзіф Джарджоне. На другой – больш сталая і спрактыкаваная.




*Юдзіф з галавою Алаферна. 1570. Тыцыян (1480/85-1576). Інстытут мастацтваў, Дэтройт. Марка пошты Даменікі, выдадзеная ў 1988 годзе*

“Яна выйшла і аддала сваёй служанцы галаву Алаферна, а гэтая паклала яе ў мяшок з ежай, і абедзьве разам выйшлі, па звычаю свайму, на малітву. Прайшоўшы табар, яны абышлі вакол цясьніну, падняліся на гару Ветылуі і пайшлі да брамы яе” (Юдзіф 13:9-10). Гісторыя Алаферна падаецца тут як тое, што Лукас Кранах бачыў сам. У куце яго аўтапартрэт. Ён паказвае пальцам на стол, дэманструючы сваю прысутнасьць. На карціне, акрамя галоўнай падзеі ёсьць яшчэ ілюстрацыя сьвету прыдворнага жыцьця, турніраў, баляў, якія Кранах застаў пры саксонскім двары.




*Юдзіф абезгалоўлівае Алаферна. 1531. Фрагмэнт. Лукас Кранах Старэйшы і майстэрня (Ганс Кранах?). Музэй замка Фрыдэнштайн. Марка пошты ГрэнадыКаррыаку і Петыт Марцінікі, выдадзеная ў 2003 годзе*

Юдзіф, маладая сьветлавалосая жанчына, апранутая па-венецыянску ў XVI стагодзьдзі, якая толькі што забіла Алаферна і зьбіраецца аддаць галаву сваёй пакаёўцы, паўстае перад гледачамі на карціне Веранезе. Абедзьве выйшлі з шатра, накіраваўшыся да выхаду з лягера. Ніхто іх не затрымліваў.




*Юдзіф з галавою Алаферна. 1580. Паола Веранезе (1528–1588). Музэй гісторыі мастацтваў, Вена. Марка пошты Манамы, выдадзеная ў 1972 годзе*




*Юдзіф і Алаферн. 1508 г. Мікельанжэла Буанароці (1475 — 1564). Фрэска Сыкстынскай капэлы (фрагмэнт). Марка пошты Грэнады, выдадзеная з нагоды 500-годзьдзя з дня нараджэньняМікеланджэлаў 1975 годзе*

На фрэсцы Юдзіф і служанка, якая трымае на падносе адсечаную галаву. Зьлева за дзьвярымасьпіць стражнік, абняўшы шчыт, а справа ў прыцемку ложак з целам Алаферна ў агоніі.

Менавіта момант вяртаньня дадому адлюстраваў Сандра Батычэлі. Дзяўчына рашуча і хутка рухаецца да роднага горада. Вочы і выраз твару Юдзіф задуменны і сумны. За ёй, ледзь пасьпяваючы, ідзе служанка. На галаве ў яе кошык з жахлівым трафеем – галавой забітага палкаводца. Юдзіф – пераможца, але Батычэлі адлюстраваў яе зусім не гераіняй без страху і папроку. Гэта тонкая, далікатная дзяўчына, валасы і сукенка якой разьвявае ветрык. Здаецца, можна адчуць, якімі лёгкімі, бязважкімі крокамі нясецца Юдзіф, каб перадаць гараджанам радасную вестку. У яе руцэ далікатная, як яна сама, аліўкавая галінка, сымбаль перамогі.




*Вяртаньне Юдзіф у Вецілую. 1470 г.Сандра Батычэлі (1445-1510). Галерэя Уфіцы, Флярэнцыя, Італія. Марка пошты СаудаўскайАравіі, выдадзеная ў 1968 годзе*

Яны падышлі да гарадзкой брамы. На голас Юдзіфі зьбегліся ўсе гараджане, хоць была глыбокая ноч. “Яна ж сказала ім гучным голасам: хваліце Госпада, хваліце, хваліце Госпада, што Ён не выдаліў міласьці Сваёй ад дома Ізраілевага, але ў гэтую ноч скрышыў ворагаў нашых маёю рукою. і, выняўшы галаву з мяшка, паказала яе і сказала ім: вось галава Алаферна, правадыра Асырыйскага войска” (Юдзіф.13:15-16). Юдзіф у Алоры чароўна прыгожая. Пад пышнай вопраткай адгадваецца крохкае цела вельмі маладой жанчыны, якая адважылася на гераічны ўчынак. Адсечаная цёмная галава вылучаецца на фоне парчовага ўбору Юдзіф. Твар служанкі, поўны зьдзіўленьня і пашаны.




*Юдзіф з галавой Алаферна. 1613 г. Крыштафана Алоры (1577–1621). Галерэя палаца Піцьці, Флярэнцыя. Марка пошты Емэну, выдадзеная ў 1968 годзе*

Незвычайная і прыгожая Юдзіф Джарджоне. Юдзіф выканала сваю місію, яна спакойная, пад нагой – галава зрынутага ворага. Назаўтра па загадзе Юдзіф галаву Алаферна павесілі на гарадзкой сьцяне. Затым расчыніліся гарадзкія вароты, хрыпла зараўлі баявыя трубы і з горада насустрач ворагу выйшла жменька абаронцаў. Падначаленыя Алаферна адправіліся за сваім военачальнікам, і, знайшоўшы яго забітым, прыйшлі ў жах. Асырыйцы кінуліся ва ўцёкі і былі разьбітыя войскамі Ізраільцян. Юдзіф так і засталася ў родным горадзе. Захоўваючы вернасьць свайму памерламу мужу, яна больш не выйшла замуж, хоць многія сваталіся да яе. Памерла яна, пражыўшы 105 гадоў, і ўся краіна аплаквала яе скон сем дзён. Пахавалі Юдзіф побач з мужам.



*Юдзіф з галавою Алаферна. 1504 г. Джарджоне (1478 —1510). Эрмітаж, Санкт-Пецярбург. Картмаксімум пошты СССР, выдадзены ў 1975 годзе*

Кніга Юдзіфі не ўваходзіць у склад кананічных, але Францыск Скарына ўключыў яе ў сваё пражскае выданьне (“Книги Иудифъ вдовици”). Марачны ліст з відарысамі 30 гравюр Белпошта не прыняла да выданьня і ён быў выдадзены ў выглядзе налепак Міжнародным грамадзкім аб’яднаньнем “Згуртаваньне Беларусаў сьвету Бацькаўшчына” і Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк).

*“Як зьвяры, што блукаюць у пушчы, ад нараджэньня ведаюць сховы свае, як птушкі, што лётаюць у паветры, помняць гнёзды свае, як рыбы, што плаваюць у моры і ў рэках, чуюць віры свае і як пчолы бароняць вульлі свае – гэтак і людзі да месца, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, вялікую ласку маюць”*– гэты знакаміты

ўрывак з прадмовы Францыска Скарыны да кнігі “Юдзіф” цяпер можна прачытаць і пачуць на 70 мовах народаў сьвету.




*Иудифъ вдовица отсече главу Олферну воеводе. Гравюра з Тытульнага ліста кнігі “Юдзіф”. 9 ліпеня 1519 г. Праект маркі з марачнага ліста, падрыхтаванага да 500-годзьдзя перакладу Бібліі Скарынам і 500-годзьдзя Беларускага кнігадрукаваньня ў 2017 годзе*




*Марачны ліст з відарысамі 30 гравюр Белпошта не прыняла да выданьня і ён быў выдадзены ў выглядзе налепак Міжнародным грамадзкім аб’яднаньнем “Згуртаваньне Беларусаў сьвету Бацькаўшчына” і Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк). 525 гадоў з дня нараджэньня Францыска Скарыны. Блёк пошты Беларусі, выдадзены ў 2015 годзе.*

*Францыск Скарына трымае ў руках кнігу “Юдзіф”. Побач надрукаваная цытата з яго прадмовы да гэтага выданьня.*

*Резюме*

**Леонид Карпович: Подпиг Юдифи ... и Скорина**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.76-87, www.sakavik.net)***

За прошедшие столетия многие художники, скульпторы, композиторы и писатели проявили особый интерес к героине, еврейке Джудит, как это описано в апокрифической книге Ветхого Завета, известной как Книга Юдифи. Л.Карпович отмечает, что белорусский публицист Францишак Скорина включил перевод Книги Юдифи в свой опубликованный перевод Библии. История Юдифи - это история храбрости в то время, когда израильтянам угрожала ассирийская армия. Полагаясь на Бога, она маскируется под доносчика, и ей разрешают войти в компанию ассирийского генерала Холофема. Её красота заставляет его поверить ей и провести с ней время. Она помогает ему опьянеть, и в конце концов он засыпает. Затем она отрубает ему голову и относит ее в мешке израильтянам. Её храбрость удерживает ассирийцев от нападения. Этот великий подвиг вдохновил многих художников нарисовать ее, и Л.Карпович включает несколько картин классических художников, изображающих Юдифь с головой Холофема, с краткими комментариями о том, как она изображена в каждом примере на марках. На обложке переведенной Скориной Книги Юдифи изображена гравюра художника с изображением Юдифи с головой Холофема. В своем предисловии к Книге Юдифи в беларуском переводе Скорина утверждает, что, как животные, птицы и насекомые помещены в их естественную среду обитания, так и Бог помещает каждую группу людей в их соответствующие места на земле, чтобы они жили и, таким образом, переживали Его благословение, оставаясь на закрепленных за ними территориях. Эти слова Скорины было переведены и использованы на 70 языках.

*Abstract*

**Liavon Karpovich: “The Feat of Judith and Skaryna”**
***(web-magazine “Culture. Nation”, issue 26, December 2020, p.76-87, www.sakavik.net)***

Over the past centuries many artists, sculptors, composers and writers have shown a special interest in the heroine, Jewess Judith, as described in theOld Testament apocryphal book known as The Book of Judith. L.Karpovich notes that Fraciszak Skaryna, the Belarusian publicist, included the translation of the Book of Judith as a part of his published translation of the Bible. Judith’s story is one of bravery at a time when the Israelites were being threatened by the Assyrian army. With trust in God she disguises herself as an informer and is allowed to enter the company of the Assyrian

General Holophemes. Her beauty causes him to believe her and spend time with her. She helps to get him intoxicated and he eventually falls asleep. She then cuts off his head and takes it back in a sack to the Israelites. Her brave act staves off the Assyrians from attack. This great feat inspired many artists to paint her and L.Karpovich includes several classical artists' paintings of Judith with Holophemes' head, briefly commenting of how she is depicted in each example. The cover of Skaryna's translated Book of Judith shows an artist's engraving of Judith with Holophemes' head. In his introduction to the Book of Judith in Belarusian translation Skaryna states that as animals, birds and insects are placed in their natural environments, so God places each people group in their respective places on earth to live and thus experience His blessing as they remain in their assigned territories. Skaryna's statement has been translated and used in 70 languages.

*Краязнаўства*

**Ігар Пракаповіч: Таямніцы Казлоўшчынскай капліцы**

*Артыкул прысвечаны даследаваньню капліцы-пахавальні роду князёў Друцкіх-Любецкіх, якая знаходзіца ў вёсцы Казлоўшчына (Пастаўскага раёна) на мясцовых каталіцкіх могілках. Яна пабудавана ў 1842-43 гадах з бутавага каменя. У падлозе цэнтральнай часткі капліцы ёсць закрыты люк, які вядзе ў крыпту цокальнага паверху, у якой налічваецца 12 пахавальных паглыбленняў. На чатырох з іх маюцца пліты з эпітафіямі, на якіх часткова расчытваюцца прозвішчы і даты жыцця і смерці: Канстанцыі Святополк-Мірскай (1794-1865), Адэлаіды Святаполк-Мірскай (княжна Друцкая-Любецкая, 1816-1890), князя Ігнація Любецкага (1809- …), Марыі са Сніткаў княжны Друцкай-Любецкай (1810-1842). У савецкія часы капліца была закінута і разрабавана. Сёння святыня адрамантавана і дзейнічае як невялікі касцёл. Капліца знаходзіцца на вясковых могілках, дзе ёсць яшчэ пахаванні, звязаныя з родам Друцкіх-Любецкіх (у прыватнасці Рэчыцкі). Аўтар правёў даследаваньне гісторыі жыцьця людзей, пахаваных у капліцы.*

*Аўтар шукае спонсараў для выданьня кнігі "Друцкія-Любецкія. Славуты род на Пастаўшчыне" (аб'ёмам каля 120-130 старонак), дзе ўзгадваюцца наступныя роды: Друцкія-Любецкія, Тышкевічы, Власоўскія, Святаполк-Мірскія, Ленскія і некаторыя іншыя.*

У Казлоўшчыне на мясцовых каталіцкіх могілках знаходзіцца адметная капліца-пахавальня роду Друцкіх-Любецкіх, якая была ўзведзена з ініцыятывы ўласніка былой сядзібы “Казлоўск” Ігнацыя Ануфрыевіча. Пабудавана яна ў 1842-43 гадах з бутавага каменя. На ёй захаваўся надпіс: “Swiatynia Grobowa przez IGNACEGO XIECIA DRUCKIEGO LUBECKIEGO Roku 1843 pazdiernika 7 Dnia wymurowana a w rok w teyze dacie na Obrzadek Rzymsko-Katolicki Poswiecona” (Святыня Пахавальная ўзведзена рупнасцю Ігнація князя Друцкага Любецкага 7 кастрычніка 1843 года і тады ж асвечана па абрадзе Рымска-Каталіцкім).

Выклікае захапленне характар кладкі: рознакаляровыя валуны абчасаныя і шчыльна падагнаныя нібыта ў мазаіцы. Пабудова мае прамавугольную форму, перакрыта двухсхільным дахам. Над фасадным трохкутным франтонам узвышаецца невялічкая сігнатурка. Бутавую муроўку сцен аздабляюць атынкаваныя і пабеленыя архітэктурныя элементы вакол уваходу, каля вокнаў і карнізаў.

У капліцы маюцца два паверхі. У верхнім праводзяцца службы, у ніжнім, цокальным, знаходзяцца пахавальныя нішы, якія закрытыя плітамі з надпісамі, частка з якіх пашкоджана. Верхняе памяшканне мае ў плане форму прамавугольніка, выцягнутага з захаду на ўсход. У алтарнай частцы (заходняя сцяна) размяшчаліся абразы, над уваходам меліся невялікія хоры з пашыранай пляцоўкай для размяшчэння невялікага аргана або фісгармоніі. Сіметрычна з правага і левага бакоў былі ўладкаваны па два акны з рамамі ў выглядзе каталіцкіх крыжоў. У левым прыалтарным куце захаваліся дзве шыльды часоў Друцкіх-Любецкіхі і іх радні. На адной з іх засведчана, што Вацлаў Зяліньскі, біскуп дыяцэзіі Віленскай, 6 верасня 1851 года ў гэтай святыні месу цэлебраваў і 1465 асоб біжмаваў. Другі надпіс, пазнейшы, прысвечаны памяці Антонія Сямашкі з Ляхаўшчыны, войта Казлоўшчынскай гміны ў 1923-34 гадах: “Antoni Siemaszko 1881-1940 z Lachowszczyzny woit gminy Kozlowskiej 1923-1934 zginał wiezieniu czesc jego pamieci o modlitwe prosi rodzina”.

У падлозе цэнтральнай часткі капліцы ёсць закрыты люк, які вядзе ў крыпту цокальнага паверху. Раней, магчыма, тут мелася лесвіца, аднак цяпер яе няма. Там, у падзямеллі, маецца шэраг таямніц, некаторыя з якіх да цяперашняга часу не расшыфраваны.

Памяшканне крыпты ўяўляе сабой арачнае сутарэнне з двума радамі пахавальных ніш у сценах. Унутры яно вымуравана чырвонай цэглай і атынкавана. У асобным месцах тынкоўка адвалілася ад вільгаці або была адбіта людзьмі. Усяго ў крыпце налічваецца 12 пахавальных паглыбленняў, частка якіх ад пачатку былі пустымі. Чаму дванаццаць? Выпадковая колькасць, якая залежыць ад памераў капліцы, ці ўсё ж капліцу выбудавалі адпаведна велічыні крыпты? Верагодна, асновай стала плошча, якую павінны былі заняць дванаццаць пахавальных ніш. А лік адпавядае колькасці апосталаў Ісуса Хрыста. Да таго ж, можна палічыць, што ў крыпце маглі атрымаць свой вечны спачын прадстаўнікі трох-чатырох пакаленняў уласнікаў Казлоўшчыны. Гэта значыць, што ўзводзячы капліцу, Ігнацій Друцкі-Любецкі меў надзею, што яго нашчадкі будуць валодаць маёнткам як мінімум да сярэдзіны XX стагоддзя. Аднак, вышла далёка не так, як планавалася.

Падобна на тое, што толькі ў чатырох з іх знаходзіліся труны з набожчыкамі, бо маюцца пліты з эпітафіямі, на якіх часткова расчытваюцца прозвішчы і даты жыцця і смерці: 1. “Тут спачывае цела светлай памяці Канстанцыі з Валасоўскіх Святополк-Мірскай, нар. 1794 г. кастрычніка 24, пам. 1865 г. верасня 17. Prosi o Zdrowas Maryia”; 2. “Адэлаіда Святаполк-Мірская княжна Друцкая-Любецкая заснула ў БОГУ …марца …. Спакой духу”; 3. “Гроб (магіла) князя Ігнація Любецкага нар 9 мая 1809 года …..”; 4. “Гроб (магіла) Марыі са Сніткаў княжны Друцкай-Любецкай нар. у годзе 1810 чэрвеня 13, пам…..1842 снежня 7”.

Паспрабуем разабрацца, чые целы спачываюць у крыпце Казлоўшчынскай капліцы. Па-першае, відавочна, што тут знаходзіцца магіла ўласніка тутэйшага маёнтка Ігнацiя Станіслава Юзафа Ануфрыевіча Друцкага-Любецкага. Хоць дата смерці на пліце не чытаецца, але з іншых крыніц вядома, што памёр ён у 1861 годзе ва ўзросце 52 гадоў. Па-другое, можна дакладна сцвярджаць, што побач з князем пахавана яго жонка Адэлаіда з роду Святаполк-Мірскіх гербу “Бялыня” (1816–1890), якая больш, чым на трыццаць гадоў перажыла мужа.

Складаней вызначыцца з двумя іншымі пахаваннямі. Вывучэнне радаводаў Друцкіх-Любецкіх і Святаполк-Мірскіх дазволіла вызначыць, што Канстанцыя з Власоўскіх – гэта маці Адэлаіды і, адпаведна, цешча Ігнацiя Ануфрыевіча. У сувязі з гэтым адразу ўзнікае пытанне, а дзе ж пахаваны муж Канстанцыі? Чаму яны не разам? Адказу на гэтыя пытанні пакуль што няма.

Але найбольш загадкавай асобай у гэтай крыпце з’яўляецца Марыя са Сніткаў княжна Друцкая-Любецкая. Адразу заўважым некалькі акалічнасцяў, якія ўзмацняюць таямнічасць гэтай жанчыны: памерла яна маладой, мела ўсяго 32 гады; яна была першай пахаванай у гэтай капліцы; дата яе смерці супадае з часам узвядзення капліцы; магілы мужа ў крыпце няма. Ствараецца ўражанне, што і сама капліца было ўзведзена ў першую чаргу спецыяльна для яе. Што ж гэта за асоба? У радаводзе пастаўскай галіны Друцкіх-Любецкіх такой жанчыны няма. Прозвішча Снітка сярод уласнікаў маёнткаў на Пастаўшчыне таксама адсутнічае. Значыць, яна не тутэйшая, з нейкай іншай галіны Друцкіх-Любецкіх, верагодна, з Новага Поля, што каля Радашковічаў. На гэта падказвае цікавая легенда, якую падала ў артыкуле “Сядзіба па суседству з Чыкага і апальная нявеста” у газеце “Прысталічча” (21.01.2018) С.Вашкевіч: *“Захаваліся і іншыя гісторыі пра род Друцкіх-Любецкіх. Адной з іх падзялілася падчарка мовазнаўцы Браніслава Тарашкевіча і траюрадная пляменніца выдаўца першай беларускамоўнай газеты Аляксандра Уласава Ірына Ніжанкоўская з роду Снітак. Яе дзед – Андрэй Снітка, знакаміты беларускі гісторык і археолаг.*

*Спадарыня Ніжанкоўская ўзгадала амаль шэкспіраўскую сямейную легенду. Князь з Друцкіх-Любецкіх пакахаў дзяўчыну са Снітак, але княгіня-маці адразу дала зразумець, што шлюбу не дапусціць. Закаханыя пакутавалі, працягвалі таемна сустракацца і ніяк не згаджаліся забыць адно аднаго. І праз гады іх каханне не згасла, таму ўрэшце мaлады атрымаў бацькоўскі дазвол. Адбываецца вяселле, сужэнцы строяць планы на будучыню, аднак раптам жанчына памірае пры родах…”.*

Зразумела, што ў легендзе згадваецца менавіта тая Марыя княжна Друцкая-Любецкая, якая спачывае ў Казлоўшчынскай капліцы. Але чаму яна апынулася тут?

Дзе яе каханы? Што здарылася з іх каханнем і імі самімі? На гэтыя пытанні пакуль што няма адказаў. А інтрыга і сюжэт сапраўды вартыя шэкспіраўскай драмы.

У савецкія часы капліца была закінута, часткова пашкоджана і разрабавана. Намаганнямі ксяндзоў Уладыслава Завальнюка і Юозаса Булькі, мясцовых вернікаў святыня была адрамантавана і цяпер дзейнічае як невялікі касцёл пад тытулам святога апостала Пятра. У крыпце рамонт не праводзіўся, яна знаходзіцца ў паўразбураным стане.

Ад поўнага знішчэння капліцу ўратавала тое, што занаходзіцца яна на вясковых могілках, якія з XIX стагоддзя маюць абгародку. Ніжняя частка агароджы вымуравана бутавым каменем, на адным з якіх захавалася дата будаўніцтва “R 1852”.

На могільніку маецца шэраг пахаванняў, якія звязаны з родам Друцкіх-Любецкіх. І таксама таямнічай падаецца надпіс на адным з помнікаў: “Augustinowe Rzeczyckiemu zm. 26 marca 1903 r. W dowod pamieci długoletniej i wiernej służby. Od księcia W. Druckiego-Lubeckiego” (Аўгустыну Рэчыцкаму, памерламу 26 сакавіка 1903 года. У знак памяці за шматгадовую і верную службу. Ад князя У. Друцкага-Любецкага). Нешта не даводзілася пакуль сустракаць пахаванняў служылых людзей, на каторых у эпітафіі была б запісана падзякай ад гаспадара ды яшчэ і князя. Чым адметны быў гэты Аўгустын, што яго так ушанаваў Друцкі-Любецкі?

Яшчэ адна таямніца вынікае з цікавага запісу ў метрычнай кнізе Лучайскага касцёла за 1873 год, які датычыцца капліцы Друцкіх-Любецкіх у Казлоўшчыне: *“27 сентября 1873 года в Козловской частной домашней каплице ксендз Абдон Андржейкович, викарный Лучайского костела, на основании диспенсации, данной местным Эпархиальным Начальством, освобождающей от всех оглашений, зарегистрировал брак благородных Гилярия Ленского (юношу 37 лет) с княжною Мариею Констанциею Друцкою-Любецкою (девицей 19 лет), обоих из г. Вильны прихожан Св. Иановского Р.-К. Костела.*

*Родители жениха: сын благородных Александра и Марии, урожденной Лебедзинской, Ленских. Родители невесты: дочь Игнатия и Аделаиды, урожденной Мирских, Друцких-Любецких. Свидетели: князь В. Друцкий-Любецкий, дворянин Павел Карлович Рауэ и многие другие, при том находящиеся.”*

Гэты запіс сведчыць пра тое, што ў Казлоўшчынскай капліцы быў таемна замацаваны шлюб Марыі, сястры Уладзіміра Друцкага-Любецкага, з Гілярыем Ленскім. Узнікае пытанне: чаму ня ў Віленскім касцёле, а “на правінцыі”, у “хатняй” радавой капліцы? Вельмі верагодна, што такім было жаданне брата маладой, князя Уладзіміра, які на той час, імаверна ўжо перайшоў або збіраўся

пераходзіць у праваслаўе і таму не жадаў афішаваць каталіцкае веравызнанне роднай сястры і швагры. Гэта магло паўплываць на наступствы яго службовай кар’еры пры расійскім імператарскім двары. Ці, можа, на гэта былі іншыя прычыны?










<u>*Резюме*</u>

**Игорь Прокопович: Тайны часовни в Козловщине**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.88-96, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

Автор описывает часовню-усыпальницу князей Друцких-Любецких, которая находится в деревне Козловщина (Поставский район) на местном католическом кладбище. Она был построена в 1842-43 годах из бутового камня. В полу центральной части часовни имеется закрытый люк, ведущий в склеп первого этажа, в котором есть 12 погребальных углублений. На четырех из них есть таблички с

эпитафиями, на которых частично можно прочитать фамилии и даты жизни и смерти: Констанция Святополк-Мирская (1794-1865), Аделаида Святополк-Мирская (княгиня Друцкая-Любецкая, 1816-1890), князь Игнатий Любецкий (1809-...), Мария из рода Снитки, княгиня Друцкая-Любецкая (1810-1842). В советское время часовня была заброшена и разграблена. Сегодня святыня отреставрирована и действует как небольшая церковь. Часовня находится на сельском кладбище, где до сих пор сохранились захоронения, связанные с семьей Друцких-Любецких (в частности, Речица). Автор провел исследование историй жизни людей, похороненных в часовне. *Автор ищет спонсоров для издания книги «Друцкие-Любецкие. Знаменитая семья на Поставщине» (около 120-130 страниц), в которой упоминаются следующие роды: Друцкие-Любецкие, Тышкевичи, Власовские, Святополк-Мирские, Ленские и некоторые другие.*

*Abstract*

**Igar Prakapovich: Secrets of the Kazloushchyna Chapel**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.88-96, www.sakavik.net)***

The author describes the chapel-tomb of the family of princes Drutski-Lubetski, which is located in the village of Kazloushchyna (Pastavy district) in the local Catholic cemetery. It was built in 1842-43 of rubble stone. In the floor of the central part of the chapel there is a closed hatch that leads to the crypt of the ground floor, which has 12 burial pits. On four of them there are plates with epitaphs, on which the surnames and dates of life and death are partially readable: Constance Sviatopolk-Mirskaya (1794-1865), Adelaide Sviatopolk-Mirskaya (Princess Drutskaya-Lubetskaya), Prince Ignatius Lubetsky (1809 - …), Mary of Snitki, Princess of Drutskaja-Lubetskaja (1810-1842). In Soviet times the chapel was abandoned and looted. Today the shrine has been renovated and operates as a small church. There are other burials in the cemetery associated with the Drutsky-Lubetsky family (in particular Rechitski). The author conducted a study of the life stories of the people buried in the chapel.
*The author is looking for sponsors for the publication of the book "Drutskija-Lyubetskija. The famous family in Pastavy region" (about 120-130 pages) which mentions the following genera: Drutskija-Lyubetskija, Tyshkevichy, Vlasovskija, Sviatopolk-Mirskija, Lenskija and some others.*

**Ігар Пракаповіч: НАЎРЫ**

У паўднёва-ўсходняй частцы Мядзельскага раёна знаходзіцца невялікая вёска Наўры. Мясціны вакол яе маляўнічыя і таямнічыя. З усходняга боку раскінуўся даволі вялікі лясны масіў, з заходняга – шырокая лагчына з поплавам ракі Вузлянкі. На ўскрайку вёскі – загадкавае Наўранскае возера.

Які сэнс тоіць у сабе назва гэтага паселішча? Адказаць на гэта пытанне складана, бо вывесці паходжанне наймення з моў народаў, якія жылі на Мядзельшчыне немагчыма. Застаецца далучыцца да думкі некаторых даследчыкаў, што Наўры – гэта назва-этнонім і звязана яна са старажытным племем неўраў. Узнікае натуральнае пытане: што гэта быў за народ і якім чынам ён апынуўся ў нашых краях?

Пра неўраў вядома нямнога. Упершыню пра іх згадвае вядомы гісторык старажытнай Грэцыі Герадот у 4 томе сваёй “Гісторыі”. Вось што ён паведамляе: "Вышэй іх [скіфаў-аратых] жывуць неўры. На поўнач ад неўраў, наколькі мы ведаем, ляжыць пустыня”. (§ 17). Рака Ціра "бярэ свой пачатак з вялікага возера, на мяжы Скіфіі і Неўрыды" (§ 51). "Ад Істра ўнутр мацерыка скіфы мяжуюць найперш з агафірсамі, затым з неўрамі, потым з андрофагамі і, нарэшце, з меланхленамі" (§ 100). "У неўраў звычаі скіфскія. За адно пакаленне да паходу Дарыя ім прыйшлося пакінуць усю сваю краіну з прычыны змей. Бо не толькі іх уласная зямля спарадзіла мноства змей, але яшчэ больш напала іх з пустыні ў сярэдзіне краіны. Таму неўры былі вымушаны пакінуць сваю зямлю і пасяліцца сярод будзінаў. Гэтыя людзі, напэўна, ведзьмакі. Скіфы і эліны, якія жывуць сярод іх, прынамсі, сцвярджаюць, што кожны неўр штогод аднойчы на некалькі дзён перакідваецца ў ваўка, а затым ізноў прымае чалавечае аблічча. Я не веру гэтым расказам, але так гавораць і аповяды сведчаць клятвай" (§ 105).

Як бачым, звесткі цікавыя і ў ва многіх месцах інтрыгуючыя. Адразу прыгадваюцца даўнія беларускія гісторыі пра ваўкалакаў і пра змеяў-вужоў, якія жылі ў сялянскіх хатах і якіх сямейнікі шанавалі і аберагалі, частуючы малаком.

Па меркаванні навукоўцаў, неўры першапачаткова жылі на тэрыторыі паміж вярхоўямі Днястра на захадзе і Дняпра на ўсходзе, гэта значыць, на тэрыторыі Падоліі, Валыні, Галіцыі і паўднёвай Польшчы. Лічыцца, што значная колькасць назваў Заходняй Украіны з асновай “нур-“ таксама пацвярджае гістарычнае знаходжанне тут неўраў: Нура, Нурэц, Нурчык, Нурына, Нуры, Нураяны, Нурвіцы і іншыя.

Археолагі звязваюць тэрыторыю рассялення неўраў з арэалам распаўсюджвання мілаградскай культуры. Яе найбольш раннія помнікі сапраўды размяшчаюцца ва Ўкраіне, а вось сляды сярэдняга і позняга этапаў выяўна прасочваюцца на тэрыторыі Беларусі, займаючы пераважна паўднёвы ўсход і цэнтр краіны. Такія змены ў рассяленні носьбітаў гэтай культуры дакладна адпавядаюць апісанню Герадота пра рух неўраў з месца свайго пастаяннага пражывання на поўнач. Такім чынам, верагодна, некаторыя роды гэтага племені дасягнулі межаў сучаснай Мядзельшчыны, дзе і аселі. Гэта пацвярджае і археалогія. Падчас раскопак на вялікім гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча, якая дарэчы, знаходзіцца на адлегласці ўсяго двух кіламетраў ад Наўраў, навукоўцы ў ніжніх пластах культурнага слою выявілі рэшткі керамікі, якія па форме блізкія да аналагічных пасудзін мілаградскай культуры. Узрост заснавання гарадзішча (каля 6 ст. да н.э.) добра стасуецца з часам Герадотавага апісання.

Такім чынам, мы маем ужо два населеныя пункты, якія з вялікай доляй верагоднасці сведчаць пра тое, што ў глыбокай старажытнасці тут жылі неўры. А ці існуюць яшчэ якія доказы рассялення ў паўночна-заходняй Беларусі прадстаўнікоў гэтага племені? Напэўна, існуюць, толькі трэба іх шукаць. Археолагі сцвярджаюць сваімі знаходкамі, што рэшткі посуду мілаградскай культуры сустракаюцца на беразе пратокі Скема, якая злучае азёры Мястра і Нарач, і ва ўрочышчы Студзянец на паўднёвым беразе возера Нарач. Да іх ліку можна аднесці, верагодна, паселішча каля в. Рыбкі.

Тапанімія як быццам не дае нам дадатковых доказаў пражывання ў гэтым рэгіёне племені неўраў. Аднак… Прыгадаем, што формы цэлага шэрагу аднасэнсавых слоў паўднёвых і ўсходніх славян адрозніваюцца дадатковым галосным гукам, напрыклад, круль – кароль, грох – гарох, глова – галава і да т.п. Тады можна дапусціць, што слова “неўр” магло ўжывацца ў формах “невер”, “невар”, “нявер”. А зараз паглядзім, ці ёсць тапонімы з такой асновай на абсягах паўночна-заходняй Беларусі. Аказваецца, ёсць, і не адзін! Прычым, зусім недалёка ад Гарадзішча сустракаем дзве вёскі з аднолькавай назвай – Няверы: адна з іх ляжыць за 7 кіламетраў на поўнач, другая – за 11 кіламетраў на ўсход ад Наўраў. Яшчэ адна вёска з падобнай асновай - Няверавічы месціцца паміж азёрамі Нарач і Свір. Сустракаюцца асобныя падобныя назвы і на Пастаўшчыне (Невярышкі, Няверышкі).

Ад вызначанай асновы ўтвораны шэраг прозвішчаў, якія і цяпер распаўсюджаны ў нашым рэгіёне: Нявера, Невяроўскі, Невярковіч. Зразумела, што і прозвішчы, і згаданыя назвы вёсак можна звязаць з рэлігійнымі дачыненнямі і вывесці іх ад, напрыклад, мянушкі “нявера”, аднак, падаецца, больш трывалая сувязь усё ж прасочваецца з неўрамі.

Гэтыя разважанні прыводзяць да заканамернага пытання: якім чынам назвы-этнонімы даўно зніклага народа маглі захавацца да нашых дзён? Каб адказаць, трэба звярнуць увагу на прыродныя ўмовы, у якіх жылі тыя даўнейшыя людзі. Іх паселішчы размяшчаліся на сушэйшых выспах сярод вялікіх Габскіх балот. На цяперашні час на большай іх частцы праведзена меліярацыя і яны пераўтвораны ў сельскагаспадарчыя палеткі. Аднак у ранейшыя часы тут, верагодна, існавала мелкаводнае возера. Пра гэта сведчыць карта Радзівіла 1613 года, на якой вытокі ракі Вузлянкі знаходзяцца ў вялікім вадаёме, які па плошчы мала саступае Нарачы. Такім чынам астраўная азёрна-балотная ізаляванасць даўніх паселішчаў прывяла да захавання іх назваў.




*Возера ў Габскіх балотах на карце М. Радзівіла 1613 года*



*Археалагічныя знаходкі з селішча каля Гарадзішча*
*(з кнігі "Археалогія і нумізматыка Беларусі")*



*Гарадзішча каля вёскі Гарадзішча (фота аўтара)*

**Ігар Пракаповіч: НАЎРЫ**
***(вэб-часопіс "Культура. Нацыя", № 26, сьнежань 2020, с.97-102, www.sakavik.net)***

Неўры – старажытны народ, пра які у 4 томе сваёй "Гісторыі" пісаў гісторык Герадот. Паводле яго звестак, гэта племя ці група плямёнаў, жыла дзесьці на тэрыторыі сучаснай паўночнай Украіны і паўднёвай Беларусі. Магчыма, іх асобныя арэалы былі і ў паўночна-заходняй Беларусі, на Мядзельшчыне, дзе кампактна размяшчаюцца вёскі Наўры, Няверы (два паселішчы). Археолагі звязваюць тэрыторыю рассялення неўраў з арэалам распаўсюджвання мілаградскай культуры. Падчас раскопак на вялікім гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча, якая знаходзіцца на адлегласці ўсяго двух кіламетраў ад Наўраў, навукоўцы ў ніжніх пластах культурнага слою выявілі рэшткі керамікі, якія па форме блізкія да аналагічных пасудзін мілаградскай культуры. Узрост заснавання гарадзішча (каля 6 ст. да н.э.) добра стасуецца з часам Герадотавага апісання. Якім чынам назвы-этнонімы даўно зніклага народа маглі захавацца да нашых дзён? Іх паселішчы размяшчаліся на сушэйшых выспах сярод вялікіх Габскіх балот, дзе ў ранейшыя часы, верагодна, існавала мелкаводнае возера. Пра гэта сведчыць карта Радзівіла 1613 года, на якой вытокі ракі Вузлянкі знаходзяцца ў вялікім вадаёме, які па плошчы мала саступае Нарачы. Такім чынам астраўная азёрна-балотная ізаляванасць даўніх паселішчаў прывяла да захавання іх назваў.

*Резюме*

**Игорь Прокопович: НАВРЫ (*НАЎРЫ, бел.*)**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.97-102, www.sakavik.net)***

Невры - древний народ, о котором историк Геродот писал в 4-м томе своей «Истории». По его словам, это племя или группа племён проживали где-то на территории современной северной Украины и юга Беларуси. Не исключено, что отдельные их ареалы находились на северо-западе Беларуси, на Мядельщине, где компактно расположены деревни Навры и Неверы. Археологи связывают территорию расселения невров с ареалом распространения милоградской культуры. Во время раскопок большого городища у села Городище, что всего в двух километрах от Навров, ученые в нижних слоях культурного слоя обнаружили остатки керамики, по форме напоминающие аналогичные сосуды милоградской культуры. Возраст поселения (примерно 6 век до н.э.) хорошо согласуется со временем описания Геродота. Как могли имена-этнонимы давно вымершего народа

дожить до наших дней? Их поселения располагались на более засушливых островах среди больших болот Габа, где раньше, вероятно, было мелкое озеро. Об этом свидетельствует карта Радзивилла 1613 года, на которой истоки реки Вузлянки находятся в большом водоеме, немного уступающем по площади озеру Нарочь. Таким образом, островная озерно-болотная изоляция древних поселений привела к сохранению их названий.

*Abstract*

**Igar Prakapovich: The Neuri People Group**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.97-102, www.sakavik.net)***

The Neuris were an ancient people group of whom historian Herodotus wrote in the 4th volume of his work *History*. According to his narrative this was a tribe or a group of tribes occupying the territory of present-day northern Ukraine and southern Belarus. Perhaps their territory was in the northwestern part of Belarus, in the region of Miadzielyshchina where the villages of Naury and Niaviery are located. Archeologists connect the territory of settlement of the Neuris with the area where Milahradsky culture was spread out. In excavations on the location of the ancient city near the village of Haradzishcha which is positioned only 2 kilometres from Naury archeologists have discovered in the lower levels of soil the remains of ceramic pieces which by their shapes resemble plates characteristic of Milahradski culture. The flourishing of the ancient city (sometime around the 6th century BC) concurs with Herodotus' time period. How did the names of this long extinct people group come down to our time? Their settlements stretched across the high spots surrounded by Habskaje Swamp where earlier there probably existed a shallow lake. Radzivil's Map of 1613 testifies to this fact showing the spillways of Vuzlianka River which are located in the large reservoir. The spillwasysempty into Narach River. Through the means of island-like isolation among those swamps ancient settlements were able to hold on to and pass on their ethnonyms to our time.

**Ігар Пракаповіч: ТЭРАЗ (ЦЕРАЗ)**

Слова “тэраз” я ўпершыню пачуў у школе, калі пайшоў у 5-ы клас. Такое прозвішча мела настаўніца Алена Браніславаўна – мой класны кіраўнік, выдатны педагог і цудоўная жанчына. Яна шмат чаму навучыла і мяне, і маіх аднакласнікаў, але размова ў гэтых нататках ідзе пра іншае. У нашай мясцовасці, дзе пераважаюць прозвішчы на “-скі”, “-іч”, “-аў”, “-еў”, настаўніцкае вылучалася сваёй нетрадыцыйнай формай. Але на той час, у дзяцінстве, хіба ж звяртаў я на гэта ўвагу.

Другі раз з гэтым словам я спаткаўся, калі ўжо ў сталым узросце падарожнічаў па ўсходняй Мядзельшчыне. Паміж вёскамі Навасёлкі і Новыя Габы натрапіў на былы маёнтак Цераздвор, які на некаторых картах запісваўся і як Тераздвор. Высокія старыя ліпы, закінутыя ставы, паўзарослая сцежка-дарожка – усё гэта заваблівала сваёй таямнічасцю. З пачуццямі, якія вядомыя даследчыкам старажытных цывілізацый, пахадзіў сярод высокіх траў пад шатамі векавых дрэў, паглядзеў на бітую цэглу і друз на месцы былога сядзібнага дома, сфатаграфаваў рэшткі загадкавай пабудовы, складзенай рознакаляровымі часанымі камянямі, абследаваў падмуркі вялікіх гаспадарчых пабудоў за яшчэ адным ставам, і ўпэўніўся, што калісьці тут знаходзіўся вельмі вялікі фальваркавы комплекс. Пазней даведаўся, што належаў ён знакамітаму роду Аскеркаў. Але чаму “Цераздвор”? На гэта пытанне не было адказу. Падумалася, што гэту адзінкавую назву прыдумаў сам уласнік, а чаму – у яго ўжо не спытаешся.

Крыху пазней, збіраючы матэрыялы пра назвы паселішчаў нашага рэгіёна, натрапіў яшчэ на некалькі найменняў з такой асновай. На Шаркаўшчыне на старой расійскай карце пазначаны “Тересполь” і “Тересполье”, на Астравеччыне – “Терездвор”. Прыгадалася і назва горада “Тирасполь”, што ў Малдове. Значыць, падобныя найменні, якія існуюць у розных месцах, не выдумка аднаго чалавека, а, хутчэй за ўсё, пэўная заканамернасць, звязаная не толькі з нашай мясцовасцю.

Паспрабуем пашукаць вытокі гэтага слова. Цікавую зачэпку знаходзім у цытаце Мітрапаліта Іларыёна з Сінопсіса XVII стагоддзя: "Купало бяше бог обилія, якоже у Еллін Церез, єму же безумниї за обиліє благодареніє приношаху в то время, єгда імяша настати жатва” З гэтага запісу вынікае, што ў грэкаў быў бог плоднасці і багацця Цераз – “брат” славянскага Купалы. З гістарычных крыніц вядома, што ў старажытным Рыме быў пашыраны культ багіні палёў і земляробствы Цэрэры. У яе гонар ладзілася свята Цэрэаліі, якое праводзілася з 12 красавіка на працягу васьмі дзён. У ахвяру прыносіліся мядовыя соты, плады, свінні. Каб улагодзіць Цэрэру,

рымляне ўладкоўвалі святочныя трапезы, запрашаючы ўсіх падарожных на сумесны пір. Тагачасныя мастакі малявалі багіню прыгожай жанчынай з садавінай у руках.

З гэтага вынікае, што некаторыя геаграфічныя назвы на нашай тэрыторыі з асновай "тэраз" ("цераз") маглі ўзнікнуць як асацыяцыі з багіняй урадлівасці Цэрэрай, або богам Церазам. Ва ўсялякім разе ў аснове знаходзілася імя або прозвішча. У нядаўнім мінулым даволі распаўсюджаным жаночым імем было Тэрэза, а вось аналагічнае мужчынскае імя не фіксавалася, хоць варта заўважыць, што існуюць прозвішчы, ўтвораныя ад імя Тэраз: Церашкевіч, Церашковіч, Цярэшка. Прыгадайма і старажытную беларускую гульню "Жаніцьба Цярэшкі". Сустракаюцца і народныя песні, у якіх згадваецца гэта імя. Напрыклад:

Цярэшку цярэжала,

На печы не ўлежала.

Пайду я каровы даіць –

А за мной жа бык бяжыць.

Каб цябе каршун задраў,

Як жа ты мне хвартух парваў.

Магчыма, імя Тэраз (Цераз) трансфармавалася на Украіне ў Тарас, у Беларусі ў Цярэнь. А прыйшло яно, верагодна, з прыдунайскіх краёў. Імя Тэрас было вельмі папулярным у дынастыі цароў фракійскага племені одрысаў. Паводле даследчыка З.Арчыбальда, які склаў іх пяцікаленны радавод, гэта імя сустракаецца чатыры разы.

Тэрас I, які жыў каля сярэдзіны V стагоддзі да н. э., быў заснавальнікам магутнай дзяржавы одрысаў і распаўсюдзіў сваё валадарства на вялікую частку Фракіі. Меў ён добрыя ваенныя здольнасці і правёў большую частку свайго жыцця ў войнах. Гэта прывяло да аб'яднання фракійскіх плямёнаў. У 445 да н. э. Тэрас памёр падчас адной са сваіх шматлікіх ваенных кампаній.

Хоць гэтыя гістарычныя падзеі адбываліся вельмі даўно і далёка ад нашых мясцін, аднак іх сляды ў форме этнічнай памяці і тапаніміі адлюстраваліся на нашай зямлі.



*Рэшткі гаспадарчай пабудовы ў маёнтку Аскеркаў Цераздвор (фота аўтара)*

**Ігар Пракаповіч: ТЭРАЗ (ЦЕРАЗ)**

***(вэб-часопіс "Культура. Нацыя", № 26, сьнежань 2020, с.103-107, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

У паўночна-заходняй Беларусі сустракаецца шэраг назваў з асновай "тэраз" (цераз): у Мядзельскім раёне маёнтак Цераздвор каля Навасёлак, на Шаркаўшчыне на старой расійскай карце пазначаны "Тересполь" і "Тересполье", на Астравеччыне – "Терездвор". Сустракаюцца і прозвішчы з такой асновай: Тэраз, Церашкевіч, Церашковіч, Цярэшка. Гэтыя найменні сваімі каранямі, верагодна, сыходзяць у антычнасць. З гістарычных крыніц вядома, што што ў грэкаў быў бог плоднасці і багацця Цераз – "брат" славянскага Купалы; у старажытным Рыме быў пашыраны культ багіні палёў і земляробствы Цэрэры. З гэтага вынікае, што некаторыя геаграфічныя назвы на нашай тэрыторыі з асновай "тэраз" ("цераз") маглі ўзнікнуць як асацыяцыі з багіняй урадлівасці Цэрэрай, або богам Церазам. Ва

ўсялякім разе ў аснове знаходзілася імя або прозвішча. У нядаўнім мінулым даволі распаўсюджаным жаночым імем было Тэрэза. Магчыма, імя Тэраз (Цераз) трансфармавалася на Украіне ў Тарас, у Беларусі ў Цярэнь. А прыйшло яно, верагодна, з прыдунайскіх краёў. Імя Тэрас было вельмі папулярным у дынастыі цароў фракійскага племені одрысаў. Паводле даследчыка З.Арчыбальда, які склаў іх пяцікаленны радавод, гэта імя сустракаецца чатыры разы. Хоць гэтыя гістарычныя падзеі адбываліся вельмі даўно і далёка ад нашых мясцін, аднак іх сляды ў форме этнічнай памяці і тапаніміі адлюстраваліся на нашай зямлі.

*Резюме*

**Игорь Прокопович: ТЭРАЗ (ЦЕРАЗ)**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.103-107, www.sakavik.net)***

На северо-западе Беларуси существует ряд названий, основанных на слове «тэраз»: в Мядельском районе имение Терездвор под Новоселками, на Шарковщине на старинной русской карте отмечены «Тересполь» и «Тересполье», в Островце - «Терездвор». Также есть фамилии со следующим основанием: Тераз, Терешкевич, Терешкович, Терешко. Эти имена, вероятно, уходят корнями в древность. Из исторических источников известно, что у греков был бог плодородия и богатства Цераз - «брат» славянского Купалы; в Древнем Риме был распространен культ богини полей и земледелия Цереры. Отсюда следует, что некоторые географические названия на нашей территории с основанием «тэраз» могли возникнуть как ассоциации с богиней плодородия Церерой или богом Церазом. В любом случае за основу было положено имя или фамилия. В недавнем прошлом довольно распространенным женским именем была Тереза. Не исключено, что название Тераз (Цераз) преобразовалось в Украине в Тарас, в Беларуси - в Цярэн. Пришло оно, вероятно, из Придунайского региона. Имя Терас было очень популярно в династии царей фракийского племени одрисцев. По словам исследователя З.Арчибальда, составившего их пятиколенную родословную, это имя встречается четыре раза. Хотя эти исторические события произошли очень давно и вдали от наших мест, но их следы в виде национальной памяти и топонимии отражаются на нашей земле.

*Abstract*

**Igar Prakapovich: Teraz (Tsieraz)**
***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.103-107, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

In northwestern Belarus we see a series of names with the base or prefix of*Teraz (Tsieraz).* In Miadzielskij region we have oneestate named Tsieraz near Navasiolak; in Sharkaushchina we see noted on an old Russian map *Tieriespol'* and *Tieriespol'ye;* in Astravieshchina – *Tieriezdvor.* We meet up with surnames with this base or prefix: *Teraz, Tsierashkievich? Tsierashkovich, Tsiareshka.* The roots of these names stem from 3 historical sources. We know that the Greeks had their God of Fertility and Wealth – *Tsieraz,* - the "brother" of the Slavic *Kupala.* In ancient Rome we find the widely known cult of the Goddess of Fields and Toiling of Soil – *Tserery.* In every case we find the name or surnameof *Teras.*In recent times the feminine name *Tereza* has been widely used. Perhaps the name of *Teraz (Tsieraz)* changed in Ukraine to *Taras,* in Belarus to *Tsiaren'.* It probably came from Pre-Dunajski Regions. The name of *Teras* was extremely popular during the dynasty of kings of the Tribe of Frakis. According to his research work, Z. Archibald laid out 5-generational line of theirpeople.This name is mentioned 4 times. Even though these historical events took place centuries ago and far from our places of dwelling, their historic footprints have remained among us in the form of ethnic toponyms.

*Кнігі*

**Новы падручнік па гісторыі Беларусі на польскай мове**

**Viachaslau Shved, Jerzy Grzybowski: *Historia Białorusi od czasów najdawniejszych do roku 1991*.**Wydawnictwa Uniwersytetu Warszawskiego. 2020-11-23.
https://www.wuw.pl/product-pol-13362-Historia-Bialorusi-od-czasow-najdawniejszych-do-roku-1991.html




Сёлета ў выдавецтве Варшаўскага ўніверсітэта пабачыў свет падручнік па гісторыі Беларусі для польскіх чытачоў. Аўтарамі працы з’яўляюцца гісторыкі Вячаслаў Швед і Юры Грыбоўскі. Храналагічна кніга ахоплівае перыяд ад старажытных часоў да 1991 года, калі на палітычнай мапе свету з’явілася незалежная беларуская дзяржава. Дасюль на польскім кніжным рынку прысутнічала некалькі грунтоўных абагульняючых навуковых манаграфій. Дадзенае выданне значна адрозніваецца ад папярэдніх прац сваёй структурай. Замест традыцыйнага храналагічнага разгляду

гістарычных падзей аўтары кнігі абралі праблемны падыход, дзякуючы якому - на іх думку - чытач лепш зразумее складаныя гістарычныя з'явы і працэсы. Такім чынам, у кнізе асобна разглядаюцца наступныя праблемы: 1) крыніцы і гістарыяграфія па гісторыі Беларусі, 2) этнічная гісторыя і фармаванне беларускай ідэнтычнасці, 3) дзяржаватворчыя працэсы і станаўленне беларускай дзяржаўнасці, 4) сацыяльна-эканамічнае развіццё, 5) культура і рэлігія, 6) Беларусь у геапалітычных адносінах.

Аўтары зрабілі спробу падагульнення ранейшых даследаванняў з улікам найноўшых ацэнак і крыніц. Апрача таго кніга ўтрымлівае новыя факты, якія дасюль не былі прадметам грунтоўнага навуковага аналізу. У сваёй працы даследчыкі не пазбягаюць разгляду супярэчлівых і складаных праблем, якія нярэдка выклікаюць дыскусіі і разнагалоссі як сярод адмыслоўцаў, так і грамадства. Даволі шмат месца ў кнгізе прысвечана польска-беларускім узаемадачыненням, якімі была насычана гісторыя абодвух народаў. Характэрнай рысай працы з'яўляецца таксама тое, што значная ўвага надаецца гісторыі беларускага замежжа. Нягледзячы на тое, што храналагічныя рамкі кнігі абмяжоўваюцца 1991 годам у некаторых выпадках аўтары разглядаюць таксама асобныя праблемы звязаныя з тым, што адбывалася ў пазнейшы час (нацыятворчы працэс, стан асветы і навукі, міграцыйныя працэсы).

Выданне адрасавана перадусім навукоўцам і акадэмічнай моладзі. Разам з тым яно будзе цікавым таксама ўсім польскім чытачам, якія цікавяцца гісторыяй свайго ўсходняга суседа. Спадзяемся, што кніга дапаможа знайсці адказы на шматлікія пытанні, якія тычацца вядомых і невядомых старонак беларускай мінуўшчыны.

*Резюме*

**Вячеслав Швед, Ежи Грибовский: История Беларуси с древнейших времен до 1991 года. Издательство Варшавского университета. 2020-11-23.**

***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 26, декабрь 2020, с.108-110, www.sakavik.net)***

Авторы представляют историю Беларуси с древнейших времен до 1991 года, когда на карте мира появилось независимое беларусское государство. Цель учебника - познакомить польского читателя с историей беларусских земель в политическом, этническом, культурном и экономическом аспектах. Авторы также обращают внимание на спорные вопросы, вызывающие постоянный интерес в Польше и Беларуси. Новизна данного издания заключается в подаче материала. Они отошли

от традиционной хронологической системы и решили использовать фактическую (проблемную) систему, которая позволяет более подробно излагать факты и проводить их анализ. Монография адресована как представителям академического сообщества, так и всем, кто интересуется историей нашего восточного соседа.

*Abstract*

**Viachaslau Shved, Jerzy Grzybowski:** ***Historia Białorusi od czasów najdawniejszych do roku 1991.*** Wydawnictwa Uniwersytetu Warszawskiego. 2020-11-23.

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, p.108-110, www.sakavik.net)***

The authors present the history of Belarus from the earliest times to 1991, when an independent Belarusian state appeared on the world map. The aim of publication is to familiarize the Polish reader with the history of Belarusian lands in the political, ethnic, cultural and economic aspect. The authors also paid attention to the contentious issues which arouse continued interest in Poland and in Belarus. The novelty of this publication lies in its design. In presenting historical events, the authors departed from the traditional chronological system, which is the most common in literature on the subject. Being aware of the complexity of the issues raised in the work, they decided to use a factual (problematic) system that allows for a more detailed presentation of the facts and their analysis. The monograph is addressed both to representatives of the academic community and to anyone interested in the history of our eastern neighbor.

*Літаратура*

**Ю. І. Крашэўскі “Сеймавыя сцэны. Гародня. 1793.”**

*Пераклад з польскай мовы Міхася Кенькі (працяг, 1-я частка апублікавана ў №25)*

**Прадмова**

Раман Юзафа Ігнацы Крашэўскага упершыню выйшаў з друку ў 1875 годзе пад псеўданімам Б.Баляславіт. Чытачы, якім адрасаваў свой твор Крашэўскі, добра ведалі пра тое, аб чым апавядаецца ў творы. Ва ўсіх быў на памяці апошні сейм незалежнай польскай дзяржавы – Рэчы Паспалітай. Гэты сейм доўжыўся ў Гародні з 17 чэрвеня па 23 верасня 1793 года. На ім быў зацверджаны акт аб другім падзеле Рэчы Паспалітай, па якім Рэч Паспалітая фактычна ператваралася ў пратэктарат Расійскай імперыі. Дэпутатаў сейму змусілі зрабіць гэта пад ціскам расійскіх улад.

*Чытачам твора трэба ведаць пра папярэдні і наступны падзелы, якія звязаны з сеймам 1793 года. Першы падзел Рэчы Паспалітай адбыўся ў 1772 года паміж Расіяй і Аўстрыяй, а таксама паміж Расіяй і Прусіяй. У адпаведнасці з гэтымі дакументамі Аўстрыя атрымоўвала Галіцыю, Прусія - Памор'е (акрамя Гданьска) і частку Вялікай Польшчы, Расія - украінскія і беларускія землі на ўсход ад Заходняй Дзвіны, Друці і Дняпра, а таксама Латгалію.Чатырохгадовы сейм (1788-1792) 3 мая 1791 г. прыняў Канстытуцыю Польшчы. Пры падтрымцы Расіі ў маі 1792 года старашляхетскай партыяй была створаная Таргавіцкая канфедэрацыя, якая ставіла сваёй мэтай ліквідацыю канстытуцыі 3 мая. Расійскія войскі, якіх запрасілі канфедэраты, уступілі ў Варшаву, у выніку чаго лідэры патрыятычнай партыі змушаныя былі пакінуць краіну. Прусія таксама ўвяла ў Польшчу свае войскі, якія занялі Данцыг і Торн. Другі падзел Рэчы Паспалітай зрабіўся ў гэтых умовах непазбежным. 12 студзеня 1793 года паміж Расіяй і Прусіяй была падпісаная новая канвенцыя. Расія атрымлівала ўкраінскія і беларускія землі з гарадамі Мінск, Слуцк, Пінск, Жытомір, Камянец-Падольскі. Прусіі дасталіся частка Вялікай Польшчы і Куявія, а таксама Гданьск. Сейм 1793 гады (апошні ў гісторыі Рэчы Паспалітай) вымушаны быў ратыфікаваць дагаворы з Расіяй і Прусіяй, замацоўвалі вынікі Другога падзелу. Адначасова без абмеркавання была*

*зацверджана новая канстытуцыя, паводле якой Польшча стала васалам Расійскай імперыі. Польскія патрыёты, не змірыўшыся з рашэннямі сейма, у сакавіку 1794 года абвясцілі ў Кракаве аб пачатку паўстання супраць замежных войскаў. На чале паўстання стаў Тадэвуш Касцюшка. Паражэнне паўстання прывяло да поўнай ліквідацыі Рэчы Паспалітай. 3 студзеня 1795 г. была падпісаная канвенцыя аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай паміж Расіяй і Аўстрыяй, а 24 кастрычніка падобная канвенцыя была заключана паміж Прусіяй і Расіяй. Да Расіі адышлі Літва, Курляндыя, Заходняя Беларусь і Заходняя Валынь. Аўстрыя атрымала Малапольскае зямлі з Любліне і Кракавым, Прусія - частку Падляшша і Мазавецкага земляў з Варшавай, а таксама частка Жамойці.*

*Варта нагадаць таксама пра тое, што такое польскі сейм. Польская дзяржава Рэч Паспалітая была канстытуцыйнай, саслоўнай манархіяй, на чале з выбарным каралем. Заканадаўчым органам у ёй быў двухпалатны агульны парламент (Вальны сейм), які складаўся з вышэйшай палаты – Сената (Рады) і Пасольскай ізбы. У Сенат уваходзілі найбольш знатныя феадалы ў колькасці каля 150 чалавек: магнатаў, вярхушкі цэнтральнай і мясцовай адміністрацыі, вярхоў каталіцкай царквы. Вальныя (агульныя) сеймы (іх яшчэ называлі кароннымі сеймамі) разглядалі і прымалі пастановы на асобных пасяджэннях Сената і Пасольскай ізбы. Разгледзеўшы адны і тыя ж пытанні паасобку, Сенат і Пасольская ізба сыходзіліся на агульнае пасяджэнне і ў выпадку, калі іх пастановы супадалі, яны прымаліся і пасля зацвярджэння каралём набывалі сілу закона. У 1589 г. было уведзена правіла аб тым, што усе пастановы кароннага сейма павінны прымацца аднагалосна. Пры гэтым дзейнічаў прынцып liberum veto(свабоднага вета), калі група дэпутатаў альбо адзін з іх мог сказаць “не дазваляю”, пасля чаго дзейнасць сейма прыпынялася, а усе прынятыя на ім раней пастановы касаваліся. Liberum veto лічыўся адной з важнейшых “залатых шляхецкіх вольнасцей”, гарантаваўшых права шляхты, але на практыцы гэта дазваляла магнатам блакіраваць нежаданыя для іх пастановы, а таксама дало магчымасць замежным дзяржавам умешвацца ў справы Рэчы Паспалітай.*

Крашэўскі ў мастацкай форме ўзнаўляе абставіны, у якіх праходзіў сейм. Ён не засяроджваецца выключна на пасяджэннях сейма, пачынае твор з апісання таго, што адбываецца ў Гародні, зводзіць чытача з прыдуманымі ім персанажамі, (пераважна з ліку дробнай шляхты, рамеснікаў), як гэта і павінна быць у мастацкім творы. А затым ён знаёміць і з рэальна існаваўшымі гістарычнымі асобамі – удзельнікамі сейма. Яны выразна падзяляюцца на дзве групы. З аднаго боку гэта патрыятычныя дэпутаты Мікорскі, Краснадэбскі, Кімбар, Юзафовіч, Шыдлоўскі, якія спрабуюць выступіць супраць падзелу Польшчы, нягледзячы на запалохвані і пагрозы. У процівагу ім аўтар выводзіць групу дэпутатаў, якія здраджваюць сваёй краіне, паддаюцца на подкуп і ўціск, кіруюцца толькі ўласнымі эгаістычнымі

памкненнямі. Гэта магнаты Паніньскі, Масальскі, Бяліньскі, Анквіч, якія прадаюць сваё сумленне дзеля ўласных выгод, трымаюцца за свае прывілеі і тытулы. Сейм праходзіў у часы, калі каралём у Рэчы Паспалітай быў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Польшчы. Пра яго паводзіны падчас сейму і ролю ў прыняцці яго рашэнняў апавядаецца ў рамане.

Раман "Сеймавыя сцэны" – першы з задуманага пісьменнікам "Касцюшкаўскага цыкла", працягам якога стаў раман "Варшава ў 1794 годзе". Злучае гэтыя творы гісторыя паручніка Паўла Сольскага, эмісара патрыятычнай арганізацыі, якая рыхтуе глебу да будучага паўстання. Гісторыя кахання яго сястры Юстыны надае твору лірычнае адценне. Падрабязнае апісанне апошняга пасяджэння сейма завяршае раман.

*Сучаснаму чытачу патрэбны тлумачэнні пэўных прозвішчаў, паняццяў, назваў. Яны зроблены перакладчыкам і падаюцца ў зносках. Словы і фразы на французскай і лацінскай мовах тлумачацца ў дужках.*

....................................

* * *

Наступным днём у Гародні ладзіўся баль. Якраз была нядзеля. дэпутаты адпачывалі… а Сіверс даваў абед для мужчын – адмыслова выбраных – пасля якога для дам была зладжана так доўга чаканая забава. У садзе каля эканоміі зрабілі ілюмінацыю. Мноства маладых, жвавых расійскіх афіцэраў мелася ажывіць баль. Быў абяцаны нават фейерверк. З самага ранку слугі бегалі ў крамы Лазарэвічавай і Люкс… да двух цырульнікаў, у магазіны, у якіх … разабралі ўсе духі і крэмы. У карэтах падвозілі плацці, абы толькі хапіла.

Многія вайскоўцы дапамагалі ладзіць гэты баль. Усе чакалі чагосьці незвычайнага. Гэты баль мог папярэднічаць *captationis benevolentiae ( палюбоўнаму. лац.)* падпісанню каралём доўгачаканага пагаднення.

Напэўна, нідзе падрыхтоўка да гэтага знамянальнага вечара не набыла такога размаху, як у доме, які займала "боская Мілюся"… Ёй шмат чаго нехапала для таго, каб на балі выглядаць шыкоўна.

Першы выхад пані ў тутэйшы свет павінен быць шчаслівы, бо столькі моладзі раілася каля яе, што той поспех патрабаваў зрабіць усё, каб у ёй не расчараваліся. Пані шамбялянава ледзь не плакала. Валасы не былі прыбраны так, як ёй хацелася. Колер твару павінен быць смуглы, але зрабіць яго такім не маглі ніякія крэмы і мазі. Адным словам, яна адчувала сябе вельмі няшчаснай. Лазарэвічава параіла ёй

лёгкую сукенку, залатую накідку, пад якую ёй трэба было падкласці другую, іншага колеру, каб схаваць карсет, без якога формы не маглі быць прывабна круглявымі .... Але белы ўбор зрабіў бы яе паўнаватай. Яна была б страйнейшай у чорнай сукенцы, і гэта добра, але ж яна ў чорным выглядала б старэйшай.

Не суцешылі яе і словы мужа, які заўсёды быў карысным пры вызначэнні таго, што лепей апрануць. Ён сказаў:

– А што? Прыгожа.

Ён хацеў падтрымаць яе, але з таго нічога не выйшла. Ягоныя словы не суцешылі яе. Але шамбялян аказаўся карысным падчас апранання. Нязграбныя служанкі не маглі справіцца і ён сам зашнураваў яе, абуў, памазаў крэмам і папудрыў там, дзе было патрэбна. Служанкі казалі, што ён і фальбоны на плацці разгладзіў, але гэта былі, хутчэй за ўсё, жарты.

Але самым непрыемным для яе сталася тое, што Анквіч наказаў, упрасіў ад імя Сіверса, каб пані шамбялянава ўзяла на баль Юстыну. Нібыта з тае прычыны, што там будзе мала прыгожых паненак. Боская Мілюся спачатку паўстала супраць гэтага, папракнула Анквіча, што ён закахаўся ў гэтую нічым не адметную дзяўчыну. Міністр пасмяяўся, але настойваў на сваім.

– А вы ўявіце сабе, што ў дзвярах з вамі сустрэнецца Сіверс і спытае, чаму вы не ўзялі з сабой Юстыну?

Ледзь толькі з Юстынай загаварылі пра баль, яна сама пачала крычаць, што ні за што ў свеце не згадзіцца ісці, не хоча і не можа. Пані шамбялянава ўзрадвалася, пераказала яе словы Анквічу, але той сказаў, што ёй трэба ўгаварыць дзяўчыну. Злосная, разгневаная пані шамбялянава была ўжо сама гатова адмовіцца ад балю і замест таго сядзець дома, піць лякарствы, біць служанак і злаваць мужа, але нечпадзявана ўсё перамянілася, чым пані была вельмі здзіўлена і заінтрыгавана.

Пасля таго, як Юстына адмовілася ехаць на баль, яна пабегла ў свой пакой. Там яе чакаў брат. Ён убачыў, што яна нечым расстроеная, і пачаў распытваць, што з ёй сталася. У яго аж кроў закіпела, як толькі падумаў, што сясту напаткала якаясьці непрыемнасць. Юстына супакоіла яго, расказала пра тое, што яе так усхвалявала.

– Не хачу я на баль да пасла! – паўтарыла яна і брату.
– Ты ведаеш, адказаў той, – калі б ты не была такім дзіцём, не гарачылася… я б табе нешта параіў… але я не магу патрабаваць ад цябе такой ахвяры…
– Якой такой ахвяры? – спытала Юстына. – Я цябе не разумею.
Паручнік пайшоў да дзвярэй, адчыніў іх, каб праверыць ці не падслухоўвае хто. Але пані Мілюся бегала па магазінах, шамбялян яе суправаджаў.

– Той, хто любіць сваю краіну, павінен прыносіць і самыя цяжкія ахвяры, –

прамовіў паручнік, – Я табе адкрыю толькі тое, што я не так проста дастаўся сюды ў Гародню, іграю ролю жадаючага паступіць на рускую службу. Штодня п’ю з афіцэрамі. Тое-сёе ўведваю ад іх… Ен спыніў сябе на паўслове.
– Дарагі брат! – усклікнула Юстына. – Хай сабе мне і не хочацца, але я магла б, скажам, патанцаваць з афіцэрамі.
– Патанцаваць? – засмяяўся паручнік. Але потым задумаўся. – А што? Гэта ты магла б зрабіць. Ведаеш, для чаго? Ты ад іх можаш выведаць болей, чым я, бо ты прыгожая, маладая, і калі б захацела, то магла б не аднаму задурыць галаву,
Юстына заплюшчыла вочы, а брат працягваў:

– Можа я хачу ад цябе і залішне многага, як і ад іншых…але мы… мы ў такім становішчы, што для выратавання краіны не лічымся ні з чым, нават з ахвярамі…. Трэба аддаваць усё…
– Як гэта? нават ... пазбыць маю любоў да праўды, – перабіла дзяўчына, – нават хлусіць і падманваць !!!
–Нават падманваць... як яны нас падманваюць, нават больш... тут няма мяжы! – усклікнуў паручнік. – Мы бяссільныя - для нас усё добра.
– Ты кажаш страшныя рэчы... – прамовіла Юстына слабым голасам – ты ж можаш звар'яцець з гэтага.
– Мы ўсе звар'яцелі, – сумна сказаў паручнік, – адчай кіруе намі.
– Паслухай мяне - я пераканаю цябе сваім прыкладам. Нам трэба уведаць сакрэт, ад якога залежыць лёс краіны – гэтую таямніцу можа раскрыць толькі жанчына, якая, як і біблейская Юдыф, ідзе ў лагер Алаферна... Жанчына шануе сваю цноту больш, чым выратаванне краіны ... адмаўляецца ... і мы паміраем. Што ты скажаш пра такую жанчыну?
Юстына ўздрыгнула, закрыла вочы рукамі і пачала бегаць па пакоі, як вар'ятка.

– Не кажы мне гэтага! – закрычала яна, – не трэба мне гаварыць такіх рэчаў! У мяне бура ў душы. Брат, маўчы ...
– Я ведаю, што раблю, – спакойна адказаў паручнік, – я ведаю, пра каго гавару, – ты высакародная, чыстая, святая, табе не пагражае небяспека, нават калі б цябе прымусілі ўзяць на сябе гэтую ролю. Я нікога не ўгаворваў бы страціць сваё жыццё. Я ведаю цябе настолькі, што не баюся за цябе . Я скажу табе, што не толькі я мог бы пераканаць, але прашу цябе дапамагчы мне.
Раптам ён спыніўся.
– Не, тут сцены маюць вушы ... апрані, Юстына, што-небудзь, мы пойдзем на шпацыр, я ведаю, што ты дачка твайго бацькі і што я магу табе давяраць. Мне патрэбна .... Пойдзем ....
Спалоханая, дрыжачая Юстына нічога не сказала, яна толькі запатрабавала пайсці да пані шамбялянаывай, каб папрасіць у яе дазволу выйсці з дому; праз

некаторы час яна вярнулася з кіслым выразам твару, працягнула брату руку і яны пайшлі.

Паручнік вёў яе упэўнена, выдатна ведаючы масцовасць, дзе ён ужо блукаў у гэтыя дні, ведаў, дзе яны маглі сустрэць як мага менш людзей. Яны зайшлі далёка, аж да Нёмана. Упэўніўшыс, што іх ніхто не пачуе, паручнік пачаў паспешліва гаварыць:

– Я прыйшоў сюды не толькі дзеля цябе ці дзеля забавы ... Мяне паслалі сюды ... Ты ж ведаеш ці, па меншай меры, павінна ведаць, што адбылося пасля Таргавіцы. Усё гарачае і сумленнае, што было ў краіне, пакінула яе, вымусіла патрыётаў працаваць за мяжой. Малахоўскі, Патоцкі , Калантай… Ці ведаеш ты гэтыя імёны?

– Пра іх тут нельга ўспамінаць, – сказала Юстына ... Мне часам трапляла ў рукі “Газета нарадова”[1]... Пані пра іх гаварыла з асуджэннем. Гэта страшная жанчына... ты не думай.

– Горш за ўсё тое, што яна для нас безнадзейна страчаная, – сказаў паручнік, – але гэта шчасце, што ты дома ў яе ... У гэтым дом ніхто не шпігуе, такія людзі, як Анквіч, прыходзяць, размаўляюць адкрыта . Пра ўсё, што робіцца на сейме, можна даведацца тут. Але для гэтага мне патрэбна не мая сціплая і сумленная Юстыся, у якой вочы нясмела блукаюць, затыкаюцца вушы, якая уцякае з пакоя, тут патрэбна жанчына, якая круціла б імі... спакушала гэтых распуснікаў – і усё ў іх выведвала... а пры патрэбе і пакіравала б імі.

Юстына раптам спынілася.

– Брат, – з болем у голасе сказала яна, – Ты не можаш прасіць у мяне тое, што звыш маіх сіл! Бог не стварыў мяне для гэтага. Я не магу хлусіць.

– Нават дзеля выратавання Радзімы? – спытаў брат.

– "На жаль," застагнала Юстына, апусціўшы вочы ў зямлю, "я не Юдзіф... Я бедная, нясмелая істота ... чые слёзы – адзіная зброя". Загадаеш мне памерці за радзіму, я пайду на гэта! Я думаю, што пайду, не вагаючыся, не міргнуўшы вокам... але не запэцкаюся.

– Гераізм! Калі б гераізм быў толькі ў тым! – усклікнуў паручнік. – Ну што ж, не будзем больш пра гэта, – сказаў ён праз імгненне, – мы не разумеем адзін аднаго, таму і не будзем пра гэта гаварыць.

Пэўны час яны ішлі моўчкі ... На вачах Юстыны навярцеліся слёзы.

– Ты хацеў сказаць мне, чаму ты прыбыў сюды? – прашаптала яна ціха.

– Ты можаш лёгка здагадацца ... Я прыйшоў сюды не сам па сабе, я быў пасланы ... Мне трэба шмат чаго даведацца, я разлічваў, што ты будзеш у доме, які

[1] "Gazeta Narodowa" – выдавалася ў Варшаве, была органам прыхільнікаў Канстытуцыі 3 мая

наведваюць уплывовыя маскалі... але з-за цябе я, бадай што нічога не змагу зрабіць. ...

– Божа! – дадаў ён, – Як было б здорава знайсці падыход да Анквіча ...

– Што ты маеш на ўвазе? - спытала Юстына.

– Ён жа і ёсць іх галоўная пружына, найбольш здольны паміж імі і самым дасведчаны. Мужчына, які не здолее супрацьстаяць чарам жанчыны. Белінскі – паслухмяны, Сулкоўскі – таксама толькі выканаўца. Пуласкі... іншыя – людзі, ні на што не здольныя, адзін Анквіч мае незвычайную энергію і, здзекуючыся з чужых меркаванняў, ведае, як кіраваць гэтым ... Хто ведае? Ты нават магла б атрымаць пэўныя звесткі… Хто ведае…

Маўклівая Юстына раптам узняла чырвоныя і пякучыя вочы.

– Твая любоў да Радзімы проста страшная,– прамовіла яна. – Ты гатовы дзеля яе нават ахвяраваць сястрой.

– Не, - палка запэўніў яе паручнік, – ж ведаю цябе і ведаю, што для цябе няма ніякай небяспекі.

– Ты мяне ведаеш! А на самай справе я не магу сказаць сабе, што ведаю сябе... Гэты чалавек, якога ты мне апісваеш, ты бачыў яго, ён валодае вялікім абаяннем, у яго на душы спакусная змяя, любасць і яд ... Ён страшны чалавек.

Паручнік засмяяўся.

– Гэты знешні шарм у яго тут жа прапаў бы, абы толькі ты наблізіліся да яго; ён гнілы, сапсаваны, адштурхоўвае ад сябе, але маску на сябе такую надзеў... якая на першы погляд падманвае ...

Юстына была ўзрушаная... Яны маўчалі, паручнік, здавалася, быў увесь у сваіх думках. Раптам ён зноў загаварыў.

– Я не магу навязаць табе ролю, праз якую ты адчуваеш сябе так агідна ... гэта бяспрэчна ... але мне балюча, што ты не хочаш рызыкаваць і перамагаць. Ну страшна ісці на баль – то і не ідзі, - прамовіў ён з усмешкай ...

- – А ты ведаеш , што самае агіднейшае за стаіць за гэтымі гульнямі? – Юстына рэзка перарвала яго, – Што гэта нас яшчэ больш прыніжае? ...

– Так! Уздыхнуў лейтэнант. – Газеты за мяжой пісалі пра сейм, здзекуючыся, што палякі – адзіная нацыя ў свеце, якая страціла краіну падчас танцаў.

– Увесь свет смяецца з нас! - дадала Юстына...

– Дык ці не варта было б польскай жанчыне стаць Юдзіф’ю , і... аказацца паміж імі, каб аддаць іх на знішчэнне? - спытаў лейтэнант.

Юстына перапыніла яго, паклала руку на плячо ....

– Не кажы так, – прашаптала яна. – Як бы ты не пашкадаваў... Пойдзем дадому ...

Перапыненая размова працягвалася, пакуль яны не вярнуліся ў будынак. У дзвярах брат развітаўся з Юстынай.

– Дарагая мая, - сказаў ён, - забудзься на тое, пра што мы гаварылі. Я цешыў сябе без патрэбы, цяпер мне шкада сябе...

Ён пайшоў. Юстына паднялася наверх у свой пакоі і ўпала ў крэсла. Яна глыбока задумалася, паўгадзіны правяла ў разважаннях... Потым яна раптам паднялася і падышла да люстэрка ... Ёй упершыню захацелася з такой увагай і цікаўнасцю зірнуць на ўласны твар... агледзець яго... Нарэшце слёзы зноў набрынялі ў яе чорных вачах, і яна села ў крэсла ...

Так яна сядзела амаль у непрытомнасці, забыўшыся, што ўвесь дом знаходзіўся пад яе наглядам. Тут яе і знайшоў шамбялян, які выкарыстаў момант, каб наблізіцца да той, якую ён у думках называў "прыгажуняй", і з прыязнай усмешкай, на дыбачках падыйшоў да яе..

–Што пан кажа? што пан кажа? – Юстына спалохана ўсхапілася.
Рукі шамбяляна красамоўна склаліся, вочы паднялі ў неба і – ён уздыхнуў.

– Вам павінна быць сорамна, – паглядзеўшы на яго з пагардай, папракнула Юстына - што гэта за намёкі? ... Калі гэта жарт, то я іх не люблю; калі залёты, прызнаюся, я не ведаю, што сказала б на гэта пані шамбялянава...

Прыгожая паненка сваімі словамі нібы абліла шамбяляна халоднай вадой, ён апусціў рукі, адвёў іх ўбок, павярнуўся і коратка пагаварыў:

– Да пані!
Затым, гледзячы досыць злосна, павольна выйшоў. Юстына адразу рушыла за ім да пані шамбялянавай.

Толькі што ад яе выйшаў Анквіч, і яна сядзела з кіслай мінай. Як толькі яна ўбачыла Юстыну, тут жа задумала шукаць іншы шлях ...

– Калі ласка, не здзіўляйся ... Я хачу, каб ты была на балі ... навошта рабіць выгляд, што ты не хочаш ... кажы шчыра... Так ці не? Я думаю, што гэта ў цябе капрыз...

– Не капрыз – я не люблю баляванняў, – адказала Юстына, я да іх не прывыкла. Я не хачу там быць ... але калі вы кажаце мне ...

– Я не настойваю на гэтым ... Я не хачу тыраніі, я не хачу прымушаць ... Я не забараняю і не запрашаю цябе ... Хоць ты рэдка выходзіш з дому, здаецца, але ты ўмееш страляць вачанятамі, і ўжо знайшла ў каго... Так-так! Калі ласка, неківай галавой. Што б гэта значыла, што Анквіч так хоча, каб панна Юстына абавязкова была на балі? ..

– Але ... я ...

– Толькі не не кажы мне гэтага, – насмешліва зазначыла пані. Гэта не безпадстаўна. Бач, ён яе не ведае, і ён так горача прымае яе бок. Ты ведала, як дагадзіць – я ўпэўнена ... Міністр, у рэшце рэшт, і сам вялікі баламут. Я ведаю, таму што ён да мяне заляцаўся , але, ведаючы яго, я дала яму адстаўку...
Прыгожая Эмілія раней прызнавалася ў гэтым толькі аднаму мужу... Юстына маўчала.

– Я не зайздрошчу гэтым заваёвам... але вольная воля ... Дык як жа з балем?

– Вы самі як бы адштурхоўваеце мяне ад яго ... - сказала Юстына, – ды і ў мяне самой няма ахвоты ісці на той баль...

– Я дала Анкевічу слова, што ўгавару цябе.

– Але што мне рабіць, я ж яго не ведаю!" – перапыніла Юстына. – А ён цябе ведае, я ж бачу, ты яму упала ў вочы! – засмяялася шамбялянава, – Так-так! ... Я не загадваю, але прашу цябе пайсці...

Яна паглядзела на яе, Юстына, здавалася, думала.

– Ты ідзеш?

–Хай будзе так, як вы жадаеце.
Прыгожая Эмілія моцна пачырванела... кіўнула галавой, і выйшла, кінуўшы толькі:
– Падумай, што апранеш!

Баль павінен быў адбыцца на наступны дзень... Юстына з пакаёўкай працавалі ўсю ноч ... Раніцай прыйшоў брат. Убачыў сукенкі і ўпрыгожанні, раскіданыя па пакоі, і быў трохі здзіўлены ... Юстына з нейкім незвычайным выразам твару, раздражнёная, выйшла павітацца і сказала яму:

– Я іду на баль...

Сэрца паручніка сціснулася, ён адчуў, што павінен штосьці сказаць...

– Гэта вырашана? - спытаў ён пасля кароткага маўчання і роздуму.

– Так, гэта….
Юстына ўзяла нейкую хусцінку ў руку, яе твар здаваўся разгарачаным.

– Сам пан Анквіч, зрабіў гэты гонар, ці гэтую ганьбу, – сказала Юстына дзіўна змяненым голасам, – папрасіў пані шамбялянаву, каб яна ўзяла мяне з сабой. Я павінна выконваць падвойныя загады.
Яе вочы паказалі брату, што ягоны загад таксама ўлічаны. Паручнік збялеў і разгубіўся. Калі справа дайшла да расставання, таму што Юстыне ў гэты дзень

было не да яго, – брат пацалаваў яе руку і ціха сказаў: – Прабач... з майго боку гэта было вар'яцтвам.

- Ты навучыў мяне называць гэта гераізмам! – з сумам адказала сястра .

Строі панны Юстыны былі вельмі сціплыя, нават не модныя, але ў белай сукенцы, малінавых стужках і старанна расчэсаных валасах, з кветкай на галаве яна была вельмі прыгожая. Дзяўчына выглядала не такой ужо вабнай, прыцягальнай, какетлівай, але было ў ёй нешта абаяльнае, сур'ёзнае, што абуджала жывую цікавасць. У яе былі рысы твару і выраз, хутчэй сумныя, чым ажыўленыя. Яна павінна была выдзяляцца сярод іншых дам, апранутых модна, прыцягальна. Калі панна Юстына прыйшла суправаджаць пані шамбялянаву, тая з цікаўнасцю паглядзела на яе, ацаніла кожную дэталь адзення з галавы да ног, здавалася, нібы распранала вачыма; нічога не сказала, але нахмурылася.

– Панна, ты хочаш зрабіць мяне смешнай гэтай вось прастатой адзення? Не, ты падабрала ўсё добра, – сказала яна, – Я прызнаю твой выдатны густ ... але глупства – апранацца на баль сціпла. Лепш не ісці.

– Дык я магу застацца? - спытала Юстына.

– Ах, не! ... Ты пойдзеш, панна, збіраць сваю даніну!.. Я ад гэтага не адступаю.
Сама яна была ў белай сукенцы, на цялесным фоне добра выглядалі стужкі, брыльянты, пёры ... усё, чым магла сама сябе ўпрыгожыць. Яна была бясспрэчна прыгожая, як сумная вакханка, якой надакучыла жыццё, яна несла ўсё сваё мінулае напісаным на твары…

Шамбялян, які суправаджаў жонку ў бальным адзенні, быў адным з найпрыгажэйшых мужчын, якіх можна было сустрэць у свецкім грамадстве. Ён ведаў пра гэта і паспрабаваў апрануць самы вытанчаны ўбор, які інстынктыўна мог выбраць. Прыродзе ўдалося разыграць жарт, спарадзіўшы гэты ідэал, які, здавалася, жыва звязаны з паэзіяй, сагрэты пяшчотай, надзелены зіхоткім розумам. А на самай справе шамбялян быў прыгожай васковай фігурай... Пакуль ён маўчаў, яго можна было любіць.

Паэзія, розум, пачуцці, у яго ўсё было на твары, ён паказваў гэта звонку, а як асоба ён быў цалкам пусты. Сінія вочы разумна глядзелі з першага погляду, вусны ўсміхаліся дасціпна, ён стаяў з вялікай грацыяй, выбіраючы пазіцыі... хадзіў, выдатна кланяўся... але толькі ў гэтай маўклівай ролі быў цікавы. Ён таксама мала размаўляў, як мы ведаем, і вельмі верагодна, што спакойны выгляд і звычка маўчаць, якія яму пасавалі, зрабілі яго такім стрыманым у гаворцы.

Калі яны прыехалі ў Гародню, у салонах першага паверха сабралася вялікая колькасць гасцей. Вокны былі адчыненыя ў сад, часткова асветленыя загадзя, каля дзвярэй сабралася мноства вайскоўцаў, пры якіх, акрамя таго, у параднай форме стаяла ганаровая варта.

Дам праводзілі наверх ад'ютанты і афіцэры.

Хоць столь была крыху нізкай, салоны былі ярка асветлены, упрыгожаны мноствам кветак, яны былі адпраўлены Сіверам, якраз такія, якія ўсім спадабаліся, яны выглядалі вельмі вясёлымі і свежымі ... Побач з расійскай формай былі бачныя прыгожыя польскія сукенкі і вытанчаная французская вопратка. У першым салоне з боку цэнтра, у вянку з упрыгожаных дам, напалову аголеных, з бліскучымі брыльянтамі, стаяў Сіверс... сціпла апрануты, з зоркай, у фраку. З першага погляду было зразумела, што ён не быў ні расіянам, ні славянінам. Расіянін у гэтым становішчы высока падняў бы галаву, паказаў бы сваю веліч, яскрава праявіў сябе, гучна гаварыў бы, нешта загадваў. Сіверс жа выглядаў сціплым, халодным, сарамлівым і няўклюдным . Ён знарок прыняў сціплую паставу, каб здавацца вышэйшым. Дабразычлівая, але фальшывая усмешка была на ягоным твары. Было відавочна, што яго думкі былі ў ста кіламетрах ад гасцей, пакоя і весялосці. Ён асцярожна азірнуўся, але вочы ахапілі ўсё і застылі. Ён маўчаў, здавалася, што ён нібыта прадчувае горшыя наступствы падзей..

Шырокаплечыя генералы выглядалі перад Раутэнфельдам[2] машынамі, якімі ім кіраваў. Ён шаптаў ім нешта і рассылаў з даручэннямі. Сярод афіцэраў быў князь Цэцыянаў, прыгожы мужчына, усходняга тыпу, выдзяляліся на твары чырвоныя вусны, свяціліся вялікія вочы... Вочы ўзіраліся ў жанчын... рот смяяўся без прычыны, без смеху. Ён не мог стрымацца, каб не загаварыць з кімсьці. Здавалася, ён не можа стаяць на месцы.

Жанчыны ўваходзілі адна за адной, адна прыгажэй за другую, ззялі тварамі, усміхаліся рускім, немцам, усім… нават сценам. Сіверс сустракў дам, штосьці ім казаў з вытанчанай ветлівасцю, яму было сумна, але трэба было выконваць абавязкі гаспадара. У іншых пакоя можна было бачыць мноства паважаных гасцей, якія назіралі за купкамі разадзетых жанчын.

Тут стаяў Машынскі, адзін з самых надзейных, верных дарадцаў Сіверса, у яго быў хаця і непрыгожы, але разумны твар ... рукі ён трымаў у кішэнях, задумлівая галава... вочы наўмысна адвярнуліся ад людзей ...

---

[2] Раутэнфельд - расійскі генерал, які камандаваў царскімі войскамі, якія былі размешчаны ў Гродне ў 1793 г.

Бяліньскі – бледны і сціплы, баязліва глядзіць у бок Сіверса, Сулкоўскага, падобны на шляхціца і дзяржаўнага дзеяча, хаця яго нельга было назваць тым ці іншым. Манчыньскі, Плятэр, Касакоўскі таксама былі тут. Некалькі дэпутатаў сейма стаялі воддаль, сярод іх Юзэфовіч і Падгорскі. Ажароўскі стаяў каля дам, дзе былі графіня Камелі, баранэса Хэйкінг, панна Нарбут, графіня Патоцкая, усе яны былі нібы на адзін твар, прыцягвалі ўвагу сваёй прыгажосцю, вытанчанасцю, годнасцю.

Паміж вайсковымі і цывільнымі асобнымі групамі стаялі дыпламаты.

Тут стаяў адзінокі Бухгольц, да якога наўрад ці хто хацеў падысці, акрамя Сіверса, – непрыкметная фігура, нічога істотнага, акрамя відавочнага дрэннага настрою.

Ён агледзеў сцены, панюхаў кветкі, глянуў на гасцей, ён не ведаў, што рабіць з самім сабой. Людзі, якія праходзілі ў залу, міналі яго, не жадаючы нават прывітацца.

Ён сам звярнуўся да непрыкметнага галандца з Крыгенхайма, які быў тут флегматычным гледачом, бо для яго ўсё, што адбывалася тут, наўрад ці было зразумела і цікава.

Шведскі міністр Толь, прыгожы русы бландзін, з ваеннай паставай, размаўляў з дамамі, якія ўважліва глядзелі на яго. Іншай, палітычнай місіі ў яго на гэты раз не было.

Англічанін Гардзінер выглядаў абыякавым паводле звычаю свайго народа, ён як быццам нічога не бачыў – і бачыў усё. Можна было падумаць, што ўвесь гэты спектакль здаецца яму страшэнна нудным.

Калі увайшла пані шамбялянава, Сіверс правёў яе да купкі дам, кіўнуў яе прыгожаму мужу і з усмешкай павітаўся з паннай Юстынай, да якой тут жа падышоў, нібы ён ужо даўно вычэкваў яе, Анквіч. Яму не трэба было знаёміцца з ёй, бо ён яе ўжо бачыў. Усе яны згубіліся ў натоўпе.

Усе, хто тут быў, нібы некага чакалі. Скіроўвалі вочы да дзвярэй, шапталіся і ўглядаліся. І тут на лесвіцы зашумела, нібы марская хваля, усе галовы ў салоне галовы павярнуліся ў адзін бок, нешта прадвешчала прыход важнай асобы. Тыя, хто стаяў воддаль, нават сталі на дыбачкі. Хтосьці падбег да Сіверса, прашаптаў яму нешта да вуха, і пасол паважным крокам пайшоў да дзвярэй.

Натоўп раздаўся... Цішыня запанавала ... Здавалася, госці перасталі дыхаць.

У дзвярах з'явілася чароўная і дзівосная фігура.

Гэта была жанчына ў муслінавым плацці, якое мала што прыкрывала, цудоўна прыгожая, ганарлівая, як боства, якое спускаецца з нябёсаў, сыходзіць да смяротных... Прыгожы, але непрыемны выраз, класічныя рысы, маленькага твару... упрыгожанага двума чорнымі вачыма, нібы вострымі кінжаламі, амаль пагрозлівымі.

Алмазны ланцужок, уплецены ў валасы, накручаныя з вялікім мастацтвам, аплятаў галаву некалькі разоў. Ізумруды са смарагдамі ззялі на адкрытых алябстравай шыі і грудзях... Велізарная зашчапка пад трымлівала грэчаскую накідку-хітон, перакінутую праз плячо, а таксама бліскучыя нарукаўнікі і бранзалеты. Пас, усаджаны брыльянтамі, дапаўняў убор. На аголеных нагах бранзалеты і катурны. Як індыйская пагада, у бляску зорак, так выглядала гэтая багіня. Гэта было цудоўна і смешна ... Камедыі больш, чым адметнасці і смеласці.

– Маркіза Люлі! Маркіза! – шапталі утрапёныя госці.

Яна ішла ад дзвярэй з такой упэўненасцю і ўрачыстасцю... такім крокам ходзяць лэдзі і каралевы, яна як быццам рабіла ласку, каб паказаць сябе вачам смяротных.

Без гэтых брыльянтаў яна ўсё роўна была б прыгожая – але ёй гэты строй падыходзіў... яна не магла б быць прыгажайшай, нават калі хацела б.

Ад гэтай лялькі праціналі дрыжыкі – такое яна стварала ўражанне ў жанчын. Усе збянтэжана адступіліся ад яе: сваім строем, вытанчанасцю яна перамагала ўсіх, ніхто не мог дараўняцца да яе. Яна асляпіла іх усіх гэтым тэатральным спектаклем ...

Князь Цэцыянаў прашаптаў суседу, што ён аддасць жыццё, калі толькі яна дазволіць яму пацалаваць сваю нагу. Галовы затлуміліся... аж да ап'янення. Анквіч, які стаяў за шамбялянавай і паннай Юстынай, спытаў:

– Што вы скажаце пра маркізу?

– Падобна на казку пра тысячу і адну ноч... – адказала Юстына , – але як выглядаем мы ў параўнанні з ёй?

– Ні адна з жанчын не згубілася ў параўнанні, – сказаў Анквіч, – а вы асабліва, таму што вы захапляецеся прастатой, гэтак жа, як яна пышнасцю. І ў гэтым розніца паміж вамі, бо яна, здаецца, не верыць у сваю прыродную прыгажосць, апранаючыся так вычварна, яна, здаецца, не давярае сама сабе...

– Вы памыляецеся, – халадна адказала Юстына, – для мяне тут крыўды аніякай.

– Вы не былі б жанчынай.

– Я не належу да таго кола жанчын, якіх граф ведае ... Я яму чужая.
Пані шамбялянава, пачуўшы шэпт, павярнулася, паглядзела на Анквіча і пагразіла шматзначным жэстам. Ён падышоў да яе.

Тут якраз вайсковая музыка пачала іграць паланез Агінскага[3], і Сіверс, падаўшы руку княгіні Радзівіл, распачаў баль. За ім рушылі гетман Касакоўскі з генералавай жонкай Муханавай, генерал Дунін з пані Ажароўскай, Бяліньскі з нейкай рускай дамай і... цэлы шэраг дам і паноў. Эмілія трапіла ў рукі нейкага задыхлівага саноўніка у польскім адзенні, у яго былі такія потныя рукі, што пані Эмілія адчувала гэта нават праз пальчаткі. Юстыну выбраў Анквіч... Зіхатную Люлі запрасіў на танец Толь, шведскі міністр, які павінен быў нізка нахіляцца да яе, а яна не асмельвалася ўзняць вочы на яго.

Так пачаўся гэты выдатны вечар... Ноч высвеціла зоркі на небе, ззяла асвятленне ў садзе ... І было весела. многія хацелі плакаць.

А з-за платоў выглядаў натоўп аслупянелых людзей і нічога не разумеў.

Толькі некаторыя ўздыхалі…

* * *

У той час, калі першыя карэты заязджалі ў Гародню, у невялікую браму са двара ў дамініканскіага кляштара ўвайшоў паручнік, азірнуўшыся назад, каб убачыць, ці не шпіёніць хто-небудзь і можа ўбачыць яго , прычыніў дзверы і пабег прама ў манастыр.

Каля дзвярэй стаяў святар у белым, які, здавалася, яго чакаў. Надышла гадзіна змяркання. Святар кашлянуў, нібы падаў знак, паручнік жвава наблізіўся да яго.

– Я , здаецца, не спазніўся, – ціха сказаў паручнік.

– Мы чакаем, – адказаў айцец Патрыцый Собек, азіраючыся. – Нам трэба асцерагацца. Хадзем…

[3] Шырокавядомы паланэз “Развітанне з радзімай” Міхаіл Клеафас Агінскі напісаў годам пазней, пасля паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Але Крашэўскі не памыліўся: Агінскі быў аўтарам шэрагу паланэзаў, у тым ліку і напісаных раней.

Святар моўчкі прайшоў па калідоры да дзвярэй бібліятэкі, пастукаў. Яны адразу ж адчыніліся. Пакой быў з некалькімі вокнамі, але ў гэты час усё было ў цемры, так што некалькіх чалавек у ім можна было пазнаць толькі тады, калі яны наблізіліся. На сценах былі паліцы кніг, фаліянты ўнізе, невялічкія стосы папер уверсе. Пасярод, на стале, два глобусы і велізарная кніга. Хоць кампанію складалі некалькі чалавек, было вельмі ціха, яны гаварылі шэптам. Свецкія людзі, як было відаць з касцюмаў, належалі да цывільнага стану, большасць насіла сціплую польскую вопратку. Калі айцец Патрысій прывёў паручніка, усё наблізіліся да яго. Некаторыя, як сябры, паціснулі руку брату панны Юстыны, іншыя пазнаёміліся з ім. Сябрамі ён лічыў Мікорскага, Краснадэбскага і Сямнеўскага а пазнаёмілі яго з Кімбарам, Шыдлоўскім, Карскім і шэрагам іншых. Некаторы час панавала цішыня.

– Няхай панове гавораць смела, не трэба занадта моцна зніжаць голас, – сказаў айцец Сомек ... – для гэтага я і выбраў бібліятэку, бо тут па калідоры ніхто не ходзіць, таму – поўная бяспека.

– Гаворыце, паручнік, – папрасіў Мікорскі, – мы згараем ад цікаўнасці. Але нам трэба было старанна выбіраць месца і час, бо тут за кожным з нас Баскамп шпіёніць, кроку не дае ступіць без нагляду. Мы павінны былі адзін за адным прабірацца сюды і з такой жа асцярожнасцю павінны вярнуцца...

– Сёння ён на балі, – прамовіў айцец Собек – у Гародні, gaudium magnum (вялікая радасць. лац), увесь вышэйшы свет п'е і гуляе там, давайце скарыстаемся гэтым і пачастуемся добрымі навінамі.

– Дрэнных навін няма, – адказаў паручнік Сольскі, – але і добрых таксама. Трэба пацярпець. За мяжой нашы людзі працуюць, пішуць, грамадскую думку рыхтуюць у Еўропе ... але ж гэта яшчэ не ўсё. Нам самім трэбава варушыцца.

– Вядома, – дадаў Кімбар, – святыя словы! Ніхто не дапаможа, але важна, каб не перашкаджалі. Нічога, і мы нешта ды зробім.

– Сумняваюся, што яны паспеюць нам вельмі моцна перашкодзіць, сказаў паручнік, – у Францыі свая бяда, кожны павінен абараняць свой дом, каб яго не захапілі чужынцы... Паміж Аўстрыяй і Расіяй, якія разрываюць нас, дамоўленасцей сёння няма. Аўстрыя, падманутая ... шкадуе, але занадта позна. Расія падманула ўсіх, і яе, ашукала Прусію. Назбіралася шмат прэтэнзій. Імператрыца злуе на прускага караля, які забірае сваю частку зямель, Аўстрыя кідаецца ва ўсе бакі... рознагалоссі ў лагеры ўсіх нашых рабаўнікоў.

– Як вы думаеце, што нам рабіць?

Паручнік хвіліну маўчаў.

– А якія думкі ёсць у вас? – спытаў ён.

– Што мы, дэпутаты, можам? – адказаў Мікорскі, – Раздзіраючы раты, лаяцца, бездапаможна злавацца. Мы пратэстуем і пратэстуем, мы не спынімся да апошняга

дня. Але мы жменька малюсенькая – астатнія, як падпісалі паўнамоцныя дэлегаты, так падпішуць і іншыя, дэлегаты адрэжуць самае жыццёвае, самае прыгожае, самае дарагое сэрцу краіны. Бачыце, палічыце, колькі нас тут і колькі ў Гародні – у вас будзе стольк тых, хто стаіць за незалежнасць. і тых, хто страціў сумленне і здаўся ... Чым нам дапаможа слёзны пратэст?

– Мы аддамо жыццё, калі гэта трэба! – дадаў Краснадэбекі,

– Божа мой! – усклікнуў Цемнеўскі – Гэта не самая вялікая ахвяра для радзімы.

На хвіліну запанавала маўчанняе, і тут з цемры пачуліся галасы – змрочныя, задуменныя, цвёрдыя, без крыку і ўзнёсласці:

– Так, мы аддадзім усё жыццё.

Паручнік прыслухаўся.

"Гэта наш абавязак," – гаварылі ўсе згодна, – "няма слова. Кожны з нас салдат, не кажучы ўжо пра тое, што мы прадстаўляем тысячы людзей, бо мы прыйшлі з мандатам ад іх, і тысячы будуць ганьбіць нас, калі ў нас няма мужнасці – так! Але ці з'яўляецца гэты парламент апошнім словам?"

На гэтае пытанне не адказалі.

– Дык што далей? спытаў Карскі.

– Што яны маюць на ўвазе? Гвалтоўны падзел і межы, накладзеныя як ланцугі? – сказаў паручнік. – У рэшце рэшт, некалі мы былі палякамі і за кардонам... Рэч Паспалітая была сцёртая з карты Еўропы, але не з нашага сэрца.

– Мы хочам быць свабоднымі – і мы будзем ...

У цемры пачуліся некалькі ўздыхаў.

Ксёндз Собек падняў рукі ўверх ...

– Давайце разбярэмся, колькі нас, і станем сцяной, сарвем ланцугі! Давайце адважымся і перш за ўсё ўзброімся цярплівасцю і настойлівасцю. Трэба варушыцца... Мы разарвем ланцугі!

– Паручнік, – перапыніў Краснадэбскі. – Мы ўсё гэта ўсведамляем і ведаем, і думалі – слова ў слова тое ж самае ... Але гэта было б добра з амбона ці з трыбуны ... нам гэтага будзе мала ... скажыце нам, што рабіць – і як? Хто падасць ініцыятыву? Хто пачне?

Усе чакалі адказу з увагай і нецярплівасцю. Паручнік ціха прамовіў:

– Справа адраджэння распачата ўжо. Каля яе групуюцца людзі. Я прыбыў ад тых, хто далучыўся да яе. Каб даведацца, што тут робіцца. Але гэта пакуль таямніца. Урэшце рэшт я не патрабую ад вас прысягаць на тое, каб захаваць яе.

Але кожны з нас ахвотна прысягне, каб захаваць таямніцу.

Кожны з прысутных падняў правую руку, ксёндз таксама. “Клянемся!”

У пакоі пацямнела. Купка людзей згуртавалася цясней, яны абняліся ... Гэта была прысяга па покліку душы.

Раптам за адной са сцен бібліятэкі пачуўся ціхі скрып, з верхняй паліцы некалькі кніг упалі на зямлю. Гэты гук невымоўна напалохаў прысутных.

Хтосьці з іх кінуў айцу ключ ад вялікіх дзвярэй бібліятэкі, якую Сомек замкнуў, некаторыя кінуліся да вокнаў, хтосьці як бы пад пагрозай вялікай небяспекі, схапіўся за шаблю.

Ксёндз Патрыцый, мабыць, самы смелы з іх, пабег да месца, дзе ўпалі кнігі і, здзіўлены, убачыў, што ў сцяне бібліятэкі былі дзверы, пра якія ён не ведаў. Разам з палічкамі кніг яны раптам зрушыліся, што і было прычынай падзення некалькіх тамоў. Дзверы трымаліся на іржавых завесах, імі даўно не карысталіся, ксёндз пра іх не ведаў.

Айцец Патрыцый адамкнуў дзверы, выбег у калідор, дзе было цямней, чым у бібліятэцы. Там нікога не было. Уваходныя дзверы былі замкнёныя. Шукаючы цёмных кутоў, ён нікога не заўважыў, вярнуўся ў бібліятэку, спалохаўшыся, выціраючы пот з ілба. У бібліятэцы ўсе моўчкі чакалі яго. . Паручнік ужо агледзеў дзверы і ўпэўніўся, што падслухоўваць з-за іх было немагчыма. Хтосьці, відаць, спрабаваў прабрацца ў цемры, але не атрымалася. Ён не мог ведаць, што тут сабралася некалькі чалавек. Усе супакоіліся ... але настала змрочная цішыня, калі святар вярнуўся ў адчаі..

Ён кляўся, што рэч гэта для яго незразумелая ... тлумачыў, што музей зачынены і жывой душы ў ім няма ...

– А можа ён затаіўся недзе ў куце... шпіён? – спытаў Краснадэбскі, у цябе няма свечкі – агарка якога?

Тут якраз Карскі ўспомніў, што дзеля больш позніх вяртанняў у кватэру ён трымаў у кішэні крэсіва і трут. Толькі ён сабраўся выкрасаць агонь, як Сямнеўскі знайшоў некалькі запалак.

Нарэшце разгарэўся агонь, святар з ім зноў пайшоў у музей. У пакоі было немагчыма схавацца, ніякіх патаемных куточкаў, шафаў, сталоў, прылад... Галоўная дзверы, калі б хто-небудзь іх адчыняў ці зачыніў, выдалі б скрыпам.

Гэта здавалася неймаверным.

– Калі б я верыў у прывідаў, – прамовіў Мікорскі, – я б падумаў, што прывід даў нам папярэджанне, каб наш сакрэт не мог быць раскрыты, або нас Бог ахоўваў ... мы павінны сысці. Трэба, каб ніхто не ішоў адразу проста дадому ... паспрабуем падмануць тых, хто за намі сочыць.

Ксёндз Патрыцый быў бледны, расстроены, у яго былі слёзы на вачах, яму хацелася неадкладна пайсці да прыёра і хаця б зрабіць што- небудзь, каб выявіць здрадніка.

– У манастыры няма ніводнай жывой душы, якая б па-іншаму думала, і не павінна высочваць... якая тут можа здрада ?

Нічога не заставалася, апроч таго, як разлучыцца – і ў кожнага былі свае спосабы на гэта і свая сістэма ...

– З вашага дазволу, – сказаў Мікорскі, нас збянтэжыла вялікая паніка, – але чаго на сваёй зямлі мы баімся? У рэшце рэшт, яны нас ведаюць як аблупленых. Ні для каго не сакрэт, што мы не раздзіраем Польшчу. Мне, Краснадэбскаму, Карскаму, – нам няма чаго баяцца... Нічога страшнейшага, чым нам прызначана лёсам.

– Давайце возьмемся за рукі і і выйдзем праз вялікую браму, не робячы гэта сакрэтам, так будзе лепей, чым якія апраўданні. Хай застанецца адзін паручнік, які збіраецца сысці незаўважаным.

– Святая праўда! – усклікнуў Краснадэбскі – пойдзем, мы прыкрыем адступленне. Хто з намі?

Кімбар і Семнеўскі далучыліся да іх, святар адчыніў дзверы.

– Дабранач!

Але другая купка пасля сустрэчы пайшла іншым шляхам, цішэй і асцярожней. Паручнік застаўся з манахам.

– Што мне рабіць?

– Не бойцеся ... вы застанецеся незаўважаным, – прашаптаў дамініканец, але давайце затрымаемся, пакуль усе не паразыходзяцца.

Абодва сумна стаялі каля свечкі, якую пакінуў ім Карскі. Зноў абышлі музей і бібліятэку.

Убачыўшы, што ўжо ўсе сышлі, айцец Собек адчыніў акно. Ноч была зорная ... ціхая, прыгожая. У мястэчку ціха, быццам бы ўсё згасла ... і толькі лёгкі ветрык сярод гэтай цішыні з прыносіў з Гародні прыглушаныя гукі музыкі.

У гэтых начных адгалосках оргіі п’яных безразважных грэшнікаў было нешта такое страшнае, такая сатанінская іронія, што слёзы застылі ў вачах святара. Стогн болю быў бы менш страшным, менш пакутлівым.

Гэтыя гукі то змаўкалі, то зноў раптам выбухалі з бездані ... і раствараліся дзесьці ў паветры. А з боку Гародні, асветленая ілюмінацыя адбівалася ў небе ружовым агнём.

– Ідзі, васпан, – сказаў святар. Собек, – мы шчасліва сыдзем.

Яны пайшлі.

У калідоры было цёмна. Рука спадарожніка вывела паручніка да дзвярэй

касцёла.

Тут была ноч ... і мір. Перад вялікім алтаром вісела лампада, свяцілася і мігцела ... а цень на падлозе дрыжаў, як жывое святло. Дзе-нідзе ў алтары блішчала пазалота ... Яны на хвіліну сталі на калені і памаліліся.

Нягледзячы на іх спробы не шумець, рэха паўтарала кожны крок, які яны рабілі ў пустой царкве, яно гучала дзіўна ... Брама з закрыстыі вяла прама на вуліцу. Святар зірнуў праз закратаванае акно, потым ціха і асцярожна павярнуў ключ у замку... дзверы адчыніліся, паручнік застаўся адзін.

– Добрай начы ... – прашаптаў яму ўслед святар.

Паручнік далёка адыйшоў ад касцёла, хацеў быў падацца дадому, але падумаў, што трэба яшчэ нешта зрабіць з самім сабой. Ён не хацеў ісці дадому адразу.

"Я пабуду ў Гародні", – сказаў ён сабе, – “буду глядзець на гэтую іх радасць здалёк”.

Ідучы па горадзе, ён мала каго сустрэў. Цікаўны натоўп акружаў сад у Гародні, дзе ладзіўся феерверк, астатнія даўно спалі. Набліжаючыся да дамоў Тызенгаўза, ён убачыў ажыўленне на вуліцах. П'яныя салдаты, вясёлыя дзяўчаты, весяліліся ў карчомках пры дарозе. Тут ладзіліся кампаніі, лілася гарэлка. Уздоўж вуліц стаялі карэты, коні драмалі, фурманы на бярвёнах і камянях гулялі ў карты пры вулічных ліхтарах. Каля садовых варот стаяла вартавая, а за аховай, як рухомы вал, тоўпіўся цікаўны натоўп, які варушыўся, смяяўся, перагукваўся прыглушанымі галасамі... Адсюль праз адчыненыя вокны гасподы былі відаць пары і людзі, якія танцавалі на светлым фоне жылых пакояў ... Музыка іграла бадзёра і гучна .... У некаторых пакоях узнімаліся тосты.

Паручнік сам падышоў да аховы. Павітаўся са стралком з Екацярынаслаўскага палка, які, быў у адстаўцы, але ў форме. Паручнік і салдат паглядзелі адзін на аднаго. Салдат працёр вочы і наблізіўся...

– Паручнік, якое супадзенне!, – ўсклікнуў ён, – ... я хацеў сустрэцца з вамі.

– А што ты тут робіш? – спытаў паручнік.

– Я ў адстаўцы! адказаў салдат з усмешкай, – і тут ... проста гляджу ... Я ж мясцовы ... Але праходзьце ў сад.

– Дык нельга ж...

– Ды што там! Дайце два злотыя, і салдаты пусцяць.

Паручнік прыслухаўся да гэтай парады і праслізнуў у сад ... салдат рушыў услед за ім, правёў яго і знік у натоўпе слуг, якія атачалі двор ...

* * *

У залах, дзе віраваў баль, усё было змешана самым дзіўным чынам: размовы, заляцанні, палітыка, п'янства, гульні, хабарніцтва і пагрозы. Усмешкі і панурыя твары, п'яныя воклічы і гукі музыкі. Шэпт кахання і дамоўленасці на заўтрашнюю сесію... Сіверс атрымліваў справаздачы, перасцярогі, кампліменты, нагадваў, абяцаў, ён прапанаваў прысмакі і злосна адводзіў вочы ...

Юзафавіч кланяўся нават лакеям, каб выклікаць прыхільнасць. Прыгожая Люлі пачала танцаваць гавот, а гледачы аслупянелі ад захаплення. Гэта быў той гавот, які танцавалі пры двары нябожчыка Людовіка XVI., бо маркіза быў эміграткай, ці, па меншай меры, выконвала ролю вялікай жанчыны, якую выгналі ... і размаўляла пра пакараных смерцю на гільятыне сяброў з найвялікшай патэтыкай.

Пасля размоў Сіверс падышоў да яе і пачаў з ёй ціхую размову. Графіня Камелі магла б раўнаваць, так ласкава гаварыў са сваёй добрай старой сяброўкай, такі ён быў прыязны і мілы да яе...

Ён пайшоў з ёй у гасцiную, бо ў зале , нягледзячы на адчыненыя вокны, тлум і цяпло зрабілі духату нясцерпнай. Але спярша яны хацелі зайсці ў другі салон, дзе дэпутаты і сенатары размаўлялі ў купках ... у трэцім была гульня, на двух сталах ляжалі кучкі залатых манет.

Заклаўшы рукі за галаву, дзве гадзіны князь скарбнік стаяў у брудным фраку і глядзеў на стол, не адрываючы ад яго вачэй ... Сліна цякла з яго вуснаў, а ён не адчуваў гэтага, Тапталіся па ягоных нагах, ён не звяртаў увагі на гэта, яго штурхалі, ён не зважаў. У думках ён таксама гуляў у карты...

Сіверс прайшоў праз гэты салон ... За ім быў кабінет ... Ён папрасіў маркізу адпачыць тут; яна кінулася на канапу. Потым падняла голую нагу з брыльянтавымі пярсцёнкамі ў залатым браслеце, пацягнулася да Сіверса, каб пацалавацца... Але ў Сіверса, здаецца, не ўзнікла ні найменшага жадання пакланяцца гэтай увасабленай Афрадыце ...

Яны ціха размаўлялі па-французску ... Голас Сіверса быў мядовым мілым, мяккім, добрым ... гучаў у вушах, як шум вясновага ветрыку. Сам стары меў выгляд філосафа, які смуткуе над няшчасцямі чалавецтва.
" Chère marquise (дарагая маркіза), – казаў ён, – Вы ўсемагутная... Вы можаце ўдыхнуць пачуццё розуму і ўмеранасці ў гэтых людзей О! Палякі такая дзіўная нацыя! Такая сумесь цнотаў і заганаў ... такая амальгама таго, што ў свеце самае высакароднае і самае звыродлівае ...”
Ён склаў рукі ...

– Як я тут пакутую!

Можна было падумаць, што гэты мяккі пакутнік сапраўды атрымаў карону...

– Прынамсі, chère marquise , ты мусіш паўплываць на караля ... Кароль не зможа супрацьстаяць табе...

Тут ён панізіў голас ...

– І паверце мне, пані, акрамя прыхільнасці двара, якую я абяцаў, вы зробіце шмат для сям'і Бурбонаў.

– Ах! гэты бедны кароль, – сказала Люлі ... гэты бедны кароль! Мне яго шкада ...

– Варта было б яго шкадаваць, – уздыхнуў Сіверс, – калі б ён сам не быў вінаваты ва ўсіх яго бедах ... Якая непаслядоўнасць у справах! Калі б ён аддана ставіўся да Расіі... як бы ўсё па-іншаму пайшло...

– А што адбываецца? – прашаптала яна, гледзячы ў вочы старому чалавеку, як быццам хацела паспрабаваць свае сілы ў гэтай сферы, – што адбываецца?

– Сейм, да таго ж, будзе бурным,– мякка сказаў Сіверс, – мы разумеем, што ўсе ў гэтай краіне павінны гуляць у гэтай камедыі, сумны супраціў і патрыятызм ... Для мяне гэта сумна, праўда, але ў канчатковым выніку ... калі трэба ... Я пашлю генерала Раўтэнфельда і два батальёны салдат, і ўсё скончу ... Але не дазваляйце каралю цягнуць з падпісаннем дагавора. Літлепаж гарантуе, што ён падпіша яго. Некаторыя, як, напрыклад, Дэконскі, які яму блізкі, - кажуць, нібы ён клянецца, што лепш дасць адрадзэзаць сабе руку ...

Маркіза пахітала галавой.

– Як вы думаеце ...

Прыгажуня доўга гуляла з веерам, разглядала на намаляваныя на ім малюнкі, нічога не сказала, узняла галаву і ціха прашаптала з какетлівай усмешкай:

– Nous lui ferons signer ça! (Мы прымусім яго гэта падпісаць! франц.) Сіверс узяў яе за руку...

– Імкніцеся да гэтага ... падрыхтуйце яго ... скажыце яму ... што яго сітуацыя будзе пагаршацца пры доўгім супраціве... Імператрыца хоча гэтага ... і яе воля павінна быць выканана ...

Маркіза ўстала з канапы і пачала папраўляць фальбоны сваёй муслінавай сукенкі, якая прыкрывала формы настолькі прыгожыя, што, гледзячы на іх, хацелася ў іх верыць.

– Ах! Дагавор з Расіяй, – сказала яна, – урэшце няма ніякіх сумневаў, што і многія дэпутаты і кароль падпішуць – mais l'autre (але іншыя)...

Яна састроіла іла спалоханую міну.

– Ах! Я гэта ведаю! Я ведаю! Усе кажуць – хай імператрыца возьме ўсю Польшчу - хай возьме нас ... давайце не будзем дазваляць кіраваць тым, хто здрадзіў нам ... У мяне проста слоў няма, настолькі гэта агідна.

Дзеля гэтага трактату… зраблю ўсё, што змагу…

Прусія прымусіла нас ... мы неахвотна аддаём ім гэтую краіну ... Гданьск і Торунь у іх рукі !!! Але палітычныя патрэбы .... Яны маглі б наблізіцца да нас і прымусіць нас .... Так ужо здарылася!

– Ах! Я не разумею нічога ў палітыцы, – адказала жанчына ... Я толькі ведаю, бачу, што дагавор з Расіяй нам больш выгадны ..., чым з кім іншым ... і кароль ...

– Скажыце яму прама, што мы не можам супрацьстаяць... Імператрыца падпісала дагавор ... Яна не дазволіць нам цягнуць больш ... Дайце яму адчуць, што барацьба не пойдзе на карысць... У ёй няма сэнсу. Паспрабуйце схіліць на свой бок пані Кракоўскую ... Я вельмі на вас разлічваю, я ўмею быць удзячным, зраблю для вас усё пры двары.

Стары працягваў шаптаць яшчэ нешта, але Люлі слухала няўважліва, часам ківала галавой, павярнуўшыся да яго, вусны яе ўсміха ліся... Яны прыйшлі да пагаднення, і яна была рада скончыць размову. А тут якраз дарэчы абвясцілі, што графіня Камелі будзе спяваць.

У залу ўвайшлі Сулкоўскі і Бяліньскі, далучыліся да кампаніі маркізы, Танец скончыўся , танцоры адпачывалі, прыгожая Камелі ўжо стаяла каля фартэпіяна і запытальна глядзела на дзверы, праз якія павінен увайсці Сіверс. Яе таксама акружыла вялікая група залётнікаў, якім яна штосьці расказвала... Яе брат, граф Марэлі, трымаючы гітару ў руцэ, таксама збіраўся іграць... З'явіўся Сіверс, яго маленькія вочы глянулі на графіню.., Яна абвясціла, што праспявае венецыянскую баркаролу ... голас у яе быў цудоўны... гэта на самай справе было прыгожа ... Бурным апладысментам не было канца ...

Выступленне графіні завяршылася незвычайным сюрпрызам. Граф Марэлі навучыў сястру рускай песні... калі яна праспявала яе, афіцэры ў экстазе зрабілі амаль што невялікую салон-рэвалюцыю ...

Пакуль усё гэта дзеялася Анквіч, наколькі яму дазваляла прыстойнасць, і, не баючыся скампраментаваць дзяўчыну і сябе, не адыходзіў ад Юстыны. Спачатку пані шамбялянава, не сцярпеўшы, пачала злавацца, аднак не на Анкевіча, а на сваю таварышку. Яна прыпісала ёй віну за яе бессаромную какетлівасць, бо яна баламуціла старога распусніка... Колькі разоў яна павяртала галаву да Анквіча, туманіла бровы, давала яму знак, што яна дужа незадаволена. Мармытала сабе пад нос – бессаромнасць !! шамбялян таксама звярнуў на іх увагу, калі б не быў такі вялікі сход і неабходнасць трымаць капялюш пад пахай, мог бы і ён сказаць Анквічу штосьці непрыемнае.

Самае дзіўнае было ў тым, што сціплая, спакойная, сарамлівая панна Юстына раптам апынулася тут, як быццам гэта было ёй прывычна, нібы ў сваёй

стыхіі. Нішто не здзівіла яе, нічога не зрабіла яе сур'ёзнай, спакойнай, яна амаль не зважала на тое, што акружала яе.

Анкевіч першы раз гутарыў з Юстынай, думаў, што яна акажацца нясмелай істотай, і таксама быў уражаны.

Гэтая шляхцянка , якая ніколі не бачыла баляванняў, ніколі не бачыла свету... смялейшая была больш, чым сама шамбялянава, якая смела танчыла ў белай зале, дзе быў кароль. Яна нядоўга была адна. Прыгожая Эмілія заўважыла, што пышныя чары яе прыцягнулі да сябе палкоўніка Касталінскага. Як сапраўды рашучы вайсковец, палкоўнік, хоць і не ведаў блізка пана шамбяляна , падышоў да яго і прашаптаў на вуха:

– Слухай, мне твая жонка вельмі спадабалася, ты мне яе прадставіш? Я – Іван Пятровіч Касталінскі.

У шамбяляна пярэчанняў не было, і, не ведаючы добра палкоўніка, ён прадставіў яго жонцы. Той адразу падсеў да прыгожай Эміліі і пачаў сыпаць ёй неверагодныя кампліменты.

Ён ужо выпіў многа шампанскага а таму як чалавек з адкрытым сэрцам, расказаў, можа, значна больш падрабязна такое, што звычайна не раскрываюць на пачатку знаёмства. Пані шамбялянава весела смяялася, і не вінаваціла яго ў гэтым захапленні, бо ў яе было правіла быць паблажлівай да людзей, якіх яна сустракала. Пасля паўгадзіннай размовы палкоўнік Касталінскі апавядаў пра сябе многа такога , што можна было выказаць з толькі з ваеннай адкрытасцю. Потым ён палічыў, што няблага будзе ўзяць мужа пад руку і прывесці ў буфет. Жонка толькі папрасіла, каб новы знаёмы не паіў яго, бо гэта яму вельмі дрэнна адгукнецца.

Гэта, аднак, не перашкодзіла шамбяляну піць шампанскае з чалавекам, які яму дужа спадабаўся. І менш, чым за гадзіну, Касталінскі праводзіў яго за руку да крэсла, а далей пра ўсё, што адбывалася на балі, добры шамбялян зусім не памятаў... круціліся перад вачыма розныя постаці, і, што яго найбольш турбавала, ён не мог угледзець сярод іх жонкі. Ён бачыў толькі Касталінскага і натоўп, а нейкая нечаканая слабасць у нагах не дазваляла яму рухацца ... Ён хацеў падняцца з крэсла, але не мог... І, нягледзячы на гэта, ён быў вясёлы, не думаў, што гэта неяк павінна скончыцца. Побач з ім быў Анквіч, які размаўляў з Юстынай ... Яны размаўлялі паміж сабой вельмі ажыўлена.

Гэтая размова пачалася з для Юстыны з адчуджанасці і насцярожанасці, але ўмелы міністр ведаў, як яе весці, каб яна неўзабаве стала абодвум цікавай. У яе нават прачнулася пачуццё спачування…

Анкевіч распавёў пра свет і людзей ... пра жыццё.

– Мне жыццё ўжо нават мала цікава, – сказаў ён даверліва і шчыра. –Святары праўду кажуць – яно зменлівае, хуткаплыннае... непрадказальнае. Трэба жыць

момантам, а не разлічваць наперад, што рабіць…

– Значыць, усё ваша жыццё складалася з выпадковасцей?

– Так яно і ёсць, прыгажуня, – адказаў Анквіч, – і калі лёс дазваляе правесці такі вось вечар побач з чароўнай ... як панна, істотай ... мы не патрабуем большага, мы не маем права ... Няхай заўтра прынясе тое, што хоча.

– Але гэта страшна! – усклікнула Юстына.

– На свеце ўсё страшна, – прамовіў Анквіч ... – і мы нават ... часам анёлы ... а потым злачынцы... Ainsi vale monde! * (Такі ўжо свет ! франц. )

– Мне шкада вас...

– Дзякую, панна! Але, калі ласка, не шкадуйце мяне, і ўсё ж, калі панна не супраць, то не адмовіць мне зноў мець такое шчасце...

І зноў размова пацякла надзвычай ажыўлена, Анквіч так не зрушыў з месца...

Юстына ўзняла вочы на галерэю, дзе была музыка ... і збялела : яе брат схаваўся ў куце і са складзенымі рукамі сумна глядзеў на яе...

Словы застылі на яе вуснах..

Дзень працадзіўся праз вокны, веснавы ранак разгарнуўся ва ўсёй пышнасці, госці пачалі разыходзіцца ...

Анквіч суправаджаў Юстыну, Касталінскі ўзяў пані шамбялянаву пад руку, папрасіў адвесці шамбяляна да карэты нейкага афіцэра.

На наступны дзень камергер зноў убачыў свет божы ў ложку, і было так позна, што ўжо за гадзіну да гэтага палкоўнік Касталінскі піў каву з "боскай Мілюсяй".

Калі ён прыйшоў да яе бледны і хворы, то атрымаў самую страшную вымову і запэўненне, што калі нешта падобнае паўторыцца, яго давядзецца пакінуць дома, каб ён не ганьбіў сябе ў добрай кампаніі.

Усё гэта адбілася на яго адносінах да ветлівага палкоўніка, які з таго часу стаў для яго мішэнню нянавісці разам з Анквічам.

* * *

У сядзібе Барысевіча гаспадары і іх пастаяльцы жылі ў добрай згодзе, хаця напачатку гаспадыня была незадаволена тым, што муж пусціў на пастой расійскіх салдат і злавала на яго. Краснадэбскі аказаўся дабразычлівым смелым і стойкім на пасяджэннях сейма чалавекам, не баяўся тых непрыемнасцей, якія яму пагражалі. Дома ён быў ціхі, спакойны і мяккі, як ягня. Ён з задавальненнем размаўляў з Барысевічам, размаўляў і з гаспадыняй часам падоўгу і з задавальненнем, нікому не

перашкаджаў і стараўся ўсім дагадзіць. Ён быў заўсёды сумны, асабліва, калі вяртаўся стомлены пасля сядзення ў сейме. І ён, і Мікорскі ніколі не запрашалі да сябе гасцей, бо ведалі што за домам назіраюць людзі Баскампа, рана сыходзілі з дому, позна вярталіся, спакою не парушалі.

За першыя два месяцы пастою яны своечасова заплацілі, а на трэці папрасілі пачакаць, і Барысевіч супакоіў іх

– А! Мне зусім не пільна! Заплаціце, калі зможаце, я вас не выганю...

Мікорскі ў вольны час сядаў пры вакне і глядзеў на суседні двор, усё спадзяваўся, што там паявіцца прыгожая панна Юстына, але яна рэдка паказвалася ў вакне. Ад брата, якога ведаў даўно, ён таксама не мог нічога дазнацца пра яе, бо паручнік апошнім часам недзе таіўся.

Вынікам збліжэння Юстыны з Анквічам, пра што прасіў брат, было перш наперш тое, што міністр ў адной з размоў з ёй расказаў: Сіверс даведаўся пра адпраўку ў Гародню з Лейпцыга (Ліпска) эмісара ад Патоцкага і Калантая, і яго ўжо шукаюць, але не ведаюць, хто ён. Дазналіся толькі, што ён ужо тут. Баскамп запэўнівае, што адшукае шпіёна. Малады Ігельстрам наўмысна накіраваны ў Саксонію, даведаўся пра адпраўку кагосьці з Лейпцыгу; хто пасланы, ён не ўведаў, але знешні выгляд ім быў апісаны дакладна. Апісанне цалкам адпавядала знешнасці паручніка.

Напалоханая Юстына папярэдзіла брата, і ён хаваўся. Пры сустрэчы Юстына са слязамі на вачах расказала брату гэтую навіну, а ён падзякаваў і, як мог, суцяшаў яе:

– Ну вось, бачыш, мая прапанова аказалася карыснай. Ты сама не ведала, якой добрай выведніцай ты аказалася. Хто можа не аддзячыць табе прызнаннем за тваю ўсмешку?

Юстына нявесела глядзела на яго.

– Так, дзеля цябе і дзеля Польшчы я раблю тое, аб чым ты мяне папрасіў, але мне брыдка. Часам галава кругам ідзе… здаецца, што вар'яцею…
– Так, не жаночая то справа, мілы браце. Анквіч, мне здаецца, усур'ёз захапіўся мной, ласкавы да мяне, многа расказвае. Але ж я не магу прымаць гэта ўсур'ёз, я занадта многа ведаю пра яго з аповядаў пані шамбялянавай, яна мяне перасцерагала…. Ён чалавек небяспечны… я яго баюся… Я не паважаю яго, а ён мяне шкадуе. Калі яго няма, я ненавіджу яго... абураюся. Калі ён сядзе каля мяне, пачне гаварыць, ён мяне зачароўвае, я забываюся на сябе ... Баюся, што паддамся слабасці.

Паручнік нічога не мог адказаць на гэтае сумленнае прызнанне, ён адчуваў

сябе невымоўна няёмка, адчуваў віну.

– Калі ты адчуваеш сябе такой слабай, – сказаў ён, – пазбягай яго, – хаця ты і самі бачыш, колькі ты можаш зрабіць карысці. Анквіч тут самы дасведчаны, праз яго можна загадзя даведацца, што будзе рабіцца, а наша група зможа паспець падрыхтавацца.

Юстына нічога не адказала, падыйшла да акна, каб брат не ўбачыў яе слёз. Нягледзячы на падазрэнні з адчыненымі дзвярыма ў бібліятэку, на наступны дзень Собек пераканаў сябе, што ў манастыры няма падазронай душы і, што, магчыма, вецер перамясціў гэтыя паліцы. Паручнік, не маючы нідзе больш прытулку, хаваўся нейкі час у манастыры. Звычайна сястра заходзіла ў царкву і бачыла яго ў рызніцы.

Анквіч і палкоўнік Касталінскі бывалі ў шамбяляна ці не штодня, яны сталі амаль сябрамі дома, нягледзячы на тое, што ні ў грош не ставілі гаспадара. Няшчасны муж не адважыўся паказаць ім сваю непрыхільнасць і гнеў, які ён адчуваў; жонка загадала яму быць ветлівым. Палкоўнік абняў яго, пацалаваў, і ўсё паіў, весяліў яго... і шамбялян нёс сваё няшчасце амаль стойка ... Толькі аднойчы,калі ён быў вельмі п'яны, пачаў з некалькі няёмкіх папрокаў, каб прысарамаціць Касталінскага, а той н пацалаваў яго ў твар, абняў яго, а потым жорстка пасмяяўся з яго разам з жонкай. А сам ён атрымаў жорсткую вымову. Тры дні яна яму не дазваляла пацалаваць яе руку, ён не знаходзіў сабе месца, і толькі на чацвёрты дзень яму загадалі стаць на калені, пацалаваць ножку ... і больш не выказваць такой дурной рэўнасці, бо ў наступны раз яна не адпусціцца…

У гэтай пастаянна паўтаральнай бітве, перамяжоўваючыся баляваннямі, гульнямі і інтрыгамі ... сейм працягваў абмяркоўваць Прускі дагавор.

Апазіцыя адчувала, што Расія не зможа так доўга супрацьстаяць Прусіі і яе драпежным намерам, а таму з новай сілай пайшла ў наступ. Уся партыя Касакоўскага, якая адкрыта выступала за далучэнне Рэчы Паспалітай да Расіі, а не за падзел, таемна зліласяз апазіцыяй. Касакоўскі маўчаў, калі Сіверс загадваў, але ягоных загадаў не спаўняў. Апазіцыю падтрымлівалі ў ў Пецярбургу сілы на чале з Зубавым і Маркавым і давяралі ёй. Пасол ужо здагадваўся, што ў Ігельстраме яму трэба бачыць ворага, які адчувае што вораг і Касакоўскі і што нельга вельмі давяраць Зубаву. Таму ён быў у вельмі не простым становішчы. Тым больш, што яму трэба было выконваць загады імператрыцы, каб знайсці падтрымку ў яе..

Паручнік Сольскі, які атрымаў загад сачыць і паведамляць пра тое, што адбывалася ў Гародні, што ўведае ад дэпутатаў з розных куткоў краіны, каб стварыць будучую арганізацыю паўстання, па-ранейшаму хаваўся ў Гародні па

чарзе то ў дамініканскім манастыры, то па розных кватэрах, якія мяняў кожную ноч. Некалькі дзён запар ён сустракаўся з сястрой у царкве... Юстына амаль заўсёды прыносіла яму нейкую важную навіну, а Сольскі, заняты змовай, нават не заўважаў, што яна страшна змянілася, была вельмі ўзбуджанай, часам яна выглядала амаль здранцвелай. Урэшце ў адзін з першых жнівеньскіх дзён, сустрэўшыся з ёй, ён жахнуўся выразам на яе твары, яе гаворкай і зменамі, якія адбыліся ў ёй. Праўда, яна стала прыгажэйшая, чым раней, і не па гадах сур'ёзная. Яна нервова смяялася, у вачах былі слёзы, шчокі то чырванелі, то бляднелі.

У той дзень яна не адчувала сябе добра, калі пачала расказваць брату пра план Сіверса, каб прымусіць парламент падпісаць апошні дагавор. Упершыню паручнік ачомаўся, убачыўшы спакутаваную Юстыну, астрашэў і папрасіў яе, каб яна выкінула ўсё з галавы, забыла ... каб яна вызвалілася з сетак інтрыг, у якія ён яе сам ублытаў.

У Юстыны пацяклі слёзы з вачэй.

– Позна! Занадта позна! – усклікнула яна, сціскаючы рукі брата, а потым апусціла вочы і ўцякла.

Праз тры дні паручнік прыйшоў у прызначанае месца, не вельмі разлічваючы, ўбачыць яе, аднак яна прыйшла, як звычайна, нават вясёлая, хаця гэтая весялосць была штучнай і вымушанай.

Ён зноў настойваў на тым, каб яна адмовілася ад усяго... запэўніваў, што яна ўведала дастаткова, што ён не хоча больш нічога дазнавацца праз яе, на што сястра адказала яму ўсмешкай.

– Прашу цябе, не ўгаворвай. Мне гэта стала нават падабацца. Я стала нібыта ўчадзелай, п'янай, мне падабаецца слухаць гэтыя плёткі, жыць імі, я ўцягнулася ў гэтае жыццё. Ці варта так ужо думаць пра будучае? У мяне яго няма… хіба што звякуюся старой ключніцай у Вяржэйках. Навошта ж нам ашчаджаць тое, што так мала прынагадзіцца нам?

Яна ўздыхнула, засмяялася, пачала расказваць брату, як Анквіч закахаўся ў яе, як многа ён гатовы для яе зрабіць, каб хаця раз на тры дні бачыцца з ёй.

– Ах, як мне шкада гэтага чалавека! – ўсхвалявана прамовіла яна, – якую галаву, які розум яму Бог даў! А характар! На якія высакародныя парывы ён часам здольны, якія гарачыя ў яго пачуцці! Якія здольнасці ... якія гарачыя пачуцці! Такому караблю трэба больш прасторы для плавання!!

Яна зноў уздыхнула, а брату пахвала здрадніку стала непрыемнай.

– Не гавары са мной так, – папрасіў ён – мне балюча слухаць гэта – занадта шмат ты клапоцішся пра яго.

– Так, гэта праўда, –згадзілася яна, – я і сама ведаю, няма такога ўмельства ў мяне – выведваць. Я баюся прывыкнуць да яго.

Яна задумалася, потым узняла галаву, пацiснула плячыма і хваравіта засмяялася, дадаўшы толькі:

– Ён навучыў мяне гаварыць і адчуваць. Ну, чаго гэтае жыццё варта!

Імгненне шчаслівага забыцця, а потым сон жыцця канчаецца!

Яна развіталася са сваім няўрымслівым братам з прытворнай весялосцю. Ён быў не адзіны, хто быў уражаны гэтай зменай панны Юстыны, усе дома таксама заўважылі яе, пані шамбялянава дапякала і сарамаціла яе, шамбялян не падаваў выгляду, маўчаў. Яго больш абыходзіла тое, што ягоная боская Мілюся таксама змянілася. Кожны дзень яна бавіла час з палкоўнікам, калі ж шамбялян заходзіў да іх у пакой, яго адпраўлялі пад прыдуманай нагодай. Дайшло да таго, што палкоўніку захацелася пабываць у Вяржэйках, ён паабяцаў знайсці карэту для паездкі, каб з'ездзіць і ў той жа дзень вярнуцца ў Гародню. Пані гэты праект спадабаўся, але так склалася, што шамбялян праспаў ад'езд, застаўся ў Гародні з паннай Юстынай. Тая з ім не размаўляла. Без запрашэння на абед з'явіўся Анквіч. Па абедзе шамбялян пайшоў паспаць, потым ездзіў на пікнік, Анквіч жа ўсё сядзеў там, і высветлілася, што да позняй ночы ён заставаўся сам-насам з паннай Юстынай.

Шамбялян паспрабаваў падслухоўваць пад дзвярыма, улавіў толькі, што размова была надзвычай ажыўленай, гарачай, вясёлай, але ён наогул нічога не разумеў. Панна Юстына і Анквіч увесь час хадзілі па пакоі, яны спыняліся, гаварылі то цішэй, то гучней... так што нічога не ўдавалася ўлавіць. Для сябе ён вырашыў паскардзіцца жонцы на іх занадта доўгае спатканне. Але так і не дачакаўся, пакуль яна вернецца, пасля поўначы заснуў на канапе. Пані не стала яго будзіць, бо і сама вярнулася стомленая падарожжам.

* * *

У кабінеце Сіверса гэтым днём не было нікога, акрамя самога пасла. Велізарны пакой, завалены паперамі, поўны кветак, з апушчанымі зялёнымі шторамі, прыемнай цемрай і цішынёй. На двары чуваць толькі крокі салдата-вартавога, які хадзіў узад-уперад. На твары старога дыпламата з часу прыезду ў Гародню былі сляды душэўнай барацьбы, трывогі і стомленасці працай. Ён пастарэў у гэтай барацьбе, увесь час стрымліваючы сябе, каб пачувацця спакойным і ўпэўненым ... Маршчыны з'явіліся на лбе, бледнасць пакрыла твар, вочы выдавалі стомленасць, здавалася, што яго хіліць у сон. Ён пісаў дочкам і распавядаў ім пра тую няпростую

задачу, якую ён узяў на сябе, каб задаволіць амбіцыі, заваяваць нешта для сям'і, праславіцца ў свеце як заканадаўца і дыктаваць каралю правы. Ганарыстасць заглушыла сумленне. Ідучы па гэтым шляху, яму давялося забывацца пра сябе, выконваць загады, нават калі яны былі агіднымі і бруднымі. У сваіх лістах да дачок выдатны акцёр мог сказаць столькі, колькі яму трэба, каб вырасці ў іх вачах – але, калі быць шчырым, адчуваў, што ўсё апісаць не можа. З пяром у руцэ ён сядзеў над пісьмом, калі ў дзверы пастукалі. Дзяжурны афіцэр увайшоў і абвясціў, што ў прыёмнай чакае Баскамп ... Сіверс загадаў увайсці. Factotum (майстра на ўсе рукі, лац. ) пасла прыйшоў з дакладам.

Persona gratissima ( пажаданая асоба, лац.) , Баскамп , хаця яго заўсёды трымалі на адлегласці, хаця пра яго гаварылі дрэнна – быў улюбёнцам Сіверса ... Ніхто не служыў яму лепш.

– Што ты мне прынёс? - спытаў Сіверс.

– Ах! гэтыя няшчасныя і бясконцыя падрахункі! – усклікнуў Баскамп, выцягваючы з бакавой кішэні пачаку папер. – У мяне больш няма грошай, а вы ведаеце, што без іх у нас нічога не выйдзе...

– А дзе апошнія пяць тысяч? – спытаў Сіверс.

–Яны патанулі ў кішэнях нашых утрыманцаў, – адказаў Баскамп.

– Я чакаю, што вы, па меншай меры, устрымаецеся плаціць тысячу дукатаў маршалку Літоўскай канфедэрацыі, бо ён мяне лае. Замест таго, каб служыць мне, ён служыць Касакоўскаму, і яны вядуць змову і перашкаджаюць мне ў, як толькі могуць.

– Я спыніў выплату маршалку, - сказаў Баскамп.

– Ажароўскі?

– Выплачана і яму і маршалку Бялінськаму... Гэта асоба каштуе шмат, таму што, наколькі я ведаю, перад пачаткам сейму ён узяў 2200 дукатаў, я выдаткаваў 500 дукатаў на падтрыманне кухні і дома, і вы не можаце напоўніць яго кішэню, ён многа іграе ў карты.

– Але ўсе яны тут гуляюць у гульні, сказаў Сіверс, – я не разумею, куды ідуць грошы, і дзе яны патанаюць. Хто ж у выйгрышы?

– Ёсць спадзяваннт на Манчынскага і астатніх паноў, якія не ўваходзяць у сейм і якія прыйшлі сюды на паляванне. Анквіч і Манчынскі забралі 1500 дукатаў, але ў першага з іх ужо няма нічога. Вы не бачыце у ім пераменаў?

– Якіх?

– Ён так закахаўся ў нейкую бедную дзяўчыну, што забывае ўсё і страшэнна змяніўся. .Варта даць яму папярэджанне.

– О, гэтыя жанчыны! Гэтыя жанчыны! – ўсклікнуў Сіверс, паціраючы лоб, – Яны тут непрыкметныя, але яны іграюць такую страшную ролю ... без іх нам, напэўна, не абысціся. . Анквіч, стары гад, можа падмануць мяне. Думаеш, ён

сапраўды змяніўся?

– Я вельмі сумняваюся, адказаў Баскамп, - я б на яго месцы асцярогся б, у яго сям'я ... а яна простая шляхцянка, а не з вышэйшага свету. Гэта скончыцца сумна для дзявухны, таму што Анквіч – самы небяспечны са спакуснікаў, а дзяўчына сціплая і непрыкметная... Днём раней, я ведаю, ён прабыў сам-насам з ёй да позняй начы, . дома быў адзін шамбялян, у якога жыве дзяўчына... Але яго можна не лічыць. Гэта пудзіла ў парыку.

– Але ж і шамбялян! Ах! Палкоўнік Касталінскі вазіў ягоную жонку да яе ў маёнтак. Ці яна яго ... Г эта невытлумачальна.

Яны пасмяяліся . Сухі смех Сіверса быў іранічны.

– Некалькі тысяч пайшлі на кватэры для дэпутатаў, мы арандавалі іх чатырнаццаць, ды сталаванне і пастой .

Баскамп паклаў паперы на стол, Сіверс доўга ўзіраўся ў іх.

– Я бачу тут у спісе, – сказаў Сіверс, – старога разбойніка, князя-падскарбія Адама... і ён увесь час выпрошвае ў мяне грошы. Ён узяў свае 500 дукатаў?

– Так, але яны ніколі не праляжаць у яго больш за дваццаць чатыры гадзіны. Ён запрашае гасцей ... на ігру і не супакоіцца, пакуль не спусціць апошнюю капейку і пакладзе карты, – сказаў Баскамп.

Спіс дэпутатаў, на які ўказаў Сіверс, быў досыць доўгім, і ў кожным стаяла колькасць ад 100 да 200 дукатаў. Найбольш актыўным выдадзена было 500 і 600 дукатаў. Гэта былі самыя патрэбныя людзі! Сакратары сейма атрымалі па 500, большасці з акружэння караля, за выключэннем Кіцкага і Рыкса не плацілі.

У спісе разам з іншымі, на жаль, быў і кароль яму плацілі за пасаду, тры тысячы чырвоных злотых.

Гэтае імя на чале каштарысу было нейкім сумным апраўданнем для тых, хто ішоў за ім ...

Сіверс прагледзеў спіс і ўздыхнуў.

– Але вы не кажаце мне, васпан, каго вы, нарэшце, выкарыстаеце для самай важнай справы ... хто прадставіць Прускі дагавор?

Баскамп, хусцінкай, выціраў пот з ілба, сапраўды было вельмі горача і справа была няпростая.

– У цябе ёсць чалавек на гэта? – спытаў Сіверс.

– Ніхто не хоча брацца, – ціха адказаў Баскамп. Вы павінны зразумець. Супраць прускага пагаднення існуе такая непрыхільнасць, што ні я, ні пан Бухгольц яшчэ не змаглі знайсці таго, хто змог бы адважыцца. Усе кажуць, што жыццё ў такім разе можа стаць непрадказальным...

– Але ж нічога не зрабілася благога пасля таго, як упершыню быў прадстаўлены дагавор? – спытаў Сіверс.

– Вы не бачыце розніцы. У сейме наўпрост пагражаюць таму, хто дамову з Прусіяй падасць для падпісання, яны адкруцяць яму галаву.

– Не бачу розніцы! – спакойна адказаў Сіверс. – Вы размаўлялі з Юзафавічам?

– Так, і я даў яму 500 дукатаў, але ён уцёк ад мяне.

– А Штэйн?

– Ён не здатны на гэта.

– Дзеваноўскі?

– Не хоча...

Сіверс згадаў некаторыя іншыя імёны. Баскамп толькі паціскаў плячыма альбо сцвярджаў, што гэты чалавек нічога не зробіць.

Спіс платных дэпутатаў, які ляжаў на стале, быў вычарпаны ... Пасол задумаўся.

– Але вам трэба некага знайсці! Нам трэба! Ну хоць бы той жа Бухгольц.

– Ніхто не хоча размаўляць з Бухгольцам. Нават тыя, хто з ім добры, павінны рабіць выгляд, што не ведаюць яго... Буххольц бярэ грошы, але прызнаецца, што нічога не можа зрабіць адзін ...

Ён некалькі разоў прайшоўся па пакоі, за клаўшы рукі за і фрак апусціўшы галаву.

– Вы сказалі, што гутарылі з Пагорскім? - раптам спытаў ён.

Баскамп, нібы злоўлены на нечым дрэнным, пачырванеў і жвава сказаў:

– А як жа! Я размаўляў з ім і – хоць ён адмовіўся – прызнаю, што ўсё яшчэ давяраю яму. Але вам трэба самому пагаварыць пра гэта з ім. Ён учора прайграўся...

– Кожны можа памыліцца… Падгорскі – гэта той бледны, худы, з мёртвымі вачыма, як сонны, чалавек, які, здаецца, нічога не бачыць і нічога не чуе, а проста рухаецца. Здольнасцей ніякіх ...

– Так, аніякіх, – пацвердзіў Баскпамп, – ён можа сказаць толькі тое, што мы яму падкажам….

– Але ж гэта якраз тое, што нам трэба... Калі ласка, адшукайце яго і скажыце Бухгольцу, што ён павінен плаціць за сваю непапулярнасць у свайго караля і нацыі.

– Буххольц кажа, што за гэта ўжо заплаціў каля 15000 чырвонцаў, – засмяяўся Баскамп.

– Гэтага яшчэ недастаткова, – запярэчыў пасол, - ён жа паляк, паміж намі кажучы.

– Я сёння не выйду з дому, таму што не хачу бачыць караля, я не задаволены ім: замест таго, каб дапамагчы мне, ён застаецца нейтральным, і ад гэтай пазіцыі да апазіцыі толькі крок... Я хачу даць яму адчуць гэта.

Баскамп памаўчаў, а потым сказаў:

– У Фрыза гэта будзе найбольш эфектыўна ... Фрыз смела прамаўляе ўсё ...

– Вазьміце маіх коней, – прамовіў пасол, – нельга часу губляць, ідзіце, шукайце Падгорскага, дзе хочаце, і прывядзіце мяне да мяне. Вы, напэўна, знойдзеце яго там, дзе ён іграе ў карты гуляе ці напіваецца ... І калі ласка, паспяшайцеся ... бо заўтра пара дзейнічаць больш рашуча!

Сіверс сеў, каб пісаць свой ліст далей ... але тут ад'ютант зноў з'явіўся ў дзвярах і абвясціў, што просіць аўдыенцыі серадзскі ваявода Валеўскі,

Валеўскі выступаў супраць канстытуцыі 3 мая, падтрымліваў Таргавіцу, ён быў заўзятым рэспубліканцам, як і многія іншыя ... але ён пралічыўся bona fide ( добрасумленна. лац. ) сама імператрыца з Пецярбурга хацела, каб ён быў маршалкам сейма, але, той, даведаўшыся што на ім будзе абвяшчацца падзел краіны, адмовіўся ... Яму пагражала канфіскацыя маёмасці.

– Забярыце і дабро, і жыццё ... Калі краіна страчана, няхай усё каціцца к чорту! – упарціўся ён.

Сіверс прымушаў яго, прасіў, абяцаў, нічога не дапамагала. Валеўскаму, паважаючы гэтую непахісную, але запозненую сумленнасць, дазволілі пакінуць Гродна. Яго выдалілі і выдалілі назусім. Цяпер справы ягонай сям'і прывялі яго ў Літву, узнікла і цікавасць да спраў у сейме.

Ён прыйшоў да Сіверса.

Увесь ягоны знешні выгляд распавядаў пра тыповага Паляка (Палануса), тыпу, які быў пашыраны ў саксонскі перыяд у краіне ... Велічэзны, важкі, бочкападобны, з доўгімі вусамі, у польскай вопратцы, з шабляй-карабеляй, ён павольна ўвайшоў у кабінет, засунуўшы рукі за пас.

Сіверс холадна, але ветліва сустрэў яго ...

– Што тут робіць пан ваявода? – спытаў ён.

– Блукаю. Не магу знайсці сабе месца, – адказаў Валеўскі і ўздыхнуў.

Абодва памаўчалі. Уважлівым вокам ваявода глянуў на спіс,які ляжаў на століку, прабег па лічбах. Ваявода нахмурыўся і зноў уздыхнуў.

Сіверс заўважыў цікавасць ваяводы, зразумеў, чаму ён уздыхнуў. У яго не было прычыны хавацца без патрэбы, таму насмешлівая ўсмешка з'явілася ў яго на вуснах.

– Ведаю, пане ваявода, – ён сказаў, – што вы адкрыта скардзіцеся на нас і наш гвалт ... Ні Жэвускі, ні вы, ні нават канцлер Малахоўскі, не былі сябрамі Расіі, вы не шкадуеце нас і сёння ... А мы пакутуем ... Імператрыца разумее вашы пакуты, яна не злапомная.

– Хай сабе мы стогнем, але на свабодзе! – панура адказаў ваявода.

– І па ўласнай віне. – дадаў Сіверс.

Ваявода глянуў на яго застылымі вачыма.

– Так, – сказаў ён, – хто не прызнае грэх! Мы абавязаны! ... але вы добра працавалі і доўга прышчаплялі грэх, гніль, хваробы, усякае зло ... Мы чыталі творы гэтага Фрыдрыха, якога свет называе вялікім ... ад іх мы ведаем, што змова вялася з Польшчы на працягу стагоддзяў, каб зрабіць яе слабай, пагарджанай,... труцілі нас і атруцілі ўрэшце.

– Пане ваявода!– усклікнуў пасол, выпростваючыся. – Гэта крыўдныя словы!

– Мы тут адны , пан пасол, – адказаў Валеўскі, – акрамя Бога нас ніхто не чуе .... Я не магу хлусіць, не магу, я занадта стары .... Я не баюся, вы ведаеце, вашага правасуддзя.

– Ты папракаеш нас карупцыяй! Удар пад дых! Але хто нас сапсаваў, разлайдачыў, атруціў і ачмурыў, калі не вы? Гэта была сістэма, план, задача. Вы спаілі нас, пакуль мы не спіліся ....

Ён уздыхнуў, і слёзы пасыпаліся з яго вачэй.

– Мы ахвяры нашых грахоў! – дадаў ён, але Бог сам будзе судзіць, ці можна іх назваць нашымі, і ці ёсць справядлівасць ...

Тут яму не хапала голасу. збянтэжаны, Сіверс змоўк, яму стала не па сабе.

– Ты плаціш сёння купленым, але з дзяцінства ты ўкараніў у іх распусту ... марнатраўства ... прадажнасць...

Запанавала цішыня, ўсхваляваны Сіверс змрочна мерыў крокамі кабінет.

– Васпан надоўга тут? – спытаў ён.

– Не думаю, – адказаў Валеўскі . – У Гародні для мяне няма нічога прывабнага. Адпачну і паеду далей….

– Васпан раздражнёны, як я бачу, – дадаў Сіверс, спрабуючы супакоіцца, – у такім стане назіраць нашу важданіну было б непрыемны для пана ваяводы. .... Я б дабразычліва параіў ехаць адсюль што найхутчэй.

Ваявода змахнуў слязу, смеючыся.

– Вашу параду я выдатна разумею, – сказаў ён, -- можа быць, вы так непакоіціся за маю бяспеку, што дасце мне ганаровую варту аж да Валыні?

– Я не думаю, што гэта будзе неабходна, – суха сказаў пасол.

– Так, заўтра я паеду", - сказаў Валеўскі.

– А сёння вечарам, дзе вы думаеце быць? – спытаў Сіверс. Я запрашаю вас да сябе.

– Шчыра дзякую, адказаў ваявода, устаючы і кланяючыся, – я з дарогі стомлены і, напэўна, застануся ў карчме ... І не крыўдзіцеся на мяне я б звярнуўся да сваіх землякоў з такімі ж горкімі словамі. Мне шкада іх! Навошта даліваць жоўці у кубак, які падрыхтаваны для іх ....

– Ах! Для вас знайшліся б кубкі чыстага віна ... да якіх і жаўцізна не горкая,

Сіверс казаў не без ядавітага намёку, бо ведаў, што ваявода любіць выпіць.

– Вы памыляецеся, – прашаптаў Валеўскі, - няма для нас кубкаў без гэтай нябачнай кроплі ... а колькі горкіх слёз у іх трапляла – адзін Бог палічыць... Але ... навошта нам больш гаварыць пра гэта, – дадаў ён, – калі сёння я не магу і не хачу нічога іншага. Вельмі вам удзячны ... (ён нізка пакланіўся) Я пайшоў...

Сіверс пацінуў яму руку і правёў да дзвярэй.

– Дык заўтра ...

– Абавязкова, – паўтарыў ваявода, - вярнуся дадому ... трэба даць адпачыць старым касцям ...

І ваявода выйшаў, крануты кароткай размовай, якая ўсхвалявала яго. Сіверс хацеў сесці, каб пісаць ліст дачцы, – але рука яго дрыжала ... і ён адчуў дзіўную разгубленасць у галаве. Тыя нешматлікія адважныя словы ўпалі яму ў душу, як камень у возера, ад якога па вадзе ішлі кругі. Упершыню за доўгі час чалавечае пачуццё, нейкая жаль і згрызоты сумлення загаварылі ў застылым старым чалавеку .... Ён хацеў уявіць сабе Валеўскага смешным, як і яго мудрагелістую прамову, неразумныя развагі .... Ён не супакоіўся, пакуль сам сабе не нагадаў, што ў свеце было дзве маралі, якія не знаходзіліся ні ў якіх адносінах паміж сабой – маральнасць прыватных людзей для штодзённага выкарыстання для маленькіх і прасцякоў, а таксама другая –мараль палітыкаў і дыпламатаў, адзіная вартасць якіх – поспех і перамога, і шлях да гэтай вялікай мэты ляжаў, напэўна, і праз падман і праз патрасенні ... Здаецца, ніхто не асуджаў іх за гэта.

Сіверс суцяшаў сябе, што ён распрацоўвае новую канстытуцыю для Польшчы, і думаў, што няшчасці мільёнаў сёння заплацяць тое, што пазней пакаленні дабраславяць...

Ён так думаў, седзячы з пяром,і тут ўвайшоў Баскамп - ведучы з сабой пана Адама Падгорскага, валынскіага дэпутата. Страшная рэч, колькі іх было ў яго ў запасе.

Сіверс проста кіўнуў у знак прывітання, потым устаў, пануры, было відавочна, што трэба аддаць перавагу гэтай справе, не ўсё ж заграбаць жар чужымі рукаміі. Даў знак Баскампу выйсці. Пісар нешта прамармытаў і выйшаў праз другія дзверы.

Падгорскі стаяў моўчкі. Пасол правёў яго да вакна.

– Пане, – пачаў ён, – я разлічваю, што вы зробіце для мяне апошнюю паслугу, яна для мяне вельмі важная. Бо пара ўжо завяршыць тое, што прыспешвае час.

Падгурскі падкруціў вус.

– Пра што гаворка? – спытаў ён.

– А вам хіба не расказаў пан Баскамп?

– Нешта гаварыў, але я не ўразумеў…

— Усё вельмі проста: трэба прадставіць прускі трактат для падпісання.

Падгурскі ўзвёў вочы ўгору..

– Мяне наўпрост у зале тут жа пасякуць шаблямі. Мне б гэтага не хацелася.

– Калі б да гэтага дайшло, – адказаў Сіверс, – я б не дапусціў, каб гэта дзея так трагічна скончылася. У мяне тут салдаты.

– Яны знадворку, а ў зале..

–На абарону стануць афіцэры, яны нікога не падпусцяць.

–Гэта не спыніць тых, хто пагражаў такое ўчыніць!

–Якая вам справа да таго, што балбатуны нечым пагражаюць. – з усмешкай прамовіў Сіверс. – Адноа справа –яны, а другое, тое, што я скажу, у гэтым вялікая розніца. Яы пускаюць словы на вецер, а я раблю справу.

– Але ж і сорамна… – прамовіў Падгурскі.

– Сорамна ім будзе, бо мы паставім на сваім.

– Падгурскі памаўчаў, задумаўшыся. Сіверс наблізіўся і ўзяў яго за гузік фрака.

– Гэта паслуга, якая не ўваходзіць у нашы разлікі, – сказаў ён ціха. – гэта справа Бухгольца, за непрыемнасці, якія вы можаце мець, мы вам заплацім асобна. Я гарантую – не меней за восемсот дукатаў (лічба, як бы гэта ні было дзіўна, праўдзвая. Заўвага аўтара).

Падгурскі моўчкі пакланіўся.

– Крык паднімецца, гэта так, будзе супраціў, адпор. Але самых неўтаймоўных дэпутатаў, якія пойдуць на гэта, я загадаю арыштаваць і вывесці з залы. Так што будзьце спакойны. Буру трэба вытрымаць. Але будзе ваша вялікая заслуга, калі вы нас вызваліце з сеймавага пекла.

Разгублены Падгурскі маўчаў.

– Не адмаўляйцеся, а да вас маю прыхільнасць, буду падтрымліваць, але яшчэ раз прашу, не адмаўляйцеся. Будзеце старацца, і я знайду і яшчэ які-небудзь спосаб вам аддзячыць.

Шамбялян маўчаў.

– Але ж трэба напісаць праект прапановы, якую я мушу падаць, і я…

– Я ўсё разумею, вазьміце яго ў канцылярыі. Я пастараюся зрабіць так, каб

Юзафовіч і іншыя падтрымалі яго. На тым і скончым.

Сіверс уздыхнуў. Тут увайшоў Баскамп з паперамі.

– Мой сакратар заплаціць вам тое, што я абяцаў, неадкладна.

– Пойдзем да мяне, – запрасіў Баскамп.

Сіверс з-за спіны на пальцах паказаў яму лічбу “восем”.

Баскамп і Падгурскі пакланіліся і выйшлі.

— Alea jacta est! (Жэрабя кінуты! – лац.) – прамовіў пасол, і зноў, ужо ў каторы раз, засеў за пісьмо дачцы.

* * *

27 жніўня пратакол, які рыхтаваўся пад началам Бухгольца, павінен быць завершаны. Рыхтаваліся да пасяджэння ўсе, апазіцыя маўчала ... але на тварах было напісана жаданне рашучага супраціву. Перад пасяджэннем галерэю чысцілі ад староннiх людзей. Бледны кароль сеў на свой трон, побач са сталом з раскладзенымі на ім з паперамі. Насупраць яго маршалак, сакратары і парламенцкая канцылярыя займалі больш дальнія сталы. Лаўкі дэпутатаў былі запоўненыя, твары ва ўсіх змрочныя. Некаторыя падавалі адзін аднаму знакі.

Цярпліва чыталіся пратаколы, і тут Падгорскі, выцягнуўшы з-за пазухі лісток паперы, даволі ціха і нерашуча сказаў:

– Пане маршалку, калі ласка, дайце мне слова.

– Валынскі дэпутат просіць слова! – тут жа адгукнуўся Бяліньскі, імкнучыся апярэдзіць апазіцыю.

Лідэры супраціву пераглянуліся.

– Ваша светласць! Шаноўныя… – пачаў Ппдгурскі. І раптам замаўчаў.

У зале пачуліся абураныя галасы.

Бледны, як сцяна, твар выступоўцы паблядннеў яшчэ больш.

Ён зноў пачаў гаварыць, але так ціха, што яго амаль ніхто не пачуў – дагавор… з яго вялікасцю… каралём прускім…

Але да дэпутатаў дайшло, пра што ён хоча гаварыць, і зала загула. Дэпутаты паўскоквалі, некаторыя выбеглі, пачалі акружаць Падгурскага.

– Мы супраць трактату з прусаком! Мы не згодны!

– Здраднік! Як ты можаш абвяшчаць гэта!

– Здраднік! Здрада!

Дэпутат Гадачэўскі схапіўся за шаблю.

– Засяку!

Кароль устаў, спрабаваў нешта сказаць, але ні яго голасу, ні слоў Падгурскага не было чуваць. Узняўся шум, якога гэтая зала яшчэ не чула.

У Падгурскага дрыжалі рукі. Калі гул крыху аціх, ён прамовіў:

– Калі вы не даеце гаварыць… я здымаю прапанову...

Дэпутат Шаблоўскі узяў слова без дазволу і пачаў крычаць:

– Ён хацеў гаварыць пра Прускі дагавор… лёгка здагадацца. Можа стацца, што вы яго прымеце, але хай жа хоць адзін здраднік згіне, хоць адзін з тых, хоць адзін з тых, што падштурхоўвае нас да гібелі, заплаціць жыццём і ганьбай! Богам клянуся: хто асмеліцца ўнесці гэтую прапанову, той пойдзе пад суд як здраднік радзімы! Стаўлю сваю галаву – хай упадзе мая або ягоная!

Так пачалося пасяджэнне, якое ўразіла нават самых смелых. Падгурскі змоўк. Апазіцыя выступіла згуртавана… яму пагражалі…. У паветры насілася: – Здраднік!

Раззлаваны Карскі стаў насупраць трона і пачаў крытыкаваць праект Прускага дагавору. Звярнуўся да караля:

– Ваша вялікасць! Вы так спакойна гледзіцё на ўсё гэта. Тут збіраюцца разадраць краіну на шматкі, а вам, як вы некалі казалі, хапіла б столькі зямлі, колькі можна накрыць капелюшом, і вы былі б на ёй каралём…

Кароль, бледны, як труп, ускочыў з трона. – Я ніколі ў жыцці не казаў гэтых слоў! – закрычаў ён.
– Карскага ў суд! - крыкнуў Мячынскі, - за абразу яго вялікасці...
— У суд! - зала падхапіла – у сеймавы суд!
– Я не патрабую суду ... Я дарую яму гэту знявагу і прашу дараваць Карскаму. – дрыжачым голасам сказаў кароль.

– Хай папросіць прабачэння! – крыкнуў нехта з залы.

Карскі ўсміхнуўся, пакланіўся, падыйшоў да трона і пацалаваў каралю руку.

Каб адцягнуць увагу, дэпутат Шыдлоўскі прапанаваў, каб усе пацалавалі каралю руку. Гэтая цырымонія адняла столькі часу, што і пасяджэнне закончылася. Якраз можна было супакоіцца, параіцца, што рабіць далей. ..

Сіверс забраў паперы і выйшаў, за ім услед пабег Бухгольц, каб паскардзіцца.

– Трэба зноў сыпаць грашыма, – прамовіў Сіверс холадна.

Яны зачыніліся, каб параіцца. Пасля гэтага Бухгольц выйшаў занепакоёны і невясёлы. Сіверс праводзіў яго халодным позіркам.

Яны вырашылі паправіць справы на наступным пасяджэнні, арганізаваць дапамогу Падгурскаму. Але абаронцы баяліся ўзняць голас пад крыкі апазіцыі. Яшчэ больш рашуча, чым напярэдадні, яна патрабавала суду над Падгурскім, яму былі гатовы пляваць у твар. Бяліньскага заштурхалі, сакратароў абражалі. Трывога ахапіла ўсіх.

.Падгурскі стаяў нібы прыкуты да ганебнага слупа, напаўмёртвы, бледны і знямелы. Юзафовіч, Мічынскі, ахоўнікі, якія паявіліся ў зале па загаду Сіверса, не змаглі дапамагчы, іх адцяснілі і злаялі.

Краснадэбскі, Кімбар, Гаслаўскі, Стаіўекі, Карскі і іх аднадумцы крычалі, аж ахрыплі – здраднік! Паказваючы пальцамі на Пагорскага, яны патрабавалі суду. Нічога яму не далі ні прачытаць, ні сказаць, усе патрабавалі, каб гэты нахабны чалавек, які пайшоў супраць усіх, быў прыцягнуты да суду.

Апазіцыя ніколі не была такой адчайна апантанай – гэта быў яе апошні бой, жорсткая бітва на смерць ці жыццё, у якой яна прадчувала сваё паражэнне, але яна хацела выйсці з чыстым сумленнем, зрабіўшы як мага больш, колькі ставала сіл.

Пасля гэтага гвалту і напружанасці дэпутаты нарэшце разышліся,. Кароль канчаткова страціў адвагу і голас, а дэпутаты былі разгубленыя, вярталіся з адным пытаннем: што будзе?

Падкупленыя маўчалі. Яны дагэтуль былі ўпэўнены ў сваёй сіле, а зараз страцілі ўпэўненасць. Сіверс холадна спытаў: што здарылася? Яму бязладна адказвалі, баючыся ягонага гневу. Ён абыякава слухаў іх. Бухгольц быў як апантаны. Ніхто не адважваўся загаварыць з ім. А ён папрасіў дапамогі ў Сіверса. Той паабяцаў, але неяк нерашуча.

І зноў было пасяджэнне, адно з рашучых, з усё большым супрацівам і смеласцю. Падгурскага выпхнулі з залы, і ён сядзеў баючыся высунуцца, у нейкай цёмнай каморцы, у калідоры яму парвалі плашч.

Зноў перамагла апазіцыя. Праціўнікі былі застрашаныя, прысаромленыя, пагарджаныя. Спрабавалі ўгаворваць – над імі смяяліся. Звярталіся да караля – ён

маўчаў, як забіты.

Раззлаваны Бухгольцам Сіверс пагражаў Тышкевічу, злаваўся на караля, які нічым яму не дапамагаў. Прускі пасол сыпаў грашыма і нерваваўся, ніхто, акрамя няшчаснага Падгурскага галасаваць за трактат не рашаўся, баяліся ўсе. Пасяджэннісейма ў гэтыя дні вызначаліся асаблівым напалам жарсці, гарачых слоў, пераходзячага ўсе межы адчаю. Эмоцыі выпліхваліся і на караля. Аднойчы, выходзячы з залы кароль пачуў, як хтосьці сказаў:

– Гэта бацька ўсіх Падгурскіх.

Бяліньскі і ўсе падкупленыя ў гэтым агульным разгары абурэння не маглі нічога сказаць, не выконвалі загады, адступілі, зніякавелі. Анквіч, які доўга адмоўчваўся, холадна пазіраў на ўсеагульнае ўзрушэнне, нібыта спрабуючы зазірнуць у душы. Ён не ўдзельнічаў у спрэчках, нібы хацеў пакінуць за сабой апошняе слова. Пасля пасяджэнняў ён заходзіў да шамбяляна, сядаў у крэсла і жартаўліва абмяркоўваў выступаоўцаў, іх паводзіны, злосна кпіў як са сваіх непрыяцеляў, так і з сяброў.

Панне Юстыне было цяжка зразумець яго… яна зазірала яму ў вочы. Ён здаваўся абыякавым да ўсяго ... да караля, дэпутатаў, паплечнікаў, ворагаў. Ён высмейваў усіх, здзекаваўся з іх слоў, страхаў, пагроз і недаўменна пацiскаў плячыма.

– З кім вы збіраецеся быць , калі здзекуецеся з усіх?– спытала ў яго Юстына.

– Я? Даражэнькая панна, ці ж ты мяне яшчэ не разумееш? – пытаннем адказаў Анквіч. – Я не трымаюся ні за кога. Я нібы ў тэатры, мяне забаўляе відовішча, але не акцёры ці гледачы. Я не прымаю блізка да сэрца і саму падзею, якая скончыцца, нягледзячы на ўсе слоўныя баталіі, так як гэта ўжо жалезна накрэслена. Апладзірую добра разыгранай сцэне, вітаю дабрачыннасць як і чорную зламыснасць у характарах актораў, паважаю талент суфлёра, хвалю прастадушнасць і цярплівасць гледачоў.

Ён паціснуў плячыма. Юстына са страхам глянула яму ў вочы. А ён лагодна ўсміхнуўся ёй.

– Не варта вінавацiць мяне ... Я халодны. Чым я ім абавязаны? Адны вочы панны яшчэ могуць мяне сагрэць.

На тым іх размова шэптам і скончылася ...

Гэта было вечарам у пятніцу. У суботу ўсе папрасілі два дні адпачынку. Фрыз пабег да пасла, даведаўся, што і каралю захацелася адпачыць... знясілены апошнімі бурнымі пасяджэннямі, ён не мог працаваць.

Раніцой Сіверс склікаў сваю раду. Раіліся ўсе разам. Бяліньскі не бачыў іншага паратунку, як толькі ў тым, каб арыштоўваць дэпутатаў, заперці іх у зале пасяджэнняў і не выпукаць, пакуль не падпішуць пагадненне.

Бухгольц насіўся ўзад-уперад, ён ужо нікому не верыў, акрамя Мёлендорфа[4] , які павінен быў увайсці з войскам і пагроза канчатковага падзелу, прымусіць як з нажом перад горлаам дагавор усёё ж падпісаць... Сіверс ... халодна адказаў, што гэта сапсуе справу ў Санкт-Пецярбургу. Усе гэтыя два дні прускі пасол пагражаў, але гэта не вывела Сіверса з раўнавагі. Ён даў паслу зразумець яму, што толькі яму і Расіі будзе абавязаны саступкамі, і калі Буххольц зноў прыйшоў, астрашэлы наступствам ганьбы, жабрацтва, то стары адправіў яго спаць.

– Ідзі, пане, адпачні, супакойся. Трактат будзе падпісаны, я ўжо бачу выйсце з гэтага становішча і знайду сродкі… але вы і пядзі зямлі не возьмеце больш за тое, што імператрыца захоча вам даць. Мёлендорф тут нічога не зробіць. Тое, што магчыма, і што трэба зрабіць, я зраблю сам. Спакойнай начы ....

На працягу дзесяці дзён адбываліся падобныя сцэны. У горад уступіла войска, размясцілася на вуліцах, нікога не выпускалі з хат, замак быў акружаны, дэпутатам пагражалі ссылкай у Сібір і дэпартацыяй; чатыры гарматы, нацэленыя на залу пасяджэння, былі гатовы да стральбы, запальныя фітылі гарэлі, усе гэта маглі бачыць. Палкоўнікі, афіцэры і генерал Раўтэнфельд занялі месца суддзяў, але... нічога не дапамагала.

Бухгольц быў у роспачы. Сіверс, жартаваў, здавалася, што ён ветліва здзекаваўся з яго.

У нядзелю, 11 верасня, параіўшыся з праплочанымі дэпутатамі, стары прыкінуўся хворым, адпусціў усіх, акрамя Анквіча. З халоднай вытрымкай, якая яго ніколі не пакідала, Анквіч гуляў з паперкай, якую ён скруціў у трубку і чакаў, што скажа яму пасол. Яны пераглянуліся. Сіверс апусціў вочы.

– Я не разумею васпана, – сказаў пасол. – Што азначалі вашы паводзіны на апошняй сесіі, што азначала гэтая гарачая прамова супраць прыгнёту і гвалту? Вы прапаноўваеце мне сваё пасярэдніцтва і добрасумленную службу, і ў той жа час прамаўляеце абы што, ручкаецеся з Краснадэбскім, нашым непрымірымым ворагам?

Анквіч усміхнуўся.

[4] Мёлендорф (1724-1816) - генерал, які ўвайшоў у Польшчу з прускім войскам у 1793 годзе.

– Вы ўзорны дыпламат, – сказаў ён, – але вы не ведаеце нашай нацыі так, як я. Польская прырода зусім іншая, чым руская і нямецкая. Існуе двайны спосаб перамагчы нас. Проста прымусіць або дабіцца таго ж абыходлівасцю і мяккасцю, як будзе вам заўгодна. Мне ўдалося пераманіць на свой бок Краснадэбскага, і калі трэба, я прывяду яго і іншых.

– Краснадэбскі не будзе вам карысны, – усклікнуў Сіверс, - бо я загадаю сёння яго выывесці з залы.

– Я здагадаўся пра гэта, – сказаў Анквіч ... – і я падаў яму руку больш ахвотна, таму што гэта будзе заўважана. Мая прамова супраць гвалтавання і прыгнёту, сапраўды, была вельмі прыгожая і гарачая, і яна будзе мне карыснай заўтра.

– Ратунку няма ... Дэпутаты хочуць уцячы ... Касакоўскі і кароль таемна інтрыгуюць ... Я павінен ужываць сілу.

Анквіч маўчаў.

– Я спадзяюся , што я не буду выкарыстоўваць гэта дарэмна ... Я доўга чакаў, але нічога не мог зрабіць з гэтага ...

З расстроеным выглядам міністр паглядзеў на кнігу, якую знайшоў на стале, потым зірнуў у акно, пакланіўся і выйшаў.

– Хто яго тут зразумее? - прамармытаў Сіверс. – І ўсіх іх у агуле….

.

* * *

Дэпутаты, якія былі на пастоі ў двары пана Барысевіча, яшчэ спалі, стомленыя, бо на тыдні пасяджэнні зацягваліся да позняга, калі майстар зайшоў у пакой, каб разбудзіць іх. Барысевіч за гэтыя дні паспеў здружыцца з пастаяльцамі. Краснадэбскі першы сеў на ложку, перажагнаўся.

– Што скажаце? – спытаў ён.

– Справы дрэнь, пане! Салдаты зноў займаюць горад, на вуліцах патрулі. Нікога не выпушчаюць і не ўпушчаюць. . Адзін атрад пайшоў да замка, афіцэры чагосьці ходзяць па кватэрах, толькі сюды яшчэ не зайшлі. Хай вас Бог бароніць, добра было б, каб вы сабраліся і пайшлі адсюль, каб не нарвацца на непрыемнасці.

– А што можа здарыцца? – спытаўся Краснадэмбскі.

– Ды хто яго ведае, што яны могуць учыніць? – гаспадар засмяяўся.

– Каханы пане Барысевіч! – загаварыў Краснадэбскі. – Напэўна, для нас гэта магло б і непрыемным быць, але для справы – хто ведае? Можа было б добра, калі б салдаты нас забралі. Для нас што болей насілля, тым лепш. Бо гэта сведчанне

нашай сумленнасці,

Прачнуўся Мікорскі.

– Чаго не спіцё? Хіба ўжо так позна? – спытаў ён.

– Не позна, – адказаў Краснадэмбскі, – але войска зноў займае горад, як бы чаго не здарылася.

Ён хацеў сказаць яшчэ нешта, але тут увайшоў хлопчык.

– Гэй, панове! Маскалёў паўнюсенькая вуліца.

– Ну і што? Ты да іх яшчэ не звык? – спытаў Мікорскі. – Ідзі, паназірай за імі.

Яны пасмяяліся, а Барысевіч малітоўна склаў рукі і прашаптаў:

– Нічога смешнага няма. Збірайцеся і ўцякайце… хай вас Бог бароніць… а я…

У сенцах пачуўся бразгат зброі.

– Ну вось, я ж вам казаў! – заламаў рукі майстар і выскачыў з пакоя.

Увайшоў той самы афіцэр, які заходзіў да дэпутатаў адразу пасля іх прыезду, за ім увайшлі некалькі салдат. Краснадэбскі накінуў на сябе халат і з вясёлай усмешкай падняўся насустрач гасцям.

– О, стары знаёмы! – усклікнуў ён. – Чым магу служыць пану афіцэру?

Малады афіцэр невясёлым тонам прамовіў:

– У мяне загад арыштаваць вас.

– Як у першы раз? – спытаў Краснадэбскі. Афіцэр сумеўся.

– Мне вельмі непрыемна казаць вам пра гэта, але нам трэба зрабіць гэтае падарожжа разам.

Мікорскі пачуў размову з суседняга пакоя. Не змог утрымацца і ўсклікнуў:

– О, Езус, Мар’я!

Краснадэбскі не варухнуўся.

– Прызнаюся вам, што я - я не супраць таго, каб падарожнічаць – гэта павучальная рэч, а тут яшчэ паедзем за кошт самай светлай імператрыцы, што можа быць зручней!!

Яны змоўклі. Афіцэр сеў... салдаты занялі свае месцы каля дзвярэй, астатнія сталі ля вокнаў.

– А я вольны апранацца? – іранічна спытаў лоўчы. Афіцэр, які быў пакрыўджаны гэтай весялосцю, нічога не сказаў. Увайшоўшы ў спальню і знайшоўшы тут устрывожанага Мікорскага, лоўчы ўзяў яго за рукі.

– Не губляй гонару! – прамовіў ён ціха. Дзеля ўсяго святога – у прысутнасці ворага – ні страху, ні шкадавання! ... Трымайся мужна... не паказвай таго, што на душы ...

Ён паказаў пальцам на неба і пачаў апранацца, штосьці напяваючы.. Мікорскі разгубіўся, не ведаў, што ўзяць у рукі. Ён стаяў, думаючы ... гэтае страшнае слова... Сібір! ... выгнанне, пустэля, сям'я без бацькі, смерць сярод снягоў, без слова суцяшэння, без рукі, якая заплюшчыла б вочы, без блаславення святара… Гэтыя думкі сціскалі ягонае сэрца.

Калі гэта ўсё адбывалася ў сядзібе, па горадзе разляцелася навіна: "Дэпутатаў забіраюць!"

Усё закіпела. Не той страх, якога Сіверс чакаў, але абурэнне апанавала розумы.... Дэпутаты збіраліся групкамі, раіліся, ісці ці не на сесію. Некаторых не выпускалі з кватэры, іншым не дазволілі пакінуць горад. Акрамя Мікорскага і Краснадэбскага былі затрыманыя Скаржынскі, і Шыдлоўскі. Іх агарнуў страх. Параілі пісаць да Сіверса петыцыю... Мікорскі і Скаржынскі падпарадкаваліся парадзе, Краснадэбскі пахітаў плячыма. "Не дачакаюцца яны таго, каб я быў пакорлівым і хадайнічаў. Я маю той гонар, што яны прызнаюць мяне небяспечным ворагам і пагражаюць саслаць. Хай Божая воля будзе выканана”. Сесія яшчэ не пачалася, але горад увесь быў у руху.

У той момант, калі салдаты не маглі прынамсі чакаць яго тут, паручнік, брат Юстыны, прайшоў у пакой да пастаяльцаў, спадзеючыся, што сярод агульнай разгубленасці ён пройдзе ў кватэру незаўважаным. Афіцэр не згледзеў яго ад уваходу, заняты размовай, і ён праслізнуў у другі пакой.

– Куды гэта вас? – спытаў ён.

– Мы нічога не ведаем... у Сібір – упэўнены! – усклікнуў Мікорскі. Краснадэбскі быў спакойны, настроены на гумар.

– Шаноўны паручнік, – сказаў ён, – зараз восень і найлепшы час для палявання. Імператрыца запрашае нас на паляванне - на собаля і сіняга ліса! Цудоўнае паляванне!

Паручнік паглядзеў на адважнага рызыканта. – "У выпадку няшчасця," – сказаў ён, – "магчыма, вы што-небудзь надумаеце папрасіць ці падказаць".

Краснадэбскі схіліўся да ягонага вуха.

– Хай Заёнчак [5]і Касцюшка не спяшаюцца. Трэба пачакаць, пакуль краіна падрыхтуецца, гэта зойме месяц... Калі пачнуць хапаць і высылаць… а гэта будзе, народ абудзіцца.

Яны працягвалі размаўляць напаўшэптам. І аднаму і другому было пра што распытаць, параіцца. Яны ўжо шмат паспелі зрабіць.

Паручнік не захацеў, каб яго заўважылі, пайшоў. Тымчасам афіцэр папрасіў дэпутатаў выходзіць. Са слязамі на вачах, у маўчанні, пачалі развітвацца з гаспадаром.

Краснадэмбскі быў, як заўсёды, вясёлы, Мікорскі задуменны і ўзрушаны.

І тут якраз адбыўся яшчэ адзін нечаканы візіт. Карэта спынілася перад домам Барысевіча. Афіцэр выбег, каб не пусціць госця ў хату, але на парозе паказаўся Баскамп, з паголеным бледным тварам і лісіным позіркам, паказаў яму пропуск.

Ён увайшоў, ветла ўсміхаючыся.

– Мне вельмі прыкра, што я аказаўся тут у такую хвіліну, – пачаў ён.

– Мы разумеем, – перапыніў яго Краснадэбскі, – дзякуй за спачуванне, але ж вы не проста так прыйшлі, мабыць справа якая?

– Я ад пана Пуласкага. Ён папрасіў мяне перадаць вам крыху грошай…

Краснадэбскі не даў яму дагаварыць.

– Дзякуй яму, але мне ягоныя грошы не патрэбны.

Мікорскі дадаў: “І мне таксама”.

Баскамп сумеўся.

– Ён жа хацеў як лепей…

– Як лепей, сказаў Краснадэбскі, – але мы ведаем паходжанне золата пана Пуласкага … яно дрэнна пахне…

Мікорскі кіўнуў галавой.

– Але ж вы самі, панове, прымусілі ўжыць гэты крайні сродак. Зрэшты трэба

[5] Юзаф Заёнчак (1752-1826) – польскі і французскі генерал, удзельнік паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

зразумець і Сіверса. Паміж намі, ён зусім не вінаваты, – прамовіў Баскамп, – слова даю.

– Вядома, мы ва ўсім вінаватыя! – засмяяўся Краснадэбскі. – А Сіверс проста анёл дабрыні, пан Бухгольц сама дабрачыннасць, імператрыца ўсялітасцівейшая, кароль прускі самы дабразычлівы, а нас для пачатку адлупцуюць? Ці ж не так?

Баскампу ягоны здзеклівы тон не спадабаўся.

– Зараз не да жарцікаў! – адрэзаў ён. – Ні сном, ні духам! – запярэчыў Краснадэбскі. А як жа з павагай да дэпутата свабоднай рэспублікі, Рэчы Паспалітай, які асмеліцца сказаць, што ён думае, і прагаласуе па сваім перакананні! Гэта ж якабінства! ці не ты так? Баскамп, раззлаваны, паспяшаўся да дзвярэй, Краснадэбскі рушыў услед за ім.

– Я кланяюся паслу, перадайце яму маё прывітанне. Пану Бухгольцу таксама маё шанаванне.

Баскамп, аднак, не пачуў яго, быў за дзвярыма.

Па абедзе дэпутаты пешшу і ў карэтах з'язджаліся да замка. Краснадэбскі глянуў у вакно.

– Як там будзе без нас? – ён уздыхнуў. – Я гатовы зараз нават апраўдаць пакутніка Падгурскага.

Афіцэр загадаў рыхтавацца да ад'езду. Краснадэбскі паклікаў хлопца-слугу.

– Застанешся тут, – загадаў ён, – пакуль я па цябе не прышлю з дому. Сядзі спакойна і хвалі Пана Бога.

Хлопец заплакаў…

Паштовая брычка і казацкі канвой стаялі каля ганку, тут жа стаялі дваровыя людзі, суседзі. Мікорскі ўжо сабраўся, а Краснадэбскі ўсё яшчэ быў не апрануты, як бы яму і не трэба было нікуды ехаць.

– Ну што, пара! – напомніў афіцэр.

– Куды?

– У дарогу. – напомніў заклапочаны затрымкай афіцэр.

– Ведаеш што, асіндзей – спакойна загаварыў лоўчы, – ты ведаеш, што мяне мая Ліўская зямля прыслала абараняць яе і адстойваць Што б асіндзей сказаў пра салдата, які пакінуў свой пост?

– Але ж васпан абавязаны…

– Не, я не абавязаны. – адказаў Краснадэмбскі.

– Казакі забяруць вас сілай.

Дэпутат замоўк ...

Афіцэр кіўнуў галавой салдатам, якія з'явіліся ў дзвярах ... Плачучы, хлопчык прынёс паліто гаспадару і накінуў на плечы лоўчаму. . [6]

– Вазьміце футра, - сказаў афіцэр. – Ночы ўжо халодныя, мы павінны ехаць і ноччу ...

– Я не настолькі багаты, футра ў мяне няма,– абыякава сказаў Краснадэбскі, – а ў Сібіры футра будзе таннейшае.

– Мы не вязем вас у Сібір, – запэўніў яго афіцэр, а ў ваш дом ці туды, дзе вам спадабаецца.

– Дзе мне спадабаецца? – Гэта цудоўна! - сказаў Краснадэбскі. – Бадай што з гэтай нагоды, я хацеў бы паехаць лепей у Італію, там не трэба купляць футра, і паветра там будзе прыемным.

Каля парога стаяў Барысевіч са сваёй жонкай ...

– Ах! Мой дарагі, даражэнькі гаспадар, – звярнуўся да яго Краснадэбскі, – Я ж вам вінен больш за пяцьдзесят дукатаў. Але я пакіну тут свае рэчы і слугу як бы ў заклад, а грошы прышлю з дому.

– Божа барані! – са слязамі ў голасе адказаў Барысевіч. – Не крыўдзі мяне, пане! Я захаваю рэчы, а платы не трэба. . Ты мне нічога не павінен ... Праўда, дарагая? – звяртаючыся да жонкі, спытаў майстра, – Я лічу, што нам пашанцавала, што ў маім доме, пад яго дахам быў такі добры грамадзянін ... і – калі пан пакіне тут слугу, то зробіць мне гонар... І яшчэ – тут у мяне ёсць такая-сякая капейчына на дарогу...

Барысевіч, яго жонка, суседзі плакалі... афіцэру стала няёмка.. Краснадэбскі кінуўся на шыю гаспадару , і яны развіталіся. (Прозвішча, характар і паходжанне Барысевіча сапраўдныя – заўвага аўтара).

Яшчэ хвіліна і брычка ў суправаджэнні казакаў знікла ў канцы вуліцы.

[6] Краснадэбскі быў дэпутатам ад Ліўскай зямлі, з мясцовасці на поўнач ад Рыгі.

Тым часам замак у гэты дзень быў акружаны грэнадзёрамі, гарматамі[7]. Рыкс і Кіцкі пайшлі да караля, паведамілі яму, што дэпутаты арыштаваныя і што іх трэба вярнуць.

Станіслаў Аўгуст заламаў рукі.

– Вы гатовыя і гэта мне прыпісаць! – усклікнуў ён у адчаі.

Паслалі па Тышкевіча. Кароль сеў пісаць Сіверсу,. А дэпутаты, пасрэднікі, усе, хто мог, ішлі ў Гародню, просячы аб вызваленні; і ўсе вярнуліся з адмовай. Пасол раззлаваўся, ён сказаў, што прыйшоў час скончыць гэта.

Парламентарыі ўжо сабраліся ў зале сейма і сядзелі моўчкі. Генерал Раутэнфельд, якому загадана было сядзець з каралём, хадзіў па зале. Караля доўга не было. Нарэшце бледны і расстроены кароль паявіўся ў зале сярод поўнага маўчання, сеў на трон.

Бяліньскі трымаўся больш смела чым на папярэдніх пасяджэннях, абвясціў:

– Пачынаем сесію. У зале ўжо сабраліся дэпутаты, сядзелі і панура маўчалі.

– Сесію нельга пачынаць! - усклікнуў Гаслаўскі, – чатыры дэпутаты арыштаваныя, і пакуль іх не выпусцяць, мы не можам пачаць... Мы прынялі закон ... Я звяртаюся да яго.

- Я згодны! Згода!Т ак! Мы звяртаемся да закона, – пачалі крычаць з усіх бакоў.

Не звяртаючы ўвагі на Раўтэнфельда, які сядзеў на левай руцэ трона і, склаўшы рукі, абыякава, здавалася, прыслухоўваўся да ўзрушэння, і на караля, які маўчаў пасіўна, не баючыся пагрозы арышту, дэпутаты выказвалі сваё абурэнне.

Ні пачаць ні хоць штосьці зрабіць не выходзіла.

Манчынскі звярнуўся з просьбай накіраваць дэпутатаў да Сіверса. Кароль прызначыў для гэтага Сулкоўскага, Бяліньскага і Плятэра.
Раўтэнфельд, якому загадалі нікога не выпускаць, усё ж дазволіў ім выйсці..
Ад замка да Гародні доўгі шлях... Было ясна, што трэба пачакаць. . Зала пасяджэнняў выглядала нязвыкла. У ёй ўпершыню панавала маўчанне. Маўклівы сход застыў у нейкім пагрозлівым чаканні. У дэпутатаў былі спахмурнелыя твары, цішыня пасля ўчарашнняга бурнага пасяджэння была жудаснай, размаўлялі толькі ціхім шэптам. Кароль на троне праглядаў паперы з сумным тварам. Па тварах дэпутатаў можна было ўгадаць, якія розныя пачуцці іх зараз

[7] У апісанні апошніх пасяджэнняў сейма Юзаф Крашэўскі кіраваўся працай расійскага гісторыка Д. І. Ілавайскага (1832-1920) “Гродненский сейм 1793 года: Последний сейм Речи Посполитой.” М. 1870. Факсімільная копія гэтай працы выкладзена ў інтэрнэце.

хвалююць.

Звычайна бурлівая, апазіцыя зараз стаяла маўклівая, задуманая, рукі на каленях. Некаторыя апусцілі галаву, гледзячы на зямлю, іншыя, агаломшаныя, блукалі вачыма па столі ... у іх яшчэ жыла ўчарашняя кіпучая страсць, якая прытушана зараз стомленасцю. У некаторых дрыжалі рукі, цела трымцела ў напружанні.

Юзафовіч, Манчыньскі і людзі з шайкі Сіверса пра штосьці раіліся, гледзячы на сваіх маўклівых апанентаў. Падавалі адзін аднаму знакі, запіскі таемна перадаваліся з рук у рукі ...

Анквіч глядзеў на гэтую ўражлівую карціну з выглядам чалавека, якому нічога лепшага не застаецца, акрамя як займацца вывучэннем цікавай з'явы ... Часам усмешка паяўлялася ў яго на вуснах.

Раутэнфельд, здавалася, драмаў. Часам уваходзіў афіцэр аховы і атрымліваў загады, развітваўся і сыходзіў. Прысутныя пазіралі на яго, а апазіцыя праследвала яго насмешлівымі вачыма.

– І гэта называецца Сейм! прашаптаў Карскі.
Пасля надзвычай доўгага чакання прыехалі дэпутаты, яны ўвайшлі з сумнымі тварамі, па іх было лёгка ўведаць, што яны не прынеслі нічога добрага.

.Прабіла дзевяць, сакратар пачаў чытаць пісьмо Сіверса, у якім паведамлялася, што арыштаваных дэпутатаў ужо адправілі. Клапатлівы пасол выдаў ім пашпарты і крыху грошай. У пісьме асуджаўся якабінізм і было многа пустаслоў’я.

Сакратар не скончыў чытаць, зала загудзла.

– Няма сейма! – Няма сейма пад такім прымусам!

Карскі і групка незапалоханых дэпутатаў, якая засталася, усхапіліся з крэслаў, перашкаджалі чытаць далей.

Доўгі час з-за шуму ў зале не было нічога чуваць, апроч выкрыкаў дэпутатаў ад апазіцыі. Яны патрабавалі закрыць сесію. У іх гарэлі вочы, галасы гучалі ўсё больш гучна.

– Памром, але не дапусцім бясправў’я! – гучала з усіх бакоў.

Манчыньскі устаў на крэсла, паказаў на гадзіннік і пачаў даводзіць, што нічога благога не будзе, калі сакратар усё ж дачытае, што там у пасланні Сіверса.

Дэпутаты селі, папусцілі галовы, і сядзелі, як мёртвыя.

Сакратар прадоўжыў чытаць пасланне Сіверса, поўнае папрокаў сейму, абвінавачванняў у акабінстве, Сіверс як бы апраўдваўся, але пісьмо ўсё ж было

абразлівым і крыўдным.

Чытанне скончылася пад іранічны смех Кімбара.

– Паслоў, відаць, усё ж яшчэ не адправілі, – прамовіў ён, – і пакуль іх тут не будзе, не будзе і сейму. Гадачэўскі, Янкоўскі, Алдакоўскі[8] паўтарылі за ім:

– Няма сейму, калі няма ўсіх дэпутатаў...

Кароль спакойна загадаў яшчэ раз адправіць ганцоў да Сіверса ... На гэты раз і дэпутаты ад апазіцыі пажадалі ехаць, у тым ліку і Кімбар.

Дэпутат Упіцкі добра ведаў, што сам а можа быць арыштаваны падобна на іншых, бо ён быў не менш вінаваты ... але ён не баяўся - схапіў шапку і пайшоў з іншымі ...

Зноў была доўгая цішыня, але больш нецярплівая і больш трывожная. Час здаваўся даўжэйшым, гадзіны бясконцыя. Кароль быў бледны, на яго нельга было глядзець без жалю, здавалася, што ад трона патыхае смерцю.. Аднак ніхто не шкадаваў яго ...

Пасланыя вярнуліся ні з чым. У зале запанавала цішыня, не было сіл змагацца. Сярод усеагульнага аслупяненя Манчыньскі, незвычайна актыўны ў гэты дзень, прапанаваў пачытаць праект дагавора ... Усе падкупленыя Сіверсам загукалі, бессаромна падтрымліваючы яго. Сакратар збіраўся пачаць чытаць, калі з літоўскіх крэслаў Кімбар, Янкоўскі, Нарбут, Багуцкі пачалі крычаць :

– Мы гэтага не дазваляем! Сейма няма!

Узрушэнне, якое на імгненне аціхла, зноў вырасла да вышэйшай сілы. Людзі, галасы і прапановы пераблыталіся ...

Канца не было відаць і не прадбачылася У тыя хвіліны, калі сілы і голасу дэпутатам бракавала, магільная цішыня перарвала шум, і шум зноў нарастаў..

Трымаючыся рукамі за галаву, кароль сядзеў, нібы аслупянелы, жадаючы сабе літасці або смерці

Здавлася, што тлум будзе яшчэ доўга, .да бясконцасці, як тут падняўся Рачыньскі[9]. Халодным спакоем і вытрымкай ён мог дараўняцца да Анквіча, і ў гэты момант якраз і выказваў ягоную думку. Былы міністр папрасіў яго аб гэтым. Рачынскі ўмеў гаварыць дасціпна, з гумарам. У зале прыціхлі. А Рачынскі гаварыў так, нібы ён выступае на вясёлым банкеце. Гэты тон выратаваў яго, яму далі выказацца.

---

[8] Сапраўдныя прозвішчы дэпутатаў патрыятычнай апазіцыі: Гаслаўскі Ігнацы - дэпутат ад Сандаміра, Гадачэўскі - дэпутат ад Трокаў, Янкоўскі Казімір - дэпутат ад Сандаміра, Алдакоўскі – ад Падляшша.

[9] Казімір Рачынскі (1739-1824) – польскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, надворны каронны маршалак у 1783-1793 гг.

– Я хачу звярнуцца да вас, шаноўныя сенатары, да яго вялікасці караля, да усіх дэпутатаў, і сказаць, што вы ўсе сённяіn passivitate ( пасіўныя. лац.).

Адзін толькі рускі генерал Раўтэнфельд activitatem(актыўны, лац.). Мы ўсе тут пасіўныя – ён актыўны! А нам трэба знайсці выйсце з сітуацыі і выканаць гэты абавязковы загад, калі, на жаль, інакш не можа быць.

У свеце няма нічога незваротнага ... усё мяняе час, а тымчасам і нам трэба шанаваць і ашчаджаць наша здароўе. Дык ці не зрабіць нам так – запісаць у пратакол пратэст удзельнікаў нашага сходу пра прыгнёт супраць нас, пра ўчынены гвалт над намі – а далей не прытрымлівацца звычайнай формы, не галасаваць, не прымаць прапанову ... толькі маўчаць, хай нам чытаюць праект, а мы маўчым; няхай пытаюцца, а мы маўчым. Няхай маўчанне наша яны растлумачаць, як хочуць ...

Устаў са свайго месца Анквіч. – Я прадстаўлю праект пратакола аб пратэсце.

– Згода! – усклікнуў са свайго месца Касакоўскі.

– Згода! Згода! – пачуліся галасы ў яго падтрымку. – Апазіцыя не прамовіць ні слова. Толькі маўчанне.

Раўтэнфельд, убачыўшы нешта незразумелае самому сабе, замітусіўся і паляцеў па новыя загады.

Зноў чакалі, але на гэты раз у магільнай цішы.

Рачынскі у сваім выступленні пераказаў дэпутатам ідэю Анквіча, як далікатна выратаваць гонар веча, хаця гэта не магло выратаваць краіну, бо ён прыйшоў да перакanання, што сіле супрацьстаяць дарэмна.

У трэці раз доўжылася зацятае маўчанне ... перапынялася яно толькі крокамі расійскіх ахоўнікаў пад вокнамі і грукам дзвярэй ... і расцягнулася яно сярод гэтай злавеснай начы амаль да раніцы ... Калі Раўтэнфельд нарэшце вярнуўся, кароль падняў знуджоную галаву, хацеў пачуць, што прынеслі ад Сіверса ...

Маршалак Тышкевіч прачытаў прынесены ліст. Сіверс у ім коратка і цвёрда заявіў, што не выпусціць караля з пакоя, што ён загадае прынесці пасцелі для дэпутатаў, што ніхто не пакіне залу, пакуль не будзе выканана яго воля! Ніхто не адказаў на гэтыя пагрозы ... здавалася, ніхто іх не чуў, усе сядзелі як мёртвыя, як скамянелыя, не падавалі голасу ...

Манчыньскі, Анквіч, Рачыньскі прачыталі і абмеркавалі праект дэкларацыі апазіцыі ... ніхто не сказаў ні слова ...

Зала ўяўляла дзўнае відовішча, як бы некалькі жывых варушыліся сярод мноства трупаў, што не падавалі прыкмет жыцця. Але калі б хто ўгледзеўся ў іх твары, то прачытаў бы на іх пакуту, боль, прыніжэнне ... У некалькіх бяссільных старых слёз цяклі па шчоках і яны не выцiралі іх ... у іншых зрэнкі апякла пакута, сутаргава торгаліся вусны, быццам нехта зачараваў іх і не даваў растуліць. Смяротны пот з'явіўся на бледным тварах. Чытачам-сакратарам не хапала голасу, смялейшым і напорыстым – мужнасці. Языкі заплятаіліся... вочы апушчаныя, запраданых мучыў сорам.

Быў крануты нават Раўтэнфельд, стары салдат. Верагодна, ён лічыў за лепшае быць сярод куль у бітве, чым сярод згвалтаванняў, нанесеных сумленным людзям, якія страшнымі маўчаннем заклікалі Бога да помсты.

Ці можа гэта быў красамоўны пратэст няшчаснай паміраючай нацыі?
У поўнай цішыні гадзіннік прабіў тры разы. Раўтэнфельд, выконваючы загад, запатрабаваў ад караля, калі скончыцца чытанне, паставіць праект на галасаванне звычайным ходам.

– У мяне няма ўлады на гэта, я не магу заклікаць дэпутатаў сейму парушыць маўчанне, – суха адказаў кароль.
Раутэнфельд прыгразіў, што ўвядзе салдат у пакой і павярнуўся да дзвярэй. Затым маршалак папрасіў прысутных прагаласаваць ... Маўчанне ..

Ён паўтарыў двойчы ... і у адказ толькі цішыня. [10]

– Ну што ж, усклікнуў Бяліньскі – дэпутаты прымаюць пастанову аднагалосна.

Усе вочы павярнуліся да Бяліьскага, які не мог падняць вачэй і, як падкошаны, упаў у крэсла.

На тым пасяджэнне і было скончана. Ціхая вераснёўская ноч, чорная, зорная, была маўклівым сведкам яе ... У цішыні ўсе яны пачалі разыходзіцца.... Анквіч палез у кішэню па насоўку.... і выцягнуў з яе пятлю. Ён зірнуў на яе. Рачынскі стаяў побач.

– Мы маглі б падзяліцца гэтым! – сказаў ён з усмешкай ...
– У вас няма ні найменшай неабходнасці рабіць гэта, – холадна адказаў ён. Вы знойдзеце нешта падобнае ў сваім фраку.
Анквіч звярнуўся да Бяліньскага, які не змог падняцца з крэсла. Моўчкі ён паказаў яму знак грамадскай думкі.
У адказ Бяліньскі дастаў другі, і яны абодва перасмыкнулі плячыма.

[10] У гэты момант Анквіч прамовіў: «Маўчанне – знак згоды”.

– Трэба прызнаць, – сказаў міністр, гледзячы пры святле свечак на мудрагеліста звязаны шнурок , – што сапраўдны мастак зрабіў гэтыя памятныя знакі за паслугі, якія мы сёння аказалі. Радзіма ўмее быць удзячнай.[11] І, схаваўшы шнурок , выйшаў з пакоя ўслед за іншымі.

На сейме было строга забаронена заходзіць у галерэю для суддзяў, якую цяпер займалі расійскія афіцэры, але ў дні пасяджэнняў туды зазіралі і пабочныя асобы. Якраз апошняя сесія гэтым асабліва вызначылася.

Пані шамбялянава, якая палітыкай не цікавілася, якраз і захацела пабываць там, дзе нікому старонняму быць не дазвалялася. Якраз у гэты дзень раніцай палкоўнік Касталінскі прыйшоў на шакалад і расказаў ёй пра загад, і тут боская Мілюся пачала прасіць яго прывесці яе ў гэтую залу. Ветлівы прыхільнік пані спачаткуператвёў усё ў смех, але, калі пані, якая прызвычаілася да таго, што ўсе схільныя дагаджаць ёй, стаяла на сваім. Яна клялася, што ніколі ў жыцці не захоча бачыць Касталінскага, калі ён не зробіць гэта для яе .

Яна хацела, каб яе і яе мужа схавалі дзеля прыстойнасці дзе-небудзь у цёмным кутку, вельмі настойвала, і і, нягледзячы на надзвычайныя цяжкасці задаволіць гэты капрыз, Касталінскі паабяцаў. Але шамбялян, які "надзвычай усіх баяўся", смела заявіў, як ніколі раней, што не пойдзе ў залу нізавошта. Ён рэдка адкрываў рот, але тут рашуча адказаў:

– І не прасіце! Не пайду – і ўсё тут! – і рашуча махнуў рукой.

Пані вырашыла запрасіць у кампанію Юстыну, яна ахвотна згадзілася схадзіць з ёй на пасяджэнне. Касталінскі папярэдзіў, што ў часе пасяджэння ён не можа выйсці, і таму ім давядзецца доўга чакаць.

– Хоць да раніцы! – адрэзала Мілюся.

Перад пачаткам сустрэчы Касталінскі патаемна прывёў дзвюх дам, апранутых у чорны колер і завуаляваных, у цёмны кут, з якога, аднак усё ў зале было добра відаць, і можна пачуць. Былі падрыхтаваны два зэдлікі, і сцяна, якая аддзяляла галерэю ад пакоя, дазвалялася схавацца і не быць бачнымі знізу. Пані шамбялянава, якая загарэлася цікаўнасцю, пасля бурнага пачатку сесіі амаль што

[11] 9 мая 1794 г. падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі былі павешаны як здраднікі нацыі і радзімы Юзэф Анквіч, Пётр Ажароўскі, Юзаф Касакоўскі,
Юзаф Забела, Перад пакараннем Анквіч даў кату залатую табакерку і папрасіў дазволу самому надзець вяроўку на шыю.

страціла прытомнасць, ёй аж хацелася ўцячы, яна закрыла вочы, але Касталінскі, які якраз прыбег, сказаў, што немагчыма сысці, не адкрыўшы сябе... ад страху яна не мела дакладнага ўяўлення пра значэнне гэтай сцэны, але ўбачыла тыя чатыры гарматы і запаленыя фіцілі, і ёй падалося, што гарматы неўзабаве выстраляць па дэлегатах карцеччу, і яе дарагое здароўе і жыццё могуць пацярпець.

Панна Юстына не магла чымсьці дапамагчы і супакоіць яе, яна ўпершыню была ў гэтай зале... была страшэнна ўсхвалявана, не разумела страшнага сэнсу гэтай барацьбы, гэтых галасоў роспачы і яшчэ больш страшнай цішыні. Яе позірк міжволі шукаў Анквіча – спачатку з цікавасцю і страхам, потым з абурэннем і пагардай.

Яна пабялела і не магла стаяць на нагах, ёй прыйшлося сесці... Вочы ў яе застыглі, яны выказвалі боль, неверагоднае пачуццё, якое толькі і можна ўбачыць у чалавека ў той момант, калі ён страціў апошні, самы дарагі скарб – і адзіны.

Вось так, магчыма, выглядала Медэя на марскім беразе, калі яе кінулі, перш чым вар'яцтва адолела яе ... У яе вачах у адно імгненне бліснула нешта дзікае, у вушах гуло, яна больш нічога не чула ... яна паклала заламаныя рукі на калені ... забыла пра сваю суседку, пра месца, дзе яна была, і не прачнулася ад гэтага маўклівага шаленства, пакуль усе яшчэ рухаліся і зрок яе, шукаючы Анквіча, яна знайшоў яго ў натоўпе, ў той момант, калі ён з усмешкай глядзеў на пятлю, вынятую з кішэні.

З таго моманту, як Юстына выйшла з замка, яна больш не разумела, што з ёй адбываецца, дзе яна была ... Яна была сярод начной цемры на двары і села ў каляску, такая ж разбітая, непрытомная, які пані шамбялянава, , якая дрыжала, пастаянна плакала і малілася ўсім сваім заступнікам, у тым ліку і Касталінскаму...

Смяючыся, палкоўнік пацалаваў яе руку.

– Ну, слава Богу, – усклікнуў ён. – нарэшце скончылі! Цяпер можна будзе баляваць колькі заўгода… бо галоўных баламутаў вывезлі, астатніх настрашылі.

Жанчыны паехалі дадому.

Пані шамбялянава не зразумела значэння сцэны, сведкай якой стала, яна непакоілася толькі пра тое, што яе паважаная асоба магла стаць ахвярай “незразумелых адлучак” (так яна гэта назвала). Дрыжучы ад страху, зайшла ў пакой. Муж спаў на канапе, але тут жа ўсхапіўся, працёр вочы, і яго выгляд расчуліў яе. З плачам пачала апавядаць, што толькі за малым яе і ўсіх дэлегатаў не расстралялі з гармат, і што толькі вялікі розум Анквіча выратаваў іх. Шамбялян спрасонку не разумеў, дзе і што адбывалася, і толькі ўсклікнуў:

– Ну вось бачыш! Але супакойся, душа мая, супакойся, дзетка!

У панны Юстыны выявіліся спазмы, яна не магла нічога зрабіць, адно толькі, пасля

вяртання зачынілася ў сваім пакоі. Ніхто не мог ні даклікацца да яе, ні дастукацца. Але шамбялян сам распрануў пані, падлячыў лекамі, якія ў яго заўжды былі пад рукой і паволі супакоіў ахвяру непатрэбнай цікаўнасці. Ён бы трыумфаваў, калі б падобная на яго істота мела мужнасць паказаць, што думае гэтак жа як ён.

– Ну, вось вам і Касталінскі! – сказаў ён. Вось вам і сейм і Анквіч!

Раніцай усе заснулі, за выключэннем панны Юстыны, у яе пакоі гарэла свечка, і былі чутныя крокі , яна як быццам кідалася па пакоі, а часам стагнала і плакала...

Калі ўсе прачнуліся Юстына папрасіла сказаць, што яна хворая і што выйдзе пазней.

Пані шамбялянава прабурчала:

– Надта ж яна забрала сабе ў галаву тую хваробу!

Але і сама яна адчула сябе нездаровай, і ўсё ж выйшла ў залу, бо ёй было сумна заставацца сам насам з шамбялянам.

Касталінскі прыйшоў і, як заўсёды, быў у выдатным настроі і неяк здолеў развесяліць гаспадыню навінамі пра баль, які павінен быў даць Пуласкі.

Панна Юстына на абед не прыйшла... Шамбялянава толькі паціснула плячыма.

Брат, які рэдка прыязджаў у гэты дом, з'явіўся пасля доўгай адсутнасці і кінуўся да сястры….

Калі яна адчыніла брату дзверы і зірнула яму ў твар, ён быў уражаны яе бледнасцю.

– Я паклікала цябе, каб ты прыйшоў, – сказала яна. – Мне трэба было ўбачыцца з табой... Мне дрэнна ... мне вельмі дрэнна.

– Быў доктар?

– Мне нічога не трэба, – адказала Юстына, – мая хвароба ні для лекаў, ні для лячэння.

– Што з табой? – спытаў паручнік. – Ты ўся як у ліхаманцы. Можа ў цябе і сапраўды тэмпература? Ты прастудзілася?

Яна адмоўна пакруціла галавой.

– Учора я была на сесіі сейму. З яе і вярнулася з невылечнай хваробай у грудзях. Я – забітая.

Яна апусціла галаву і заплакала.

– Я ведаю пра ўсё, – прамовіў паручнік, – Так, гэтае пасяджэнне запомніцца нечуваным прымусам, на прадстаўнікоў народу, караля… Нас проста таптalі нагамі.

Юстына сядзела ў крэсле, падпёршы галаву рукай.

– Ты пра гэта чуў, – загаварыла яна, – а я бачыла, і гэта відовішча ніколі не сплыве з аёй памяці! Мяне ўразіў не прымус. Я бачыла яго не раз сярод людзей. . Нічога дзіўнага ў тым, што дужы ціснe на слабага. Так робяць і жывёлы, і гэта быў паварот да становішча быдла. А што, не? Але каб ты толькі бачыў тых, хто ў тыя ўрачыстыя хвіліны набраўся адвагі і моцы, каб холадна, здзекліва пасмяяцца над сумленнем народу… хто выстаўляў сябе патрыётамі, каб задушыць патрыятызм!

Яна прыкрыла рукой вочы. – О, браце мой, уяві сабе на маім месцы маці, сястру, жонку аднаго з тых людзей без сораму і сумлення… і ты зразумееш, у чым прычына маёй хваробы, бо я ж там як бы прадстаўляла іх матак, сясцёр і жонак… пакрытых сорамам.

– На шчасце ніводзін з тых людзей да нас не адносіцца, – сказаў паручнік.

Юстына бяздумна глядзела ў падлогу і нічога не сказала. Дзікі і апантаны позірк, яе фігура, растрапаныя валасы ... Паручнік быў уражаны. Дзіўная страсць, якую ён ніколі ў ёй не бачыў, спалохала яго ...

– Я хацела пагаварыць з табой, – сказала яна, нібы прачынаючыся ад гэтага здранцвення, – мне трэба было спытаць у цябе... што мне рабіць ... я думаю, што мы… што я… мы можам хутка з'ехаць, каб не быць тут .... Я не ведаю, мабыць, трэба папрасіць шамбяляна адпусціць мяне. Не магу больш застацца, я паміраю… адчуваю сябе спакутаванай. Я мушу ўцякаць ... Хачу развітацца з табой. Я не ведаю, што буду рабіць з сабой, але гэта жыццё стала невыносным. А ты?...

– Пасля ўчарашняга пасяджэння, – сказаў паручнік, – я больш не бачу неабходнасці сядзець тут. Сейм скончаны .... Засталося толькі тое, што мае меншае значэнне – галасаванне новай канстытуцыі, якую Сіверс склаў... Канстытуцыю, якая не будзе жыць ... і якая нікога сапраўды не цікавіць. У мяне тут былі справы, Але яны скончаны.

– А ты мог бы на некалькі дзён… усяго некалькі дзён… застацца тут? – устрывожана спытала Юстына. – Я вельмі прашу цябе... на некалькі дзён.

– Дзеля чаго? - спытаў здзіўлены паручнік.

– Таму што - таму што я прашу цябе ....

– Ты таямнічая сёння!
, Юстына задумалася, яна здавалася, не хацела чуць, што адказаў яе брат. Спрабуючы супакоіцца, яна папpавіла валасы, выцерла вочы і ўсміхнулася... пяшчотна абняла брата.

– Ах! мілы мой! – сказала яна. – Мы не бачыліся столькі гадоў ... калі мы развітаемся зараз ... Бог ведае, ці ўбачымся мы зноў ў гэтым свеце ... Ты...

– Я? -– весела перапыніў паручнік , – Я толькі думваю, што мне трэба знайсці магчымасць змагацца! Я буду змагацца з лютасцю, магу паручыцца за гэта!. Табе і мне няма чаго губляць ... мы не прыносім вялікіх ахвяр нашай радзіме, аддаем сябе ёй у ахвяру ... У нас няма нікога, нам ніхто не патрэбны. Ты адна ў мяне засталася… Але я…

– Ах! мой дарагі, напэўна, усё наадварот – ты салдат, а я – што, я ўсяго толькі безыменнае зернятка пяску на марскім беразе... нічога больш ...

– Я хачу вывесці цябе з гэтага дома, - сказаў паручнік.
Юстына горка ўсміхнулася.

– Ах! Я вырвуся адсюль, знайду прыстанішча... бо ў мяне такое невыноснае становішча. У мяне ёсць ...
Яна пачала задуменна хадзіць па пакоі.

– Урэшце рэшт, – прамовіла яна дрыготкім голасам, працягваючы руку брату, – ты даруеш мне ... праўда?

– - Што я магу табе даравацъ?...

Дзяўчына пачырванела ...

– Хто з нас без віны, – прашаптала яна. – Ты для мян адзін ва ўсім свеце ... ты ... пра мяне не забудзешся. Ты - будзеш абараняць Юстыну ...
Гэтая гаворка паручніку была незразумелая, ён занепакоіўся.

– Растлумач мне больш выразна, – сказаў ён, – ты такая загадкавая ...

– Ах! Гэта будзе растлумачана табе пазней, – дадала Юстына. А пакуль няма чаго! Не скажу ...

– Ты заўтра яшчэ не едзеш? – спытала яна.

– Ты ж прасіла мяне затрымацца!

– Праўда .. на дзень ... два, не болей. За гэты час нешта будзе зроблена ... таму што я ... не хачу заставацца ў гэтым доме.

Яны пачалі ўспамінаць дзяцінства, загаварылі пра сваю маці ... пра першыя гады юнацтва, пра дзяцінны дом і, мабыць, адышлі ад сумнага цяперашняга часу ў час сумны, але ўжо асвечаны даўнейшай смерцю. Яны абодва забыліся пра час ... доўга сядзелі і гутарылі ...

Юстына, здавалася, супакоілася. Нарэшце паручнік мусіў сысці і пачаў развітвацца. Яяна спыніла яго, горача, абняла і заплакала.

– Мы яшчэ ўбачымся ! – усклікнуў паручнік і выйшаў з пакоя. Юстына зноў зачынілася, паглядзела на гадзіннік і пачала апранацца. Ліхаманка, якая была спынілася, зноў вярталася ... Яна механічна, не задумваючыся, апранулася ў чорную сукенку, расчасала валасы ... пайшла глядзець у люстэрка, паглядзела на свой бледны твар сумным поглядам ...

Набліжалася вячэрняя гадзіна... Юстына паспяшалася ў гасціную... Пані шамбялянава акінула яе амаль насмешлівым позіркам, прашаптаўшы нешта на вуха палкоўніку, які сядзеў побач з ёй, і змерыў яе цікаўным позіркам. Юстына не звяртала ўвагі на гэтыя позіркі, насмешлівы выраз голасу гаспадыні ... Шамбялян здалёк у крэсле, з дуляй у кішэні і зайздросцю ў сэрцы, злосна зірнуў на панну, якую ён неўзлюбіў, бо яна не адказала яму ўзаемнасцю.

Юстына не глянула на іх, падыйшла да вакна і паглядзела на вуліцу. Пачынала змяркацца. Раптам яна адвярнулася ад вакна, у гэтую хвіліну ў прыхожую ўвайшоў Анквіч, напяваючы вясёлую песеньку.

– Ну што? Хіба я табе не казала? – шапнула пані шамбялянава палкоўніку.

Міністр па чарзе прывітаўся з усімі, наблізіўся да панны Юстыны, якая зыркнула на яго, потым змерыла яго халодным позіркам, у якім былі гнеў і агіда.

Анквіч са звычайнай сваёй абыходлівасцю і ветлівасцю загаварыў з пані шамбялянавай, адказаў на пытанне палкоўніка, усміхнуўся шамбяляну і зірнуў на панну Юстыну. Пані шамбялянава была пасля ўчарашняга не ў гуморы. Яна сказала Анквічу, што была ўчора на пасяджэнні, а па твары панны Юстыны ён прачытаў, што і яна была там.

– Ну і як? Вам удалося дабыць да канца? О! тады вы, мабыць, бачылі якія мы з Рачынскім і Бяліньскім атрымалі падарункі, намёк на тое, што нам такія прышле імператрыца.

Шамбялянн зацікавіўся:

– Падарункі. Якія?

– Я захаваў на памяць, сказаў Анквіч, – гэта па-майстэрску зробленая пятля. Падобныя султан пасылае сваім візірам, калі хоча пакараць.

Ён пацiснуў плячыма i засмяяўся. Панна Юстына адвярнулася да акна. Шамбялян ускiнуў рукi ўгору, Касталiнскi засмяяўся.

– Гэта ўсё палякi! – усклiкнуў ён. – Вельмi на iх падобна!

– Вось такая падзяка за нашу працу, за пакуты! – прамовiў Анквiч. – А я ж так горача выступаў учора i пазаўчора, гаварыў пра прымус, што нi Шыдлоўскi, нi Сямнеўскi не маглi зрабiць лепш. Кiмбар пацiснуў мне руку.

Усе маўчалi, прыгожая Мiлюся ўзняла сцiснутую ў кулачок белую руку, падобную на пшонную булку.

– О! Гэта вар’яты! Гэта страшныя людзi, якiя не шкадуюць нi свайго, нi чужога жыцця. За малым… быць i так магло, што Раўтэнфельд мог бы выйсцi i падаць сiгнал страляць з гармат па зале.

Яна заплюшчыла вочы, а Касталiнскi зноў пачаў смяяцца.

– Ну, гэта няпраўда! Гарматы не былi зараджаныя. Толькi фiтылi дзеля пастраху палiлi.

– А хто iх там ведаў! – уздыхнула панi шамбялянава. А шамбялян паблячнеў, паправiў свой парык. Узрадаваўся, што не быў там учора з -за свайго слабага здароў’я.

Анквiч, скарыстаўшыся тым, што палкоўнiк супакойваў гаспадароў, падыйшоў да панны Юстыны i прашаптаў ёй больш канфiдэнцыйнае прывiтанне.

Яна адвярнула твар ад акна ...

– У вас ёсць карэта? – спытала яна.

– Яна стаiць каля дома.

– Я абавязкова павiнна пагаварыць ... Вы знойдзеце мяне ў карэце.

I, сказаўшы гэтыя словы, не дачакаўшыся адказу, яна прайшлася па гасцiнай ... як быццам нешта шукала, i выйшла ...

Панi шамбялянава кiнула позiрк ёй услед.

– Палкоўнiк, прашаптала яна Касталiнскаму, – займiце чым-небудзь майго мужа, – я маю што сказаць Анквiчу ...

Анквiч, нягледзячы на сваю стрыманасць i здольнасць кантраляваць сябе, у той момант, калi Юстына прашаптала яму на вуха некалькi дзiўных слоў, яўна разгубiўся, аслупянеў ...

Нейкi час ён стаяў як утрапёны, задумаўся, i тут панi шамбялянава неяк асцярожна, няўпэўнена (што ёй было не ўласцiва) падыйшла да яго, узяла пад руку i праводзiла да сябе ў пакой. Гэта вельмi не спадабалася мужу: ён недаўменна праводзiў яе вачыма. Касталiнскi ўзяў яго за брыж фрака i засмяяўся: – А ты, стары,

раўнівы…

Калі ўвайшлі ў пакой, пані Мілюся з сур'ёзным тварам павярнулася да Анкквіча, які нарэшце зноў стаў ураўнаважаны і спакойны.

– Вы кампраметуеце мой дом, прабачце, – пачала яна з гневам у голасе, – Мне да гэтай малпы справы няма, хай сабе гіне, калі хоча. Я вам не перашкаджала. Хаця ўсё бачу… усё бачу…. Але нарэшче страціла цярпенне…

– Чаму? Ад чаго? – насмешліва спытаў Анквіч. – Ці не мне варта сказаць Касталінскаму, каб ён перастаў наведваць ваш дом і не падыходзіць да вас? Мілюся была ў шоку ...

– Ён сябар майго мужа, – усклікнула яна, – яны любяць адзін аднаго, як браты, нікому да іх няма справы ... А вось вы, пане, , у маім доме, вы баламуціце панну ... людзі ўжо заўважылі. ...

– А што яны могуць сказаць благога? – спытаў Анквіч: – Я не жанаты на дадзены момант, яна вольная, хто тут дыскрэдытаваны?

– Няўжо васпан хоча ўзяць у жонкі гэтую нічым не адметную простую дзяўчыну, якая не атрымала належнага выхавання?

Яна засмяялася.

– Я ніколі ў гэта не паверу! Тады навошта ўсё гэта? Рукі Анквіча былі схаваны пад фракам, ён, здавалася, думаў пра іншае, яму было ўсё роўна, што казала пані.

– І што рабіць? – холадна спытаў ён ...

– Як што ? Альбо ажаніцца, альбо ... не даводзіць да скандалу….
Міністр зірнуў на яе, з нейкай дзіўнай іроніяй, хаця ён і не сказаў ні слова, але і гаспадыня адчула сябе пакрыўджанай. Ён паціснуў плячыма і пазяхнуў, потым паглядзеў на гадзіннік, пакланіўся і пайшоў да гасцінай.

Ёй стала шкада яго.

– Але пачакайце, – усклікнула яна, – не злуйцеся, я не патрабую незвычайных рэчаў ... Мне шкада толькі, што ўвесь свет пра гэта гаворыць.

– Добра, добра, - сказаў Анквіч. – Спакойнай ночы, пані.
Гэтая халодная рэакцыя не спадабалася боскай Мілюсі, якая паспяшалася яго супыніць, але міністр ужо ўзяў капялюш, развітаўся з паклонам і выйшаў.

– Ну вось, я, здаецца, зрабіла глупства… – прашаптала сама сабе пані шамбялянава

і вярнулася на сваё месца на канапе. Муж уздыхнуў з палёгкай.

Карэта міністра стаяла побач з домам. . Хоць панна Юстына абвясціла, што будзе чакаць яе ў ёй, Анквіч не паверыў ... Вечар быў светлым, сонечным, нават цёплым, верасень, яснае неба ... Месяц узыходзіў над лесам. Цемра ляжала на вуліцы ў шэрай смузе ... Закрытыя занавескі не давалі ўбачыць нічога ў глыбіні. Анквіч адчыніў дзверцу. Юстына, апранутая ў чорнае, стаіўшыся ў кутку, чакала яго. Чалавек, які пераэкыў так шмат, можа і не здзівіцца гэтаму, але яму было няёмка – што ён будзе з ёй рабіць?.

– Куды панна загадае ехаць? – спытаў ён.

– Мне ўсё роўна, дзе… абы дзе-небудзь далей ад людзей… у полі… трэба пагаварыць.

– Але яшто за фантазія ... сярод начы!

– Фантазія! Так! Загадайце ехаць да Каложы . Месячная ноч, далёка бачна…

Анквіч нешта шапнуў фурману, сеў у карэты, грукнуў дзверцай, коні рушылі. Юстына не пасунулася , не сказала ні слова, маўчала і галавой усё паварочвалася да акна. Некалькі разоў ён хацеў узяць яе за руку, яна нецярпліва адбірала яе. Зірнула ў акно, быццам нешта выглядала там.

– Прызнаюся, – сказаў праз некаторы час Анквіч, – што гэтая рамантычная язда пры месяцы да старажытнага храма, у якім жывуць совы, – як бы гэта ні было чароўным ... калі б не твой загад, была б смешнай.

Юстына маўчала, адной рукой трымалася за сценку карэты, другую прыціскала да сэрца. Анквіч зірнуў на яе, зноў загаварыў, убачыў, што яна не хоча адказваць і змоўк.

Ён зірнуў у акно ... Коні хутка беглі ... яны былі на беразе высокага Нёмана. Анквіч загадаў спыніцца. Недалёка над абрывам ужо можна было згледзець цёмную руіну.

Ён адчыніў дзверцы.

– Прашу!

Юстына вылезла з карэты ... Анквіч загадаў фурману чакаць пры конях, падаў Юстыне руку і яны спусціліся па сцежцы да самага берага. Удалечыні можна было ўбачыць горад з вежамі касцёла і агеньчыкамі ў вокнах дамоў.

Юстына павярнулася да яго.

– Гэта наша апошняя размова, – сказала яна дрыготкім голасам, – мне патрэбна пагаварыць на азіноце, на свабодзе, у прысутнасці аднаго Бога ...

Анквіч перапыніў яе.

– Але, chere Justine, што гэта значыць? для чаго такія ўрачыстыя словы? Калі

хочаш дакараць мяне, то не варта. . Можа быць, упершыню ў жыцці я шчыра закаханы, я ... твая душа і сэрца ... Заўтра я папрашу тваёй рукі ... усё скончыцца.

Юстына на імгненне маўчала ... яна закрыла вочы рукой ...

– Учарашні дзень! Няшчсны ўчарашні дзеь! – усклікнула яна, – ён вырашыў наш лёс! Ты разумееш, я ўведала, што сутыкнулася з агідным, да чаго нельга прывыкнуць. Як бы хто сурочыў, зачараваў, ці то Бог пакараў, не ведаю… што прымусіла мяне паверыць салодкім словам... маё сэрца не паслухалася маёй волі… я закахалася ў цябе, я пакахала, я аддала ўсю сябе табе ... забыўшыся на ўсё!! Я разгубілася ...

– Юстына, – перапыніў Анквіч, – я вазьму цябе за жонку... заўтра… калі захочаш.

– Паслухай мяне, пане – я палячка ... мой бацька памёр ад рук расійцаў, у мяне не згасла пачуццё любові да айчыны. Кахаць цябе – падманваць сябе, спадзявацца, што змагу зрабіць вартым таго імя, якое ты носіш. Спадзявалася, што каханне зробіць цуд і выцягне цябе з гэтага бруду. Але пасля ўчарашняга пасяджэння…

Яна заламала рукі.

– Я перастала верыць! Перастала спадзявацца! Баюся цябе, як д’ябла. Я апаганеная… баюся гэтага шлюбу… нават не магу кранучца тваёй рукі.. бо я цябе баюся…. Пагарда да цябе большая за маё каханне.

Анквіч стаяў і слухаў, апусціўшы галаву.

– Панна Юстына, – холадна сказаў ён, – навошта гэтыя сцэны паміж намі? Я сказаў, прысягнуў, што кахаю цябе і зноў кажу ... Я вазьму цябе за жонку. Гэта ўсё, што я магу зрабіць, каб вярнуць табе спакой; але – дазволь мне сказаць – я не магу змяніць сваю прыроду. Ты мяне няправільна асудзіла , думаючы, што ты можаць змяніць такога старога грэшніка, як я ... Панна! акрамя гэтых цёмных вачэй, я ні ў што не веру!! Акрамя шчасця, якое я піў з тваіх вуснаў, я нічога не хацеў... Я іншы, халодны скептык, якім аднолькава пагарджаюць і мае дарагія землякі, і гэтыя нягоднікі маскалі ... увесь Божы свет! Я не магу быць іншым і не магу паабяцаць, што змагу . гуляць у патрыятызм як учора, я далей не змагу, альбо здзеквацца з яго, як я здзекаваўся ... усё гэта дзіцячыя цацкі ... і адзін твой пацалунак ...

Ён хацеў наблізіцца.

- Юстына адхіліла яго.

– Дастаткова, – сказала яна. Учора я вымерала ўсю глыбіню тваёй душы і мне зноў страшна. Тое, што я дажыла да гэтага моманту, гэта цуд ... Я хачу быць тваёй

... і – я не магу ...

– Дарагая Юстына, - пачаў Анквіч, злітуйся... да чаго гэта вядзе? Падумай.

– Пакінь мне, -– сказала яна, азіраючыся, - мой лёс цяпер толькі мой ... разбураны апошні сон ... Жыві! А я не – я не магу жыць з табой! але чаму ты паказаў мне зманлівую будучыню, каб забраць яе ў мяне?

– Ты не можаш мяне папракнуць у тым, што я перад табой прытвараўся, – перапыніў яе Анквіч. Я хацеў дагадзіць, – але я не хлусіў ... Ты ведала, што я служыў за грошы тым, кім я пагарджаю, быў супраць тых, хто да мяне быў больш, чым абыякавы ... цяпер гэта трупы... іх ніхто не можа выратаваць! Я шкадую тваю хворую душу ...

– Гэтая хвароба, якую можна нажыць толькі адзін раз, і ніколі не пазбавіцца ад яе ...Можна вылечыць усё, але такога скептыцызму... і пагарды да ўсяго свету – не вытравіць з сябе ... І я гэтага не змагу зрабіць! – горка дадала Юстына. – Для чаго я павінна быць выключэннем? Я, дзіця, слабая, летуценная, нібы матылёк , які спакушаны святлом, ляціць, каб згарэць у полымі ...

– Гэта вельмі паэтычна, – сказаў Анквіч, – але дазволь мне, выслухаўшы маё горкае прызнанне, суцешыць сябе надзеяй, што заўтра ты будзеш да мяне дабрэйшая, што ты захочаш прыняць мяне такім, які я ёсць ... злітуйся.

– Для мяне заўтра няма ... – адказала ЮстынаЯна зрабіла некалькі крокаў назад, крыху пакланілася і хацела сысці.Анквіч пабег за ёй.

– – Куды ты? Хочаш пайсці адна? – устрывожана ўсклікнуў ён
Юстына задумалася.

– Так, гэта будзе лепей. – адказала яна. – Давязі мяне да горада, я выйду і далей пайду сама.

Яна замаўчала. Анквіч дарэмна спрабаваў разгаварыць яе, супакоіць. Але Юстына, уся ў сваіх думках, не адказвала.

Некалькі разоў Юстына спынялася на сцежцы ... яна глядзела на Нёман. Здавалася, яна разглядае мясцовасць. Анкевіч быў неспакойны, але ён суцяшаў сябе тым, што гэтая фантазія, гэты адчай, пройдуць і яна і супакоіцца.

Яны падыйшлі да карэты, і Юстына зноў села ў самы кут. Моўчкі пазірала ў акно, нічога не казала ... Час ад часу месяц асвятляў яе твар, Анквіч заўважыў, што па ім цяклі два патокі слёз. Вусны былі сутаргава сціснуты. Каля першых дамоў Юстына раптам запатрабавала сысці. Аднак Анквіч гэтага не дазволіў, і толькі каля дома ён загадаў спыніць карэту. У момант, калі пара было вылазіць,

Юстына павярнулася да яго, кінулася яму на шыю, заплакала... як быццам паддаючыся пачуццю больш жорсткаму, чым яе сілы.

– Бывай здаровы,! – ўслікнула яна, ціха ўсхліпваючы, – бывай здаровы… мы больш не ўбачымся. Я заклінаю цябе ... дзеля маёй памяці, павер зноў у дабрыню, разбудзі сваё сэрца! Будзь іншым..

Яна сказала апошнія словы праз слёзы, адарвалася ад яго і, выскачыўшы з карэты, хутка пабегла па вуліцы..

Анквіч накіраваўся ў Гародню . Самы халодны з людзей, але і гарачы ... ён адчуваў сябе дзіўна ўзрушаным.

"Дзіця ... з узбаламучанай галавой !" – падумаў ён. – "Дарэмна спрабаваць пераканаць яе! О, гэтыя жаночыя галовы!"

Супакоіўшы сябе такімі думкамі і, нягледзячы на вялікія намаганні цалкам супакоіцца, ён не змог вярнуць сабе звычайны стан душы.

Яшчэ да таго, як панна Юстына вярнулася дадому, пані шамбялянава некалькі разоў пасылала служанку па яе, была шакаваная яе знікненнем. Як толькі Юстына вярнулася, пані сама яна пайшла да яе з папрокамі... і застала Юстыну засмучанай і заплаканай.

– Ты злоўжываеш маім цярпеннем, – пачала яна, – гэта ўжо зашмат!

– Мне вельмі шкада, пані! - перапыніла Юстына, - я ведаю, што я была вінаватай, але прашу дараваць мне, бо заўтра я пакідаю ваш дом. Я хацела б выказаць самую шчырую падзяку за клопат пра сірату.

– Што гэта за фантазія зноў? Думаеш, я папрашу цябе, каб ты гэтага не рабіла?

– Не, пані-дабрадзейка, я кажу гэта без іншай думкі, – толькі кажу, што я вымушана ... пакінуць дом.

Сказаўшы гэта, яна дрыжачай рукой паклала перад сабой кучу ключоў.

– Вы дазволіце мне пераначаваць ...
Мілуся стаяла ашаломленая, але раптам раззлавалася.

– Дык ты парашыла за лепшае стаць палюбоўніцай Анквіча? – прашыпела пані.

Юстына пачырванела.

– Пан Анквіч прасіў сёння маёй рукі, але я магу вас запэўніць, што ні ягонай жонкай, ні цяжарам для вас я не буду. . .

Гэты незразумелы адказ моцна закрануў Мілюсю. Юстына адступіла назад,

выразна паказаўшы, што яна больш не хоча гаварыць, гонар не дазволіў ёй штосьці тлумачыць пані. Шамбялянава ўзяла ключы (падумаўшы, ці не спытае іх Юстына зноў) і пайшла да сябе.

У доме не было нікога, акрамя шамбяляна, які, як заўсёды, павінен быў прыслухоўвацца да крыўд, скаргаў, нараканняў боскай Мілюсі і звычайна цалкам згаджаўся з ёй. Яна хацела паскардзіцца на няўдзячнасць гэтай істоты, якая адважылася кінуць дом, які даў ёй прытулак.

– Яна заўтра пераменіць свае думкі, і на каленях папросіць дазволіць застацца, – але не дачакаецца ... хай ідзе з Богам ... няхай шукае лепшы, прыемнейшы дом. О! Гэта справа Анквіча.

Яшчэ доўга не магла супакоіцца прыгожая Мілюся, нарэшце ўсё ж змагла заснуць.

Назаўтра ўсе дужа доўга спалі. Калі служанка Магдуся адхінула фіранку і зайшла да пані шамбялянавай, першае яе пытанне было:

– А дзе панна Юстына?

– Можа яшчэ спіць, можа што робіць, але пакуль не выходзіла. Учора ў яе пакоі доўга святло гарэла…

– Пайдзі паглядзі, даведайся, што з ёй.

Магдуся збегала, вярнулася і сказала, што дзверы пакоя панны замкнуты знутры.

– Схадзі яшчэ раз і спытайся сама, ці не хоча яна выпіць кавы? Калі зойдзеш, пагладзі, ці яна апранутая, ці пакуе рэчы.

Служанка зноў схадзіла, але і яна, і яшчэ адна служанка разам клікалі панну, грукалі ў дзверы, але без толку. Ніхто не адклікаўся. І адкрыць не было як.. Служанкі падумалі, ці не ўчадзела панна часам.

Пані шамбялянава, уведаўшы пра тое, напалохалася, накінула на плечы шлафрок, выбегла ў калідор. Там ужо стаялі слугі, спрабавалі зазірнуць у замочную адтуліну. Зноў грукалі ў дзверы. Паслалі па каваля. Усе ўжо зразумелі, што здарылася няшчасце. Пані шамбялянава з яе слабымі нервамі не магла глядзець на страшнае, таму схавалася ў пакоі, усклала ўсё на слуг.

Якраз у гэты час прыйшоў паручнік, даведаўся, што Юстыну не могуць дабудзіцца, пачаў разам са слугамі выбіваць дзверы. Яму дапамагалі два плячыстыя лёкаі. Дзверы зляцелі з завесаў і ўпалі. У пакоі, завешаным фіранкамі, было цемнавата, іх адгарнулі і застылі ў утрапенні.

У чорнай сукенцы, з тварам, закрытым чорным крэпам, з крыжам у руках, спакойная, нібы ў сне, Юстына ляжала на ложку… мёртвая. На століку пры ложку ляжаў кавалак паперы з рэшткамі парашку, стаяла шклянка, з якой яна выпіла атруту…

На другім стале ляжалітры пісьмы – да брата, Анквіча і пані шамбялянавай – ляжалі так, каб іх можна было адразу заўважыць. Слугі тут жа разбегліся, разнеслі жалобную вестку па дому, а неўзабаве ўжо пра яе ведала і ўся вуліца.

Шамбялянава страціла прытомнасць, яна нават не магла паверыць, дрыжала ад жаху і страху. Яна не разумела прычын самагубства, у яе кружылася галава, яна плакала. Паручнік сядзеў ля ложка сястры, заставаўся нерухомым, але ён не мог не прачытаць ліст, схаваў ліст да Анквіча, яму было дастаткова паглядзець на адрас, каб прачытаць гісторыю яго сястры.

На імгненне ён забыўся, што яго адправілі з сакрэтнай місіяй, што можа выдаць сябе, што ён на падазрэнні і яму лёгка было б трапіць у рукі тых, хто шукаў яго, – ён хацеў помсты.

Абодва гаспадары запатрабавалі як мага хутчэй вынесці труп з дома, бо яны не маглі спаць пад адным дахам і доўга прабыць з нябожчыцай. . Шамбялян моўчкі шаптаў, што трэба ехаць у Вяржэйкі , але пасля такога ўзрушэння Мілуся хацела забавы і не магла адмовіцца ад балю ў Пуласкага, для чаго была ўжо заказана новая сукенка ў салоне Лекс.

Слугі разбегліся на ўсе бакі, каб хутчэй загадаць зрабіць труну і вывезці цела. Паручнік таксама клапаціўся пра гэта ...

Пасля паўдня Анквіч спаткаў у горадзе Касталінскага і ад яго даведаўся аб раптоўнай смерці панны Юстыны, пабег, як апантаны, да дому, дзе яна ляжала, стаў, як скамянелы, каля парога… Тут яго сустрэў брат

– Ні кроку далей, – прамовіў ён, – ты прычына яе нашчасця і пагібелі. І за гэта ты мне, яе брату, яшчэ адкажаш! Прэч адсюль!

Анквіч нахмурыўся і пагардліва паглядзеў на хлопца.

– Пане, усклікнуў ён, – я маю права быць тут не менш за вас ... Я быў яе жаніхом ... Я прапанаваў ёй руку ...

Паручнік моўчкі дастаў пісьмо і падаў яму ...

– Пачытайце, васпан, – сказаў Анквіч, – я ўпэўнены, што ліст пацвердзіць тое, пра што я кажу. Я не вінаваты ў яе смерці ... Гэта напаўняе мяне яшчэ большым болем, чым васпана…

Яго словы, прамоўленыя спакойным тонам, раззброілі паручніка, ён аддаў пісьмо

і моўчкі выйшаў....

Увечары труну паклалі на просты воз ... натоўп людзей стаяў каля дома. Брат адзін ішоў за ёй. Духавенства адмовілася прысутнічаць на пахаванні і месцы каля могілак ... За агароджай была выкапана яма ... Купка людзей моўчкі пайшла праводзіць панну ў апошні прытулак ...

Шамбялянава начавала ў апусцелым доме Барысевіча. Яна ніяк не магла супакоіцца. Назаўтра яе, хворую і знерваваную, знайшоў там яе верны прыяцель Касталінскі.

Многа гаварылі пра незразумелыя прычыны самагубства. Анквіч насіў жалобу, абвясціў, што збіраўся ўзяць шлюб з Юстынай. Так і засталося невядомым, што ж давяло яе да трагічнай канчыны.

– Але што цікава, – успамінаў потым палкоўнік, – гэтае пахаванне дало нам у рукі нечаканую здабычу. Мы злавілі птушку! Брат нябожчы аказаўся эмісарам ад бунтаўшчыкоў з Лейпцыга. Яго даўно шукалі. І толькі ўчора злавілі. Калі яго арыштоўвалі, ён схапіў нейкую паперчыну, засунуў у рот, і, як мы не стараліся выдзерці яе з горла – праглынуў! Паедзе ў Сібір… гэта непазбежна… ён тут шпіёніў, хадзіў, вынюхваў… і ніхто нічога не здагадваўся… Толькі “славуты сышчык” Баскамп высачыў яго… і вось цяпер ён за кратамі.

Пані шамбялянава даведалася, што трымала пад сваім дахам такога небяспечнага чалавека, і зноў разнервавалася. Успаміналa, што прадчувала ў ім нешта падазронае, што ў ім было нешта таямнічае… зло нейкае сядзела... Шамбялян казаў тое самае.

Шыкоўны баль у Пуласкага з ілюмінацыяй і фейерверкамі змог разагнаць астатнюю меланхолію пасля гэтай трагедыі ў прыгожай Мілюсі, вярнуць ёй вясёлы гумар. На балі не было ні Анквіча, ні іншых заўсёднікаў дому шамбяляна. Анквіч быў маўклівы і задуменны, не падыходзіў да жанчын, хаця раней іх было ў яго многа. Прыгожая графіня Люлі, прыходзіла яго праведаць, змагла разгаварыць… іншыя пані здалёку паглядалі на гэтага героя, для якога ўсё было абыякавым, апроч гульні ў карты, ён сядзеў за імі з вечара да світання, дзень пры дні.

Гісторыя наступнага, 1794 года, захавала апошнюю сцэну гэтай драмы. Анквіч у маі стаў ахвярай разюшанага натоўпу, да апошняй хвіліны мужна трымаўся перад канцом жыцця… якое не змог павярнуць на дабро.

……………………………………………………………………………………..

*Резюме*

**Михась Кенька: перевод повести Ю.И.Крашевского "Сцены на сейме. Гародня. 1793." (на беларусский язык)**
***(веб-журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2020 , выпуск 26, с.111-177, www.sakavik.net)***

Михась Кенька представляет вторую часть перевода повести «Сцены на сейме» польского писателя Юзэфа Крашевского на беларусский язык. В романе рассказывается о последнем сейме независимого польского государства - Речи Посполитой. Этот сейм длился в Гродно с 17 июня по 23 сентября 1793 года. *Первая часть перевода представлена в предыдущем 25-м номере журнала «Культура. Нация».*

*Abstract*

**Michas Kenka: Translation of "Scenes in the Diet. Harodnja. 1793." by Yuseph Kraszewski** *(continued)*
***(magazine "CULTURE. NATION", December 2020, issue 26, pp.111-177, www.sakavik.net)***

Mikhas Kenka provides the translation of "Scenes in the Diet" written by Polish author Yuseph Kraszewski into Belarusian. Roman through Kraszewski tells about the last Sejm of the independent Polish state - the Commonwealth. This Diet took place in Hrodna from June 17 to September 23, 1793. *The first part of translation was presented in the previous 25th issue of "Culture. Nation"magazine.*

**Ігар Пракаповіч: Два жартоўныя апавяданьні**

*Два жартоўныя апавяданьні, прысвечаныя розным эпізодам з жыцьця беларускіх сялян, маюць адну агульную рысу - усе яны адлюстроўваюць немудрагелісты і просты народны гумар.*

## ЖАРОБНАЯ КАБЫЛА

Было гэта пры першых Саветах. Тады як раз пачалі сялян зганяць у калгасы. Казалі – дзеля таго, каб жыць было лягчэй, а на самой справе, каб кіраваць ды абіраць сялян ямчэй было.

Вось прыехаў у вёску ўпаўнаважаны – пыхлівы, франтавата апрануты “начальнік”. Па “вышэйшым” загадзе сабралі сялян у самай вялікай хаце, ну і давай ім гэты ўпаўнаважаны “маралі чытаць”. Пачаў вучыць вяскоўцаў як садзіць, як сеяць, як араць, як капаць.

Слухалі яго мужыкі, пасміхаліся сабе ціха ў вусы ды бароды, навучаныя рознымі панамі, ківалі галовамі ці то ў знак згоды, ці то, каб не заснуць. А ўпаўнаважаны, прыняўшы маўклівае качанне мужыцкіх галоў за адабрэнне сваёй прамовы, натхняўся ўсё больш і больш. Апагей ягонага пафасу прыйшоўся на ўгнаенні.

– Товарищи крестьяне, – ўзрушана звяртаўся ён да мужыкоў, – самый лучший навоз – это куринный помёт. Поэтому, дорогие товарищи, главная задача нынешнего момента – это собрать как можно больше куриного помёта и угноить поля.

Відаць, каб завязаць жывую дыскусію, ён звярнуўся да Гіляра – мужыка сярэдняга веку, які сядзеў перад ім.

– А скажите, товарищ, какую площадь может удобрить одна курица?

Гіляр – чалавек на выгляд вельмі спакойны і сур’ёзны, быў на самой справе вялікім жартаўніком. Ён разважліва пачухаў патыліцу і кажа (для смеху):

- Лічу, што, пэўна, з гактар зможа ўгноіць.
- А сколько курей имеешь?
- Васемнаццаць.
- А земли?
- Васемнаццаць гактараў.

- Вот видишь, товарищ, ты своими курями можешь удобрить всю свою землю.
Мужыкі, якія слухалі гутарку ледзь стрымліваючы смех, пасля апошніх слоў упаўнаважанага выбухнулі дружным рогатам.

Начальнік спачатку пачырванеў ад няёмкасці, а потым пабялеў ад злосці – зразумеў, што яго падкузьмілі. Але, як вопытны палітбаец, пазіцыі не пакінуў.

Калі рогат трохі суняўся, з мужыцкай грамады падняўся Ігнат, першы на вёсцы на розныя "штукі".

– Вось Вы, шаноўны начальнік, кажаце, што дужа добра курынае га..., прашу прабачэння, памёт. А вось жа мой дзед казаў, што найбольшую карысць зямлі дае мача жаробнай кабылы. Я ўжо назбіраў тры вядры...

Пра што казаў Ігнат далей, сказаць немагчыма, бо хата застагнала ад смеху. А ўпаўнаважаны выскачыў з хаты і, сеўшы на каня, рвануў у райцэнтр.

## АНДРОНІК

Быў чацверты дзень пасля Вялікадня. Быццам бы і рабочы дзень, а свята, ўсё ж, напамінала пра сябе. З раніцы ў калгаснай майстэрні чуўся павышаны тэмбр размоў, жарты і кпіны: механізатары і слесары пахмяліліся і таму настрой панаваў прыўзняты. Цягнула на гутаркі, а вось да работы вялікай, а дакладней ніякай, ахвоты не было. Але ж працаваць было трэба. І кожны, ў залежнасці ад розуму і колькасці алкаголю ў крыві, рабіў работу або рабіў выгляд. Хто соваўся туды-сюды па майстэрні з выглядам як бы што шукае, хто ляпаў малатком па якой-небудзь жалязяцы, хто, вымазаўшы саляркай рукі, перабіраў ключы. Але большасць у чарговы раз рабіла перакур.

Неўзабаве прыехаў галоўны інжынер. Ён таксама быў пасля апахмелу, але выглядаў як цвярозы. Пабачыўшы, што работа ідзе абы як, крычаў на механізатараў. Але без энтузіязму, бо на душы і ў страўніку было ўсё ж даволі камфортна. Ён шукаў вачамі, каб хоць каго-небудзь паставіць у прыклад. І нечакана для сябе знайшоў. З-пад Андронікавага трактара тырчэлі ногі і было бачна, што рукі трактарыста падняты ўверх да кардана.

– Вось, – сказаў галоўны інжынер, – глядзіце, як трэба рабіць! Малайчына, Андронік!

Механізатары абступілі галоўнага інжынера каля трактара. І трэба ж, як раз тады, калі галоўны інжынер толькі пачаў па новай даваць раскрутку мужыкам, з-пад трактара данеслася мірнае пахрапванне.

Інжынер зазірнуў пад трактар і ўбачыў міленькую карцінку: Андронік салодка спаў прывязаўшы рукі да кардана.

Галоўны інжынер нічога не заставалася, як успомніць нядобрым словам бліжэйшую радню і выйсці з майстэрні. Дружны рогат яшчэ доўга гучаў вакол трактара “выдатнага” работніка.

З таго часу, заўважыўшы, што Андронік што-небудзь робіць, кожны весела ўскрыкваў: “Глядзіце! Як трэба рабіць!”

Андронік усміхаўся і адказваў гучным храпам.

*Резюме*

**Игорь Прокопович Два юмористических рассказа: «Беременная лошадь», «Адроник»**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2020 , выпуск 26, с.178-180, www.sakavik.net)***
Два юмористических рассказа из жизни белорусских крестьян объединяет одно - все они отражают незатейливый и простой народный юмор.

*Abstract*

**Igar Prakapovich: Two humorous stories - “Pregnant horse”, “Andronik”**
***(web-magazine “Culture. Nation”, issue 26, December 2020, pp.178-180, www.sakavik.net)***

Two humorous stories about different episodes from the life of Belarusian peasants have one thing in common - they all reflect unpretentious and simple folk humor.

*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*

**Пётра Мурзёнак: Звесткі аб дзейнасці Беларускага інстытута навукі і мастацтваў Канада (БІНІМ, Канада) за перыяд з лістапада 2017 года па кастрычнік 2020 года**

***(з даклада на агульным сходзе інстытута, які праходзіў у віртуальным фармаце 18 кастрычніка 2020 года )***

**I. Агульныя палажэньні аб дзейнасьці БІНІМ, Канада**

**1. Управа БІНІМ, Канада**

Па стану на 7 кастрычніка 2020 года ва Управу інстытута уваходзяць:

- Пётра Мурзёнак – старшыня
- Наталія Колас – сакратар
- Валянціна Шаўчэнка – скарбнік
- Івонка Сурвіла – сябра
- Руслан Качаткоў – сябра
- Юрась Шамецька – сябра

**2. Арганізацыйныя палажэньні**

- Праца інстытута праводзілася ў адпаведнасьці з мэтамі і заданьнямі, прапісанымі ў Статуце БІНІМ, Канада. Галоўным у дзейнасьці інстытута было разьвіцьцё беларускіх дасьледаваньняў і культуры з мэтай распаўсюджваньня і прасоўваньня такіх дасьледаваньняў і культуры ў Беларусі, Канадзе і за мяжой.
- Управа БІНІМ, Канада збіралася на паседжаньні па меры неабходнасьці. Асноўныя рабочыя пытаньні вырашаліся праз е-мэйлы і тэлефонныя размовы.

- Тое што рабілася сябрамі інстытута публікавалася на беларускіх сайтах (www.binim.org , адміністратар А.Каралькевіч), у часопісе “Культура. Нацыя” (www.sakavik.net, адміністратар П.Мурзёнак), а таксама ў беларускіх і іншых выданьнях.

- Частка нашых мерапрыемстваў праводзілася разам з іншымі арганізацыямі, у прыватнасці, з сябрамі Згуртаваньня беларусаў Канады. У “Звесткі аб працы інстытута” уключана таксама інфармацыя, пададзеная сябрамі інстытута індывідуальна, а менавіта тая інфармацыя, якая на іх думку датычыцца статутнай дзейнасці інстытута.

- З 2018 года ўведзена палажэньне аб узнагароджванні дыпломамі БІНІМ, Канада, асоб, якія ўнеслі важны ўклад у развіцьцё беларускай культуры і даследаваньняў у Канадзе, Беларусі, і па-за яе межамі.

**3.Спіс сяброў БІНІМ, Канада**

Па стану на верасень 2017 года у спіс былі ўнесены 32 чалавекі, з іх 8 асоб былі пазначаны, як неактыўныя. Неактыўныя асобы вылучаны цяпер у асобны спіс (як патэнцыйныя кандыдаты). Такім чынам, па стану на верасень 2017 года у складзе БІНІМ, Канада рэальна былі 24 асобы. Па розных прычынах, за апошнія тры гады выбылі з радоў БІНІМ, Канада: В.Кавалёва (2017), З.Гімпелевіч (2020), М.П.Сурвіла (2020, вечная памяць), І.Тоўсцік (2020).

У 2018 годзе да БІНІМ, Канада далучыліся Галіна Рэзаіпур, Міхась Рыкаў; у 2020 годзе - Юрась Мурог. Такім чынам, на сёння спіс сяброў БІНІМ, Канада складаецца з 22 асобаў.

## II. Асноўныя вынікі

**1. Рэгістрацыя БІНІМ, Канада як нон-профіт федэральнай арганізацыі.**

Па рашэньню Управы інстытута, БІНІМ, Канада зарэгістраваны 20 студзеня 2019 года як нон-профіт федэральная арганізацыя пад імем **“The Belarusian Institute of Arts and Sciences, Canada”** and **“Institut bélarussien des arts et des sciences, Canada”**. Corporation number is “11200733-4”. Рэгістрацыя каштавала 200 даляраў. Наш інстытут гэта першая беларуская арганізацыя зарэгістраваная ў Канадзе.

**2. Фінансавая актыўнасць**

На канец 2017 года, БІНІМ, Канада ня меў фінансавых сродкаў на сваім рахунку. Апошнія звесткі аб фінасавай дзейнасці БІНІМ, Канада былі прадстаўлены сп.

Раісай Жук-Грышкевіч у 2002 годзе падчас Агульнага сходу інстытута. Паміж 2002 і 2017 гг. звестак аб фінансавай дзейнасці няма. За апошнія 3 гады з грошай, якія ўключаюць складкі і ахвяраваньні, БІНІМ, Канада здолеў прафінансаваць:

-сваю рэгістрацыю (200 даляраў);
-выданьне кнігі ў Беларусі "(Не)расстраляная паэзія" (500 даляраў);
-прыезд Н. Гардзіенкі, навукоўцы з Мінска, якая піша кнігу пра беларускую дыяспару ў Канадзе (звыш 1000 даляраў);
-часткова фінансава падтрымаць афармленьне спектакля "Вуліца Ларысы Геніюш" (200 даляраў).

Больш падрабязна фінансавая актыўнасць будзе прадстаўлена скарбнікам інстытута, сп. В.Шаўчэнка.

**3. Сайт БІНІМ, Канада**

Дзякуючы намаганьням і прафесіяналізму Аляксандра Каралькевіча поўнасцю абноўлены, а па сутнасці створаны нанова сайт інстытута www.binim.org . На ім з'явілася шмат цікавых матэрыялаў. Далейшае яго развіццё цалкам залежыць ад актыўнасці сяброў інстытута**.**

**4. Мерапрыемствы, праведзеныя пры непасрэдным удзеле БІНІМ, Канада**

**4.1. Правядзеньне святкаваньня 25 Сакавіка, Дня Абвяшчэньня незалежнасьці БНР**

**4.1.1.Святкаваньне 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі праходзіла 11 сакавіка 2018 года, у нядзелю у будынку канадыйскага парламента (March 11, 2018; Commonwealth Reading Room, Parliament Hill, Ottawa).**

У арганізацыі свята прымалі ўдзел сябры БІНІМ, Канада і сябры ЗБК. Праграма свята ўключала афіцыйную частку і канцэрт (поўную праграму глядзіце ў дадатку). Афіцыйную частку складалі наступныя выступленьні:

-Святаслаў Логін, архіяпіскап БАПЦ - "Малітва за Беларусь"
-Святочнае вітаньне ад Івонкі Сурвілла, старшыні Рады БНР
-Даклад, Галіна Туміловіч, канд. гіст. навук "БНР: Роля М.Доўнар-Запольскага ў абгрунтаваньні высноў беларускай дзяржаўнасці".

**Удзельнікаў свята віталі:**

-Чандра Арыя, сябра Канадыйскага парламента (Nepean)
-Ад мэра Атавы Джыма Ватсана, вітаньне прадставіў гарадскі саветнік сп. Michael Qaqish
-прафесар Зіна Гімпелевіч
-Алена Лявончанка, старшыня ЗБК
-прадстаўнікі дыяспар у Атаве – A. Kesteris (латышская), L.Gudynaite-Savich (літоўская), S.Zaborowski, A.Jablonski (польская), B.Gengalo (украінская)

Сьвяткаваньне прайшло з небывалым посьпехам, і на думку многіх людзей, было найлепшым сярод праведзеных беларускай дыяспарай ва ўсім свеце. На сьвяце прысутнічала больш за 180 гасьцей, цудоўная атмасфера памяшканьняў Парламента Канады, убраньне галоўнай залі ў бел-чырвоныя колеры, выстава беларускіх кніг і нарэшце смачныя, багатыя і разнастайныя пачастункі. На выставе было прадстаўлена 35 кніг, напісаных беларусамі Канады.



Фатаграфія А.Каралькевіча

Матэрыялы ўрачыстага сьвяткаваньня 100-годдзя абвяшчэньня незалежнасці БНР беларусамі Атавы – 11 сакавіка 2018 года, Цэнтральны будынак Канадыйскага Парламента (Commons Reading Room, Parliament Hill) падрабязна апісаны ў часопісе “Культура. Нацыя”, сакавік 2018, №21, ст. 7-46, а таксама на сайце БІНІМ, Канада. http://binim.org/index.php/2018/03/14/bnr100-ottawa/

За правядзеньне сьвяткаваньня 100-годдзя БНР у Атаве і за разьвіцьцё беларускай культуры ў Канадзе шэраг нашых сяброў былі узнагароджаны дыпломамі

Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе імя Францішка Скарыны (БІНІМ, Канада) за 2018 год. Дыпломы былі ўручаны: Наталіі Баркар, Інне Каралькевіч, Ксеніі Каралькевіч, Аляксандру Каралькевічу, Ірэне Клімковіч, Уладзіміру Клімковічу, Аляксандры Логвін, Аксане Мазгавой, Сяргею Мазгавому, Пётру Мурзёнку, Ірыне Панчанка, Уладзіміру Панчанка, Галіне Рэзаіпур, Міхасю Рыкаву, Галіне Туміловіч, Ўладзі Шамецька і Юрасю Шамецька.

### 4.1.2.Святкаванне 101-х ўгодкаў Абвяшчэньня Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі

**Святкаванне 101-х ўгодкаў Абвяшчэньня Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі** прайшло ў суботу, 6 красавіка 2019 года, 14.00-17.00, у будынку мэрыі горада Атава ў залі Councillors Lounge.
У праграме былі (праграма ў дадатку): Віншаваньне ад сп. І.Сурвілла, старшыні рады БНР і ўручэньне юбілейных медалёў «100 год БНР», Уручэнне дыпломаў Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (Канада) за 2018 год, вершы Юрася Шамецькі, спектакль "Вуліца Геніюш" (артысты з Таронта, рэжысёр - В. Шаўчэнка. Больш інфармацыі пра спектакль: http://binim.org/index.php/2018/04/23/v-geniush/). Часткова афармленне спектакля было прафінансавана са сродкаў БІНІМ, Канада.



Фатаграфія А.Каралькевіча

*Святкаваньне Дня Абвяшчэньня Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 2020 годзе планавалася правесьці ў Nepean Creative Arts Centre, 15 сакавіка 2020 года, аднак, было адменена ў сувязі з КОВІД эпідэміяй.*

**4.2. Прэзентацыі/вечарыны**

*Арганізатарамі вечарын былі сябры Беларускага інстытута навукі і мастацтваў у Канадзе, БІНІМ, Канада, і Атаўскага аддзела ЗБК*

**23 верасьня 2018 года** ў Атаве адбылася паэтычна-музыкальня вечарына, якая прайшла ў доме сям'і Каралькевічаў, якія ласкава запрасілі зрабіць яе там. У праграме вечарыны былі прэзентацыя паэтычнага зборніка **Пётры Мурзёнка** "Колеры", які выйшаў з друку ў выдавецтве "Кнігазбор" (Мінск) і музыкальныя кампазіцыі ў выкананьні Галіны Рэзаіпур і Алега Буевіча.
https://binim.org/index.php/2018/11/19/murzenak-kolery-20180923/;
https://youtu.be/yDvuAJiCnj8

**У сезоне 2018-2019 Пётра Шварцман** прачытаў некалькі лекцый па гісторыі сусьветнай архітэктуры.

**24 кастрычніка 2019 года**, у 7 гадзін вечара ў галоўным будынку Бібліятэкі і Архіва Канады адбылася прэзентацыя пераклада кнігі славесных санэтаў Seymour Mayne, вядомага канадыйскага паэта, прафесара ангельскай літаратуры Атаўскага ўніверсітэта. На расейскую мову пераклад зрабіў сябра нашай беларускай суполкі **Міхась Рыкаў**.

**10 траўня 2019 года** ў Мінску адбылася прэзентацыя зборніка вершаў **Юрася Шамецькі** "Непрадказальнае" ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры (Мінск, вул. Багдановіча,13).

**24 траўня 2019** - Юрась Шамецька, Міхась Рыкаў і дуэт Кантабіле ўдзельнічалі ў вечары паэзіі ў Атаўскім універсітэце.

**23 чэрвеня (нядзеля) 2019** года прайшла яшчэ адна паэтычная вечарына **Юрася Шамецькі** з нагоды выхаду яго паэтычнага зборніка «Непрадказальнае» (54 Rivergreen Cr., Kanata On, K2M 2W9). Падчас вечарыны гучалі вершы ў аўтарскім выкананні з музычным суправаджэннем (музыкі Міхась Рыкаў, Галіна Рэзаіпур, Уладзя Шамецька). За публікацыю зборніка вершаў сп. Ю. Шамецька

узнагароджаны “Дыпломам БІНІМ, Канада, за 2019 год за ўклад у развіцьцё беларускай культуры. http://binim.org/index.php/2019/07/06/video-yuras-book-presentation/

**15 верасня 2019** - сольны канцэрт дуэта Кантабіле ў Timberhouse Garden, Sandy Hill, Ottawa

**6 кастрычніка 2019** - Юрась Шамецька, Міхась Рыкаў і дуэт Кантабіле ўдзельнічалі ў паэтычным фестывалі "Кляновы ліст", Манрэаль

**16 лістапада 2019** - прэзентацыя зборніка Юрася Шамецькі "Непрадказальнае" у Таронта, Беларускі цэнтр. Удзельнічалі Юрась Шамецька і дуэт Кантабіле.

**Снежань 2019 года. Відэавіншаваньне для беларусаў “З Калядамі. Ад сяброў з Атавы, Канада”** . Цудоўная ідэя была ўвасоблена групай беларусаў з Атавы. Найбольш актыўныя удзельнікі узнагароджаны дыпломамі БІНІМ, Канада за ўклад у развіцьцё беларускай культуры: сп.Аляксандру Каралькевічу, сп.Сяргею Мазгавому, сп. Міхасю Рыкаву, сп. Галіне Рэзаіпур, сп. Ўладзі Шамецька. Дыпломы будуць уручаны падчас паседжання аддзела 27 верасьня. http://binim.org/index.php/2019/12/19/z-kaliadamy/

**15 лютага 2020** - музычна-паэтычная вечарына да Дню закаханых, Таронта, Беларускі цэнтр. Юрась Шамецька і дуэт Кантабіле, Таронта.

**15 верасня 2020** - "Верш Канадыйскай салідарнасці з беларусамі Бацькаўшчыны" Праект на верш Юрася Шамецькі, у якім удзельнічалі беларусы 8 гарадоў Канады - Атава, Таронта, Манрэаль, Эдмантан, Ванкувер, Гатіно, Рэджайна, Калгары. Арганізаваны Уладзяй і Юрасём Шамецька і Аляксандрам Каралькевічам.

### 4.3. Актыўнасць сяброў БІНІМ, Канада

**Сп. Ірына Варабей** займаецца працай у сваёй студыі "Spirit of Belarus", з канадскімі часопісамі, фестывалямі, стварэньнем новых схем для вышыўкі. **SPIRIT OF BELARUS Designs;** www.ivarabei.wix.com/spiritofbelarus; www.facebook.com/SoB.designs; http://spiritofbelarus.blogspot.ca

Сярод яе актыўнасцяў за апошнія гады:

-У 2016 г. на восеньскім традыцыйным Фестывалі CreativFestival ў Таронта прайшла мая персанальная выстава пад эгідай Embroidery Association of Canada

(EAC) "EAC Presents Its Designer".
https://spiritofbelarus.blogspot.com/2016/11/spirit-of-belarus.html
-У 2017 г. я апублікавала электронны варыянт кнігі "Легенды Ванкувера" Паўлін Джонсан у маім перакладзе.https://issuu.com/iryna.varabei/docs/ledends
-З 2016 па 2019 дзьве мае работы прымалі ўдзел у канадзкім перасовачным шоў ""Threadworks-16". (*"A juried exhibition of exceptional creative needlework"*). Адбор на традыцыйнае шоў праводзіўся на конкурснай падставе. У конкурсе ўдзельнічала больш за 200 майстрых з ўсёй Канады. Было адабрана каля 50 работ. З Таронта трапілі толькі мае работы.
https://spiritofbelarus.blogspot.com/2016/04/threadworks-2016.html
-У 2018 г. у часопісе "Embroidery Canada (ворган Embroidery Association of Canada) быў апублікаваны мой артыкул "Belarusan Nizanka", прысьвечаны беларускай вышывальнай тэхніцы, разам з адным з маіх дызайнаў і схемай да яго. https://www.facebook.com/SoB.designs/posts/1583983628371817
-У 2020 у тым жа часопісе была апублікаваная работа (і схема да яе) "Belarusan Snowflake", якая сталася прызёрам конкурса на EAC Seminar-16.
-За апошнія тры гады ў канадзкім часопісе "A Needle Pulling Thread" было апублікавана 7 маіх работ разам з артыкуламі і схемамі. Рыхтуюцца да публікацыі наступныя тры праекты.
-У 2018 г. альманах "Беларус" у адзначэнне дзесяцігоддзя студыі "Spirit of Belarus" апублікаваў у перакладзе на беларускую мову ўсе (да таго часу) публікацыі студыі ў часопісе "A Needle Pulling Thread".
-У 2019 г. падчас традыцыйнага Фестываля CreativFestival у рамках буціка Embroidery Association of Canada адбылося віншаванне мяне з 60-годдзем і з ўзнагароджаньнем Медалём ад Рады БНР.
https://www.facebook.com/iryna.varabei/posts/2515738941871311
-У 2019 г. у альманаху "Беларус" выйшаў мой пераклад аповесьці "Агухана".
-У 2019 г. адна з маіх фатаграфій была ўзятая для Календара ад часопіса "Canadian Geographic".

**Сп. Юрась Мурог** паведаміў пра сваю актыўнасць, такім чынам:

-Стварэнне інтэрнэт-старонкі “Згуртаванне Беларусаў Манрэалю” як "Месца для тых хто любіць Беларусь, ейную культуру і мову" (70 чальцоў на сёння). Гэта другая па значнасьці інтэрнэт-суполка Беларусаў Манрэалю.
https://www.facebook.com/groups/1196869987001995/
-Рэжысёр дакументальнага фільму « У памяць пра нашых прашчураў ». Фільм апавядае гісторыю аднаўленьня старога кургана на Чарнігаўшчыне ў кантэксце стасункаў паміж Беларусам і Украінцамі без перакладчыка. Дэма 16 хв. 24 тут:
https://vimeo.com/413640143/d7bfe1193c

-Выканаў ролю « Ян-Беларус » ў спектакле « Східні Канікулы » украінскага тэатру Манрэалю «Стажары» . Спектакль быў прадстаўлены ў Таронта, Аттаве і 2 разы ў Манрэалі. Урывак быў прадстаўлены на Манрэальскім кніжным кірмашы 2019 (Salon du livre de Montréal) - найбуйнейшым франкамоўным кніжным кірмашы ў Паўночнай Амэрыцы, дзе падчас майго выступу ўпершыню прагучала беларуская мова.
-Удзельнічаў ва ўрачыстым святкаванні 100-годдзя БНР у будынку парлямента Канады, у двух сустрэчах Беларусаў Манрэаля ў 2019 годзе, у двух мітынгах - пікетах у Манрэалі ў 2020-годзе.

**Сяргей Панізьнік: "Творчая справаздача Управе БІНіМу"**

**ВЕРШЫ** *(тэксты вершаў далучаны ў асобным файле і знаходзяцца ў архіве БІНІМ, Канада)***:**
-«На шляху да Грэкаў і Варагаў» - сябрам Управы юбілейнага БІНіМу», 05.2017.
-«Медаль Стагоддзя». 24.03.2019
-«Дыплом на крывіцкі паром», 28.XII.2019.
-«Ратны ўздым»+ Верш С. Панізьніка, 29.XII.2019.
-«Недасьпелыя віншаванні...» 26.XII.2019
-«І зьдзейсьніца Дзісна!», прысвечаны Вользе Грыцук. 6.09.2013. У часопісе "Культура.Нацыя", №22, лістапад 2018 г. надрукаваны артыкул С. Панізьніка, прысьвечаны 95-годдзю сп. Вольгі Грыцук.
- Івонцы Сурвіла - «І сявец, і жнец», "Ня зьнікне Сонца з Небасхілу», 11.04.2018, «Ажурная мярэжа Канады»,2006–2020.
-«Верш «Кілімы Памяці» – памяці дачушкі Івонкі Сурвіллы, 26.04.2020.
- «Вось і сонца ў пагасьціне...», 10.05.2018.
-«Вялікая падзяка Згуртаванню», 14.05.2019.
-«Мацярык эмоцый»–ЗБК. 11.XI.2019.
-«Пачула Неба...» - Вользе Іпатавай. 9.09.2011.
- Вольга Іпатава Сяргею Панізьніку «Ня змоўкне...», 10.05.2017.
-«Творчы чын — натхненню зачын». Пра сустрэчу ў Таронта Н. Гардзіенка і Л. Юрэвіча. 2.03.2020.
-Юрасю Шамецьку: «Для Адлюстравання паэтычнага звання», 3.XI.2019.
-«Таронтаўскаму Вечу». 11.XI.2019.

**Выдадзена, надрукавана:**
-Зборнік вершаў «На падкове Дзвіны». Мінск, 2019.
-Зборнік паэзіі «Вішні цвітуць». Бялград, 2019. Пераклад на сербскую мову, уступнае слова Даяны Лазарэвіч.

-«Беларус». Літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа. Мае артыкулы: «Памятныя даты 2018 года», «Памятныя даты 2019 года». ЗША. Нью-Ёрк.
-Публікацыі пра літаратараў беларускіх і замежных у партале «Созвучие. Литература и публицистика стран Содружества». Мінск.
-Супраца з рэдакцыяй персанальнай энцыклапедыі «Уладзімір Караткевіч».
-Супраца з Цімафеем Ліякумовічам для публікацый у штомесячніку «Земляки», ЗША, Чыкага.
-У зборніку «Сяргей Палуян «След вечна жывы». Мінск, 2018 г. - змешчаны два вершы-прысьвячэнні Сяргею Палуяну.
-У зборніку «Мая залатая Бенгалія» / Мінск, 2019 / змешчаны верш Рабіндраната Тагора на бенгальскай і ў перакладзе на 49 моваў свету. Сярод перакладчыкаў на беларускую мову і Сяргей Панізьнік.
-Выніковая супраца з часопісам «Культура.Нацыя»: №16, 2016 г., №20, 2017 г., №22, 2018 г., №23, 2019 г., №24, 2019 г., №25, 2020. Пра публікацыю «Юбілярам 2020 года прысьвячаецца» выдавец часопіса Пётра Мурзёнак выказаўся так: «Добры напамін пра гэтых людзей даслаў сябра нашай рэдакцыі, паэт, пісьменнік і нястомны летапісец сп. Сяргей Панізьнік. Вечная слава юбілярам!!!»

**Сп. Юрась Рапецкі** напісаў, чым ён займаецца **"**ў дачыненьні да Беларусі і беларусаў за апошнія 3 гады":

-у асноўным мая сталая праца ў тым, што пішу казаньні на падставе Бібліі і яе настаўленьняў для веруючых і няверуючых. Я пішу свае казаньні на беларускай мове, зачытваю іх на кампутар і высылаю файлы аўдыё-казаньняў рэдакцыі Беларускага Транс-сусьветнага Радыё з дазволам ім карыстацца імі так, як ім пападаеццца – пры нагодзе і жаданьні. Іхні цэнтар знаходзіцца пры адным з малітоўных дамоў эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў у Берасьці.
-я таксама высылаю казаньні рэдакцыі часопіса "Крыніца жыцьця" і духоўнай літаратуры, зьвязанай з Саюзам Цэркваў эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў у Беларусі. Рэдакцыя часопіса зьмяшчае мае аўдыё-казаньні і іх тэксты на вэбстаронцы http://gr.krinica.org/audiop. Цэнтар дадзенай рэдакцыі знаходзіцца ў Кобрыне.
-летась я адправіў у рэдакцыю часопіса "Крыніца жыцьця" зроблены мною пераклад кніжкі пад назваю "Што мне рабіць зь Ісусам?", напісанай амэрыканскім прафэсарам гісторыі і аўтарам кніг і артыкулаў на гістрычныя і хрысьціянскія апалагетычныя тэмы – Арлі Гуверам (Arlie Hoover). Кніжка была выдадзена ў Беларусі і распаўсюджваецца па ўсёй краіне.

-сёлета я адкрыў свой Ютубны канал пад назваю “Добрая вестка”, дзе зьмясьціў больш за 20 выпускаў аўдыё-праграм “Добрая вестка”. Кожны выпуск уключае выкананьне беларускіх духоўна-хрысьціянскіх песьняў, дэклярацыю хрысьціянскай паэзіі і выказаных ды зачытаныя мною біблійныя казаньні. Асобныя выпускі аўдыё-праграм трываюць прыблізна 25 хвілін.

### 4.4. Навуковая актыўнасць

Сябры інстытута прынялі актыўны удзел у падрыхтоўцы да X-га міжнароднага кангрэса даследчыкаў з цэнтральна- і усходнееўрапейскіх краін. Кангрэс, арганазаваны міжнародным камітэтам (ICCEES, International Council for Central and East European Studies), мусіў адбыцца 4-9 жніўня 2020 года у Манрэалі, аднак, у сувязі з КОВІД-інфекцыяй перанесены на 2021год.

Трое нашых сяброў, Г.Туміловіч, Ю.Шамецька, і П. Мурзёнак падалі заўкі на ўдзел у кангрэсе: Іх даклады, прынятыя арганізатарамі кангрэса, будуць прадстаўлены на панэлі пад назвай “From Legends to Modern Belarus”:

- Galina Toumilovich: BNR. Role of M. Downar-Zapolski in forming the basis for the creation of Belarusian statehood.
- Juraś Šamećka: Themes of books written by Belarusian Institute of Arts and Sciences members for 2015 - 2020
- Piotra Murzionak: Does Belarus Belong to Western Civilisation?

У дадатак, прынята канцэртная праграма Беларускага вечара “Celebrating Belarusian Music and Dance”, у якім прымуць удзел сябры БІНІМ, Канада:

- Galina Rezaeipour (violin). Classical music. Accompanist - Tereza Bakus (piano)
- Irena and Vladimir Klimkovich. Two Belarusian dances.
- Duet "Cantabile": Vlada Chametka (violin) and Michail Rykov (guitar). The melodies of native land (music of Belarusian composers, accompanied by photos of the Belarusian kravidav. Photo by Alexandr Korolkevitch.)
- Valentina Shevtchenko. Belarusian popular songs.
- Sviatlana Litvinava. Belarusian folk songs.
- Belarusian Folk Choirs "Javarovy Ludzi" (Maple Folk) and "Javarovy Dzieci" (Maple Kids). Musical and ethnographic show with a display of Belarusian folk rituals. Head - Violetta Kovaleva.

### 4.5. Публікацыі

#### 4.5.1. Спіс кніг, апублікаваных сябрамі БІНІМ у 2017-2020 гг.

•Пётра П. Мурзёнак “Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу”. Мінск “Кнігазбор”, 2017. 96 с.

•Ivonka Survilla, *Daroha* (The Road from Stoŭpcy to Copenhagen, to Paris, to Madrid, to Ottawa, to Miensk). *The Memoirs.* Prague: Radio liberty/Radio Free Europe’s Biełarusian Service, 2018, 163 pp.

•Zina Gimpelevich *The Portrayal of Jews in Modern Biełarusian literature.* 2018, McGill-Queen Press.

•Пётра П. Мурзёнак “Колеры”. Вершы. “Кнігазбор”, Мінск, 2018, 188 с.

•Юрась Шамецька “Непрадказальнае”. Вершы. Мінск, “Кнігазбор”, 2019. 116 с.

#### 4.5.2. Артыкулы

Больш трох дзесяткаў артыкулаў у 2017-2020 гг. апублікаваны сябрамі інстытута ў часопісе «Культура. Нацыя». Часопіс заснаваны ў 2012 годзе П.Мурзёнкам. З таго часу выйшлі 25 нумароў часопіса, у якіх змешчаны звыш 130 артыкулаў ад 44 аўтараў. Амаль 60% чытачоў вэб-часопіса прадстаўляюць чытачы з Беларусі.

**“Культура, Нацыя”, №20, сьнежань 2017**

•Прадмова рэдактара Пётра Мурзёнак **Часопісу “Культура. Нацыя” споўнілася 5 гадоў** (стар. 5-6)
•Пётра Мурзёнак Заходне-рутэнская цывілізацыя – частка заходняй цывілізацыі. Часопіс “Культура. Нацыя”, №20, сьнежань 2017, 14-24.
•Пётра Мурзёнак **Сьвядомае паўстаньне за незалежную Беларусь** (25-38)

**“Культура, Нацыя”, №21, сакавік 2018**



**“Культура, Нацыя”,№22, лістапад 2018**

•Пётра Мурзёнак, Зіна Гімпелевіч **Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе (1967-2019)** ***(32-46)***

*Гэты ж артыкул надрукаваны ў «ЗАПІСАХ»:*

•Пётра Мурзёнак, Зіна Гімпелевіч "Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Канада ў 1967-2019 гг." ЗАПІСЫ, 2019, №41, с.313-326.

**4.6.Узнагароды дыпломамі**

З 2018 года ўведзена палажэньне аб узнагароджванні дыпломамі БІНІМ, Канада, асоб, якія ўнеслі важны ўклад у развіцьцё беларускай культуры і даследаваньняў у Канадзе, Беларусі, і па-за яе межамі. У 2018 і 2019 гг. дыпломамі БІНІМ, Канада былі уганараваны 22 асобы, сярод іх 12 сяброў інстытута (дыпломы ўручаны па 8 праектах).

*Дыпломамі БІНІМ, Канада за ўклад у развіцьцё беларускай культуры ў 2018 годзе узнагароджаны:*

•сябры БІНІМ, Канада і сябры Атаўскага аддзела ЗБК за правядзеньне святкаваньня 100-годдзя БНР у Атаве:
-Наталія Баркар,
-Інна Каралькевіч,
-Ксенія Каралькевіч,
-Аляксандр Каралькевіч,
-Ірэна Клімковіч,
-Уладзімір Клімковіч,
-Аляксандра Логвін,
-Аксана Мазгавая,
-Сяргей Мазгавы,
-Пётра Мурзёнак,
-Ірына Панчанка,
-Уладзімір Панчанка,
-Галіна Рэзаіпур,
-Міхась Рыкаў,
-Галіна Туміловіч,
-Ўладзя Шамецька
-Юрась Шамецька.
•Віялета Кавалёва, мастацкі кіраўнік калектыву "Яваровы людзі"
і Ігар Філюшкін, відэа- і гукарэжысёр за музычны фільм "То-то-то".
•Валянціна Шаўчэнка за рэжысуру і пастаноўку спектакля "Вуліца Геніюш".

*Дыпломамі БІНІМ, Канада за ўклад у развіцьцё беларускай культуры ў 2019 годзе узнагароджаны:*

•Юрась Шамецька за зборнік вершаў “Непрадказальнае”,
•Сяргей Панізьнік за кнігу “Крывіцкія руны” ў 3-х тамах (2003, 2017, 2019),
•Зінаіда Гімпелевіч за кнігу “The Portrayal of Jews in Modern Biełarusian Literature”,
•Аляксандр Каралькевіч, Сяргей Мазгавы, Міхась Рыкаў, Галіна Рэзаіпур, Ўладзя Шамецька за стварэнне відэавіншаваньня “З Калядамі. Ад сяброў з Атавы, Канада”,
•Валянціна Шаўчэнка за стварэньне відэафільма “Курапаты - шлях у вечнасць”.

**Медалем “100 год БНР” узнагароджаны сябры БІНІМ, Канада:**

-Ірына Варабей
-Зінаіда Гімпелевіч
-Вольга Іпатава
-Віялета Кавалёва
-Руслан Качаткоў
-Пётра Мурзёнак
-Сяргей Панізьнік
-Ірына Тоўсцік
-Валянціна Шаўчэнка

## III. Удзел у іншых мерапрыемствах

Як старшыня інстытута, асабіста ці разам з іншымі сябрамі інстытута, прастаўляю БІНІМ, Канада на розных агульнаканадыйскіх мерапрыемствах. У прыватнасці:

### 1.Узаемадзеяньне з украінцамі

Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Атаве (І.Сурвіла, Н.Баркар, П.Мурзёнак) былі запрошаны ў якасьці ганаровых гасьцей на 2 украінскія фестывалі, **The Capital Ukrainian Festival:** 20 ліпеня 2018 і 19 ліпеня 2019 гг. (у 2020 г. фестываль быў адменены з прычыны КОВІДа). Запрашэньне прыкладаецца ў Дадатку.

**2.Дзень памяці ахвяр камунізма і нацызма ў Еўропе (Дзень чорнай стужкі, акт Молатава-Рыбентропа)**

Правядзенне падзеі каардынуецца Камітэтам цэнтральных і усходнееўрапейскіх краін (CEECC, Canada). Прымаюць удзел прадстаўнікі дыяспар наступных краін: Беларусь, Чэхія, Эстонія, Венгрыя, Латвія, Літва, Польшча, Славакія, Украіна.

**Падзеі адбываліся:**

**5 верасня 2018 года -** Parliament of Canada, Centre Block, The Reading Room, Room 237-C, 111 Wellington Street, Ottawa

**22 жніўня 2019 года -** Parliament Hill, Wellington Building, 180 Wellington Street, Room 430 - Ottawa 6:30

**23 жніўня 2020 года** - цырымонія ўскладаньня вянка прадстаўнікамі дыяспар цэнтральных і усходне-еўрапейскіх краін да Нацыянальнага ваеннага мемарыяла ў Атаве (the National War Memorial).



*Першы рад (злева направа): В.Крэг (Літва), П.Мурзёнак (Беларусь), Л.Ковач (Венгрыя), невядомая, Б.Генгало (Украіна), А.Яблонскі (Польша), другі рад: святар, святар, МП Ч. Арыя, а.І.Ахрымчук (Украіна), А. Кестэрыс (Латвія). 2019 год*




*Удзельнікі цырымоніі ускладаньня вянка каля Нацыянальнага ваеннага мемарыяла (2020)*

**3. З мэтай падтрымкі і асьвятлення культурнай дзейнасьці беларусаў у Канадзе была запрошана з Беларусі канд. гіст. навук сп. Н.Гардзіенка, якая рыхтуе кнігу пра канадыйскіх беларусаў.**

Першая сустрэча сп. Н. Гардзіенкі і сп. Л.Юрэвіча, пры прадстаўленьні “ЗАПІСаў БІНІМ-2019”, якія у асноўным былі прысвечаны Канадзе, прайшла ў Таронта 8 сакавіка 2020 года. Прыезд навукоўца быў фінансава падтрыманы БІНІМ, Канада і ЗБК. БІНІМ, Канада фінансаваў праезд і жыльлё ў Канадзе. Атаўскі аддзел выдзеліў на гэтыя мэты 300 даляраў (е-мэйлы сяброў Управы аддзела ад 11-12 сакавіка 2020 года). Другая сустрэча планавалася на 15 сакавіка ў Атаве, аднак, у сувязі з КОВІД эпідэміяй была адкладзена і была абмежавана індывідуальнымі інтэрі’ю з Атаўскімі беларусамі.

**4. Петыцыя да Канадыйскага парламента**

П.Мурзёнак і С.Мазгавы арганізавалі петыцыю да Парламента Канады, у якім выказалі свае прапановы, адносна мер, якія могуць быць прадпрынятыя Канадай у адносінах да дыктатарскага рэжыма ў Беларусі і будуць спрыяць развіццю дэмакратыі у Беларусі. Петыцыя, для таго каб быць прынятай для разгляду, патрабуе больш як 500 подпісаў з усёй Канады, уключаючы прадстаўнікоў іншых дыяспар. Яна была адкрытая для падпісаньня 15 верасня. Усяго было сабрана 825 подпісаў. Петыцыю прадстаўляў парламенту МР Чандра Арыя. 9 сьнежня Міністр замежных справаў Канады даў адказ урада Канады на гэту петыцыю.

**ІУ. Над чым трэба працаваць**

1. Пашыраць склад інстытута, запрашаць новых сяброў.
2. Патрэбна большая інфармацыя пра дзейнасць інстытута.
3.Ужываць новыя формы працы, напрыклад, правядзеньне канферэнцый інстытута.

**У. Дадаткі** (праграмы, кароткія прамовы прыкладзены да арыгінальнага даклада).

Анатацыя

**Пётра Мурзёнак: Звесткі аб дзейнасці Беларускага інстытута навукі і мастацтваў Канада (БІНІМ, Канада) за перыяд з лістапада 2017 года па кастрычнік 2020 года** *(з даклада на агульным сходзе інстытута, які праходзіў у віртуальным фармаце 18 кастрычніка 2020 года )*
***(вэб-часопіс "Культура. Нацыя", № 26, сьнежань 2020, с.181-202, www.sakavik.net )***

БІНІМ, Канада налічвае 22 сяброў. 20 студзеня 2019 года, БІНІМ, Канада быў зарэгістраваны як нон-профіт федэральная арганізацыя. Дзейнасць інстытута адбываецца паводле Статута. БІНІМ, Канада здолеў прафінансаваць за гэты час сваю рэгістрацыю, выданьне кнігі ў Беларусі "(Не)расстраляная паэзія", прыезд Н.Гардзіенкі, якая піша кнігу пра беларускую дыяспару ў Канадзе, часткова падтрымаць афармленьне спектакля "Вуліца Геніюш". Дзякуючы А.Каралькевічу, па сутнасці нанова створаны сайт інстытута www.binim.org. Дзейнасць інстытута асвятлялася таксама ў часопісе "Культура. Нацыя" (www.sakavik.net) і ў іншых выданьнях. Частка мерапрыемстваў праводзілася з іншымі арганізацыямі, у прыватнасці, з сябрамі Згуртаваньня беларусаў Канады.

Сярод найбольш значных актыўнасцяў можна нагадаць пра святкаваньне 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі, якое прайшло ў будынку канадыйскага парламента з небывалым посьпехам, і на думку многіх людзей, было найлепшым сярод праведзеных беларускай дыяспарай ва ўсім свеце: на ім было больш за 180 гасьцей, выстава беларускіх кніг, прыгатаваны смачныя і разнастайныя пачастункі. Праведзена некалькі канцэртаў, музыкальна-паэтычных вечарын і прэзентацый кніг. Даклады трох нашых сяброў, Г.Туміловіч, Ю.Шамецька, і П.Мурзёнак, прыняты ў праграму Х-га міжнароднага кангрэса даследчыкаў з цэнтральна- і усходнееўрапейскіх краін (ICCEES), які адбудзецца ў жніўні 2021 года ў Манрэалі.

Сябрамі Інстытута апублікавана 5 кніг і больш трох дзесяткаў артыкулаў у асноўным у часопісе «Культура. Нацыя» (заснаваны ў 2012г. П.Мурзёнкам). З таго часу выйшлі 25 нумароў часопіса, у якіх змешчаны звыш 130 артыкулаў ад 44 аўтараў. Амаль 60% чытачоў вэб-часопіса прадстаўляюць чытачы з Беларусі.

У 2018 года прынята рашэнне аб узнагароджванні дыпломамі БІНІМ, Канада, асоб, якія ўнеслі важны ўклад у развіцьцё беларускай культуры і даследаваньняў у Канадзе, Беларусі, і па-за яе межамі. У 2018 і 2019 гг. дыпломамі БІНІМ, Канада былі уганараваны 22 асобы, сярод іх 12 сяброў інстытута (дыпломы ўручаны па 8 праектах). Медалем “100 год БНР” узнагароджаны 9 сяброў БІНІМ, Канада. БІНІМ, Канада быў прадстаўлены на розных агульнаканадыйскіх мерапрыемствах. У прыватнасці, на 2 украінскіх фестывалях, The Capital Ukrainian Festival (2018 і 2019), на Дзень памяці ахвяр камунізма і нацызма ў Еўропе (2018-2020), у якім прымаюць удзел прадстаўнікі дыяспар такіх краін як Беларусь, Чэхія, Эстонія, Венгрыя, Латвія, Літва, Польшча, Славакія, Украіна.

Резюме

**Пётра Мурзёнак: Информация о деятельности Беларусского института науки и искусств Канады (БИНИМ, Канада) за период с ноября 2017 г. по октябрь 2020 г.** *(из отчета на общем собрании института, которое состоялось в виртуальном формате 18 октября 2020 г.)*

***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2020 , выпуск 26, с.181-202, www.sakavik.net)***

БИНИМ, Канада, насчитывает 22 члена. 20 января 2019 года БИНИМ, Канада был зарегистрирован как некоммерческая федеральная организация. Деятельность института осуществляется в соответствии с Уставом. БИНИМ, Канада профинансировал регистрацию, издание в Беларуси книги «(Не)расстрелянная поэзия», приезд Н.Гордиенко, пишущая книгу о белорусской диаспоре в Канаде, частично постановку спектакля «Улица Гениюш». Благодаря А.Каралькевичу сайт института www.binim.org был существенно воссоздан. Деятельность института освещалась также в журнале «Культура. Нация» (www.sakavik.net) и в других изданиях. Некоторые мероприятия проводились совместно с другими организациями, в частности, с Ассоциацией белорусов Канады.

Среди наиболее значимых мероприятий - празднование 100-летия Белорусской Народной Республики, которое прошло в Парламенте Канады с беспрецедентным успехом и, по мнению многих, стало одним из лучших среди белорусской диаспоры всего мира: более 180 гостей, выставка белорусских книг, вкусные и разнообразные угощения. Было проведено несколько концертов, музыкальных и поэтических вечеров, презентаций книг. Доклады трех наших друзей - Г.Тумилович, Ю.Шамецьки и П.Мурзёнка - были приняты в программу X Международного конгресса исследователей стран Центральной и Восточной Европы (ICCEES), который состоится в августе 2021 года в Монреале. Сотрудниками института опубликовано 5 книг и более трех десятков статей, в основном в журнале «Культура. Нация» (основан в 2012 году П. Мурзёнкам). С тех пор вышло 25 номеров журнала, в которых опубликовано более 130 статей 44 авторов. Почти 60% читателей интернет-журнала - читатели из Беларуси. В 2018 году было было решено вручать дипломы БИНИМ, Канада, лицам, внесшим важный вклад в развитие и распространении беларусской культуры и исследований в Канаде, Беларуси и в других странах. В 2018 и 2019 гг. дипломами БИНИМ, Канада награждены 22 человека, в том числе 12 сотрудников института (дипломы вручены по 8 проектам). 9 членов БИНИМ, Канада награждены медалью «100 лет БНР». БИНИМ, Канада был представлен на различных мероприятиях в Канаде. В частности, на двух украинских фестивалях, the Capital Ukrainian Festival (2018 и 2019), в День памяти жертв коммунизма и нацизма в Европе (2018-2020), в котором принимают участие представители Беларуси, Чехии, Эстонии, Венгрии, Латвии, Литвы, Польши, Словакии, Украины.

*Abstract*

**Piotra Murzionak: Information concerning activities by the Belarusian Institute of Sciences and Arts, Canada (BINIM, Canada) covering the period from November 2017 to October 2020** *(taken from his report presented during the general meeting of the Institute which took place in the form of a electronic virtual meeting on the 18th of October, 2020)*

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 26, December 2020, pp.181-202, www.sakavik.net)***

BINIM, Canada has 22 members. BINIM, Canada was registered on the 20th of January, 2019 as a not-for-profit federal organization. The Institute's activities are carried in accordance to its By-laws. Within the context of its official registration BINIM has been enabled to finance the publication of the book *(Nie)rasstralianaya Paeziya*i n Belarus, N.

Hardziyenka's visit in Canada, who is presently writing about Belarusian diaspora in Canada, and partially supported the production of the play *Vulitsa Hieniush.* Thanks to A. Karalkievich, the Institute's website has been revamped (www.binim.org). The Institute's activities were brought to light in the publication *Culture. Nation* (www.sakavik.net) and in other publications. We conducted special events together with others organizations both in private and with the members of Belarusian Canadian Alliance of Canada. One of the notable activities was celebrating the 100-year Commencement of the Belarusian National Republic. This celebration was conducted in Canada's Parliament Building with unprecedented success. In the opinion of many, this turned out to be the best presentation among all Belarusian diaspora's events throughout the whole world. One hundred eighty guests visited the exhibit that included a display of Belarusian books and tasting sumptuous varied treats. We sponsored and conducted various concerts, parties presenting Belarusian music, poetry and books. Three of our members: G.Tumilovich, Yu. Shamietska and P.Murzionak, foresee contributing to the program of the meeting of the International Council for Central and East European Studies that is to take place in August of 2021 in Montreal. Five books and more than 30 articles have been published in past issues of our magazine *Culture.Nation* (established by P.Murzionak in 2012). Since that time 25 issues of the magazine have been published with more than 130 articles from 44 authors. Almost 60 % of readers of this web-magazine come from Belarus. Since 2018 we have introduced the practice of awarding BINIM, Canada diplomas to persons who have contributed in a major way to the development of Belarusian culture and have engaged in research in Canada, Belarus and beyond the latter's borders. In 2018 and 2019 BINIM, Canada's diplomas were granted to 22 persons among whom 12 are members of the Institute (relating to 8 projects). The medal featuring *100 Years of BNR* were granted to 9 members of BINIM, Canada. BINIM, Canada was represented at various English Canadian events. Representation by BINIM, Canada was realized in private at 2 Ukrainian festivals, The Capital Ukrainian Festival (in 2018 and 2019), at the Day of Remembrance of Victims of Communism and Nazism in Europe (from 2018 – 2020). In relation to the latter, representatives participate who have come from various diaspora organizations of affected countries such as Belarus, Czechoslovakia, Estonia, Hungry, Latvia, Poland, Slovakia and Ukraine.

*Наступны 27-мы нумар часопіса «КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ» выйдзе ў красавіку 2021 года*